




# МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ

Гісторыка-краязнаўчы літаратурна-мастацкі альманах Друцка-Бярэзінскага Краю

## Прадмова

ВІТАЕМ ЦЯБЕ, ДАРАГІ ЧЫТАЧ! На сяньня мы маем чатыры штагадовікі краязнаўчага альманаху “Малое Палесьсе” (2003, 2004, 2009 і 2010гг). Мы – гэта Харугва Скаўтаў Малога Палесься, што на Крупшчыне. Як і раней, сфэра нашага зацікаўленьня – рэгіён Малога Палесься, у які акрамя Крупскага раёну ўваходзяць землі, што ляжаць паміж рэкамі Бярэзіна і Друць – Барысаўскі, Лепельскі, Чашніцкі, Талачынскі, Круглянскі, Бялыніцкі і Бярэзінскі раёны (іншымі словамі – Друцка-Бярэзінскі Край). Адпаведна, матэрыялы, змешчаныя ў нумары адлюстроўваюць розныя старонкі гісторыі й культуры нашага рэгіёну. Гэты год прынёс нам новыя знаёмствы, дзякуючы якім мы маем магчымасьць выпусьціць у свет наступны, пяты нумар нашага выданьня. Лічым прынцыповым заўважыць, што альманах “Малое Палесьсе” ўважае родную мову ва ўсіх формах яе бытаваньня нацыянальнай каштоўнасьцю і помнікам культуры нашага народа. Гісторыка-культурная скіраванасьць выданьня абавязвае нас зьберагаць правапісныя, графічныя і лексіка-граматычныя асаблівасьці мовы публікаваных матэрыялаў.

Выказваем шчыры дзякуй ўсім добрым людзям, што спрычыніліся да выданьня гэтага нумара.

Рэдакцыя




**Крупкі 2011**

МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2011 PatriaSuperOmniaPatriaSuperOmOmniaPatriaSup

**Гісторыка-краязнаўчы літаратурна-мастацкі альманах Друцка-Бярэзінскага Краю**

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР / Андрэй Аляхновіч
РЭДКАЛЕГІЯ / Валер Арцюховіч, Міхал Баравуля, Яніна Дэмух, Васіль Лапацін.
МАСТАЦКАЕ АФАРМЛЕНЬНЕ, МАКЕТ / Марцін Койдан

**Адрас рэдакцыі: skaut63@gmail.com**

**http://kamunikat.org/maloje_palessie.html**






## ЗЬМЕСТ



# "Выспа 2011"

*Скаўцка-моладзевы археалагічны летнік*

**ФОТАКАЛАДЖ**

**Працягваем традыцыю, закладзеную мінулым годам – зьмяшчаем "фотасправаздачу" аб нашых прыгодах на Высьпе.**

**P.S.** *Усе назвы пададзены нашай ліцьвінскай лацінкай ў знак павагі да продкаў й аднаўленьня сапраўднай гісторыі нашай краіны.*

Фота:
Андрэй Аляхновіч,
Вольга Шатунова,
Валеры Арцюховіч,
Юля Ласянок,
Сяргей Скокаў,
Аксана Шарпіла,
Сяргей Варламаў,
Валеры Зянько,
Ганна і Сяргей Драніцыі інш.

| Кірыліца | Лацінка "Багушэвіча" | Готыка |
|---|---|---|
| а | a | a |
| б | b | b |
| в | w | w |
| г | h | h |
| ґ | g | g |
| д | d | d |
| е | je | je |
| ё | jo | jo |
| ж | ż | z |
| з | z | z |
| і | i | i |
| й | j | j |
| к | k | k |
| л | ł | l |
| м | m | m |
| н | n | n |
| о | o | o |
| п | p | p |
| р | r | r |
| с | s | s |
| т | t | t |
| у | u | u |
| ў | ú | u |
| ф | f | f |
| х | ch | ch |
| ц | c | c |
| ч | cz | cz |
| ш | sz | sz |
| э | e | e |
| ю | ju | ju |
| я | ja | ja |
| сь | ś | s |
| ль | l | l |
| нь | ń | n |
| зь | ź | z |
| дзь | dź | dz |
| дж | dż | dz |

# Бобрскае гарадзішча



*Выяўленне і даследаванне помніка археалогіі жалезнага веку на тэрыторыі Крупскага раёна.*

**АРХЕАЛЁГІЯ.ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ**/ Уладзімір ФЕДАРЦОЎ

## АНАТАЦЫЯ

*У Польшчы і Летуве ўжо вывучаны і зафіксаваны, бадай, усе гістарычныя матэрыяльныя помнікі, нават камяні. Наш жа блаславёны край хавае ў сабе яшчэ шмат таямніц – не ўсё адшукана, не ўсё занесена ў "рэестры". Трапляюцца яшчэ культавыя камяні, курганы, нават гарадзішчы. Адно такое гарадзішча і было выяўлена школьным краязнаўчым гуртком "Спадчына". "Жніва шмат…" і месца для працы хапае як масцітым навукоўцам так і пачаткоўцам-школьнікам. Дадзеная праца ўяўляе сабой гісторыю пра тое, як школьным гуртком "Спадчына" было выяўлена гарадзішча раннежалезнага веку каля населенага пункта Бобр, і змяшчае вынікі яго даследавання. Аўтар працы – вучань 10 класа Бобрскай школы, Уладзімір Федарцоў. Кіраўнік працы Пушкіна Яніна Аляксандраўна*




**Фота 1. Гарадзішча "Замачак"**

**ЗМЕСТ**



## УВОДЗІНЫ

Краязнаўства па гісторыі Бабра амаль не распрацавана (рэдкім выключэннем з'яўляецца праца Валянціны Ржэуцкай "Далей Бабра няма дабра", прысвечаная гісторыі мястэчка ў 16 – 17 ст.ст.). А ў 2016 г. мястэчка адзначыць сваё 500-годдзе. Хацелася б гэтую дату сустрэць падрыхтаванымі. Краязнаўчага матэрыялу назапашана шмат, а навуковых падагульненняў зроблена мала. Дадзенае даследаванне і прысвечана працы ў гэтым накірунку. Яно раскрывае адну з невядомых старонак гісторыі Бабра і яго ваколіц, у прыватнасці, распавядае пра перыяд жалезнага веку ў гэтай мясцовасці. Упершыню Бобр упамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1516г., але яго "няпісаная" гісторыя сягае значна глыбей. Археалогія сведчыць, што нашы продкі стала засялілі гэту мясцавасць яшчэ ў эпоху жалеза.

Аб'ектам нашага даследавання з'яўляюцца помнікі археалогіі эпохі жалезнага веку ў Крупскім раёне. Прадметам вывучэння – гарадзішча каля населенага пункта ст. Бобр.

Бобрскае гарадзішча – адзінае з дзевяці ў Крупскім раёне, да нядаўняга часу не выяўленае і не даследаванае. Мэта працы – прааналізаваць працэс пошукаў гарадзішча і вынікі яго даследавання.

У кнізе "Памяць. Крупскі раён" сказана, што Бобрскае гарадзішча разбурана: "Родавы цэнтр – старажытнае гарадзішча каля г.п. Бобр – ва ўрочышчы Замкі разбурана"(8, с.34). Кіраўніком гуртка "Спадчына" Пушкінай Я.А. была выказана гіпотэза аб тым, што рэшткі таго гарадзішча магчыма адшукаць. Гэту праблему можна было б вырашыць, калі наладзіць пашуковую працу ў раёне станцыі Бобр. Пасля таго як гарадзішча было абнаружана, была выказана наступная гіпотэза аб тым, што гэты археалагічны помнік не выпадае з агульнай сістэмы і адносіцца да эпохі жалезнага веку. Высветліць гэта можна б было, правёўшы абследаванне знойдзенага гарадзішча.

Такім чынам, задачы нашага даследавання наступныя:
- абагульніць папярэднія звесткі пра гарадзішча;
- расказаць пра выяўленне помніка гуртком "Спадчына";
- ахарактарызаваць працу гуртка па даследаванню гарадзішча;
- паказаць вынікі археалагічных раскопак.



Для дасягнення пастаўленай мэты мы прыбеглі да метадаў, уласцівых для археалагічнай практыкі: археалагічнай разведкі, шурфоўкі помніка (з дапамогай А.П. Аляхновіча), збору, фіксацыі і апрацоўкі інфармацыі і знаходак (гутарка, фатаграфаванне, замалёўкі , аналіз). Затым мы прынялі ўдзел у археалагічных раскопках гарадзішча, якія праводзіліся НАНБ у 2001г.

Тэарэтычнай базай да нашага даследавання паслужылі энцыклапедычныя артыкулы, якія раскрываюць сутнасць такіх ключавых паняццяў тэмы,як гарадзішча, жалезны век, археалагічная культура, культура штрыхаванай керамікі, банцараўская культура:

Вяргей В. С. Жалезны век /В. С. Вяргей, А. А. Егарэйчанка //Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993 – С. 250 – 252.

Ісаенка У. Ф. Археалагічная культура. / У. Ф. Ісаенка //Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск ,1993. – С. 47 – 48.

Мітрафанаў А. Р. Банцараўская культура / А. Р. Мітрафанаў //Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993. – С. 72 – 73 .

Мітрафанаў А. Р. Штрыхаванай керамікі культура/ А. Р. Мітрафанаў //Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993. – .С. 660.

Шадыра В. І. Гарадзішча/ В. І. Шадыра // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. Мінск, 1993. – С.156 – 157.

Сутнасць аб'екта даследавання мы раскрылі з дапамогай наступных прац:

Побаль Л.Д. Старажытнасці Крупшчыны/ Л. Д. Побаль // Памяць. Крупскі раён. – Мінск, 1999. – С.25 – 37.

Рассадзін С. Я. Крупшчына вачыма гісторыкаў /С. Я. Рассадзін // Памяць. Крупскі раён. – Мінск, 1999. – С. 21 – 25.

У вывучэнні прадмета нашага даследавання мы абапіраліся на працы Л.Д. Побаля, архіўныя матэрыялы і публікацыі краязнаўчага альманаха "Малое Палессе" :

Махнач А.И. Отчет об археологических обследованиях в Крупском районе Минской области в 2001г. / А. І. Махнач. – Мінск, 2002.

Выглазава В. Што мы шукалі ў Баброўскіх лясах?/ В. Выглазава //Малое Палессе. – 2000. – №1.

Выглазава Т. Як мы дапамагалі археолагам даследаваць Баброўскае гарадзішча./ В. Выглазава // Малое Палессе.-2002.- № 2.

Поболь Л. Д.Археологические памятники Белоруссии: железный век/ Л. Д. Поболь. – Минск, 1983.

Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии (ранний этап зарубнецкой культуры) / Л. Д. Поболь. – Минск, 1971.

Поболь Л. Д Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.) / Л. Д. Поболь. – Минск, 1974.

Аўтар выказвае падзяку В. І. Шадыру і А. І. Махначу за прадстаўлены архіўны матэрыял і дазвол выкарыстаць яго ў дадзенай працы. Таксама аўтар удзячны А. П. Аляхновічу, захавальніку Архіва Скаўтаў Харугвы Малога Палесся г. Крупкі (АСХМП), натхняльніку і рухавіку

краязнаўчай працы ў раёне. А таксама асобная падзяка В.У. Арцюховічу за аказаную метадалагічную і бібліяграфічную дапамогу.

## ВЯРТАННЕ І ВЫВУЧЭННЕ "ЗГУБЛЕНАГА" ПОМНІКА

На тэрыторыі Крупскага раёна Л.Д.Пobаль выдзяляе дзевяць гарадзішчаў. На яго думку, "усе такія гарадзішчы раннежалезнага веку з'яўляліся родаабшчыннымі цэнтрамі, месцамі галоўных язычніцкіх культаў"(8, с.25). Яны ўзнікалі на берагах вадаёмаў, і ў сярэднім кожны комплекс у старажытныя часы меў тэрыторыю не менш за 20 км. кв. У цантральнай частцы знаходзілася гарадзішча, на рознай адлегласці ад яго лакалізаваліся паселішчы абшчыннікаў (старажытныя вёскі).Каля паселішчаў узнікалі могільнікі. Гарадзішчы будаваліся непасрэдна абшчыннікамі, імі ахоўваліся, з'яўляліся адпаведнымі адміністрацыйнымі, культава-абрадавымі цэнтрамі. На думку Л.Д.Побаля, "кожнае з родаабшчынных фарміраванняў з'яўлялася першабытна-абшчыннай "міні-дзяржавай"(8, с.25).

Насельнікамі гарадзішчаў былі носьбіты культуры штрыхаванай керамікі.

Для яе характэрны гаршкі, формаю падобныя да вядра, але рэзка загнутыя ўсярэдзіну ў верхняй частцы. Там утваралася рабро, якое нярэдка аздаблялася зашчыпамі. Іх наносілі пальцамі, а штрыхоўку, мусіць, – пучком травы ці саломы.

У сярэдзіне 1 тысячагоддзя н.э., як даводзіць С.Я.Рассадзін (12, с.24), у асяроддзі мясцовага насельніцтва адбыліся змены, якія дазваляюць даследчыкам гаварыць аб трансфармацыі культуры штрыхаванай керамікі ў новую, банцараўскую культуру. Знікла штрыхоўка на посудзе, замест "доўгіх" дамоў з'явіліся "аднапакаёвыя" малыя жытлы.

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва Крупскага раёна ў эпоху жалеза не распрацавана. Падобна на тое, што насельніцтва ў "дакурганную" эпоху было балтамоўным. Балтамоўнасць мяркуецца і для носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі.

На сённяшні дзень на Крупшчыне даследаваны два з дзевяці гарадзішчаў: Выспянскае на возеры Сялява, а цяпер ужо і Бобрскае.

## 1. АНАЛІЗ ПАПЯРЭДНІХ ЗВЕСТАК ПРА ГАРАДЗІШЧА

У навуковай літаратуры Бобрскае гарадзішча прыгадваецца як мінімум пяць разоў. Першую інфармацыю пра яго мы даведаліся з артыкула Л.Д.Побаля "Старажытнасці Крупшчыны", размешчанага ў кнізе "Памяць". Там гаварылася аб тым, што помнік разбураны(8, с.25). Гэта думка прасочваецца і ў папярэдніх працах навукоўца: "Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н.э. по начало II в. н.э.)"(11, с.139) і "Археологические памятники Белоруссии: железный век"(9, с.361). У працы "Славянские древности Белоруссии (ранний этап зарубнецкой культуры)" Бобрскае гарадзішча проста ўпамінаецца ў спісе помнікаў без паметкі "разбурана"(10,с.195). Першасную інфармацыю пра помнік Л.Д.Побаль узяў з кнігі "Описание городов и местечек Могилёвской губернии", выдадзенай у Магілёве ў 1882г.( Апошнюю крыніцу нам так і не ўдалося адшукаць.) Адкуль узяліся звесткі аб тым, што гарадзішча разбурана, нам невядома. Верагодна, яно не было абнаружана Побалем у час яго археалагічных разведак. І гэтаму можна паверыць, бо помнік і сапраўды знаходзіцца ў цяжкадаступным месцы. А паколькі недалёка ад гарадзішча размешчаны вайсковая частка, палігон і кар'ер, то навуковец, не знайшоўшы гарадзішча, мог падумаць, што помнік быў зруйнаваны у час будаўнічых работ. Відаць, таму дадзеная інфармацыя і трапіла ў навуковую літаратуру.



## 2. ХРОНІКА ПОШУКАЎ

Бобрскае гарадзішча было выяўлена школьным гуртком "Спадчына" восенню 1999г. Адпраўным пунктам пошукаў стаў артыкул Л.Д.Побаля "Старажытнасці Крупшчыны" (8, с.34), дзе ён падрабязна апісвае ўсе дзевяць родаабшчынных комплексаў, што знаходзяцца на тэрыторыі Крупскага раёна. Вось што ён паведамляе пра Сярэднябобрскі родаабшчынны археалагічны комплекс: "знаходзіцца ён у цэнтральнай частцы Крупскага раёна ў басейне сярэдняга цячэння ракі Бобр і яе левага і правага прытокаў. "На жаль, тут вядома адносна мала старажытных помнікаў. Родавы цэнтр – старажытнае гарадзішча ва ўрочышчы Замкі разбурана." (8, с.34)

Гэта дазволіла кіраўніку гуртка "Спадчына" Я.А.Пушкінай сфармуляваць гіпотэзу аб тым, што рэшткі гарадзішча можна знайсці і абследаваць.

Увосень 1999г. гурток адправіўся на пошукі. Напачатку мы зайшлі да бабулькі Ліліі Харытонаўны Ласко, 1930 года нараджэння, жыхаркі ст.Бобр. У гутарцы мы сабралі ўсю неабходную для нас інфармацыю. Мясцовая назва гарадзішча – Замачак. Восьяго легенда.

У незапамятныя часы там стаяла вельмі прыгожая цэркаўка. Але потым яна раптам… правалілася пад зямлю. Чаму так адбылося – невядома. Гэтаму можна і не паверыць, аднак кожная легенда грунтуецца не на пустым месцы. А месца гэта і сапраўды "не пустое". Некалі, прыкладна дзве тысячы год назад там вiравала жыццё. Сляды яго мы і імкнуліся адшукаць. Па словах бабулі, знаходзіўся3 амачак у маляўнічым, але густа зарослым лесам месцы. Недалека – у кіламетры-двух на поўдзень ад населенага пункта – станцыя Бобр.

Іншую легенду гарадзішча "Замачак" распавялі ў 2001г. археолагу А. І. Махначу. "Вось там у лесе, у гушчары на беразе ракі Бобр, ёсць гара, якую завуць

"Замачак". Старыя казалі, што даўней стаяў там замак, ажыў у ім пан – багаты, але жадны і злы. Дык казалі, што людзі спалілі яго разам з драўляным замкам. А яшчэ ў 20-х гадах хаваліся там бандыты, якіх саветы не прызнавалі і якія ў лес пайшлі, – "зялёныя", як іх называлі. Яшчэ, помню, гаманілі старыя між сабой, - банда Моніча, банда Шпількі хаваліся там (інфарматар – Варановіч Пятро Васільевіч, 1921 г. н., ст. Бобр)" (3, с.5).

Таксама мы сабралі невялікі тапанімічны матэрыял. "Адамава будка" – будка станцыйнага аглядальніка Адама. "Купальня" – месца, зручнае для купання. "Крывуша" – ад слова "крывы" – дзе рэчка скрыўляе напрамак. "Леўшуна" – левы бераг Бабра. Урочышча "Папоўка" – валока, якая належала царкве (папу). Урочышча "Чартарэя" – відавочна, ад слова "чарціць" – нейкая пазямельная мяжа. Апошнія два тапонімы можна аднесці да 16 ст., - часу правядзення валочнай памеры. І, канешне, "Замачак" – гара, гарадзішча.

Маршрут нашай археалагічнай разведкі быў непрацяглы – каля двух кіламетраў на поўдзень ад ст. Бобр уніз па цячэнню р. Бобр. Вось што напісала ў артыкуле адна з удельніц археалагічнай разведкі Вольга Выглазава: "Ішлі па лясной паласе некалькі кіламетраў уздоўж ракі. Але гарадзішча не знайшлі. Нечакана трапілі ў маліннік, вельмі густы і калючы. Доўга мы па ім блукалі, падралі адзенне, але так нічога і не знайшлі. Але на гэтым наш гурток не спыніўся і праз тыдзень зноў адправіўся на пошукі. На другі раз нам пашанцавала больш. Мы знайшлі гарадзішча! Яно знаходзілася на высокім узгорку, а паабапал – старажытныя, ледавіковай пары, рэчышчы шырынёй у чатыры метры, якія ўпадалі ў раку Бобр. Перыметр гарадзішча складаў прыкладна 40 – 50 метраў. Так мы сталіся "першаадкрывальнікамі" "разбуранага" гарадзішча!".

Такім чынам, першая частка нашай працы – пашуковая – пасняхова завяршылася. Мы адшукалі дзевятае, "згубленае" гарадзішча на тэрыторыі Крупшчыны (Фота 1.). Яно было цэленькае і не кранутае. Мы выявілі мясцовую назву помніка – "Замачак" і запісалі яго легенду.

### 3. ВЫВУЧЭННЕ ПОМНІКА ГУРТКОМ "СПАДЧЫНА"

Далей мы прыступілі да абследавання помніка ўласнымі сіламі: замеру, замалёўцы, збору пад'ёмнага матэрыялу і шурфоўкі (апошняе - пад кіраўніцтвам А.П. Аляхновіча). Кіраўнік гуртка Пушкіна Я.А. выказала гіпотэзу аб тым, што знойдзенае гарадзішча адносіцца да эпохі жалезнага веку, тым больш, што па знешніх прыкметах выглядала яно як тыповае гарадзішча гэтага перыяду.

Гарадзішча размешчана на ўзгорку. Яго памеры – 39-38-36-59м. (мал. 1.) Самы працяглы бок – паўднёва-ўсходні. Вышыня гарадзішча – 5-6 м. З трох бакоў гарадзішча акружана натуральнымі рвамі-рэчышчамі, утворанымі часам таяння ледавіка, іх шырыня "на дне" – 2-4 м. Паўднёва-усходні роў і вал штучныя. Абапал гарадзішча – крыніцы, якія ўтвараюць ручай. На дне рва з паўночнага боку ляжаць два вялікіякамяні.



Пад'ёмны матэрыял складаўся з 25 фрагментаў керамікі (з іх – 11 венчыкаў і адзін асколак ганчарнай керамікі), 3 кавалачкаў шлаку і фрагмента каменнай зернацёркі.

Шурф плошчай 1м.кв.быў закладзены 3 лістапада 1999 на невялікай яміне, пакінутай невядомымі. Ён размяшчаўся ў паўночным куце гарадзішча на адлегласці 5м. ад кожнага з бакавых схілаў. Дзёрнавы слой адсутнічаў. Культурны слой – 0,7м. Адразу, амаль на паверхні, быў абнаружаны жалезны наканечнік стралы (фота 2.). Таксама ў пласце 1 (0,0 – 0,2м.) былі абнаружаны фрагмент праселка, 1 вядрападобны венчык, 26 фрагментаў ляпной керамікі, 3 кавалачкі шлаку, 2 фрагменты апаленых костак.

У пласце 2 (0,2 – 0,4м.) былі знойдзены бронзавыя ўпрыгажэнні (два бранзалеты, два кольцы для падвешвання аздоб, пярсцёнак - фота 4,5), гліняная пацерка (фота 3), 2 вядрападобныя венчыкі, 1 донца, 29 фрагментаў керамікі, 5 кавалачкаў шлаку, вугалькі.

У пласце 3 (0,5 – 0,7м) былі знойдзены 1 фрагмент праселка, 13 фрагментаў керамікі, вугалькі. На дадзены момант археалагічныя знаходкі захоўваюцца ў АХСМП. Далей выйшлі на





**Фота 2. Наканечнік стралы з гарадзішча "Замачак"**

**Фота 3. Гліняная пацерка з гарадзішча "Замачак".**

мацярык. Такім чынам, гурток правёў першаснае абследаванне гарадзішча, якое дазваляе сцвярджаць, што помнік адносіцца да перыяду жалезнага веку. У шурфе (1м. кв.) былі абнаружаны наступныя індывідуальныя знаходкі: бронзавыя ўпрыгажэнні (два бранзалеты, два кольцы для падвешвання аздоб, пярсцёнак), жалезны наканечнік стралы, 2 фрагменты праселак, гліняная пацерка, два вядрападобныя венчыкі, тры донцы.

Пра абнаружэнне помніка было паведамлена археолагам інстытута гісторыі НАНБ.

## 3. ВЫНІКІ АРХЕАЛАГІЧНЫХ РАСКОПАК

Археолагі (А.І.Махнач і група студэнтаў гістарычнага факультэта) хутка адрэагавалі на наша паведамленне, і ўжо летам 2001г. імі былі праверваны нашы сведчанні аб месцазнаходжанні новага археалагічнага помніка, а восенню праведзены археалагічныя раскопкі гарадзішча.

Вось навуковае апісанне гарадзішча "Замачак". "Гарадзішча знаходзіцца на правым беразе р.Бобр у лесе змешанага тыпу. Яно размяшчаецца на мысе, утвораным двумя ручаямі з заходняга і паўночнага боку пляцоўкі, якія ўпадаюць у р.Бобр. Пляцоўка мае авальную форму, умацаваную трымя валамі з напольнага ўсходняга боку пляцоўкі. Заходні край пляцоўкі 42 м., паўночны – 40 м., усходні – 68 м., паўднёвы – 44 м. З паўночнага і заходняга бокупляцоўкі схіл дасягае 10-12 м., з паўднёвай – ад 3 да 6 м. Вал №1 размешчаны з усходняга напольнага боку гарадзішча на плашчадцы вышынёй да 2м. і шырынёй да 4м. Вал №2 размешчаны на доле пляцоўкі з ўсходняга напольнага боку, вышыня ад 1 да 1,5м. і шырыня да 2 м. Вал №3 размешчаны у 4 м. ад вала №2 і мае вышыню ад 1,5 да 2 м. і складаецца з двух роўных частак. У цэнтралльнай часцы вала №3 відаць праход на пляцоўку шырынёй да 4м.

У верасні 2001г . для вызначэння культурнай прыналежнасці помніка на гарадзішчы "Замачак" археолагамі быў закладзены шурф 24 м. кв. Ён быў размешчаны ў цэнтральнай частцы плашчадкі.

Адна з удзельніц раскопак, Таццяна Выглазава, паведамляла ў газетным артыкуле наступнае: "Раскопкі – гэта вельмі цікава, асабліва ў добрай кампаніі. Позняй восенню 2001г. мы, скауты Малога Палесся, і студэнты гістарычнага факультэта БДУ пад кіраўніцтвам археолага А.І. Махнача распачалі працу.

Усё, здавалася б, як заўжды: жарты, знаходкі. Апошніх, праўда, траплялася малавата. Хтосьці знойдзе пацерку, хтось – вельмі рэдкі аскепак металічнай прылады. Кераміка, якой заўжды бывае шмат – і тая была дробная. Археолаг гэта патлумачыў тым, што на гарадзішчы адсутнічаў дзернавы слой, а значыцца, кісларод, які лёгка трапляў у культурны слой, "паеў" тысячагадовыя рэчы. І да таго ж гарадзішча не было стала заселеным пунктам, туды хаваліся толькі пад час небяспекі." (2, с.3)

**БОБРСКАЕ ГАРА-ДЗІШЧА**

У пласце 1 (0.0 – 0,2 м.) было знойдзена чатыры індывідуальныя знаходкі: дзве гліняныя пацеркі, фрагмент глінянага праселка і жалезнае шыла. З керамічнага матэрыялу 56% належыць да гладкасценнай керамікі і 44% - да штрыхаванай.



**Мал.1. План гарадзішча "Замачак"**



**Фота 4. Бронзавыя ўпрыгажэнні з гарадзішча "Замачак". Від зверху**

У пласце 2 (0.2 – 0,4м.) было выяўлена пяць індывідуальных знаходак: чатыры фрагменты гліняных прасліц, адін фрагмент апалены і адзін – з арнаментам (мал. 2. 1). З керамічнага матэрыялу 68% належыць штрыхаванай кераміцы і 32% - гладкасценнай. Сярод фрагментаў штрыхаванай керамікі венчыкаў з рабром не знойдзена. У вызначэнні керамічнага матэрыяла была аказана дапамога В.І. Шадыры.

Пры зачыстцы мацерыка былі выяўлены паглыбленні, знойдзены гліняны грузік, фрагменты штрыхаванай керамікі, дробныя вуглі.

У выніку даследавання археалагамі было зроблена наступнае заключэнне. *"У 2001г. было абнаружана гарадзішча, не апісанае ў навуковай літаратуры. У выніку даследаваных на гарадзішчы 24 м. кв. пры магутнасці культурнага слоя да 0,5 м. знойдзена 10 індывідуальных знаходак з гліны і жалеза. Знойдзена 358 фрагментаў керамікі. Папярэднія вынікі даследавання могуць гаварыць аб тым, што першапачаткова гарадзішча было заселена плямёнамі штрыхаванай керамікі, што дазваляе гаварыць аб засяленні помніка да рубяжа н. э. Гладкасценны посуд адносіцца да трэцяй чвэрці першага тысячагоддзя, перыяду існавання банцараўскай культуры. На жаль, невялікая колькасць індывідуальных знаходак не можа ў поўнай меры падцвердзіць гэтыя вывады." (3, с.9)*

Такім чынам, насельнікамі гарадзішча былі плямёны штрыхаванай керамікі і, відавочна, плямёны банцараўскай культуры.

Прааналізаваўшы археалагічную справаздачу, мы вымушаны не пагадзіцца са сцвярджэннем, што гарадзішча "Замачак" не апісана ў навуковай літаратуры, так як яно не раз упаміналася ў працах Л. Д. Побаля, хоць і ў якасці разбуранага.







**Фота 5. Бронзавыя ўпрыгажэнні з гарадзішча "Замачак". Від збоку**

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

У ходзе пашуковай і даследчай працы намі былі вырашаны ўсе пастаўленыя задачы. Бобрскае гарадзішча, якое лічылася ў навуковай літаратуры разбураным, страчаным для навукі, у 1999г. было адшукана школьным краязнаўчым гуртком "Спадчына". Прычым аказалася яно цэлым, не папсаваным і размяшчалася непадалёку (у 1 км.) ад ст.Бобр, схаванае ад вачэй у лясным гушчары. Яно мела мясцовую назву "Замачак".

Уласнымі сіламі было зроблена першаснае абследаванне помніка: яго фіксацыя (замалёўка і фатаграфаванне), абмер, збор пад'ёмнага матэрыялу. Выглядала яно як тыповае гарадзішча жалезнага веку, якіх у Крупскім раёне налічваецца дзевяць. Знаходкі, якія былі абнаружаны ў шурфе (1 м.кв.) – грубая ляпная кераміка, бронзавыя ўпрыгажэнні без спаек – дазволілі аднесці яго да эпохі жалеза. Такім чынам, прапанаваная гіпотэза была паддверджана. Пра абнаружэнне помніка было паведамлена археолагам.

У верасні 2001г. там былі праведзены археалагічныя раскопкі. Вынікі даследавання дазволілі выявіць культурную прыналежнасць гарадзішча "Замачак": яно адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі і, відавочна, банцараўскай культуры.

Вынікі нашага даследавання мелі невялічкія разыходжанні з дадзенымі археолагаў: мы крыху памыліліся ў метражы помніка, бо мералі яго дзедаўскім метадам – крокамі. Не заўважылі мы і трэцюю лінію абарончага вала. З другога боку, мы лічым, што гарадзішча мае форму трапецы з акругленымі кутамі, а не авальную.

На аснове праведзенага даследавання можна зрабіць прыблізную рэканструкцыю жыцця на гэтым гарадзішчы. Нашы прашчуры засялілі яго яшчэ да рубяжа нашай эры. Цяпер гарадзішча знаходзіцца ў цяжка даступным месцы – цёмным гушчары. ( У летні час яго нават немагчыма было сфатаграфаваць.) А больш чым 2000 гадоў назад гэта была непаросшая лесам пляцоўка па велічыні прыкладна 200 м. кв. Яна размяшчалася на прыродным узгорку і з двух бакоў была акружана шырокімі рэчышчамі, утворанымі часам таяння апошняга ледавіка. Насельнікам гарадзішча заставалася толькі зрэзаць схілы, каб яны былі больш стромкімі і больш недаступнымі, а з дольнага боку выкапаць штучны роў, насыпаць вал і агарадзіць усё частаколам. Па меркаванні навукоўцаў, пражываў там (ці хаваўся ў час небяспекі) адзін род, колькасцю ў 40–60 чалавек. Жыхары рабілі грубы ляпны посуд без выкарыстання ганчарнага круга ( круг з'явіцца толькі праз тысячу год – у 10 ст.), сяліліся ў вялікіх доўгіх дамах слупавой канструкцыі, займаліся лядным земляробствам, жывёлагадоўлей, прадзеннем, ткацтвам. Але самае галоўнае – яны авалодалі майстэрствам здабываць жалеза з балотнай руды, што стала штуршком для далейшага развіцця грамадскіх адносін, крокам да фарміравання раннекласавага грамадства. Затухла жыццё на гарадзішчы прыкладна ў 7 – 8 ст.ст., калі канчаткова разбурыліся родавыя адносіны і склалася суседская абшчына. Прыкладна тысячу гадоў Бобрскае гарадзішча было цэнтрам жыцця насельнікаў нашых ваколіц, з'яўляючыся, па словах Л.Д.Побаля, своеасаблівай першабытна-абшчыннай "міні-дзяржавай". Народная памяць захавала пра гэта яскравыя звесткі ў форме легенд.

Такім чынам, мэта дасягнута, але на гэтым праца гуртка не спыняецца. Наперадзе яшчэ пошук і фіксацыя курганоў, неўмацаваных паселішчаў, якія належаць да Сярэднебобрскага родаабшчыннага комплексу, а, магчыма, і новых гарадзішчаў.




**Мал. 2. Індывідуальныя знаходкі з гарадзішча "Замачак": 1) пацерка гліняная; 2-5) праслiцы; 6) шыла жалезнае; 7) нож жалезны; 8-9) праслiцы; 10) грузік.**

ЛІТАРАТУРА:


1. Выглазава В. Што мы шукалі ў Баброўскіх лясах?/ В. Выглазава //Малое Палессе. – 2000. – №1.
2. Выглазава Т. Як мы дапамагалі археолагам даследаваць Баброўскае гарадзішча./ В. Выглазава // Малое Палессе.-2002.- № 2.
3. Вяргей В. С. Жалезны век / В. С. Вяргей, А. А. Егарэйчанка //Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993 – С. 250 – 252.
4. Ісаенка У. Ф. Археалагічная культура. / У. Ф. Ісаенка //Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск , 1993. – С. 47 – 48.
5. Махнач А. И. Отчет об археологических обследованиях в Крупском районе Минской области в 2001г. / А. І. Махнач. – Мінск, 2002.
6. Мітрафанаў А. Р. Банцараўская культура / А. Р. Мітрафанаў //Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993. – С. 72 – 73.
7. Мітрафанаў А. Р. Штрыхаванай керамікі культура/ А. Р. Мітрафанаў //Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993. – С. 660.
8. Побаль Л.Д. Старажытнасці Крупшчыны/ Л. Д. Побаль // Памяць. Крупскі раён. – Мінск, 1999. – С.25 – 37.
9. Поболь Л. Д.Археологические памятники Белоруссии: железный век/ Л. Д. Поболь. – Минск, 1983.
10. Поболь Л. Д.Славянские древности Белоруссии (ранний этап зарубинецкой культуры) / Л. Д. Поболь. – Минск, 1971.
11. Поболь Л. Д Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.) / Л. Д. Поболь. – Минск, 1974.
12. Рассадзін С. Я. Крупшчына вачыма гісторыкаў /С. Я. Рассадзін // Памяць. Крупскі раён. – Мінск, 1999. – С. 21 – 25.
13. Шадыра В. І. Гарадзішча/ В. І. Шадыра // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыкл. – Мінск, 1993. – С.156 – 157.

# Пошук валуноў

## *Метадычныя парады па пошуку і апісанню рэдкіх валуноў*

**АРХЕАЛЁГІЯ** / ВІКТАР БУНТА

1. ПАДЛЯГАЮЦЬ АХОВЕ НАСТУПНЫЯ ЛЕДАВІКОВЫЯ ВАЛУНЫ:

а) ***як гісторыка – культурныя помнікі:***

- з выбітымі штучнымі знакамі (словы, лічбы, сляды, ямкі і г. д.)
- з якімі звязаны легенды і паверʼі аб скарбах, чарцях, нячыстай сіле, прывідах, лекавых уласцівасцях і г.д.;
- з паданнямі аб падзеях, звязаннымі з канкрэтным камнем.

Як сведчаць вучоныя, гэтыя прыкметы зʼяўляюцца водгаласамі дахрысціянскіх часоў, калі валуны зʼяўляліся абʼектамі пакланення.

б) ***як геалагічныя помнікі:***

- з памерамі больш за 3 м;
- з выкапнёвымі акаменеласцямі(рэшткамі ракавінаў,рыб і г.д.);
- метэарыты (моцна аплаўленыя, з высокай удзельнай вагай).

2. У ПОШУКАХ МОГУЦЬ ДАПАМАГЧЫ :

- калгаснікі: упраўляючыя, аграномы. трактарысты, пастухі;
- пажылыя людзі, леснікі, паляўнічыя і г. д.

Апытанне добра праводзяць адпаведна падрыхтаваныя школьнікі. За такую работу можна і не пашкадаваць “дзесятку”, бо гэта добрая краязнаўчая праца. Апытваць трэба як мага больш людзей. Быў выпадак, калі надзвычай цікавыя паверʼі аб валуне распавядаў толькі пяты(!) і дарэчы – апошні з апытаных пажылых людзей вескі.

3. АПІСАННЕ ЗНАХОДКІ:

а) Назва: як мясцовыя жыхары называюць гэты валун;
б) Даўжыня: адлегласць паміж самымі аддаленнымі кропкамі;
в) Шырыня: перпендыкуляр да даўжыні;
г) Колер;
д) Парода: (па магчымасці);
е) Дакладнае месцазнаходжанне (з указаннем адлегласці ад надзейных арыенціраў);
ж) Схема размяшчэння: як можна больш падрабязная;
з) Падрабязны запіс легенд, паверʼяў, паданняў аб камні: (калі ласка – без літаратурнай апрацоўкі з максімальным захаваннем мовы інфарматара!)
і) Імя, імя па бацьку, прозвішча, узрост і адрас інфарматара.
к) Фота знаходкі: абавязкова з вядомым прадметам ці чалавекам для маштабу.
л) Адрас, тэлефон аўтара апісання.

Па ўзнікшым пытанням можаце звяртацца ў рэдакцыю.

**На фота: камень-кравец ля в.Янаўшчына Крупскага р-на.**



# Аповед маўклівай Сялявы



**ПРЫРОДА** / Аляксандр БЕЛЫ

*Назвы некаторых рыб, з той пары як я пра іх даведаўся, чамусьці гучаць для мяне як музыка, як напамін пра нейкія неверагодна далёкія часы. Асабліва тых, якія водзяцца цяпер у Беларусі вельмі абмежавана, і больш не апазнаюцца абсалютнай большасцю жыхароў краіны як свае. Увесь комплекс культурных асацыяцый і міфаў, звязаных з імі, разбураны, і ці адродзіцца калі? Ну вось, напрыклад, сялява. Па-беларуску - сялява, па-польску - sielawa, па-літоўску seliava... Як па-руску? Не спяшайцеся, адразу не скажу, хіба што ў канцы нарыса. Невялікі прэснаводны ласось,жыхар глыбокіх ледніковых азёраў - у кожнай балтыйскай краіне мае сваю побытавую сімволіку і гістарычную міфалогію. Напрыклад, у фінаў - гэта адзін з сімвалаў нацыянальнай кухні. Ледзь не на кожным вулічным свяце можна ўбачыць, як яе смажаць на велізарнай патэльні, папярэдне абкачаўшы ў жытняй муцэ, на фінскім рапсавым алеі, абавязкова дадаючы пад канец сметанковае масла. Але самая славутая страва - сялява, запечаная з салам у бохане жытняга хлеба - пірог kalakukko, адна з візітовак Фінляндыі.*

А ў былой Рэчы Паспалітай сялява, аднолькава называная ў Польшчы, Літве і Беларусі, мае рэпутацыю тыповай “літвінкі”. Гэта значыць, што палякі яе ведаюць і любяць і пры гэтым атаясамліваюць яе з “крэсамі”, з гістарычнай Літвой, з кухняй, вывезенай эмігрантамі з Літвы і Беларусі пасля вайны. У самой Польшчы найбольш яна распаўсюджана на поўначы Падляшскага ваяводства і на Мазурах, і абавязкова ўваходзіць, у смажаным або вэнджаным выглядзе, у настальгічна-”крэсовыя” пачастункі. Аднак і ў Літве значэнне сялявы як пэўнага культурнага знаку, а не толькі харчовага прадукту - не выгладзілася з народнай памяці. Я, прызнаюся, еў сяляву толькі аднойчы, у віленскай рэстарацыі Savas kampas (Свой кут). Ну, а ў Беларусі яе ловяць і ядуць моўчкі, па-мужыцку, нічога не ведаючы з яе культурнай гісторыі, як звычайную “ежу-ўвогуле”. Ну хіба не літвінка? Аўтар “Старапольскай энцыклапедыі” Зыгмунт Глогер, які сам

нарадзіўся пад багатым на сляляву Аўгустовам, пісаў пра яе так: "Гэта адна з найсмачнейшых азёрных рыб Сярэдняй Еўропы... У Літве славутымі былі некалі сялявы полацкія і аўгустоўскія, у Кароне - вялікапольскія з азёр у ваколіцах Мендзыжэча. Сялява жыве толькі ў глыбокіх азёрах".

У польскай частцы Аўгустоўскай Пушчы і на азёрах існуе даўні лакальны культ сялявы. Магчыма, ён жа быў уласцівы і нашай сумежнай тэрыторыі - ваколіцам Сапоцкіна і Аўгустоўскага канала, але ў дадзены момант дакладна сказаць не магу, як шмат сялявы жыве ў Ласосне і Чорнай Ганчы на нашым баку мяжы. Думаю, аднак, што не нашмат меней чым у Польшчы і што нават калі гэты культ у нас часова забыты, варта яго адрадзіць. Бо надта ўжо бляклы, прэсны, заезжана-бюракратычны турыстычны вобраз Аўгустоўскага канала на нашым баку. А той кавалак Гарадзенскага раёну, што клінам уціснуты паміж Польшчай і Літвой - здаўна быў адным культурным цэлым з прылеглай Сувальшчынай. На польскім жа баку мяжы сляяву сапраўды шануюць, збіраюць і культывуюць разнастайныя рэцэпты яе прыгатавання, кансервавання... І, між іншым, памяць пра рэкорды: неяк у возеры Сайна злавілі сляяву узростам 8 гадоў (што адпавядае ці не 120 гадам чалавечым) і вагой аж... 500 грамаў! А вось напрыклад, як даўней гэтую далікатную рыбу, якая вельмі хутка псуецца, і добра, калі свежая не пратухае за дзень, захоўвалі ў драўляных скрынях аж да 10 дзён: дно засыпалі драўляным вуглём, затым засыпалі пластом таўчонага лёду - вялічынёй прыкладна з грубую соль, потым укладалі пласт рыбы і ізноў засыпалі ільдом, так каб не засталося ніводнай шчыліны. Зверху высцілалі ільняным палатном, затым ізноў пласт вугля, пласт ільду, пласт рыбы - і гэтак далей. Скрынку захоўвалі ў халодным і, абавязкова, - у сухім месцы. Думаю, што калі б гэты маляўнічы старадаўні звычай удалося б адрадзіць, глядзеўся б ён вельмі прывабна на адмысловым рыбным рынку пры канале... ой, баюся што не хутка свядомасць сучасных жыхароў Сапоцкіншчыны разаўецца да такой ступені, каб замахнуцца на такія мудрагелістыя рытуалы... Крыклівыя заўзятары беларускага турызма ўвесь час спрабуюць знайсці нейкае магічнае заклінанне, нейкую адну "універсальную фішку", ад якой валам папрэцца ў Сінявокую дурнаваты заходні пан-турыст з тоўстым кашальком. Але ж такіх "фішак" – ландшафтных, кулінарных, сімвалічных, міфалагічных – трэба мець многія і многія тысячы, стала падтрымліваць у парадку, ведаць і любіць самім – каб зрабіліся яны цікавымі і замежным гасцям… Але ж найперш – самім сабе, а не ўяўленаму заходняму дурню з разяўленым ротам і рахункам у бясконцую колькасць нулёў…

Не ў адным рэгіёне Беларусі трэба было б уваскрасіць мясцовыя "культы сялявы". Што да славутай некалі сялявы полацкай, дык яе сляды засталіся ў гісторыі, яскравымі запісамі ў Беларускай эцыклапедыі. Вядомы дзяяч уніяцкай царквы 17 ст., мітрапаліт Антоні Сялява - родам быў з полацкіх баяраў, і, відаць, такое характэрнае прозвішча пацвярджае той культ сялявы, што існаваў некалі ў Полацку. Дый адно з самых славутых азёраў Беларусі - Сялява, і дагэтуль багатае на тую рыбу (каб адрозніць ад назвы самога возера, тут яе называюць сляўкай) - некалі належала да старадаўняга Полацкага княства. Эх, марыцца мне пра садружнасць біёлагаў, прамысловых рыбаводаў, менэджэраў турыстычнай галіны, якія б некалі разам папрацавалі над адраджэннем папуляцыі і рэпутацыі гэтай сімвалічна важнай рыбкі, у азёрах Полацкага, Ушацкага, Лепельскага раёнаў... Каб увайшоў умоду сляяўны сезон, са сваім адмысловым фестывалем, асвятленнем у прэсе, легендамі, сувенірамі і іншымі атрыбутамі культурнага міфа... Ну, выбачайце за фантазіі… Як там пяе адзін салодкагалосы бард? "Спяваць і працаваць – нам дрэнна, не з рукі!"

Драматычную гісторыю, калі б умела размаўляць, паведаміла б нарачанская сялява. На найвялікшым возеры Беларусі гэтая рыба здаўна складала аснову рыбалоўнага промыслу, ад якога карміліся сотні сем'яў, была сапраўдным сімвалам Нарачы. Так працягвалася да 1935 г., калі па-першае, стала відавочным, што рыбныя рэсурсы возера імкліва змяншаюцца, а па-другое, улады міжваеннай Польшчы вырашылі сур'ёзна інвеставаць у развіццё турыстычнай інфраструктуры найбуйнейшага возера ў дзяржаве, якое называлі яшчэ "Віленскім морам". Ахоўныя мерапрыемствы ўключалі ў тым ліку забарону прамысловай лоўлі рыбы, якая аб'яўлялася выключнай уласнасцю дзяржавы. Лаві - але разам з турыстамі, на вуду. Гэта выклікала хвалю абурэння, якая перарасла ў адкрыты бунт. Пра экалогію тады ніхто не чуў (хаця ахоўныя меры ініцыяваліся ў тым ліку абачлівымі біёлагамі). Пратэсты доўжыліся 2 гады, і ў беларускай гістарыяграфіі нават набылі рэпутацыю ледзь не "нацыянальна-вызваленчага паўстання супраць польскай акупацыі". Пра "паўстанне" напісаў сваю славутую паэму "Нарач" Максім Танк, а беларускія мастакі дагэтуль малююць міфічнае "паўстанне супраць паноў-прыгнятальнікаў" на глянцава-патрыятычных карцінах. Насамрэч, усё было нашмат складаней: і дзеянні ўлады мелі пад сабой важкія падставы (што пацвердзілася і пазней, ужо за Саветамі), і пратэстоўцы зусім неабавязкова былі сьвядомымі беларусамі: проста ліквідацыя шматвекавога традыцыйнага промыслу балюча закранала інтарэсы многіх нарачанскіх сем'яў, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання. На пратэстах, канешне, зараблялі палітычны капітал самыя розныя сілы, у тым ліку і кампартыя Заходняй Беларусі. Але значна большую вагу мелі выступы славутага міжваеннага публіцыста з віленскай газеты "Слова" Юзафа Мацкевіча, які 2 гады (1935-37) асвятляў канфлікт у сваёй надзвычай папулярнай крытычнай калонцы "Бунт багнаў". Характэрна, што галоўным аргументам рыбакоў быў зусім не "Камуністычны маніфест" і не агітацыйныя улёткі беларускіх нацыяналістаў, але старадаўнія прывілеі вялікіх князёў і каралёў, ад Стэфана Батория пачынаючы, на права промысла ў Нарачы. У рэшце рэшт, польскія ўлады мусілі адступіць, бо грамадская думка і прававая традыцыя былі на баку рыбакоў. Нагадаем для параўнання, што 1937 г. у СССР быў пікам небгрунтаваных рэпрэсій.

Пасля 1939 г. вылаў сялявы з Нарачы складаў 80%, а ў асобныя гады да 96 % ад агульнага яе ўлову ў БССР і ў 1951 г. быў найвышэйшым, склаўшы 57,3 тон. Але напачатку 1960-х гадоў вылаў сялявы істотна зменшыўся, а з 1963 г. яна стала трапляцца толькі паасобку. Тое самая адбывалася з сялявай і на іншых вадаёмах рэспублікі. Асноўнымі прычынамі памяншэння колькасці папуляцыі, як лічаць, з'явілася неспрыяльная змена гідралагічнага і гідрахімічнага рэжыму вадаёмаў, інтэнсіўны вылаў неполаваспелых асобнікаў, знішчэнне ікры і маладняка сялявы малакаштоўнымі

**АПОВЕД МАЎКЛІВАЙ СЯЛЯВЫ**



**СЯЛЯВА-ГРЫЛЬ ПА-ПАХОДНАМУ:**

На 1 сяляву:

Шчыпотка солі

Шчыпотка перцу (лепей белага)

Сок з 1 лімона

1 цыбуля

5 ст. лыжак алею

Сяляву пачысціць, вытрыбушыць, вымыць, нацерці соллю і перцам, вытрымаць прыкрытай у халодным месцы. Паліць лімонным сокам, пакрышыць цыбулю і начыніць рыбу, скалоць зубачысткамі. Выкласці на блясе, нашмараванай алеем, паліць алеем і пячы па 15 хвілін з кожнага боку.

Пры падачы паліць сокам, што ўварыўся пры запяканні.

**СЯЛЯВА Ў КЛЯРЫ З АЎСЯНЫХ ШМАТКОЎ І АПЕЛЬСІНАВАЙ ЦЭДРЫ:**

• 8 вялікіх сяляў (больш за 50 г.) • 2 жмені аўсяных шматкоў ("Геркулес" або інш.) • 1 апельсін • 3 яйкі • 1 шклянка пшанічнай мукі • 50g масла (лепей топленага)соль, перац / Нацерці на тарцы цэдру з апельсіна, змяшаць з пакрышанымі аўсянымі шматкамі. Дадаць соль і перац, а таксама муку. Узбіць яйкі і дадаць укляр, добра перамяшаць.

Мачаць кожную сяляву ў кляр, і смажыць на топленым масле, да залацістай "скарынкі" на адным баку, потым коратка на другім.

"Рыбалка на воз.Сялява", 1961г., мастак Яўген Ражкоў.

рыбамі. У сувязі з гэтым сялява была занесеная ў Чырвоную кнігу БССР. Так, у іншай форме і са спазненнем, пацвердзілася што даваенны клопат польскіх біёлагаў і арганізатараў турызма меў пад сабой падставы...

З 1978 г. колькасць сялявы паступова пачала павялічвацца. Падчас кантрольных адловаў увосень 1983 г. было вылаўлена 99 кг, узімку 1984 г.- 271, у сакавіку 1984-513 кг, у красавіку таго ж гады - 1,2 тоны за адно прытоненне. У 1984 г. Дзяржкамітэт БССР па ахове прыроды выключыў сяляву з Чырвонай кнігі і дазволіў яе здабычу пры ўмове ўводзін ліміту на вылаў, арганізацыі прац па штучнай гадоўлі і кантролю за станам папуляцый, сістэматычнага адлову малакаштоўных і "пустазельных" рыб, асабліва ярша і акуня, у сяляўных азёрах. Але сёння сялява - ізноў у Чырвонай кнізе Беларусі. Штрафы за яе лоў вельмі салідныя, і сялява не сыходзіць са старонак крымінальнай хронікі - тыя, хто трапляецца з сеткамі, губляюць за раз па 30-60 мільёнаў рублёў, ды яшчэ атрымліваюць да двух гадоў турэмнага тэрміну, і дай Бог, калі ўмоўна. Ну і дзе ж "залатая сярэдзіна"?

Атрымліваецца, што калі не абмяжоўваць нашых рыбакоў, яны драпежна павылавяць усю рыбу за некалькі гадоў. Таму афіцыйна - нельга нічога, а на практыцы - "лаві, а не пападайся". Як жа ў краінах з большай шчыльнасцю насельніцтва знаходзяць лепшы баланс паміж інтарэсамі прыроды і чалавека? Ясна, што пры нашым падыходзе не можа быць сялявы ў легальных рэстаранных меню, не можа быць аматарскага промыслу, фэстаў, сувеніраў, маляўнічых уражанняў з рыбнага рынку - усяго таго культурнага шлейфа, які мусіў бы цягнуцца за нашым сціплым а годным персанажам. У Польшчы і Літве сяляву не сталі ўносіць у нацыянальныя Чырвоныя кнігі, але забаранілі лавіць яе ў часе нерасту (лістапад-студзень) і памерам менш за 18 см, а галоўнае - рэгулярна зарыбляюць "сяляўныя" азёры маладняком з адмысловых пітомнікаў. Нам такі шлях не пасуе?

Годнасць жа сялявы ў даўніну была сапраўды царскай - кажуць, што яна нават уваходзіла ў меню каранацыйнага абеду маскоўскіх князёў, а потым цароў. Асабліва славілася сялява з Пляшчэева возера пад Пераяслаўлем-Залескім, адкуль мелі права лавіць рыбу толькі для царскага стала; адтуль і герб Пераяслаўля, на якім дзве сялявы - "пераяслаўскія селядцы", як іх яшчэ здаўна называлі. Ёсць глухія звесткі, што падобнай пашанай была акружаная сялява і на двары колішніх полацкіх князёў, але як гэта праверыць... Сялява сапраўды трохі падобная да селядца. Спіна шэра-блакітная, бакі бялёсыя, пуза белае, спінны і хваставы плаўнікі бялёсыя з чарнаватой верхавінай, вочы срабрыстыя. Мяса белае, трохі ружовае (бо ласось), мае пах рыбінага тлушчу - яго часта нейтралізуюць лімонам. Утрымлівае шмат фосфару, так што праз пару гадзін пасля вылаву нават свяцiцца ў цемры - таму вельмі карысная для мозгу. А высокае ўтрыманне магнію і гістыдыну стымулюе функцыі нервовай і імуннай сістэм. Касцей адносна няшмат, але іх часам прыкра даставаць, дзеля такой маленькай рыбкі. Абяцаў тым, хто не зусім давярае беларускамоўнаму тэксту, раскрыць імёны нашых гераіняў па-руску. Калі ласка: "ряпушка". Але ж шкада, што даўнія нашы словы (яны ж таксама і польска-літоўскія) амаль зусім забыліся, так што іх нават сталі баяцца, бачыць у іх нейкіх "заходніх дыверсантаў". Нават у Энциклопедию белорусской кухни не ўключылі тыя беларускія словы, хаця б дзеля даведкі у адпаведных рускамоўных артыкулах, і мне не хапіла сціплага аўтарытэту, каб паставіцца на сваім. Найлепшыя рэцэпты прыгатавання сялявы абыгрываюць яе радство з ласосем. Большасць тых, што я прывожу, узятыя з польскіх кулінарных сайтаў, а тыя, ў сваю чаргу - з практыкі рыбакоў і рэстаратараў Віграў і суседніх азёраў, з-пад Аўгустова, з "метраполіі" польскай сялявы. Наколькі гэтая традыцыя нам чужая? Настолькі, наколькі чужая сама аўгустоўская сялява. Але, мяркуйце самі: "Рэестр спісання азёраў Яго Каралеўскае Міласці, да невадніцтва Гарадзенскага і Пераломскага належаць", складзены ў 1569 г. на загад Жыгімонта Аўгуста, па-старабеларуску, калі і мяжа з Польскім каралеўствам праходзіла значна далей на захад, пералічвае рыбныя багацці возера Вігры: "А рыба ў ім - ласось, сіг, сялява, шчупак, лешч, акунь, лінь і іншая ўсялякая рыба". Так што гэта як паглядзець... але тых хто лічыць, што сяляву ў вярхоўях Ласосны і Чорнай Ганчы можна гатаваць "панску", а ніжэй, на нашым баку - сама болей смажыць - не буду пераконваць. Кулінарыя - справа інтымная, і тут кожны мае права на свой спосаб. Вось, напрыклад, апісанне старасвецкага шляхецкага абеду ў Карновіча: "Обед был продолжителен; в числе прочих блюд подавали: борщ, рассол, говядину с хреном, рубцы с имбирём, уток с капорцами, индеек с миндальной подливкой, каплунов и тетеревов со свёклою, и разную жареную дичь. Эти блюда перемешивались щуками, приготовленными под шафраном, карпами, поджаренными в меду, ершами и селявой (род ряпушки), подправленной гвоздикой и мускатом. У больших панов, кроме этого, подавали медвежьи лапы с вишнёвым соусом, бобровые хвосты с икрой, лосиные ноздри с грибами, печёных ежей, серн, поджаренных с фисташками, и кабаньи головы". Ну вось і скажыце, ці сялява з гваздікамі і мускатам - наша страва, ці не?

**АПОВЕД МАЎКЛІВАЙ СЯЛЯВЫ**

**FISH & CHIPS З СЯЛЯВЫ З ХАЛОДНЫМ СОЎСАМ З БАЦВІНКІ І РАКАЎ**

(Страва вытанчана спалучае англійскую традыцыю fish & chips з "краёвым" каларытам):

Сялява 100 г
Мука пшанічная 100 г
Яйка 1 шт
Разрыхляльнік цеста 1 г
Салата зялёная 40 г
Бульба 200 г
Бацвінне 50 г
Кефір або ёгурт 50 г
Гарчыца 10 г
Ракавыя шыйкі 30 г
Лімон 1 шт
Кроп Соль, перац

Сяляву пачысціць, адрэзаць галаву і вынуць большыя косці. Нацерці соллю і перцам. З мукі, халоднай вады, яйка і разрыхляльніка замясіць цеста як на наліснікі. Мачаць кожную сяляву ў кляр і смажыць у вялікай колькасці алею, можна ў фрыцюрніцы. Асобна парэзаць і

пасмажыць бульбу фры (можна скарыстацца паўфабрыкатам). Для соўса: адварыць ракавыя шыйкі (каля 5 хвілін). Дробна пакрышыць шыйкі, кроп і лісце бацвіння, дадаць ёгурт і гарчыцу, паліць свежа выціснутым сокам лімона. Выкласці на талерцы салату, затым рыбу і бульбу фры (“fish & chips”), паліць халодным соўсам.

**САЛАТА З ВЭНДЖАНАЙ СЯЛЯВЫ, ТРОХІ ПАСТМАДЭРНОВАЯ :**

4 вэнджаныя сялявы, 200 г зялёных шпарагаў (спаржы), 1 пучок салата рукала, 1 пучок палявога салата, 5 трускавак, 4 марынаваныя памідоры, 1 лыжка сямянаў сланечніка (чышчаных).
Соус “вінегрэт”: 3 лыжкі мёду, паўшклянкі алівы (алею), 1 лыжка гарчыцы, сок 1 лімона, 2 лыжкі віннага воцату, соль, перац, пучок зялёнай цыбулі, пучок кропу.

Шпарагі вымыць, пачысціць, адрэзаць цвёрдыя канцы і варыць у падсоленай вадзе (асобна зялёныя, каля 10 хвілін, асобна белыя, каля 15 хвілін). Рукалу, палявы салат, памідоры і трускаўкі вымыць і асушыць. памідоры і трускаўкі парэзаць на часткі. Зняць з сялявы шкуру, парэзаць на філе, старанна ачысціўшы ад касцей. Сланечнік падпражыць на сухой патэльні. Змяшаць усе інгрэдыенты соусу “вінегрэт”, апроч зеляніны. Кроп і зялёную цыбулю дробна пасекчы і дадаць у соўс. З гародніны скласці маляўнічую кампазіцыю, паліць соусам “вінегрэт”, пасыпаць сланечнікам. іле сялвы пакласці наверх. Падаваць з багетам, або іншым хрусткім белым хлебам.

**СЯЛЯВА З ПАПРЫКАЙ:**

500 г сялявы 2 цыбулі 3 зубкі часнаку 2 шклянкі белага віна “Крамная” прыправа да рыбы Салодкая папрыка (молатая), соль, перац - паводле смаку Рыбу пачысціць, вытрыбушыць, выбраць косткі, пакраіць на кавалкі. Цыбулю і часнок пасекчы. У хуткаварцы выкласці пласт цыбулі і часнаку, зверху рыбнае філе, пасыпаць прыправай, папрыкай, соллю і перцам. Заліць віном і падаграваць каля 10 хвілін.



# Калі ж нам сьвяткаваць юбілей?

*Спроба краязнаўчага аналізу гістарычнай крыніцы.*



**ДА 500-ГОДДЗЯ МЯСТЭЧКА БОБР**/ Андрэй АЛЯХНОВІЧ

На першы погляд можа падасца, што пытаньне надуманае. Усім, хто цікавіцца гісторыяй, вядома, што мястэчка Бобр (зараз гар. пасёлак Бобр Крупскага раёну) упершыню ўзгадваецца ў гістарычных крыніцах пад 1516 годам, “калі кн. Іван Васілевіч Друцкі-Красны завяшчаў сваёй жонцы Марыне Іванаўне з князёў Заслаўскіх Бобр разам з Сакалавічамі і Недаходавым”[1]. На гэтым можна было б паставіць кропку і спакойна рыхтавацца да ўрачыстасьцяў. Але час не стаіць на месцы, зьяўляюцца новыя дакументы і матэрыялы. Нашы браты летувісы метадычна, пачынаючы з сярэдзіны 1990-х гадоў, выдаюць у Вільне знакамітую Літоўскую Метрыку. У

**Мястэчка Бобр. Фота 1918 г. Друкуецца ўпершыню.**



**У шмат якіх творах аб падзеях на вёсцы** ў гады вайны з немцамі згадваецца такі сцэнар: яшчэ не прыйшлі немцы, а кулак міраед, высланы ў свой час як вораг калгаснага строю, ужо тут як тут. Ён ідзе на службу да немцаў і пачынае свае грабежніцкія крывавыя разборкі з арганізатарамі калгасаў, людзьмі сумленнымі і добразычлівымі. Можа недзе было і так, бо хапала ўсякага ліха, але менавіта ў нашай вёсцы – хутчэй наадварот. І тыя, у каго не было настрою на настойлівую плённую працу ці вучобу, з такой жа лёгкасцю як пайшлі на службу да савецкай улады, пераскочылі да нямецкай. Мусіць не было для іх розьніцы пад якім сьцягам каго і куды гнаць.

Вайна паказала сапраўднае аблічча людзей, і аказалася, што тыя хто ў трыццатых гадах лічыліся ворагамі, апынуліся ў стане абаронцаў улады і такім чынам сярод пераможцаў. Адразу, як толькі прыйшлі красныя, вярнулася ў Кіявец з партызанскай зоны Хрысціна з дачкой Дорай і сынам Кастусём, – камандзірам агентурнай разведкі партызанскай Сенненскай брыгады (камандзір Лявонаў). Пасяліліся яны ў былой Лукашовай хаце.

На палявы аэрадром, што знаходзіўся на полі паміж Лютымі і Кіяўцом сеў самалёт, за штурвалам якога знаходзіўся Мікалай Бароўскі – лётчык-знішчальнік (фота 3). У асабістых баях Мікалай збіў 18 самалётаў (за дзесяць давалі Героя Савецкага Саюзу). Але паміж ім і камандзірам палка стаяла радыстка-прыгажуня Зіна. У выніку камандзір палка палучыў ад Колі фінгал пад вока, Зіна атрымала мужа Колю, а Коля застаўся без зоркі Героя, але не трапіў пад трыбунал.

Першым цягнікам, які йшоў з Масквы пасьля вызвалення Беларусі, прыехаў да Балотнікава Захара сын Барыс, капітан службы бяспекі.

Прыехаў таксама ўнук Лукаша і Захара, адпушчаны на 14 дзён са шпіталя, дзе знаходзіўся пасля ранення, гвардыі лейтэнант Яўген Уласавіч Бароўскі, камандзір артылерыйскага ўзвода (фота 4).

Неўзабаве пасля сканчэння вайны прыехаў малодшы сын Захара, – Рыгор, падпалкоўнік медычнай службы.

Пасля вызвалення ад немцаў, Балотнікаў Захар зноў быў абраны старшынёй калгасу, прабыў на гэтай пасадзе каля трох гадоў. Увесь цяжар працы лёг на жанчын, мальцаў-падлеткаў і старых, бо мужчыны былі мабілізаваныя ў армію, хто ў 41 годзе, хто ў 44-м, каго забілі немцы ў часе акупацыі, каго паліцаі, каго партызаны, каго пасадзілі за сувязь з акупацыйнымі ўладамі. Калі дзед быў дома, хата не зачынялася, увесь час ішлі людзі і ён усім стараўся дапамагчы. Многіх жанчын і падлеткаў ён навучыў касіць, кляпаць касу, хадзіць за плугам, рубіць зруб. Патроху сталі прыходзіць да дому франтавікі. Часта можна было пачуць ад іх: "Жукаў казаў, што калгасы распусцяць". У паветры патыхала надзеяй, часта сталі святкаваць, гуляць у складчыну, у адносінах дадалося добразычлівасці.

Памятаю адны дажынкі: жанчыны з поля ўсім натоўпам, з сярпамі й віламі падышлі да нашай хаты і пачалі спяваць. Старая песня загучала па-новаму: "Выйдзі, выйдзі старшынька", спявалі жняяркі замест "паночак". Дзед мусіў выйсці, яму на галаву надзелі вянок з жытніх каласоў, васількоў ды іншых кветак. Аказалася тут і рахункавод, – Бароўская Проска, хутка былі выданыя грошы на пяць пляшак гарэлкі. Імгненна сабралі стол, – самагонка, як вядома ў беларуса не пераводзіцца пры любой уладзе. Закуску неслі ў каго што было: хлеб (у тыя часы пяклі самі напалову з бульбай), яйкі, цыбуля, гуркі, шматочак сала. З'явіўся гармонік, бубен і нават скрыпка, на якой йграў Стахван Казак. Пашлі танцы, – полька, кадрыль. Вянок нейкі час вісеў у хаце на круку, а потым бабуля аддала яго курам.







**Фота 3. Мікалай Андрэевіч Бароўскі, унук Бароўскага Лукаша (здымак зроблены пасля вайны).**



**Фота 4. Яўген Уласавіч Бароўскі ў шпіталі г.Іванава, чэрвень 1945г. (стаіць першы злева).**

Але не дзеля таго савецкая ўлада будавала калгасы, каб людзі жылі як ім лепей, і як ім хочацца. Памятаю роспач дзеда, калі ён даведаўся, што калгасу паверх зданых 19 тон нарыхтоўкі дабавілі яшчэ. Некалькі начэй ня мог спаць, потым доўга раіўся з рахункаводам Проскай і кладаўшчыцай Цюхловай Вінкай (дарэчы членам ВКП(б) ад пачатку трыццатых гадоў), як і колькі выдаць жыта на працадні, і не папасці пры гэтым пад суд. Цяпер не даведаешся, як яны вырашылі, але агульнавядома было ў нашых краях, што кіяўцы атрымоўвалі на трудадзень болей за суседзей. Але ціск на калгас і асабістую гаспадарку прывёў да поўнай галечы, цяжка уявіць, што было-б, каб не памёр Сталін. З асабістай гаспадаркі трэба было выплочваць грашовы падатак, здаваць натурай малако, мяса, яйкі, скуру жывёлы. Пастаянна аціраліся па калгасам упаўнаважаныя з раёну, хадзілі па вёскам фінагенты,

**Памятаю адны дажынкі: жанчыны з поля ўсім натоўпам, з сярпамі й віламі падышлі да нашай хаты і пачалі спяваць. Старая песня загучала па-новаму: "Выйдзі, выйдзі старшынька", спявалі жняяркі замест "паночак". Дзед мусіў выйсці, яму на галаву надзелі вянок з жытніх каласоў, васількоў ды іншых кветак.**

– спаганялі падаткі, заходзілі ў хлявы, выглядалі колькі ў гаспадарцы жывёлы. Зноў пайшлі даносы…

**Прывяду невялічкую гісторыю** якая адлюстроўвае адносіны ўлады да сістэмы гаспадарання, якую ж яна сама навязала. Гэта было недзе ў другой палове пяцідзесятых гадоў (перыяд пацяплення), калі Хрушчоў заклікаў найбольш кваліфікаваных работнікаў прадпрыемстваў узначаліць адсталыя калгасы. Вышла пастанаўленне ЦК КПСС, потым гэта кампанія і "дабрахотнікі" называлiсь трыццацітысячнікамі. Дык вось, у Лагі (вёска ў чатырох кіламетрах на паўночны ўсход ад Кіяўца) прывезлі трыццацітысячніка, кандыдата на пасаду старшыні. На сходцы выступіў калгаснік (прозвішча яго, мусіць, Клюковіч), што старшыню трэба выбіраць са сваіх, а гарадскія хай працуюць у горадзе. Калгаснікі яго падтрымалі. Некалькі разоў упаўнаважаны з раёну ставіў на галасаванне назначэнне новага старшыні, але "прадавіць" не ўдалося. Сход закрылі, начальства з'ехала, цераз некаторы час Клюковіча выклікаюць у Крупку, у раённы аддзел дзяржбяспекі, на бяседу. Бяседу правеў Пшанічнікаў[3] (фота 5), ня ведаю, што ён гаварыў, але самы рашучы аргумент прывёў з газеты "Правда". На сталe ў яго ляжаў скрутак-шланг, абгорнуты газетай "Правда", і гэтым скруткам ён некалькі разоў выцяў Клюковіча па плячах. Потым параіў выступіць на будучым сходзе і падтрымаць лінію партыі і напраўленнага ёю кандыдата. Неўзабаве адбыўся сход, на якім аднагалосна абралі старшыню трыццацітысячніка. Трыццацітысячнікі неўзабаве зніклі, не пакінуўшы бачных вынікаў гаспадарання, бо ім і іх дружынам больш усяго хацелася вярнуцца да гарадскога жыцця.



**Фота 5. Пшанічнікаў В.Ф.**

Бальшавікі ставілі перад сабой вялікія мэты, большасць з якіх правалілася. Але дзве ім удалося здейсніць. Па-першае, як яны горда заяўлялі, – "создана новая общность – советский человек". Па-другое, – калгас. Такі феномен гаспадарання, які пры нізкай эфектыўнасці мае высокаю жыццяздольнасць. Калгас і савецкі чалавек патрэбны адзін аднаму, болей за тое, яны існаваць паасобку не могуць. Калгас не можа жыць без працаўніка, які гатовы працаваць практычна задарма, якому патрэбна толькі сёняшняя "чарка і шкварка". Без працаўніка, які гатовы за пляшку гарэлкі прадаць сваё права распараджацца сваёй доляй, хай сабе ён і цягне ўсё, што добра і дрэнна ляжыць, хай сабе ён і забывае прыйсці на працу, нягледзячы на тое, што скаціна галодная і няпоеная. З другога боку, дзе савецкі чалавек, – там пануе калгасная ідэялогія, будзь тое хоць дзяржаўная ўстанова, ці навуковая, асабістае прадпрыемства, саюз пісьменнікаў, царква, ці блок апазіцыі.

Савецкая ўлада купіла і разбэсціла нас, сваіх грамадзян, на агульным для ўсіх пачуцці справядлівасці. Яна развязала барацьбу за міравую справядлівасць, і ў ходзе гэтай вайны выдвінула лозунгі па сутнасці працілеглыя агульначалавечай (хрысціянскай) маралі. Стала магчымым, без асаблівых пакут сумлення, забіваць, грабіць, пісаць ілжывыя даносы, адракацца бацькоў і дзяцей. Брыдота ўчынкаў, за якімі стаяла хціваcць, жаданне валадарыць, зайздрасць, а часцей проста баязлівасць, – як бы абяўлялася дзяржаўнымі лозунгамі. І колькі пакаленняў зменіцца, каб гэта чорная муць, узнятая з глыбіні нашых душаў патроху асела?

**У КІЯЎЦЫ ЖЫЛІ ВЯЛІКІЯ РОДАВЫЯ КЛАНЫ…**

Родную мову я ведаю недасканала, таму апошнюю фразу прывяду па-руску. В Нагорной Проповеди Христос сказал НЕ ИЩИ СПРАВЕДЛИВОСТИ, НО БУДЬ СПРАВЕДЛИВ.

Як нам усім не хапае такога стаўлення да жыцця і людзей…

Масква 2011г.

*Аўтар выказвае падзяку А. Аляхновічу за магчымасць выкарыстання матэрыялу з рукапісу кнігі "Хроніка палітычнага тэрору 1918 – 2008, Крупскі рэгіён, Малое Палессе, Друцка-Бярэзінскі край".*

---

[1]**Вера Аляксееўна Шабека,** (нарадзілася да вайны, год дасканала ня ведаю, а калі на які год памылюся, дык мне мала ня будзе) скончыла Беларускі Дзяржаўны Універсітэт, працавала дыктарам цэнтральнага тэлебачання ў Маскве; Іван Аляксеевіч Шабека, (1941г.н.) скончыў Інстытут Народнай Гаспадаркі, потым там выкладаў; іх старэйшы брат Рыгор (1930г.н.) скончыў Беларускі Дзяржаўны Універсітэт, кандыдат матэматычных навук. Бацька іх, Ляксей, настаўнічаў у Смародзінцы, арыштаваны НКВД у чэрвені 1941 (далейшы лёс невядомы), родны брат Ляксея, Іван у 1925 годзе скончыў усходні факультэт Акадэміі РККА, быў рэзыдэнтам у Японіі, рэпрэсаваны ў 1939, расстраляны, – рэабілітаваны ў 1956.

[2]**Прышчэпаў Дзмітры Філімонавіч,** н. 21.11.1896, в. Калодніца Крупскага р-ну. З сялянскай сям'і. Беларускі дзяржаўны і грамадскі дзяяч, публіцыст. У 1914-16 настаўнік у роднай вёсцы. Удзельнік 1-й сусветнай і грамадзянскай войнаў. З 1916 у Расійскай арміі, прапаршчык. У 1919–20 у Чырвонай арміі. Потым на дзяржаўных пасадах. У 1924–29 наркам земляробства БССР, намеснік старшыні Дзяржплана БССР, старшыня сельскагаспадарчай секцыі Інстытута беларускай культуры. Прыхільнік новай эканамічнай палітыкі на вёсцы, свабоды выбару сялянамі формаў землекарыстання. Дзейнасць П. пакінула глыбокі след і добрую памяць сярод беларускага сялянства. Арыштаваны 19.7.1930 за прыналежнасць да Саюза Вызвалення Беларусі і ўдзел у эсэраўскім руху. 18.3.1931 асуджаны калегіяй ОГПУ БССР паводле арт. 58 п. 2, 11 КК РСФСР на 10 гадоў зняволення на поўначы Расіі. Адбываў пакаранне на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала, потым у Поўначусходлагу. Вызвалены з лагера 27.7.1937. Другі раз арыштаваны 13.8.1937 у г. Магадан і ў студзені 1939 этапаваны ў Мінск, дзе ваенным трыбуналам Беларускай асобай ваеннай акругі 20.11.1939 паводле арт. 68 "а", 69, 76 УК БССР абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Польшчы і прысуджаны да ВМП. Да расстрэлу не дажыў – сканаў на ложку турэмнай лякарні 31.1.1940 ад "паралiча сэрца з абвастрэннем сухотаў". Па першым абвінавачанні рэабілітаваны 14.6.1988 Вярхоўным судом БССР. Па другім – 11.3.1956 ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

[3]**Пшанічнікаў Васіль Фёдаравіч,** н. 19.1.1911, в. Плотава Алтайскага краю. Скончыў камвуз у г. Анжэра-Суджэск (1933). Працаваў сакратаром, начальнікам Баеўскага, Ельцаўскага райаддзелаў НКВД Алтайскага краю (1936-44). У 1944-50 – начальнік Дубровенскага райаддзела НКВД Віцебскай вобл. З 1950 і да выхаду на пенсію ў 1974 – начальнік Крупскага райаддзела МДБ, Крупскай, Барысаўскай міжраённай інспекцыі папраўчых работ. Жыў у г. Крупкі. Памёр у 1991.

# Вайна ў памяці жыхароў вёскі Гумны Крупскага раёна



**УСПАМІНЫ** / Вольга і Міхал БАРАВУЛЯ

*Наш вялікі пісьменнік Васіль Быкаў аднойчы сказаў, што праўда пра партызаншчыну на Беларусі яшчэ не напісана. Мы прапаноўваем пазнаёміцца з ўспамінамі сведкаў пра страшныя падзеі 1941-1942 гадоў, якія адбываліся ў вёсцы Гумны Крупскага раёна і адчуць, што былі вымушаны пераэыць мірныя жыхары.*

### З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ

Зараз Гумны ўваходзяць у склад Ухвальскага сельскага савета. У пісьмовых крыніцах вёска ўпершыню ўзгадваецца ў 1764 годзе, і налічвалася ў ёй трынаццаць двароў.

У 1941 годзе ўжо было восемдзесят шэсць двароў, у якіх пражывала чатырыста пяцьдзесят два чалавекі. Здавён вёска ўмоўна падзелена жыхарамі на тры часткі: Восава, Сярэдзіна і Баравулі.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны на фронт забралі пяцьдзесят двух мужчын, з якіх вярнуліся толькі двое. У лясах каля Гумнаў знаходзілася шмат савецкіх партызанскіх атрадаў. 6 чэрвеня 1942 года пачалася, па загаду Гітлера, карная аперацыя “Карлсбад”, у якой карнікі знішчылі больш за сто пятнаццаць мірных жыхароў, дваццаць шэсць двароў засталося пустымі. У вёсцы знаходзіцца магіла ахвяр фашызму. У 1985 годзе на магіле пастаўлены абеліск.

На сённяшні дзень у вёсцы пражываюць 84 жыхары…

### З УСПАМІНАЎ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ

**Баравуля Адам Пракопавіч. 1930 г.н. Ураджэнец вёскі Гумны.**

За тры дні да блакады і расстрэлу ў Гумнах было мнагалюдна як ніколі. Узвод за ўзводам, рота за ротай, атрад за атрадам ішлі партызаны. Ішлі з песнямі, строем, ішлі амаль суткі – і ўсе па дарозе на Краснае. Нам, дзецям, гэта было навіной, таму кожныя з нас стараліся правесці кожную калону амаль да смалярні і памахаць ім рукой. Усе жыхары вёскі лічылі, што партызаны накіроўваюцца на нейкае вельмі важнае заданне, як калісьці, зусім нядаўна, на Выдрыцу, на Начу, на Прыяміна…

Праз дзень над Гумнамі з’явіліся нямецкія самалёты. Яны павольна кружылі над вёскай, над лесам, але, як гэта было ў жніўні, не бамбілі і не стралялі. Як цяпер разумею, што гэта была авіяцыйная разведка. Людзі, думаючы, што можа пачацца бамбардзіроўка, пачалі перабірацца ў раней падрыхтаваныя зямлянкі, якія былі выкапаны на загуменні на выпадак бамбёжкі.

Пра тое, што ў той дзень выбілі Вузнаж, ніхто яшчэ не ведаў. Казалі пасля, што вецер даносіў з боку Вузнажы і стралянку, і плач дзяцей, і галашэнне, але ўсе спадзяваліся, што будзе добра. Таму, магчыма, і не звярталі ніякай ўвагі: чаго толькі можа паказацца чалавеку, тым больш, у час вайны.

Увечары з боку Вузнажы з’явіліся спачатку матацыклы, пасля аўтамашыны, поўныя немцаў. Каля лесу яны рассыпаліся ланцугом і пайшлі, быццам у атаку, на вёску. На загуменні пачалі акапвацца, займаючы лінію абароны па ўсіх правілах вайсковай справы. Адзін з немцаў заўважыў зямлянку. Збялеўшы, ён спачатку спужана астанавіўся, бо ў ёй было вельмі шмат людзей. Пасля падумаў, што гэта партызаны, і выстраліў проста ва ўпор з карабіна. Хацеў яшчэ раз стрэліць, але адзін дзед схапіў карабін і пачаў тлумачыць панямецку, што тут толькі дзеці і жанчыны, а ніякіх партызанаў няма. Бабы загаласілі, бо куля трапіла прама ў сэрца васьмігадовага хлопчыка Сані Кацекі. На Восаве, усходняй частцы вёскі, гэтак жа недарэчна куля знайшла і другую сваю ахвяру – сямідзесяцігадовага Сіняка Данілу. Той убачыў, як на вёску наступае ланцуг немцаў, і пачаў раз-пораз выглядаць з-за вугла сваёй хаты. Немцы палічылі, што гэта партызан цікуе за імі, і аўтаматнай чаргой зрэзалі вельмі цікаўнага старога. Больш у гэты дзень ахвяр не было.



Немцы пераначавалі ў акопах і ў вёсцы па хатах, раніцай паехалі па дарозе на Наваселле. Праз нейкую гадзіну пачалася страляніна. Гэта партызаны пабілі недалёка ад вёскі нейкую танкетку, а праз гадзіну-другую Гумны з усіх бакоў: і з боку балота, і з боку Вузнажы – уся вёска была ацэплена. З навасельскай дарогі яны ацэплівалі вёску двюма клінамі, каб ніхто адтуль не мог выйсці. Мой бацька якраз у гэты час выйшаў на двор і убачыў, што ўздоўж балота яны адзін за адным рухаліся ў бок Восава. Гэтак жа ў пачатку вайны адступалі і нашы чырвонаармейцы. Бацька адкрыў дзверы і сказаў нам:

– Ну, дзеткі, мусіць адгараваліся! Гляньце, немцы адступаюць!

Але калі пачало віднець і рассеяўся туман, мы ўбачылі, што немцы стаялі адзін каля аднаго з нацэленымі аўтаматамі на вёску. Такая жудасная доўгая шарэнга віднелася і на загуменні, што з паўночнай часткі.

У гадзін дзевяць карнікі пачалі ўрывацца ў хаты і забіраць з сабою мужчын і юнакоў. Усіх іх павялі да хаты, якая стаяла якраз насупраць цяперашняга помніка цераз дарогу, што вядзе на Наваселле. Хату закрылі, пазабівалі вокны і дзверы дошкамі, абклалі яе сенам і саломай.

Апоўдні з боку Восава, усходняй часткі вёскі, пачулася галашэнне і дзецкі плач. Гэта гналі ў бок Баравуляў жанчын і дзяцей. Трапіў і я туды, у гэты гурт, разам з маці і меншай сястрой Надзяй. Бацьку і брата Лёшу закрылі ў хату, дзе сядзелі мужчыны. Нас жа, падлеткаў, разам з жанчынамі загналі ў хату Вусіка Міхалкі. Вокны забілі. Усе бабы плакалі, бо убачылі, што вакол хаты паставілі каністры з

бензінам.

У гадзіны тры з хаты, дзе сядзелі мужчыны, выйшла дзесяць чалавек. Ім загадалі капаць яму, даўшы кожнаму па лапаце. Сярод іх былі Вусік Сяргей, Баравуля Дзмітрый Антонавіч, Сіняк Цімафей Кузьміч.

Яму выкапалі ў рост чалавека, бо калі вылазілі, то падавалі адзін аднаму рукі. Міця Антонаў пачаў выцягваць з-пад зямлі сваю фуфайку, але француз ударыў яго і паказаў, што фуфайка ўжо больш патрэбна не будзе. Мужчын пасля зноў закрылі ў хаце.

Французы ж у гэты час стаялі ў Сморках (цяпер Зорычы), грабілі хаты, білі свіней, рэзалі скаціну проста каля пуні, дзе сядзелі галодныя дзеці, тут жа пяклі сала і наругаліся. Пад стаць ім дзейнічалі Выдрыцкія паліцаі і падводчыкі. Гэта яны пасля забралі амаль усіх гумнаўскіх кароў і коней. У гэты ж час вяліся і допыты, прычым страшэнныя. Старую жанчыну Баравулю Сцепаніду Рыгораўну, якой было ўжо больш за 70 гадоў, узнялі на дыбы, выламалі рукі, паламалі косці. Яна прасіла сваіх катаў: "Дзетачкі, нашто ж вы мяне мучыце? Дабейце радзі бога! Застрэльце мяне!" Віна яе была толькі ў тым, што яе сын Баравуля Сямён Іванавіч быў камандзірам партызанскага атрада "Перамога" брыгады імя Шчорса. Замучаную і скрываўленую, яе павесілі першай.

Васемнаццацігадовую Баравулю Вольгу Парфёнаўну цэлы дзень катавалі: выкруцілі рукі і ногі, а пасля зацягнулі ўжо амаль мёртвую на магілу з расстралянымі жыхарамі і дастрэлілі, бо яна любіла маладога дэсантніка.

Пасля доўгіх пабояў і катаванняў павесілі шаснаццацігадовых Баравулю Васіля Пятровіча і Сіняка Васіля Герасімавіча, дэпутата Баравулю Паўла Андрэевіча, трыццацігадовага Баравулю Івана Антонавіча. На Сіняка Васіля Іванавіча ўскацілі бочку з зямлёй і так да таго часу, пакуль ён не памёр пад яе грузам. Некаторыя кажуць, што спачатку на яго вачах гэтак жа замучылі дзесяцігадовага і васьмігадовага яго сыноў і жонку. Накінулі пятлю на Баравулю Васіля Іванавіча, брата партызанскага камандзіра і былога старшыню мясцовага калгаса "Пралетарская перамога" і выбілі лаўку з-пад ног. Чалавек зайшоўся ў канвульсіях.



Фота 1. Сіняк Васіль Філімонавіч, 1943г.

Але ў гэты момант на легкавой пад'ехаў нямецкі камендант Чэрнеўскага гарнізона і фінкай перарэзаў вяроўку. Немцы сапёрнага батальёна неяк адхаялі чалавека і забаранілі расстрэльваць, мурдаваць і вешаць людзей у гэты дзень.

Пачалася псіхалагічная апрацоўка жыхароў вёскі, але не ўсе яе вытрымалі з гонарам. На супрацоўніцтва з ворагам пагадзіліся дзесяць чалавек на чале з будучым старастам вёскі Сіняком Васілём Халімонавічам (фота 1). Жанчын з хаты Вусіка Міхалкі разам з дзецьмі перавялі ў пуню і паклалі спаць проста на навоз.

Наступіла ноч, якая падзяліла аднавяскоўцаў на жывых і мёртвых. Хто рашаў гэтай ноччу лёс людзей, цяпер ужо, мусіць, застанецца тайнай. Вядома, толькі, што стараста Сіняк Васіль Халімонавіч прапанаваў для гэтага выбраць дзесяць чалавек. Хутчэй за ўсё імі за ноч і быў складзены план расстрэлу амаль сотні чалавек, вельмі цывілізаваны і гуманны на іх думку.

Па гэтаму плану ўсе мужчыны, якія засталіся ў вёсцы, павінны стварыць атрад самаахові, які б лаяльна адносіўся да немцаў. Той, хто адказваўся, павінен быў быць ліквідаваны разам з усёй сям'ёю. Яма была ўжо выкапана і чакала сваіх ахвяр.

Падлягалі ліквідацыі і сем'і былых калгасных актывістаў, прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі. Быў складзены і спіс людзей, якія падлягалі расстрэлу. Але расстрэльваць па спісу сваіх аднавяскоўцаў – значыць паказаць усім людзям сваю чорную прадажную душу. Таму быў прыдуманы вельмі хітры ход. Усім мужчынам, якім даравалі жыццё, было загадана ісці туды, дзе сядзелі жанчыны з дзецьмі і, забраўшы сваю сям'ю, весці яе на Аўрамаў лог, куды ўжо да гэтага часу прыехаў начальнік Выдрыцкай паліцыі Карань, бургамістр горада Барысава Станкевіч і прыляцеў на самалёце камандзір карнай экспедыцыі генерал Бах-Залеўскі.

Мой бацька прыйшоў да пуні з братам Аляксеем і крыкнуў маёй маці: "Марфа, выхадзі!" Маці ўзяла мяне і сястру Надзю за рукі і павяла, але пасля схапіла за руку замужнюю дачку Любу, муж якой, Баравуля Міхаіл Пятровіч, недзе хаваўся ў лесе. Тая пайшла з намі. Так рабіў кожны мужчына, які сядзеў у хаце, раней прызначанай да расстрэлу. Стараста ўважліва назіраў за ўсім, што адбывалася. Сем'і партызан, а таксама тых, хто хаваўся ў лесе, пачалі расстрэльваць.

Стоячы на лагу, мы чулі, як галасілі людзі і гучалі стрэлы. Не прыйшлі на лог са сваімі сем'ямі Сіняк Каліна Барысавіч, Кацека Васіль Еўтухавіч, Сіняк Максім Кузьміч і іншыя.

Фота 2. Улётка самаахові (копія).



СЯЛЯНЕ!

Тое, да чаго Вы імкнуліся на працягу доўгіх гадоў зрабілася сапраўднасьцю: немцы вярнулі Вам тое, аб чым Вы марылі, і тое, што было у Вас адабрана бальшавікамі.

**Зямля цяпер ваша.**

Ахоўвайце Вашы асабістыя інтарэсы, Вашу маёмасьць. Не дапушчайце, каб бандыты і валацугі бязкарна перашкаджалі Вам у Вашай працы і разбурвалі Вашу гаспадарку.

Толькі ў тых раёнах, дзе пры Вашай дапамозе будуць выгнаны і зьнішчаны банды шкоднікаў Вашага народу, падбухторваемыя маскоўскім крывапійцам Сталінам і яго прыхвасьцьнямі і жыдамі, зараз-жа будзе прыступлена да пераходу на хутарское і адрубнае зямлякарыстаньне. Гэты пераход зьяуляецца канечнай мэтай новага зямельнага парадку.

**Сяляне, дапамагайце самі сабе — уступайце ў шэрагі беларускага корпусу самаахові!**

Не забывайцеся таго, што ў першую чаргу хутарамі будуць надзелены тыя сяляне, якія аказаліся дастойнымі ўскладзенага на іх даверу і актыўна дапамагалі ў барацьбе з бандытамі-паразітамі Вашага народу.

**Сяляне, абараняйце Вашу радзіму і Вашу зямлю, гэтым Вы дапаможыце самім сабе!**

Яны, магчыма, былі ў чорным спісе. А тое, што спіс быў, яскрава сведчыць наступны факт. Пад вечар да старасты першай групы мужчын падбег выдрыцкі паліцай і паведаміў ім нешта на вуха.

– Што? Усё? – перапытаў ён.

– Ага!

– Не, Халімонавіч, яшчэ не ўсё, – сказаў яго паплечнік Александр, – на гумне калгасным яшчэ настаўнік з сям'ёю застаўся.

І праз хвілін пятнаццаць-дваццаць перад натоўпам людзей прайшлі гарбаценькі настаўнік Сіняк Рыгор, яго жонка і чацвёра дзяцей, якія спужана прыхінуліся да бацькоў.

А гумно калгаснае стаяла з боку ад вёскі і ў нямецкае ацапленне не трапіла. Расстрэльвалі людзей свае ж, выдрыцкія паліцаі, былі там кулямётчыкі і з Крупак. Кулямёты іх, казалі, стаялі вакол ямы, а яны самі паміж расстрэламі, пакуль прывядуць другую сям'ю, пілі гарэлку. Дык тая банька, дзе яны пілі, была поўнасцю застаўлена пустымі бутэлькамі з-пад гарлэкі. Сотні дзве там валялася і стаяла тых пляшак. Кажуць яшчэ, што адзін п'яныпʼяны паліцэйскі прыходзіў да Сіняка Васіля Халімонавіча, старасты, і гаварыў яму:

– Што ж вы, гады, робіце? Адных толькі баб з дзецьмі на расстрэл пасылаеце.

У той час, калі людзей стралялі, немцы прачэсвалі лясы вакол Гумнаў. Тых, хто у лесе хаваўся, таксама вялі да ямы і стралялі там. Гэта былі ў асноўным маладыя хлопцы і дзяўчаты.

На Аўрамавым лагу агітавалі ў гэты час мужчын уступіць у атрад самааховы. Генерал, які прыляцеў на кукурузніку, сказаў, што цяпер вайна і трэба ваяваць: ці ў паліцыі, ці ў партызанах. Карань, выдрыцкі бургамістр, агітаваў за ўступленне мужчын у паліцыю, барысаўскі бургамістр – каб ішлі ў атрад беларускай самааховы (фота 2).

Камуністы, казаў, якіх вы карміці, вас кінулі, дык трэба самім навучыцца за сябе пастаяць. Запісалася ў тую самаахову спачатку чалавек дзесяць, а пасля пачалі застаўляць усіх маладзейшых.

Камандзірам самааховы прызначылі былога афіцэра Чырвонай Арміі Гайдука з Наваселля, які перад гэтым уцёк з партызанаў, дзе быў камандзірам; начальнікам штаба – таксама былога афіцэра Баравулю Уладзіміра Іванавіча, роднага брата камандзіра партызанскага атрада Баравулі Сямёна Іванавіча. Валодзя Баравуля перад гэтым узначальваў у Гумнах партызанскую самаабарону.

Калі мы прыйшлі пасля сходу дамоў, то ў хаце было пуста. Ні кароў, ні свіней, ні місак, ні лыжак, ні нават бульбы. Усё гэта падчысцілі выдрыцкія падводчыкі. Добра яшчэ, што бацька быў дагадлівы: пахаваў і бульбу, і жыта ў ямках за сялом. Як быццам бы здагадаўся, што могуць аграбіць. У той жа дзень спалілі дамы расстраляных сем'яў.

А назаўтра я апошні раз бачыў партызана, які спакойна ішоў па вуліцы. Гэта быў дэсантнік. Ён ішоў і зрываў спісы з жыхарамі кожнай хаты і нямецкія лістоўкі, якія таксама павесілі на кожнай хаце.

Праз дзень ці два з лесу пачалі вяртацца і мужчыны, якім пашчасціла пазбегнуць аблавы. Сем ці дзесяць чалавек з іх адказаліся служыць у самаахове. За гэта стараста іх арыштаваў і паслаў у Выдрыцу. Казалі, што ўсіх іх пабілі ў Вялікім Горадне. Тых жа, хто згадзіўся ісці ў самаахову, не зачапілі. Бацьку майму было ўжо за пяцьдзесят гадоў, таму і на яго дужа не звярталі ўвагу. Перахавалі расстраляных на гумнаўскае кладбішча толькі вясной. Тыя, у каго родзічаў не засталося, так і асталіся там ляжаць.



**ВАЙНА Ў ПАМЯЦІ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ ГУМНЫ**

**ДРАЗДЭНКА Нікіфар Нікіфаравіч,**

былы партызан атрада імя Варашылава брыгады імя Шчорса, а пасля разведчык в/ч 9903 (разведаддзел Заходняга фронта)

У жніўні месяцы 1942 года на тэрыторыі Крупскага раёна для каардынацыі дзейнасці разведгруп штаба Заходняга фронта і ўстанаўлення ўзаемадзеяння з партызанскімі атрадамі, якія тут дзейнічалі, прыляцеў сам камандзір вайсковай часці 9903 падпалкоўнік Спрогіс Артур Карлавіч і яго камісар Адзінцоў Аляксандр Іванавіч. Высаджваліся яны на полі паміж Гумнамі і Вузнажжу на працягу двух дзён. Нас, мясцовых партызан, якія сігналізавалі ім кастрамі, уразіла іх ваенная выпраўка, падцягнутасць, а асабліва ўзбраенне: усе яны былі ўзброены аўтаматамі (ніводнай вінтовачкі не было), на кожнае аддзяленне – ручны кулямёт. На парашутах было скінута шмат боепрыпасаў і харчавання.

Спрогіс з камісарам спачатку жылі ў летнім лагеры каля Гумнаў, а дэсантнікі размясціліся па хатах у вёсцы. Калі пахаладала, Спрогіс і Адзінцоў перабраліся ў Гумны ў хату, якая стаяла на захад ад невялічкага возера, што ўтварала запруда (мосцік) на рацэ Манча.

Жылі – гэта ў цяперашнім разуменні не тое, што ў ваенны час. Спрогіс кожны дзень быў у раз'ездах як і яго камісар. Толькі партызаны і дэсантнікі з найбольш давераных асоб ведалі, калі яны з'явяцца на месцы сваёй дыслакацыі. Вёска ахоўвалася партызанамі з усіх падступаў да яе. У Гумнах жа дэсантнікі пачалі ствараць атрад мясцовай самааховы, які кожны вечар праходзіў ваенную падрыхтоўку. На чале атрада стаяў мясцовы хлопец, які быццам бы закончыў перад вайной савецкае ваеннае вучылішча. На месцы часцей за ўсё знаходзіўся толькі начальнік штаба, старшыня і радысты, а таксама ўзвод аховы. На кожнай больш-менш значнай дарозе да Гумнаў з боку варожых гарнізонаў абавязкова размяшчаўся партызанскі атрад.

У вёсцы Краснае стаяў атрад Свістунова, дарогу з вёскі Наваселле кантраляваў атрад Узоха, ва ўрочышчы Гарадзечанка – атрад Сарокі (ён прыкрываў дарогу на Міхеевічы і меў у сваім складзе ўсіх партызанаў былога "атрада Варашылава"). Каля вёскі Старая Маталыга стаяў атрад Паўлаўца, каля Вузнажы – атрады Каралёва і Кнігі, перад самай Лаўніцай, каля смалярні, нейкі час размяшчаўся атрад "Перамога" Сямёна Іванавіча Баравулі. Была яшчэ і другая, і нават трэцяя лінія абароны, пра якія мы, радавыя партызаны, тады і здагадацца не маглі. Пры кожным партызанскім атрадзе абавязкова размяшчалася тая ці іншая дыверсійна-разведавальная група дэсантнікаў Заходняга фронту: Барыса Вацілаўскага, Аркадзія Вініцкага, Рыгора Сарокі, Ігната Навумовіча, Аляксея Бухава, Алёны Колесавай, Аляксандра Маршчыніна і іншых.

Пасля блакады Клічаўскіх лясоў у раён Гумнаў перабазіраваўся Магілёўскі падпольны абком партыі, партыйныя і камсамольскія кіруючыя органы Клічаўскага, Бярэзінскага і Бялыніцкага раёнаў. У пачатку верасня 1942 года перасталі існаваць усе варожыя гарнізоны, пачынаючы ад Беразіно (акрамя вёскі Шавярнічы), а таксама ад г.п. Круглае да мястэчка Чэрнеўка. Утварылася вялікая партызанская зона, з тэрыторыі якой партызаны нанасілі магутныя ўдары ворагу. За кароткі час, нейкія два тыдні, зніклі варожыя гарнізоны ў Выдрыцы, Ухвале, Дзянісавічах, Дзмітравічах, Шавярнічах, Сакалавічах, Начы; былі нанесены сакрушальныя ўдары па стан-

цыях Слаўнае, Талачыну, Нацкаму мосце, станцыі Прыяміна. Зямля гарэла пад нагамі захопнікаў.

Недзе ў пачатку кастрычніка 1942 года пры нападзе на эшалон у раёне вёскі Восава быў цяжка паранены Артур Карлавіч Спрогіс, забіты яго праваднік Антон Бярозка. Каб забраць Спрогіса, з-за лініі фронту прыляцеў самалёт у вёску Краснае, на партызанскі аэрадром. Замест камандзіра застаўся яго камісар – маёр Адзінцоў Аляксандр Іванавіч.

Недзе пасля гэтага выпадка нас да сябе выклікаў наш камандзір Сарока Рыгор Якаўлевіч і накіраваў у раён Талачына, паставіўшы заданне здзейсніць дыверсію на чыгунцы і нарыхтаваць збожжа для зімоўкі. Зімаваць планавалі паміж Гумнамі і Міхеевічамі. Дыверсію нам здзейсніць не ўдалося, бо перад гэтым партызаны з атрада Сяргея Жуніна пры дапамозе мясцовых сялян правялі буйную аперацыю, пасля якой фашысты ўзмацнілі ахову чыгункі. Пачалася па загаду Гітлера карная аперацыя "Карлсбад". З-пад Шапялевічаў па Самрацкай дарозе мы выйшлі з аднаго кальца блакады, кінуўшы коней і нарыхтаванае збожжа, і прыйшлі на месца лагера, які размяшчаўся на правы бок ад дарогі, што вядзе з Гумнаў на Міхеевічы, ва ўрочышчы Гарадзечанка, бліжэй да балота Паша.

Мы – гэта: наш камандзір Іван Еўдакімаў, Віця Касцюкевіч з Дакудава, Дзіма Сярожын, Арлоўскі з Дакудава, і я, Драздэнка Нікіфар. Ужо па дарозе на Міхеевічы пачалі хвалявацца, бо заўважылі на ёй аўтамабільныя сляды. Цэлае лета тут не праязджала ніводная аўтамашына. Прыйшлі ў лагер. Нікога ў ім не было. Насцярожыла ж тое, што месца стаянкі было дэмаскіравана: кастрышча не засыпана ігліцай, недалёка валяўся чамадан, абрыўкі парцянак і нават добры кавалак халста. Бачна тое, што атрад зняўся з гэтага месца вельмі хутка. Мы ведалі, што на ўсякі выпадак камандзір павінен быў пакінуць нам нейкае паведамленне аб месцы запасной сустрэчы. Праверылі дупло-тайнік, разарвалі чамадан… Ніякага паведамлення не было. Мы зрабілі вывад, што атраду проста не было часу падумаць пра нас і іншыя групы, якія былі на заданні.

Рашылі ісці ў Гумны, бо там у нас былі свае людзі. Перад Гумнамі ўбачылі месца ўзрыва міны, абломкі матацыкла, сляды немцаў і вельмі свежыя сляды крыві. З боку Дзімтравіч пачулі трахценне і гул матацыклаў і аўтамашын. Хуценька кінуліся ў бок амаль непраходнага Вялікага балота. Дабеглі да даволі вялікага луга каля рэчкі Брусяты. Недалёка стаяла тры стажкі сена і паслося два кані. Рашылі пасядзець да вечара каля стажкоў. Але праз нейкіх паўгадзіны пачулі па лесе говар і крык, кароткія аўтаматныя чаргі. Зразумелі, што немцы прачэсваюць лес. Мы праз лугавіну перабраліся, праз рэчку Брусяту і заляглі. Немцы выйшлі на луг і ланцугом пайшлі ў бок Міхеевіч. Увечары, калі ўсё надціхла і ўзышоў месяц, накіраваліся ў бок Гумнаў. У вёсцы было ціха. На полі некалькі разоў натыкаліся на нейкія бугры зямлі. Зайшлі ў крайнюю хату. У ёй было поўна перапужаных людзей. Жанчыны з плачам прасілі нас, каб мы кудысьці ішлі, бо ўсіх іх мужоў быццам бы пастралялі, спалілі частку дамоў, забілі больш за сто чалавек і паабяцалі, што калі будуць мець сувязь з партызанамі, то перастраляюць астатніх.

Але мы ўсё ж такі пераначавалі ў сянніцы адной з сядзіб, а раніцой вырашылі прайсціся па сялу. Ванька Еўдакімаў ішоў проста па вуліцы, мы прыкрывалі яго з двух бакоў. Ідучы за пунямі сядзіб, памятаю, што на кожным доме віселі нейкія нямецкія лістоўкі. Ванька ішоў і зрываў іх. Адзін з дзядоў нас папярэдзіў, каб у бок Чэрняўкі ці Наваселля не ішлі, бо можам нарвацца на засады. Рашылі ісці ў бок Выдрыцы. У лесе сустрэлі некалькі сямей, а праз два тыдні і групу партызанаў на чале з Сарокам. У гэты час блакаду знялі. А мы, сабраўшы звесткі аб зверствах фашыстаў, накіраваліся ў Клічаўскі раён, куды адступілі асноўныя сілы партызан.

**ГАНЧАР Адам Канстанцінавіч.**

Мы з бацькам, Ганчаровым Канстанцінам Мікалаевічам, жылі да вайны ў смалярні. Стаяла яна на той бок ракі Манчы, ва ўрочышчы, якое цяпер называецца Лагер. Бацька быў удзельнікам імперыялістычнай вайны, але са Смаргоні ён дэзерціраваў і прыехаў у Гумны. Спачатку працаваў землякопам на будаўніцтве дарогі (шашы, як цяпер яе завуць), а пасля рэвалюцыі кінуў гэту работу і перайшоў на смалакурню. Там і жылі мы ўсёй сям'ёй да самай вайны.

У пачатку вайны пачалі дзяліць неяк па восені калгаснае дабро. Раскулачаны Баравуля Антон Уладзіміравіч прыйшоў на дзялёжку (неяк жа вярнуўся ў Гумны) і запатрабаваў выдзеліць яму тры каровы, быка, восем авечак. Калі не дадуць, то прыгразіў, што адпомсціць. Аддалі.

А вясной у нас з'явіліся партызаны. Кіраваў імі маёр, высокі, хударлявы такі, а вось прозвішча я яго забыўся. Мой бацька і сказаў яму, што Антон забраў калгаснае дабро. Тыя схадзілі да Антона, узялі ў яго адну карову, прывялі да нас на смалярню і зарэзалі ў нас дома. Трохі мяса пакінулі і нам. Антон данёс аб гэтым выдрыцкай паліцыі. Тыя неяк у пачатку чэрвеня з'явіліся да нас і спыталі, ці засталося ў нас мяса. Бацька думаў, што гэта партызаны, таму і сказаў, што засталася галава каровы, ёсць і хлеб партызанскі, і самагонка. Яны наеліся, напіліся, а пасля арыштавалі яго, прыставілі вартавога, а самі пайшлі на сяло.



Вартавы заснуў каля дзвярэй. Бацька сказаў мне, каб я з сястрой Ганнай пралез праз трубу ў кацёл смалакурні і беглі да партызанаў. Аказваецца, пост быў і на вуліцы. Яны ўбачылі нас і пачалі страляць у дагонку. Ды не падцэлілі. Партызанаў мы не знайшлі, а назаўтра я даведаўся, што майго бацьку расстралялі на перакавой дарозе у Прападзеніцы (урочышча такое па дарозе на Вузнаж). А з ім яшчэ 7 чалавек.

Трошкі раней, недзе ў маі месяцы, бацька яшчэ жывы быў, каля Гумнаў на парашутах выкінулі дэсантнікаў. Ужо растаў снег, цёпла стала. Вось мы з Сіняком Іванам Восіпавічам і Вусікам Аляксандрам Міхайлавічам пайшлі ў Канатопку пашукаць якіх-небудзь рэчаў. Іх тады па нашых лясах шмат валялася. Усё ж такі, як не скажы, дзве дывізіі тут трапілі ў акружэнне. Расказвалі, што ў некаторых мясцінах цэлыя машыны дабра ўсякага закапвалі, каб немцам не засталося. Ідзем мы, значыць, па лесе, прыглядаемся, а тут Іван і кажа: "Хлопцы, парашутыст!" Мы ціхенька падышлі да яго. Глядзім, на парашуце, у метрах дзесяці ад зямлі, дзяўчына ў савецкай форме. Купал парашута зачапіўся за вярхушкі двух сосен, а яна спрыгнуць з такой вышыні баіцца. І нам да яе цяжка дабрацца. Узлезлі на сосны. Нажамі абрэзалі стропы парашута. Яна і шмякнулася з вышыні, ды на пень спіною. Застагнала жудасна, а пасля папрасіла, каб мы падцягнулі да яе мяшкі з харчамі і боепрыпасамі і паведамілі пра яе партызанам. Мы і пайшлі, але партызанаў у

той дзень у вёсцы не было. Маёр прыехаў на другі дзень і яму сказалі пра парашутыстку. Партызаны яе і забралі з лесу, але яна была ўжо абяссілеўшай. Пазней і маёр загінуў недзе каля Бялавіч. Нам ён гаварыў, што з'яўляецца камандзірам Барысаўскага партызанскага атрада. Пасля прыходу дэсантнікаў у Гумны ўсталявалася савецкая ўлада. У жніўні месяцы 1942 года немцы нават бамбілі Гумны, бо ім супрацьстаялі значныя партызанскія сілы, таму яны аб наездах невялікіх атрадаў паліцыі і немцаў нават і не марылі.

А вось у кастрычніку 1942 года, пасля Пакрова пачалася блакада людзей. З усёй вёскі сагналі на заходнюю частку Гумнаў, якая называецца Баравулямі. Я ў гэты час з дзедам Васілём быў на балоце, хаваліся на астраўку. Дзед папрасіў мяне, каб я схадзіў і паглядзеў, што робіцца ў сяле. Я пайшоў і пачаў прыслухоўваца. Чую, крычаць на мяне: "Хальт!", а пасля і па-нашаму: "Стой!" Мяне арыштавалі і павялі ў дом, дзе зараз жыве Ганнуша. Там былі сабраны з вёскі ўсе мужчыны. Помню, што вокны ўсе былі забіты дошкамі, стаялі каністры з бензінам, хата абкладзена саломай і сенам. На хату з усіх бакоў былі наведзены кулямёты. Прымасціўся я сярод маладзейшых і пачаў прыслухоўвацца, што тут гавораць. Мне расказалі, што Сіняк Васіль Халімонавіч ведае ўсіх, хто меў сувязь з партызанамі. Яго часта вадзілі на допыты і назад прыводзілі скрываўленым. Пасля аднаго з такіх допытаў Мельнік Андрэй Андрэевіч назваў яго здраднікам і плюнуў яму проста ў твар, а мужчын пачаў агітаваць прадраць крышу і кінуцца на кулямётчыкаў: можа хоць хто-небудзь жывы застанецца, а то ўсё роўна ўсіх паб'юць, як на Вузнажы. А Васіль Халімонаў яму ў адказ: "Не балбачы як цецярук. Немцы разбяруцца, хто вінаваты, а хто не. Кожны хай адкажа за тое, што натварыў."

Андрэй змоўк. Прыціхлі і мужчыны. Усе ведалі, што адзін брат Васіля быў у паліцыі недзе ў Беразіно, а другога расстралялі партызаны ў Гумнах проста за тое, што прыгарадзіў сабе на сенакос добры кавалак выгана каля Канатопкі.

Назаўтра пачалі людзей расстрэльваць. Расстрэльвалі па раней складзенаму спісу. Забілі каля ста чалавек: і мужчын, і жанчын, і дзяцей, і старых. Калі мяне падвялі да немца (а ён быў весь белы, з чорнай павязкай на вока, то ён спытаў мяне: "Где отец?" па-руску. Я адказаў, што бацьку забіла бомбай, але пабеларуску. Немец не зразумеў мяне, але перакладчык перавёў яму мой адказ.

– Врёшь!

– Ей-богу, не вру! – закрычаў я са слязамі на вачах і пачаў біць сябе кулакамі ў грудзі. Васіль Халімонаў стаяў побач і ўсё чуў. Ён на запытанне немца нічога не сказаў, толькі кінуў галавой, як бы падцвярджаючы мае словы. Мяне павялі не да ямкі, як другія сем'і, а на Аўрамаў лог, дзе збіралі тых, хто пазбег смерці. Я прылёг каля паркана і неяк праз хвіліну заснуў. Прачнуўся ўжо ноччу, забіўся ў суседні хлеў, зарыўся ў салому і праспаў яшчэ да раніцы. Што было на Аўрамавым лагу, я не чуў і не бачыў.

**СІНЯК Анастасія Адамаўна, 1912 г.н.**

Недзе ў восень 1941 года ва ўрочышча Мазура, што на поўдзень ад Гумнаў, размясціўся вялікі партызанскі атрад. У склад яго ў асноўным уваходзілі афіцэры-акружэнцы, а кіраваў ім палкоўнік па мянушцы Макар. "Атрад Макара" – так сябе і называлі партызаны. Вялікіх баёў з немцамі каля Гумнаў яны не вялі, а дзе-небудзь кіламетраў за дваццаць, а то і больш. Гэта мусіць, каб немцы на іх след не трапілі. У гэтым атрадзе старшынёй быў Кулакоў, здаецца так. Ён у вёску прывозіў усю восень прадукты: соль, муку, яйкі, мяса – і раздаваў іх па хатам, дзе ім і пяклі хлеб, варылі ежу. Калі пачаліся замаразкі (недзе пасля Пакрова), партызаны зняліся і пайшлі за лінію фронта.

З імі пайшоў і другі атрад, камандзірам якога быў чэкіст, маёр Васілеўскі. Пасля сябе яны тут пакінулі людзей: і нашых, гуменскіх, і акружэнцаў, якія жылі па вёсках прымакамі. Акружэнцы вясной усе да аднаго пайшлі ў партызаны. Адзін з іх, маёр Сашка, летам 1942 года загінуў у баі з немцамі каля Бялавіч. Звязаны з партызанамі былі многія жыхары вёскі яшчэ з 1941 года, з восені. І мала хто з іх дажыў да канца вайны: у 1942 годзе іх усіх перастралялі і немцы, і паліцэйскія, выдрыцкія і ухвальскія.

Мой татка Сіняк Адам Тодаравіч і мой муж Сіняк Андрэй Адамавіч былі добра з імі звязаны. Бацьку яны папрасілі стаць старастам, каб ён даводзіў партызанам аб усіх іх распараджэннях. І каб перадаваць усё тое, што ён узнае, яны з маім мужам прыдумалі нарыхтоўваць у Мазуры клёпку. А бывала і к нам прыходзілі людзі, толькі гэта з другога атрада: Нохім Краснік, яўрэй з Чэрняўкі, міліцыянер выдрыцкі Коля, брат Андрэя Галдэя. Гэта мянушка – Галдэй, а фамілія забылася нешта.

Прыходзіў і Баравуля Сямён Іванавіч. Ён другім атрадам камандаваў, які недзе каля Наваселля ці Мурава стаяў.

І ў Гумнах была свая арганізацыя, маладыя ўсе, гарачыя. Завадатарамі былі Баравуля Іван Архіпавіч, з 1920 года, да вайны ў Крупцы сакратаром райкома камсамола быў, і яшчэ Вернікоўскі Іосіф Фаміч, трошкі старэйшы, жанаты, малую дачку меў. А яшчэ Сіняк Іван Восіпавіч (халасцяк), Паўла Губіч (жанаты), Сіняк Міхаіл Іванавіч, Арыны Валодзішынай брат, Канстанцін Ганчар (жыў у смалакурні), Сіняк Пётр Цімохавіч, Сіняк Марфа Аўрамаўна (актывістка калгасная), Сіняк Васілій Іванавіч, з Вузнажы чалавек пяць. Вось так яны і дахадзіліся. 6 чэрвеня 1942 года, добра помніцца, прайшоў нейкі перадзеты паліцай з Начы, Драніца-Іваноў. У форме чырвонаармейскай, пры рамнях, гранаты на поясе і каля кішэні, адна рабрыстая. Па хатах ходзіць і слух пусціў: ён – разведчык, а за ім цэлы атрад ідзе.

**ВАЙНА Ў ПАМЯЦІ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ ГУМНЫ**

Ганчар Канстанцін яму мяса на стол, хлеба, закускі, самагонкі – еш і пей хоць распеpажыся. Ды яшчэ шапнуў: у мяне тут яўка. А ўвечары не атрад прыйшоў партызанскі, а выдрыцкая паліцыя. Схапілі ўсіх падчыстую.

Маіх двух узноськіх, Вернікоўскага, Баравулю Івана Архіпавіча у Барысаў павезлі, а астатніх за сяло вывелі, што па дарозе на Вузнаж, і каля самага лесу пастралялі. У сяле пра расстрэл ніхто не ведаў. Толькі ўвечары двое хлопцаў, что на начлег пагналі коней, убачылі пабітых. Казалі, што ўсе яны ляжалі ў лужах крыві, а Марфа Аўрамаўна Сіняк не здыхла: нагамі малаціла, качалася па лужах крыві, стагнала і хрыпела.

На трэці дзень усіх пабітых пахавалі на кладбішчы, а кроў сабралі ў адну яму і паставілі на месцы расстрэлу крыж. Вось іх прозвішчы:

1. Ганчар Канстанцін Мікалаевіч - 60 год
2. Губіч Павел Мітрафанавіч, 1910 - 30 год
3. Сіняк Марфа Аўрамаўна - 30 год
4. Сіняк Васілій Іванавіч - 30 год
5. Сіняк Пётр Цімафеевіч - 30 год
6. Сіняк Рыгор - з Вузнажы
7. Шульга Васілій - з Вузнажы

8. Сіняк Пётр Дзяменцьевіч - з Вузнажы

Цяпер гэты крыж абваліўся і пра месца расстрэлу забыліся. А астатніх, самых завадатараў, павезлі на допыт у Барысаў:

1. Вернікоўскага Іосіфа Фаміча
2. Сіняка Адама Тодаравіча, гадоў за 60, удзельнік грамадзянскай.
3. Сіняка Андрэя Адамавіча, 1905 г.н.
4. Баравулю Вольгу Калінаўну, жонку партызана Баравулі Міхаіла
5. Сіняка Івана Васільевіча, 18 год.

Прасядзелі яны ў Барысаве ў турме, што ў старым горадзе, на трэцім паверсе, аж шэсць тыдняў. Білі іх, мучылі, а пасля расстрэлілі недзе за горадам.

Мы з Андрэем Калінавым два разы паспелі да іх схадзіць, перадачу занесці. Паліцэйскія дапускалі нас толькі да маста, а немцы і далей пускалі. Прыйшлі трэці раз, а нам сказалі, што ім ужо нічога не трэба. Я забылася яшчэ сказаць, што асмялелі нашы так моцна, што пачалі не хвалюючыся памагаць партызанам яшчэ і таму, што каля Гумнаў з'явіліся дэсантнікі з Масквы. Адна з іх, Клава Міларадава, з ордэнам, часта заходзіла да Вернікоўскага. Ніхто ўжо тады і не думаў, што паліцэйскія змогуць іх схапіць.

Пасля 6 чэрвеня да восеньскай блакады, калі Гумны выбілі напалавіну, ніводнага немца і паліцэйскага тут не бачылі.

У Гумнах усё лета стаялі партызаны, а пасля і цэлы атрад маскоўскіх дэсантнікаў. Па хатах, на Баравулях, каля лесу, размяшчаўся партызанскі госпіталь. Помню, што доктарам быў Жыцелеў. Ён многа памагаў і гумнянам, а не толькі партызанам.

Камандзірам быў малады латыш. Адсюль ён і хадзіў са сваім атрадам біць выдрыцкі паліцэйскі гарнізон. Сюды ж яго пасля прывезлі раненага і адправілі на кані на партызанскі аэрадром у Краснае, адкуль і вывезлі самалётам у Маскву.

Мы цэлае лета і кармілі іх, абмывалі, і бані для іх тапілі. Раненыя партызаны, што з-пад Клічава прыйшлі і ў шпіталі ляжалі, нам ціхенька намякалі, каб дужа перад імі, дэсантнікамі, мы не выслужваліся, а то будзе як і іх родзічам: усіх пастраляюць ці папаляць. Ды не верылася, бо столькі каля Гумнаў атрадаў стаяла. Ды і дэсантнікі запэўнівалі, што без бою яны вёску не здадуць і будуць стаяць тут да апошняга. Але ж, як кажуць, бог мяркуе, а чорт сярдуе.

**СІНЯК Цімох Кузьміч.**

Калі Гумны акружылі немцы, мы, мужчыны, адразу зразумелі, што нам жывымі ўсім не застацца. А тут яшчэ матацыкліст, казалі, на Міхееўскай дарозе на партызанскай міне падарваўся, ды партызаны каля Падыванчыка танкетку нямецкую падбілі. Нас і загналі ўсіх на Баравулі, на заходнюю частку вёскі, і пачалі дапытваць, хто партызанам дапамагаў. А памагалі ж усе, яшчэ з 1941 года. І зброю па лясах шукалі, і хлеб пяклі, і лазні тапілі, і ежу гатавалі, калі дэсантнікі спусціліся.

Я сам аж пад Жукавец разам з Вернікоўскім воз вінтовак завёз. Яны тады ў нашых лясах лічы што каля кожнага куста валяліся. Ды і ў партызанскай самаабароне мы былі, каб на крайні выпадак вёску абараніць. Сядзім мы ў хаце з мужчынамі, задумаліся. Дзяцей і жонак жа паб'юць, калі на іх гуртам накінемся. А тут за Сіняка Васіля Халімонавіча ўзяліся і ён пачаў выдаваць партызанскія сем'і. Адзін яго брат недзе ў Беразіно ў паліцыі быў, а другога проста ў вёсцы партызаны з атрада Свістунова расстралялі. Загарадзіў выган пад сенакос на Баравулях, нехта і падказаў партызанам. Дык неяк у жніўні 1942 года сагналі мужчын на Аўрамаў лог і вывелі Івана Халімонавіча Сіняка, бабку з раскулачаных, якая дужа камуністаў не любіла, і яшчэ такіх жа двое. Іх адна партызанка з нагана каля камня проста і расстраляла[1].

Дык яго брат, мусіць, і адпомсціць рашыў. Пачаў выдаваць дэпутатаў, камуністаў, камсамольцаў, тых, хто калгасы арганізоўваў.

Спачатку павесілі некалькі чалавек:

1. Баравулю Сцепаніду
2. Баравулю Паулу
3. Баравулю Івана Антонавіча

І маладзейшых:

4. Баравулю Васіля Пятровіча
5. Сіняка Васіля Герасімавіча

Цэлы дзень іх катавалі, а недзе пад абед расчыняюцца дзверы і нас, чалавек дзесяць, выклікаюць. Далі ў рукі лапаты, перавялі цераз дарогу, і загадалі яму вялікую, у рост чалавека, капаць. А навокал паліцэйскія, і французы, і немцы балююць. Свіней забітых смаляць, кароў вояць, гарэлку п'юць, на гармоніках іграюць. Матацыклісты і веласіпедысты то туды то сюды сноўдаюць. Падводчыкі выдрыцкія на вазы адзежу, чыгуны збіраюць на падводы, усё тое, што добрае ў хатах знойдуць, нават ручнікі, пасцілкі, плугі. Мы тут і скумекалі: усё, біць нас будуць, для сябе ямку капаем, і для дзяцей і жонак нашых. Канвойныя паліцэйскія ходзяць падпітыя, падганяюць, каб хутчэй капалі. Вылезлі мы з ямкі, адзін аднаму рукі падаўшы. А тут Міця Антонаў убачыў, што целагрэйку яго засыпала і пачаў з-пад груду пяска яе выцягваць. Цягне яе, а яна не паддаецца. Канвойны паліцэйскі рагоча:

– Кінь, не жылься! Яна табе ўжо не трэба будзе!

Прыгналі нас назад у хату і зачынілі. Мы і расказалі, што бачылі. Задумаліся ўсе, а пабіты і скрываўлены Васіль Халімонаў кажа:

**ВАЙНА Ў ПАМЯЦІ ЖЫХАРОЎ ВЁСКІ ГУМНЫ**

– Цяпер кожны за сябе адказвае.

Забралі яго надвячоркам, пасля яшчэ некалькі чалавек адзін за адным, з дзесятак усіх. У гэтай хаце яны ўжо не начавалі. Аказваецца, пад вечар прыехалі немцы з Чэрняўкі, там стаяў нейкі сапёрны батальён. Дык камандзір таго батальёна быццам бы забараніў вешаць людзей. Мала гэтага, ужо толькі што павешанага Баравулю Васіля Іванавіча, Васіля Рудага сам нажом зрэзаў з вісельні. Той і застаўся жывы, у паліцыю пайшоў служыць, хоць брат быў камандзірам партызанскага атрада, а сам да вайны старшынёй калгаса і камуністам.

А ты б што ні зрабіў, калі б ведаў, што было тады толькі дзве дарогі: або ў яму, дык каб аднаму, а то і з малымі дзецьмі, або ў самаахову (паліцыі ў Гумнах не было).

Вось назаўтра, чысла 17 кастрычніка гэта было, і пачалі нас вызываць па аднаму ў штаб. На каго Васіль Халімонаў зла не трымаў, таго адпраўлялі за сям'ёй і ісці дадому, а хто схаваўся ў лесе ці не падабаўся – пасылалі або сем'і, або разам з сям'ёй у ямку, на той свет.

Мне выпала доля выжыць тады. І ў самаахове адслужыў, а пасля і ў Чырвонай Арміі. Пад Замбравам нагу адарвала, удзельнікам вайны лічуся. Сваю ганьбу крывёю змыў.

**СІНЯК Васіль Якаўлевіч, 1938 г. н.**

Мой бацька да вайны быў арыштаваны як вораг народа і гады тры сядзеў на Калыме, на залатых прыісках працаваў. Перад вайной яго прывезлі ў Мінск на перасудак, а тут пачалася бамбёжка. Ён пяшком і дайшоў дадому з Мінску. Неяк пашчасціла выкарабкацца з турэмнага пекла.

Вайна мне помніцца неяк смутнавата, а вось як сядзелі разам з жанчынамі ў хляве, нешта дужа добра ў памяць урэзалася. Помню, што бабы плакалі, галасілі, а мой дзядзька разаслаў проста на навозе свой кажух, паклаў на кажух мяне і лёг побач, прыгарнуўшы да сябе. І яшчэ помню, што дужа ўжо есці і піць хацелася.

Запомнілася як мы вярнуліся дамоў. Усё ў хаце было перарыта, маснічны на памосце падняты, вароты і дзверы параскрываны. Быў у нас вялікі сабака, які заўсёды з радасцю сустракаў мяне, калі я заходзіў у двор. Дык гэты сабака ляжаў забіты ў лужыне крыві. А на двары два ці тры немцы смалілі свінню. Ад жалю і страху я ніяк не мог супакоіцца.

Калі бацька пайшоў у самаабарону, ён ніколі не прыязджаў дадому цвярозым. Часцей за ўсё яго прыносілі п'яным суседзі. Гэта ён, мусіць, ад сораму ці з гора напіваўся. Усё ж такі ў час расстрэлу Гумнаў з нашай радні было выбіта 36 чалавек. А бацьку прыходзілася служыць верай і праўдай немцам. Чалавек ён быў масцерлівы, старанны. Маці казала, што не толькі днём, але і ноччу працаваў. Выдатны бондар і сталяр, ён мог за вечар пры керасінавай лямпе зрабіць бочку або звязаць некалькі аконных пераплётаў. За гэта яго мясцовыя актывісты і пасадзілі, прыпісаўшы яму спекуляцыю. Дык ён і з Калымы ўмудраўся прысылаць маці і грошы, і пасылкі.

Пасля 1944 года я свайго бацьку ўжо не бачыў. Ён адступіў з немцамі, а пасля выехаў у ЗША, дзе і памёр.

А я ўсё жыццё насіў на сабе кляймо сына паліцэйскага. І ў армію мяне за гэта не ўзялі.

ЗНОСКІ:
*(інфармацыя ад рэдакцыі)*

**СІНЯК Філімон**, н. у в. Гумны Крупскага р-ну. Бацька Сіняка І.Ф. і В.Ф. З сялянскай сям'і. Жыў у роднай вёсцы. Працаваў на асабістай гаспадарцы. Арыштаваны ў 1930. Асуджаны на высылку ў Сібір. Дамоў не вярнуўся. Далейшы лёс не вядомы.

**СІНЯК Іван Філімонавіч**, н. у в. Гумны Крупскага р-ну. Сын Сіняка Ф. і брат Сіняка В.Ф. Жыў у роднай вёсцы. Працаваў на асабістай гаспадарцы. Арыштаваны ў жніўні 1942 савецкімі партызанамі 128 атрада пад камандаваннем Свістунова В.П. Расстраляны без суду на вачах усёй вёскі разам з Сіняк В.С (гл. ніжэй). Паводле ўспамінаў аднавяскоўцаў, расстраляла іх жанчына-партызанка.

**СІНЯК Варвара Сцяпанаўна**, н. у 1878, в. Гумны Крупскага р-ну. Жыла ў роднай вёсцы. Арыштаваная ў жніўні 1942 савецкімі партызанамі 128 атрада пад камандаваннем Свістунова В.П. Расстраляная без суда на вачах усёй вёскі разам з Сіняком І.Ф. Паводле ўспамінаў аднавяскоўцаў, расстраляла іх жанчына-партызанка. Перад смерцю старая выкрыкнула ёй у твар: "Ненавіджу Саветы!".

КРЫНІЦЫ:

1. "Памяць" Крупскі раён. Мн. "Беларуская энцыклапедыя", 1999г.
2. Матэрыялы з асабістага архіва Міхаіла Баравулі.



# Аэрадром Дакудава

## падчас нямецкай акупацыі

*Працяг. Пачатак у альманасе "Малое Палессе / 2010"*

**З ГІСТОРЫІ АВІЯЦЫІ**/ Васіль ЛАПАЦІН

НЕАБХОДНАЯ ІНФАРМАЦЫЙНАЯ ДАВЕДКА
АБ СТРУКТУРЫ НЯМЕЦКІХ ВАЕННА-ПАВЕТРАНЫХ СІЛ

Вярхоўнае камандаванне Люфтвафе – кіравала ўсімі ваенна-паветранымі сіламі, тэрытарыяльна падзеленых на Паветраныя флаты.

Кожны Паветраны флот (Luftflotte) меў сваю зенітную артылерыю, сваю службу сувязі, уласнае адміністрацыйнае кіраванне (аэрадромы, медычная служба, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, абслугоўваючы персанал) і аператыўнае кіраванне уласна авіячасткамі: карпусамі, эскадрамі, палкамі, эскадрыллямі.

Авіякорпус (Fliegerkorps) складаўся з некалькіх эскадраў featureнага тыпу (бамбавальная, пікіруючых бамбавікоў, знішчальная, начных знішчальнікаў, штурмавая, транспартная).

Эскадра (Geschwader) – аналаг авіядывізіі – мела ў сваім складзе 3 або 4 групы і штабное звяно.

ІНФАРМАЦЫЙНАЯ ДАВЕДКА АБ ТЫПАХ ЭСКАДР (АВІЯДЫВІЗІЙ):

| тып авіядывізіі | нямецкая назва | скарочанае абазначэнне |
|---|---|---|
| бамбавальная | Kampfgeschwader | KG |
| хуткасных бамбавікоў | Schnellkampfgeschwader | SKG |
| пікіруючых бамбавікоў | Sturzkampfgeschwader | StG |
| знішчальная | Jagdgeschwader | JG |
| цяжкіх знішчальнікаў | Zerstorgeschwader | ZG |
| начных знішчальнікаў | Nachtjagdgeschwader | NJG |
| штурмавая | Schlachtgeschwader | SG |
| транспартная | Transportgeschwader | TG |
| вучэбна-баявая | Lehrgeschwader | LG |

Група (Gruppe) – аналаг авіяпалка – мела штабное звяно і 3-4 баявых штафелі.

Штафель (Staffel) – аналаг эскадрыллі – меў каля 10 самалётаў.

Яшчы больш дробныя адзінкі – шварм (звяно з некалькіх самалётаў) і пара (2 самалёты).

У далейшым у тэксце будуць выкарыстоўвацца больш зразумелыя для чытачы-неспецыяліста тэрміны: авіядывізія (замест "эскадра"), авіяполк (замест "група"), эскадрылля (замест "штафель") і звяно (замест "шварм").

Скарочаныя абазначэні паўсюдна выкарыстоўваюцца у нямецкіх ваенных дакументах. У тых, што тычацца Люфтвафе, быў прыняты наступны парадак: рымскай лічбай указваеца нумар авіяпалка або арабскай лічбай нумар эскадрыллі – кропка – касая рыска – скарочанае абазначэнне авіядывізіі – яе нумар. Напрыклад: III./KG 55 – гэта 3-і авіяполк 55-й бамбавальнай авіядывізіі; 4./SKG 210 – гэта 4-я эскадрылля 210-й авіядывізіі хуткасных бамбавікоў; Stab/StG 1 – гэта штабная эскадрылля 1-й авіядывізіі пікіруючых бамбавікоў.

Разведвальныя эскадрыллі абазначаліся з указаннем толькі нумара палка. Напрыклад: 3.(F)/31 – гэта 3-я эскадрылля далёкай разведкі 31-га разведвальнага авіяпалка; 5.(H)/23 – гэта 5-я эскадрылля блізкай разведкі 23-га разведвальнага авіяпалка.

У складзе Люфтвафе меліся таксама асобныя эскадрыллі метэаралагічнай разведкі, якія не групаваліся ў палкі. Яны называліся скарочана Wekusta – ад WEtterer-Kundungs-STAffel. Да назвы дадаваўся дзвюхлічбавы нумар эскадрыллі (напрыклад, Wekusta 26), па якім можна было вызначыць, да якога Паветранага Флоту адносілася эскадрылля.

ІНФАРМАЦЫЙНАЯ ДАВЕДКА АБ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫМ КІРАВАННІ Ў ЛЮФТВАФЕ:

У кожным з паветраных флатоў адміністрацыйныя функцыі ўскладаліся на авіяцыйныя акругі - люфтгау (Luftgau), кожная з якіх мела сваё камандаванне. На тэрыторыі аднаго паветранага флоту магло быць да шасці люфтгау.

Калі лётная часць займала ваенны аэрадром, старшым афіцэрам на аэрадроме на ўвесь час яе знаходжання станавіўся камандзір гэтай часці. У той жа час на аэрадроме існавала пастаяннае камандаванне. Калі часць пакідала аэрадром, кіраванне аэрадромам ізноў пераходзіла да старшага афіцэра камандавання аэрадрома (Flugplatz-Kommando), ён лічыўся начальнікам аэрадрома.

**Некаторыя адмысловыя тыпы авіяцыі ў якасці найбольш буйнай адзінкі мелі не эскадру (авіядывізію), а групу (авіяполк):**

| назва групы | нямецкая назва | скарочана |
|---|---|---|
| разведвальная | Aufklärungsgruppe | |
| блізкай разведкі | Nahaufklärangsgruppe | NAGr |
| далёкай разведкі | Fernaufklarungsgruppe | FAGr |
| начной разведкі | Nachtaufklarangsgruppe | AGr.Nacht |
| падрыхтоўкі папаўненняў | Erganzungsgruppe | Erg.Gr |
| бамбавальная група адмысловага прызначэння (выконвала часцей транспартныя функцыі) | Kampfgruppe zur besonderen Verwendung | KGrzbV |



Адзін з аэрадромаў быў базавым або асноўным. Ён атрымліваў статус авіябазы, якой кіравала камандаванне авіябазы (Fliegerhorst-Kommandantur; скарочана – Fl.H.Kdtr.).

Некалькі аэрадромаў – звычайна каля пяці асноўных аэрадромаў і да дванаццаці запасных аэрадромаў (Einsatzhafen) – уваходзілі ў так званы аэрадромны вузел, якім кіравала камандаванне аэрадромнага вузла (Flughafen-Bereichs-Kommando). У кожным люфтгау ў залежнасці ад велічыні і важнасці раёна існавала ад двух да дванаццаці аэрадромных вузлоў. Камандаванні аэрадромных вузлоў размяшчаліся на найбольш важных аэрадромах. Яны павінны былі рэгулярна адчытвацца перад люфтгау пра тэхнічны стан аэрадромаў і запытваць забеспячэнне для ўсіх аэрадромаў вузла, а таксама кантраляваць правільнасць размеркавання прадметаў забеспячэння і іншых грузаў. (04)

**На напрамку галоўнага ўдара немцаў на Маскву** праз тэрыторыю Беларусі дзейнічаў 2-гі Паветраны Флот Люфтвафе, у прамым падпарадкаванні кіраўніцтва якога знаходзіліся (05):

- JG 53 (Stab, I, III) – часткі 53-й знішчальнай авіядывізіі (штаб, 1-ы і 3-і авіяпалкі);
- Stab/122 + 2.(F)/122, Wekusta 26 – штаб 122-га разведвальнага авіяпалка (Aufklarungsgruppe 122) і падпарадкаваныя яму 2-я эскадрылля далёкай разведкі гэтага палка і 26-я эскадрылля метэаразведкі; месцы дыслакацыі штаба 122-га разведвальнага авіяпалка (Stab/122) на працягу чэрвеня-ліпеня: Варшава-Орша-Смаленск;
- IV./KGzbV 1 + KGzbV 102 – 4-ы авіяполк 1-й транспартнай/бамбавальнай авіядывізіі і 102-я транспартная/бамбавальная авіядывізія

У складзе 2-га Паветранага Флоту знаходзіліся два паветраных карпусы: 2-і і 8-ы.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

2-і паветраны корпус, які дзейнічаў у паласе нямецкіх 3-й танкавай групы і 9-й арміі (Гродна-Мінск-Віцебск), меў наступны склад (па стане на 24.06.1941) (05):

- 1.(F)/122 – 1-ая эскадрылля далёкай разведкі 122-га разведвальнага авіяпалка; у ліпені-жніўні базавалася ў Барысаве;
- KG 3 (Stab, I, II) – часткі 3-й бамбавальнай авіядывізіі (штаб, 1-шы і 2-гі авіяпалкі); штаб і 1-шы полк у ліпені-жніўні базаваліся ў Оршы; 2-і полк, у ліпені – магчыма, на аэрадроме Баяры(!), потым – таксама ў Оршы;
- KG 53 (Stab, I, II, III) – у поўным складзе 53-я бамбавальная авіядывізія (штаб і тры авіяпалкі); месцы дыслакацыі на працягу ліпеня-жніўня: Мінск-Орша;
- StG 77 (Stab, I, II, III) – у поўным складзе 77-ая авіядывізія пікіруючых бамбавікоў (штаб і тры авіяпалкі);
- SKG 210 (Stab, I, II) – часткі 210-й авіядывізіі хуткасных бамбавікоў (штаб, 1-шы і 2-гі авіяпалкі); месцы дыслакацыі штаба і 1-га авіяпалка на працягу ліпеня-жніўня: Мінск-Орша; 2-га авіяпалка – Мінск-Баяры(!)-Орша;
- JG 51 (Stab, I, II, III, IV) – у поўным складзе 51-я знішчальная авіядывізія (штаб і чатыры авіяпалкі); месцы дыслакацыі штаба на працягу ліпеня-жніўня: Бабруйск-Орша;

8-ы паветраны корпус, які дзейнічаў у паласе нямецкіх 2-й танкавай групы і 4-й арміі (Брэст-Мінск-Орша), меў наступны склад (па стане на 24.06.1941) (05):

- 2.(F)/11 – 2-я эскадрылля далёкай разведкі 11-га разведвальнага авіяпалка;
- KG 2 (Stab, I, III) + III./KG 3 – часткі 2-й бамбавальнай авіядывізіі (штаб, 1-шы і 3-гі авіяпалкі) і падпарадкаваны ёй 3-ці авіяполк 3-й бамбавальнай авіядывізіі;
- StG 1 (Stab, II, III) – часткі 1-й авіядывізіі



Баявыя дзеянні, 28.06-10.07.1941

пікіруючых бамбавікоў (штаб, 2-гі і 3-ці авіяпалкі); месцы дыслакацыі у жніўні-верасні: аэрадром Дакудава(!);

- StG 2 (Stab, I, III) + II.(Sch)/LG 2 і 10.(Sch)/LG 2 – часткі (штаб, 1-ы і 3-і авіяпалкі) 2-й авіядывізіі пікіруючых бамбавікоў і падпарадкаваныя ёй 2-і вучэбны авіяполк і 10-я вучэбная эскадрылля 2-й вучэбна-баявой авіядывізіі;

- ZG 26 (Stab, I, II) – часткі (штаб, 1-ы і 2-і авіяпалкі) 26-й авіядывізіі цяжкіх знішчальнікаў;

- JG 27 (Stab, II, III) + II./JG 52 – часткі (штаб, 2-і і 3-і авіяпалкі) 27-й знішчальнай авіядывізіі і падпарадкаваны ёй 2-і авіяполк 52-й знішчальнай авіядывізіі.

**Праз тэрыторыю Крупскага раёна наступалі** 17-я і 18 танкавыя дывізіі 47-га танкавага корпуса, які ўваходзіў у 2-ю танкавую групу нямецкай групы армій "Цэнтр" (гл. фрагмент схемы баявых дзеянняў на савецка-германскім фронце ў перыяд 28.06.41-10.07.41). У кожнай з гэтых баявых адзінак былі ў падпарадкаванні эскадрыллі Люфтвафе для вядзення далёкай і блізкай разведкі (05):

- штаб групы армій "Цэнтр" – 4-ая эскадрылля далёкай разведкі 14-га разведвальнага авіяпалка (4.(F)/14) і 2-ая эскадрылля далёкай разведкі (начная) (2.(F)/Nacht); на працягу ліпеня-жніўня 1941 года абедзьве эскадрыллі базаваліся спачатку ў Дубава (каля г.Баранавічы), а потым у Оршы;

- 2-ая танкавая група – 3-яя эскадрылля далёкай разведкі 31-га разведвальнага авіяпалка (3.(F)/31); у ліпені дакладна базавалася ў Дакудава(!);

- 47-ы танкавы корпус – 5-ая эскадрылля блізкай разведкі 23-га разведвальнага авіяпалка (5.(H)/23); на працягу ліпеня 1941 эскадрылля базавалася спачатку ў Слоніме, а потым у Оршы;

- 17-ая танкавая дывізія (17.PzD), якая наступала праз Халопенічы на Лукамль, – 6-ая эскадрылля блізкай разведкі 32-га разведвальнага авіяпалка (6.(H)/32); на працягу ліпеня 1941 эскадрылля базавалася ў Баранавічах, а потым у Оршы;

- 18-ая танкавая дывізія (18.PzD), якая наступала як раз па шашы Мінск-Масква праз Лошніцу-Начу-Крупкі-Бобр, – 6-ая (супраць-танкавая) эскадрылля блізкай разведкі 13-га разведвальнага авіяпалка (6.Pz(H)/13); у чэрвені 1941 эскадрылля базавалася (меркавана) ў Слоніме, інфармацыя аб дыслакацыі эскадрыллі ў ліпені адсутнічае.

Інфармацыя аб месцах дыслакацыі авіязлучэнняў Люфтвафе тут і далей узята з найбольш поўнай і дакладнай крыніцы – сайта Міхаэля Холма (Michael Holm) "Люфтвафе, 1933-45" (06), але нават тут ёсць пэўныя прабелы як у дакладнасці інфармацыі (па месцы і па тэрмінах дыслакацыі авіязлучэнняў), так і адсутнасць поўнай інфармацыі па некаторых авіязлучэннях.

ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ:

*У спісе дзеючых ваенных і грамадзянскіх аэрадромаў і пасадачных пляцовак Заходняй адмысловай ваеннай акругі (па стане на 27.03.1941) (07) узгадваецца толькі адзін аэрадром Баяры, пра які сказана, што ён знаходзіцца ў 20/35 км на паўднёвы захад ад г.Ліда; у кнізе Д.Б.Хазанава "1941. Горькие уроки. Война в воздухе" таксама ўзгадваецца аэрадром Баяры, пра які напісана, што ён знаходзіцца «между Минском и Двинском, недалеко от Кривичей» (08).*

Аднак, калі зыходзіць з простых лагічных разважанняў (найлепшае месца базавання прыдадзеных сухапутным часткам



авіязлучэнняў - у зоне дзеяння гэтых частак; з магчымасцю хуткага і бесперашкоднага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння па чыгунцы або па шасейных дарогах), ёсць поўныя падставы лічыць, што аэрадромам Баяры ў нямецкіх крыніцах называецца аэрадром (або пасадачная пляцоўка) паміж чыгункай і шашой Мінск-Масква каля станцыі Прыяміна Барысаўскага раёна, побач з якой знаходзіцца вёска Баяры.

У пяці кіламатрах на паўночны ўсход ад аэрадрома Баяры (Прыяміна) месціўся аэрадром Дакудава.

Такім чынам, дакладна вядома, што летам 1941 года на аэрадроме Дакудава базаваліся часткі 1-й авіядывізіі пікіруючых бамбавікоў (Stab, II. і III./StG 1); а на аэрадроме Баяры (Прыяміна) – 3-я эскадрылля далёкай разведкі 31-га разведвальнага авіяпалка (3.(F)/31), 2-і авіяполк 210-й авіядывізіі хуткасных бамбавікоў (II./SKG 210) і, магчыма, 2-і авіяполк 3-й бамбавальнай авіядывізіі (II./KG 3).

Праўда, у нямецкім журнале энтузіястаў-аматараў гісторыі авіяцыі сцвярджаецца, што 3.(F)/31 у ліпені 1941 года перадыслакавалася з Усходняй Прусіі спачатку на аэрадром каля в.Дакудава, што ў Лідскім раёне (!?), а потым на аэрадром Шаталава (Смаленская вобласць) (09). Але, па-першае, адсутнічаюць якія-небудзь звесткі пра тое, што каля в.Дакудава Лідскага раёна існаваў аэрадром, тут магла існаваць толькі пасадачная пляцоўка – звычайнае поле; па-другое, в.Дакудава Лідскага раёна знаходзіца непадалёк ад Усходняй Прусіі і таму незразумела, навошта было перадыслакоўвацца на непадрыхтаваную базу; па-трэцяе, пры такім імклівым нямецкім наступе, пры якім фашысты апынуліся праз тры тыдні

пад Смаленскам, падаецца нелагічным мець базу разведвальнага авіязлучэння на такой вялікай адлегласці ад лініі фронту.

Цалкам верагодна таксама, што на нашых аэрадромах пабывалі і іншыя злучэнні, выкарыстоўваючы іх у якасці прамежкавых пры пералёце ў Оршу, або ў якасці аэрадромаў падскоку або месцаў часовага базавання пры здзяйсненні баявых вылетаў: 4.(F)/14; 2.(F)/Nacht; 5.(H)/23; 6.(H)/32; 6.Pz(H)/13; 3.(F)/33; Stab і 1.(F)/122; Stab, I./KG 3; Stab, I, II і III./KG 53!

Цікава, што ў першыя тыдні вайны, калі немцы хутка прасоўваліся на ўсход, камандаванне 2-га Паветранага флоту Люфтвафэ не мела стацыянарнай наземнай базы, а было мабільным і рухалася ўслед за сваім наступаючым войскам. Вось як гэта апісваў камандуючы 2-га Паветранага флоту А.Кесельрынг: “23 июня воздушное командование получило возможность держать руку на пульсе событий, разместив свой командный пункт в поезде на железнодорожной ветке неподалеку от Брест-Литовска, а в первые дни июля с целью поддержания постоянного контакта с войсками – в механизированной транспортной колонне к востоку от Минска” (10).

Няма суневу, што гэтая калона прайшла і ў нашых мясцінах па маршруце Барысаў-Крупкі-Орша.




**Хуткасны бамбавік СБ (з рус. – скоростной бомбардировщик) – двухматорны сярэдні бамбавік, сярыйная вытворчасць якога пачалася ў 1936 годзе. Экіпаж – 3 чалавекі: лётчык, штурман, стралок-радыст. Самы масавы савецкі бамбавік у пачатку вайны.**

**/03.07.1941/**

Каля м.Холопенічы быў збіты савецкі хуткасны бамбавік СБ са складу 128-га бамбавальнага авіяпалка (128 сбап). Экіпаж загінуў. Пасля вайны быў знойдзены і пахаваны у паўкілометры на паўночны захад ад мястэчка. Гэта былі: малодшы (у іншых крыніцах – старшы) лейтэнант Какінакі (Коккинаки) Аляксандр Канстанцінавіч, 1914 г.нар.; лейтэнат Палякоў Ціхан Іванавіч; сяржант Бабенка (Бабенко) Дзмітрый Іванавіч.

КАКІНАКІ Аляксандр Канстанцінавіч – адзін з пяці братоў з сямы грэка-пралетарыя з г. Наварасійск Канстанціна Какінакі. Два браты сталі Героямі Савецкага Саюза, адзін з іх – двойчы Герой!

Усе браты звязалі свой лёс з авіяцыяй. Павал стаў авіяцыйным інжанерам. Валянцін – ваенным лётчыкам, у чэрвені 1941-верасні 1942 - камандзір звяна, камандзір авіяэскадрыллі 66-го штурмавога авіяцыйнага палка, потым – лётчык-выпрабавальнік авіязавода. Загінуў у 1955 годзе пры выкананні выпрабавальнага палёту. (11) Канстанцін - лётчык-выпрабавальнік з 1936 года. У 1938-1939 гадах ваяваў у небе Кітая супраць японскіх захопнікаў. Выканаў 166 баявых вылетаў на знішчальніку І-153, у паветраных баях збіў асабіста 3 і ў групе 4 самалёта праціўніка. У пачатку Вялікай Айчыннай намеснік камандзіра сфармаванага з лётчыкаў-выпрабавальнікаў 401-га знішчальнага авіяцыйнага палка (401 зап) адмысловага прызначэння, якім камандаваў Сцяпан СУПРУН. Пасля гібелі камандзіра Канстанцін стаў камандаваць 401 зап. Здзейсніў 98 баявых вылетаў на знішчальніку Міг-3. Збіў асабіста 4 і ў групе 3 самалёта праціўніка. Пасля вайны лётчыку-выпрабавальніку Канстанціну Какінакі было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. (12)

Уладзімір - лётчык-выпрабавальнік, аўтар 22 сусветных рэкордаў! У 1938 годзе на самалёце ЦКБ-30 “Масква” здзейсніў беспасадкавы пералёт Масква - Далёкі Ўсход працягласцю 7580 кіламетраў. Атрымаў званне Героя Савецкага Саюза! У 1939 годзе на самалёце ЦКБ-30 “Масква” здзейсніў беспасадкавы пералёт Масква - Паўночная Амерыка працягласцю 8000 кіламетраў. Адзін з ініцыятараў бамбавання Берліна ў самы цяжкі час вайны ў 1941 годзе. Падчас усёй вайны - кіраўнік выпрабаванняў новых тыпаў самалётаў. У 1943 годзе стаў генерал-маёрам авіяцыі. У 1959 годзе стаў двойчы Героем Савецкага Саюза! Віцэ-прэзідэнт (1961), прэзідэнт (1967), ганаровы прэзідэнт (снежань 1968) Міжнароднай авіяцыйнай федэрацыі. (13)

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

**/04.07.1941/**

Савецкія войскі далі бой на рубяжы ракі Нача ў месцы перасячэння ракі з шашой Мінск-Масква. І адступілі. У в. Дакудава ўвайшлі першыя нямецкія часткі. Пачаўся акупацыйны перыяд у гісторыі аэрадромаў Дакудава і Прыяміна (Баяры).

У гэты ж дзень савецкія бамбавікі здейсніл некалькі налётаў на калону нямецкіх войскаў у раёне станцыі Крупкі. Бамбавікі прыкрываліся знішчальнікамі 401-га знішчальнага авіяпалка адмысловага прызначэння (401 зап) пад камандаваннем славутага лётчыка Героя Савецкага Саюза (за баі ў Кітаі супраць японцаў) Сцяпана Супруна, які і загінуў у гэты дзень.



З кнігі М.П.Стэфаноўскага “Трыста невядомых” (14), прысвечанай лётчыкам-выпрабавальнікам НДІ ВПС: “4 июля 1941 года немецкая мотоколонна докатилась до населенного пункта Крупки. Это в пятидесяти километрах восточнее Борисова.

“Миги” 401 ИАП сопровождали три девятки СБ и пять Ил-4. Стояла облачная погода, семь-восемь баллов. В воздухе - дымка. С.П.Супрун, верный своему принципу, находился впереди. Дошли до Борисова и затем развернулись строго на север. В районе Лепель сбросили листовки. Затем повернули на Крупки, бомбардировщики произвели бомбометание по немецким колоннам. Хомяков оглянулся: самолет Супруна шел сзади. Тут же в воздухе появился немецкий связной самолет “физелер”, прозванный за длинные стойки шасси

"аистом". Часть "мигов" развернулась в его сторону. Но он сразу произвел посадку. Когда истребители опять пристроились к основной группе, Хомяков заметил немецкий четырехмоторный бомбардировщик "кондор". Недолго думая, он обстрелял врага. Проскочив, развернулся и дал еще несколько очередей. "Кондор" задымил... Из полета на аэродром не вернулись самолеты командира полка и летчика старшего лейтенанта Остапова. Сначала все решили, что они, как и в прошлый раз, занялись доразведкой. Но время продолжительности полета истекло, Супрун и Остапов все не появлялись... Через два дня в полк пришел старший лейтенант Остапов. Доложил, что в бою преследовал бомбардировщик "кондор" и был сбит сам. Перед этим видел в воздухе нашу группу самолетов, о судьбе командира полка ничего не знает".

Гэта быў чацвёрты баявы вылет Сцяпана Супруна ў гэты дзень: адзін быў разведвальны, а два – на суправаджэнне нашых бамбавікоў. Полк знаходзіўся на фронце з 30-га чэрвеня, і баявы рахунак яго камандзіра папаўняўся амаль штодзённа: на ім было ўжо тры нямецкіх самалёта (а на рахунку ўсяго палка – 12; свае баявыя страты– два лётчыкі загінулі). У сваім апошнім вылеце Супрун, пасля таго як ягоны вядзёны Осіпаў быў збіты, атакаваў яшчэ адзін "фоке-вульф-200 Кондар" і, калі выходзіў з атакі, быў паранены стрэлам са знішчальніка прыкрыцця. Ужо паранены, Сцяпан Супрун шчапіўся ажно з шасцю "месершмітамі". Адзін з іх быў ім збіты. Супрун пасадзіў свой Міг-3, але ён амаль адразу выбухнуў. Бартавы нумар самалёта быў нумар "13". Лётчык загінуў. Гэта здарылася каля в. Манастыры Талачынскага раёна. Пасмяротна Сцяпану Супруну ў другі раз было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. (15)

Але не ва ўсіх налётах 4-га ліпеня савецкія бамбавікі мелі прыкрыццё са знішчальнікаў. Вось як адзін такі налёт апісаны ў ваенным дзённіку савецкага лётчыка – камандзіра экіпажа бамбавіка – старшага летэнанта Патрыка Аганесавіча Газазяна (16):

"5/VII-41 г. Итак, начинаю заново писать свой дневник, ибо все, что до сих пор было написано мною, уничтожено вчера при бедствии. Вчера получил от командира полка задание – перелететь, перебросить летчика Фирсова на А. (аэродром) Пронцовку для перегона отремонтированного самолета №7.




Перед самым вылетом задание было изменено: командир приказал вести звено на бомбометание по танковой колонне фашистов в р-не ст. Крупки, на самолете мл. лейтенанта Рякина.

Мое звено в составе – справа мл. л-та Медведева и слева политрука Непобедимцева – шло левым ведомым звеном в девятке, которую вел ст. политрук Филимонов. Нас должны были сопровождать из Балбасовки, однако вызовы Филимонова остались без ответа, мы полетели без сопровождающих истребителей. На цель зашли с тыла. Штурман Кожухов повернул самолет и бросил бомбы по большому скоплению танков и мотоколонны и стал обстреливать пулеметным огнем.

В это время я отстал от строя, увлекшись наблюдением за результатами нашей работы. При этом нас атаковали, по словам Филимонова, 15-18 МС-109 (месешміт Ме-109 / Bf-109)

При первой атаке, проведенной по мне, вывели левый мотор из строя. Я остался с одним мотором. Дал полный газ, но не мог догнать строя. За мной погнались два МС-109, до самой земли обстреливали меня перекрестным пулеметным огнем, зажигательными пулями; пули стучали о броневую спинку моего сидения, как горох; мысль о том, что сейчас убьют моего радисгга-стрелка, расположившегося позади меня, не покидала меня. Через некоторое время действительно получил тревожные сигналы о его ранении, но помочь не мог. Через минуту по отходе от цели подожгли правый крылевой бак. Крыло горело, элерон расплавился, и самолет был неуправляем, высота была 100-150 м., прыгать было невозможно. Другого решения не было, как только приземлиться на горящем самолете. Внизу густой сплошной лес. Еще минуту продолжал лететь. Впереди, далеко, преследуемая вражескими истребителями, на бреющем полете уходила группа моих товарищей.

В 8-10 км. от цели произвел посадку на лес, поломал много леса самолетом, наконец, резкий толчок – и самолет остановился. При ударе треснул и правый центропланный бак, новый клубок огня и дыма окутал самолет. Пламя от бензина и горящего леса облизывало целлулоид моей кабины, фонарь которой был зажат деревьями. Я ощущал себя невредимым, но не мог открыть кабину и вылезть. Мысль о том, что придется сгореть живьем, сосредоточила все силы, и последним резким рывком я все же открыл фонарь и вылез. Легко вылез штурман и, отойдя ползком от горящего самолета, стал перевязываться. При ударе о землю ему рассекло лоб и смяло ноги. Я сейчас же прибегаю к стрелку – мл. сержанту т.Васильковскому. Он в кабине зажат -патронными ящиками. Еле выхватываю его из пламени. Он тяжело ранен вражеской пулей.



Я его оттаскиваю на спине от огня. Он просит не мучить его, просит "доконичить" его. Совесть не позволяет. Я его подбадриваю, обещаю, что немедленно пошлю колхозников на помощь, а сам не верю, что мы спасены. Недалеко слышен грохот танковых пушек. По лесу бегают по дорожкам танки, спешат на место боя. Слышен шум их гусениц. Боюсь попасть в руки немцев, готовлю пистолет.к бою. Васильковский просит оставить его, спастись самим. Мне хочется плакать, но нет слез. Я целую его, прощаясь. Он в полном сознании, тоже обнимает мою шею и целует меня. Сделал штурману перевязку, оттащил его в сторону. Мы удалились метров на 500 от горящего самолета. Тут поднялась ужасающая пальба – это взрывались раскаленные патроны самолета.

Теперь надо уходить поскорее, ибо немцы могут нас разыскать. Но как уходить? Штурман хромает на обе ноги. Я смастерил костыли, он стал сам с большим трудом уходить. Шли густым, непролазным болотистым лесом. Ноги вязли по колени. 4 км. леса до населенного пункта прошли за 6 ч. Добрались до дер. Скаковки. Я послал людей к Васильковскому. Место гибели, самолета население знало. Сами мы, немного покушав, на колхозной телеге отправились на восток. Теперь, думаю, добраться бы до Орши и оттуда штурмана - в госпиталь, а самому – к своим.

Ехали на подводах всю ночь. К рассвету в местечке Заболотье нашел автоколонну с продовольствием, желающую добраться до Орши, но командир| колонны, не имея карты и будучи больным, в течение 2-х суток безуспешно исколесил вокруг и около Борисова, желая выйти на дорогу Минск – Москва.

Имея карту, я выбрал ближайшую, наивыгоднейшую дорогу до Орши, причем через Пронцовку. Здесь моя цель была – добраться до Пронцовки и оттуда на нашем самолете, оставленном ст. политруком Ушаковым и бывшем на ремонте, отправиться дальше. Все это мне удалось легко сделать, и я, посадив штурмана, на бреющем полете добрался до своего полка на самолете № 7.

Командование и весь состав нашего полка горячо приветствовали меня с моим возвращением и живым, и здоровым. Кожухова немедленно отправили в госпиталь. Этот самолет я вывел буквально из-под удара. Поланный через час экипаж для перегонки другого самолета, стоявшего в Пронцовке, нашел его полностью сгоревшим.

Итак, второй раз командование вновь занесло меня в списки живых, выведя из списков потерпевших. Второй раз счастье улыбнулось: я жив, невредим и менее чем через сутки добираюсь на самолете в свою часть. Я доволен своей судьбой. Буду бороться до последней капли крови, отдам жизнь за СССР.

Наше дело – дело передового человечества всего мира – победит!"

БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

**Патрык Аганесавіч Газазян** *(Патрик/Бадрик/Бодрик/Водрик Оганесович/Аганесович Газазян) - нарадзіўся ў 1909 г. у г.Адабаар (Турцыя). У 1925 годзе разам з роднымі ён пераехаў з Сірыі ў Савецкую Арменію, у г.Ерэван. Працаваў трактарыстам, 1930 годзе паступіў у Бакінскую лётную школу, потым быў пераведзены ў Луганскую, а затым у Адэскую школу ваенных пілотаў. Пасля заканчэння школы служыў у Баку, потым у Бранску. На фронце – з пачатку вайны.*

Нажаль, невядома пакуль, у якім бамбавальным авіяпалку служыў П.А.Газазян у пачатку вайны. Але, падаецца, лётаў ён на скорасным бамбавіку СБ.

Адразу паказаў сябе выдатным лётчыкам. Вось што здарылася ў яго другім баявым вылеце: "30/V1. Бомбили мотоколонну на переправе в Бобруйске. Зенитка стреляла слабо. Напали истребители. Мелкокалиберная самолетная пушка пробила и вывела из строя управление элеронами и рулем. Парируя двумя моторами и тримерами, сел в Могилеве, отремонтировал и на следующий день из Могилева перелетел к своим. Командование горячо поздравило меня, т.к. считало погибшим.

Здесь мое хладнокровие и искусство техники пилотирования спасли самолет и экипаж от плена. Буквально из-под носа фашистов ушел, т.к. самолет глубокой спиралью над целью снижался до 150-200 м.

Эта удача на много усилила мою веру в возможность выхода из трудного положения".

Патрык Газазян апынуўся сярод першых воінаў Чырвонай Арміі, якія былі узнагароджаны пасля пачатку вайны. Ужо 9 ліпеня 1941 года ў газеце "Известия" №160 быў апублікаваны артыкул "Крылатыя волаты. Першыя героі айчыннай вайны" (17), у якім так апісвалася майстэрства лётчыка:

"Находчивость в сочетании со смелостью – этим качеством обладает старший лейтенант Газазян. Дважды отбивал он истребителей противника. С полностью нарушенным управлением самолета он восстановил горизонтальный полет и, пользуясь мотором, благополучно приземлился на своем аэродроме. В другой раз ему пришлось производить посадку на горящем самолете. Он не растерялся, спас экипаж и вернулся на свою территорию"

Завяршаўся артыкул публікацыяй Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні: "Первые герои великой отечественной войны награждены советским правительством. Слава бесстрашным сталинским питомцам – в воздухе и с воздуха разящим врага!

Указ Президиума Верховного Совета СССР "О награждении орденами СССР летчиков, техников,воздушных стрелков и рядового состава военно-воздушных сил Красной Армии"

За образцовое выполнение боевых заданий Командования на фронте борьбы с германским фашизмом и проявленные при этом доблесть и мужество наградить:

ОРДЕНОМ КРАСНОГО ЗНАМЕНИ

12. Васильковского Федора Григорьевича – стрелкарадиста, младшего сержанта

15. Газазян Водрика Оганесовича –зам. командира эскадрильи, старшего лейтенанта"

Васількоўскі Федор Рыгоравіч – гэта той самы паранены стралок-радыст з экіпажу Газазяна. Вось якія лётчыкі ваявалі ў небе Крупшчыны ў пачатку Вялікай вайны!

Кранальная рэакцыя самога Газазяна на ўзнагароджанне таксама ў вядома з яго дзённіка: "10/VII-41 г. Весь день отдыхали. Скучно без боевых вылетов. Страна дерется, а мы отдыхаем. Вечером привезли «Красноармейскую Правду» Западного фронта. В газете был указ Президиума Верховного Совета о награждении меня и товарищей орденом Красного Знамени. Не могу выразить свое чувство благодарности Правительству и Партии за то, что из меня сделали человека и удостоили высокой награды – ордена боевого Красного Знамени! Пусть узнают враги, что я буду драться еще лучше, чтобы заслужить его. Я ведь еще почти ничего не сделал. Я хочу воевать и воевать на благо нашей великой родины. Наше дело правое; раз на нас напали, тем хуже для них – остервенелых фашистских варваров.



У меня больше нет никакой другой цели или желания. Я в своей жизни достиг всех своих мечтаний. Теперь и умереть не жалко. Все мои друзья, и приятели, и знакомые, и близкие– любимые знают, что я работал по обороне нашей социалистической родины хорошо, что жизни даром, бесславно не отдал. Если счастье мне улыбнется, то у меня еще есть одно желание, желание простого смертного – это пожать руку товарищу Сталину и смотреть ему в глаза, видеть его живого, этого титанического вождя партии и народов"

7 ліпеня полк быў рэшткі палка былі перабазаваны ў тыл, а быў пераведзены ў 3-ці запасны авіяполк, дзе лётчыкі засвойвалі бамбавік Пе-2. З'яўляўся намеснікам камандзіра эскадрыллі.

Загінуў П.А.Газазян 13.10.1941. Апошні запіс у яго дзённіку зроблены 10 кастрычніка, за тры дні да смерці: "Вчера слышали о сдаче Орла. По радио слышали передовую «Правды», где говорилось, что угроза нависла над нашими промышленными районами... Со вчерашнего дня больно на сердце. До полуночи мне не спалось, и к утру болит голова.

Ах, я не дождусь, когда на фронт полетим, тогда хоть буду спокоен за то, что в такой тяжелый час я не сижу в стороне, а дерусь"

**/___.07.1941/**

Аэрадром Дакудава становіцца на працягу ліпеня базай для 3-яй эскадрыллі 31-га разведвальнага палка (3.(F)/31), што займалася дальняй разведкай і падпарадкоўвалася камандаванню 2-й танкавай групы. У жніўні 3.(F)/31 базавалася ўжо на аэрадроме

Шаталаўка-Захад (Schatalowka-West)
Па стане на 11.05.1940 авіяэскадрылля 3.(F)/31 штатна налічвала 12 самалётаў.
Падчас знаходжання авіягрупы на аэрадроме Дакудава яна мела на ўзбраенні "месершміт Bf-110" (у савецкім абазначэнні – Ме-110, гл. выявы сілуэтаў з франтавога выдання "Памятка разведчыку).
Але на аэрадроме Дакудава колькасны склад эскадрыллі 3.(F)/31, здаецца, быў меншым за штатны расклад. Вось вытрымка з запісаў начальніка Генштаба сухапутных войскаў Германіі генерала Ф.Гальдера ад 7 ліпеня 1941: "Начинает ощущаться нехватка разведывательных самолётов дальнего действия". Праз тры дні новы запіс: "Разведывательные отряды дальнего действия групп армий (не считая эскадрилий, приданных танковым группам) крайне ослаблены, лишь в одном из отрядов имеется три боеспособных самолёта, в остальных отрядах - ни одного. Из числа ночных разведывательных самолётов исправны только два..." (18)
За першыя тры месяцы вайны авіяэскадрылля 3.(F)/31 страціла 4 самалёты. Ужо 24.06.1941 быў збіты першы самалёт. 15.08.1943 на аэрадроме Шаталава (або Шаталаўка) [рус. Шаталово/ Шаталовка] на Смаленшчыне быў пашкоджаны другі самалёт. 02.09.1941 эскадрылля страціла яшчэ адзін "месершміт". 13.09.1941 чарговы самалёт не вярнуўся на базу. Экіпаж – пілот унтэр-афіцэр Ханс Кёрнер (Hans Körner), назіральнік лейтэнант Ханс Рютц (Hans Rütz), унтэр-афіцэр Хайнрiх Маус (Heinrich Maus) – у нямецкіх крыніцах лічыцца прапаўшым без вестак. На самой справе, самалёт здейсніў пасадку на тэрыторыіі, занятай войскамі Бранскага фронту, і стаў прадметам вывучэння савецкімі спецыялістамі (19)



Эмблема 3.(F)/31

**Авіязлучэнні Люфтвафэ (авіядывізіі, авіяпалкі і нават асобныя эскадрыллі) мелі свае эмблемы. На самалёце звычайна размяшчаліся абедзве эмблемы: дывізіі і палка або палка і эскадрыллі. Эмблема 3.(F)/31 – выява рака на на шчыце.**



Знішчальнік
Месершміт Ме-110

**/06.07.1941/**
Каля мястэчка Бобр у выніку атрыманых баявых пашкоджанняў здзейсніў аварыйную пасадку самалёт блізкай разведкі Hs126B-1 з 5-й эскадрыллі 23-га разведвальнага авіяпалка (5.(H)/23), якая знаходзілася ў армейскім падпарадкаванні 47-га танкавага корпуса.



самалёт блізкай разведкі
Хеншэль Hs126B-1

Самалёт быў прызнаны пашкоджаным на 25% (па прынятай у немцаў градацыіі, пашкоджанні да 60% азначалі, што самалёт падлягаў аднаўленню і вяртанню ў строй)
Дадатковая інфармацыя – асноўныя крытэры нямецкай сістэмы ўліку стратаў:
- страта да 30% азначае, што самалёт пашкоджаны, але мог быць адрамантаваны ў палявых умовах;
- страта да 60% азначае, што самалёт атрымаў пашкоджанні той ці іншай ступені цяжару, але мог быць адноўлены ў завадскіх умовах;
- страта ад 60 да 99% азначала, што самалёт атрымаў такія пашкоджанні, што не падлягаў аднаўленню і спісваўся;
- стратай у 100% пазначаўся самалёт, які быў цалкам знішчаны ці згінуў без вестки.

**/08.07.1941/**
З-за няспраўнасці рухавіка выйшаў са строю пры ўзлёце з аэрадрома **Дакудава** на баявое заданне хуткасны бамбавік (іншая назва – цяжкі знішчальнік) "месершміт Bf-110" з 4-й эскадрыллі 2-га палка 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў (4./SKG 210). У выніку аварыі самалёт быў пашкоджаны на 15%. (20)
Цікава, што па нямецкіх дакументах SKG 210 у гэты час базавалася на аэрадроме Мачулішчы пад Мінскам і толькі праз два дні яе 2-гі полк пераляцеў на аэрадром **Баяры!** Верагодна, аэрадром Дакудава ў гэты час выкарыстоўваўся або ў якасці аэрадрома падскоку для бамбавікоў SKG 210, або частка авіядывізіі ўжо перабазавалася бліжэй да лініі фронту, а дыслакацыя штаба не змянілася.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

**/09.07.1941/**
У выніку бамбавання быў цалкам знішчаны бамбавік "юнкерс Ju-87R" 9-й эскадрыллі 2-й дывізіі пікіруючых бамбавікоў (9./StG 2). У тэксце месцам здарэння названа Млёхава – вёска ў двух кіламетрах ад аэрадрома Дакудава. (20)
Магчымыя два тлумачэнні выкарыстання назвы Млёхава: першае – здарэнне адбылося на дакудаўскім аэрадроме, але ён у нямецкіх крыніцах быў названы па больш буйнай вёсцы, што знаходзілася ў яго наваколлі; другое – з-за недахопу месцаў для базавання авіязлучэнняў на аэрадромах Прыяміна і Дакудава ў якасці пасадачнай пляцоўкі выкарыстоўвалася поле паміж гэтымі аэрадромамі, якое знаходзілася як раз каля в.Млёхава (яно, дарэчы, было пазначана нямэцкімі дэшыфроўшчыкамі на датаваным 12.07.1944 аэрафотаздымку савецкіх аэрадромаў Прыяміна і Дакудава менавіта як пасадачная пляцоўка, што сведчыць аб тым, што немцы выкарыстоўвалі яе, калі гэтыя мясціны знаходзіліся пад іх кантролем).
Цікава, што па дакументах у ліпені 1941 года часткі StG2 базаваліся у Лепелі. Дадзены выпадак, як і некаторыя іншыя, сведчыць аб тым, што аэрадромы Баяры і Дакудава маглі выкарыстоўвацца і самалётамі з тых авіязлучэнняў, для якіх месцамі дыслакацыі афіцыйна лічыліся іншыя аэрадромы.

**/10.07.1941/**

У выніку атрыманых у паветраным баі пашкоджанняў у раёне м.Бобр вымушаны быў правесці пасадку на фюзеляж хуткасны бамбавік "месершміт Bf-110" з 5-й эскадрыллі 2-га палка 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў (5./SKG210). У выніку аварыйнай пасадкі быў паранены пілот унтэр-афіцэр Дорнбрахт (Dornbracht), самалёт быў пашкоджаны на 45%. (20)

Таксама у выніку атрыманых у баі пашкоджанняў пайшоў на вымушаную пасадку у раёне Баяры [у тэксце напісана па-руску – Богары: верагодна, памылкова з рукапіснага нямецкага – Boyari або Bojari] яшчэ адзін "месершміт Bf-110E" з 5./SKG 210. Самалёт быў пашкоджаны на 75%. Аб лёсе экіпажа звесткі адсутнічаюць. (20)

У гэты ж дзень аэрадром Баяры афіцыйна становіцца базай 2-га полка 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў (штурмавікоў) "месершміт Bf-110".

На эмблеме 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў – выява Англіі ў прыцэле. І гэта невыпадкова, бо авіядывізія пэўны час ваявала на Заходнім фронце. (гл. малюнак).

На эмблеме 2-га авіяпалка SKG 210 – выява асы. (гл. малюнак). Адметнай рысай гэтага авіяпалка было тое, што на некаторых самалётах яго эмблема не проста наносілася на корпус самалёта, а з'яўлалася своеасаблівым "камуфляжам" яго насавой часткі (прыклад – на фотаздымку).

**Камандзір палка – капітан Рольф Кальдрак (Rolf Kaldrack) (гл. фотаздымак).** Загінуў 03.02.1942 г., калі яго Bf-110E-2 сутыкнуўся з са збітым МіГ-1 (або быў збіты ў выніку тарана з боку савецкага лётчыка). Усяго на яго рахунку была 21 паветраная перамога. 09.02.1942 г. быў пасмяротна ўзнагароджаны Рыцарскім Крыжом з Дубовым Лісцем (№70).



Эмблема II./SKG 210



Месершміт Bf-110 з II./SKG 210, нос афарбаваны пад эмблему палка



Эмблема SKG 210



Камандзір II./SKG210 Рольф Кальдрак (Rolf Kaldrack)

ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ аб стратах 2-га палка 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў у перыяд з пачатку вайны да з'яўлення на аэрадроме Баяры:

Усяго полк, у якім па стане на 24 чэрвеня налічвалася 37 баявых машын, страціў 17 самалётаў, з якіх толькі 2 мелі пашкоджанні небаявога характара): 7 самалётаў былі цалкам згублены; 2 самалёты не падлягалі аднаўленню з-за значных пашкоджанняў (ад 60% і вышэй); 6 самалётаў з-за пашкоджанняў (ад 30% да 60%) былі накіраваны на аднаўленне на завод; 2 самалёты былі пашкоджаны нязначна (да 30%) і былі адрамантаваны ў палявых умовах. За гэты ж час полк (па няпоўных дадзеных) страціў 15 чалавек: 12 чалавек загінулі, 2 – прапалі без вестак, 1 – атрымаў раненні.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**



Немцы на аэрадроме Прыяміна (Баяры) – Месершміт Bf110 на рамонце

**Фотаздымак зроблены на аэрадроме Прыяміна падчас рамонту аднаго з "месершмітаў Bf-110" і які, не выключана, адносіцца да перыяду знаходжання на аэрадроме II./SKG 210.**

**/11.07.1941/**

У выніку баявых пашкоджанняў, атрыманых у раёне Баяры [у тэксце напісана па-руску – Богары: ізноў памылкова з рукапіснага нямецкага], хуткасны бамбавік "месершміт Bf-110C-4" з 6-й эскадрыллі 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў быў прызнаны пашкоджаным на 70%. Аб лёсе экіпажа звесткі адсутнічаюць. (20)

Таксама ў гэты дзень у Баяры з Мінска перамяшчаецца камендатура авіябазы Fliegerhorst-Kommandantur E 18/VII – прыкмета таго, якое значэнне надавалася аэрадрому Баяры (Прыяміна)!

У ноч на 12 ліпеня савецкія 1-шы і 3-ці цяжкабамбавальныя авіяпалкі нанеслі ўдары па варожых аэрадромах у раёне Вільні, Глыбокае, Крупкі, Бабруйск, Клічаў. (21) Магчыма, пад аэрадромамі ў раёне Крупкі маюцца на ўвазе аэрадромы Баяры (Прыяміна) або Дакудава, а магчыма, хаця і менш верагодна, і палявыя аэрадромы, што знаходзіліся каля в.Ломская і м.Крупкі.

**/13.07.1941/**

Франц Гальдэр, начальнік штаба германскіх войскаў, у сваім дзённіку зрабіў запіс: "Безвозвратные потери войсковой разведывательной авиации с 22.6. Разведывательные эскадрильи, приданные группам армий и танковым группам, потеряли: самолетов типа «Хеншель-126» – 24%, «Фокке-Вульф-189» – 15%. Разведывательные эскадрильи дальнего действия потеряли самолетов типа «Юнкерс-88» – 33,3%, «Мессершмитт-110» – 39%. Эскадрильи ночной разведки потеряли самолетов типа «Дорнье-17» – 20%, «Физелер-156» – 13%" (22)

Таксама ў гэты дзень звяно савецкіх штурмавікоў Іл-2 са складу 430-га асобага штурмавога авіяцыйнага палка (430 шап)

правяло штурмоўку і бамбаванне аэрадрома Дакудава.
Магчыма, менавіта аб гэтым налёце ўспамінае ураджэнец в.Дакудава Дайнека Леанід Феафілавіч, 15.10.1929 г.нар. (запісана 14.06.2010): "А солдатская полевая кухня стояла на выгоне напротив Адама – там росли несколько лип и три дуба. Прилетели наши бомбить. Несколько бомб упали в этом месте. Немцу-повару разорвало живот. Он погиб. Это было летом".
Над аэрадромам быў збіты агнём зенітнай артылерыі штурмавік Іл-2, якім кіраваў капітан Мікалай Мікалаевіч ФАЦЕЕЎ (Николай



Николаевич Фатеев) – намеснік камандзіра эскадрыллі. Самалёт упаў у балоцістым лесе ў 300 метрах на ўсход ад в.Дакудава
Па іншых звестках, Фацееў загінуў 12.07.1941. Са сведкавай даведкі былога намесніка камандзіра 430-га шап маёра А.К.Даўгова ад 26.11.1942 года: "Капитан Фатеев работал в 430 ШАП в должности – зам.командира эскадрильи. Числа примерно 10-12 июля полк перелетел на аэродром Яковлевичи. В этих же числах капитану Фатееву в составе звена было дано задание на бомбометание аэродрома противника Бешенковичи. С боевого задания капитан Фатеев не вернулся. По докладу лётчиков звена капитан Фатеев был сбит в районе аэродрома Бешенковичи"

Маёр Даўгоў, вядома, памыліўся – прайшло ўжо амаль пяць месяцаў, і таму ён не змог аднавіць у памяці ўсе падзеі таго часу.

БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА
**Мікалай Мікалаевіч ФАЦЕЕЎ.** *Лётчык-выпрабавальнік Навукова-Выпрабавальнага Інстытута Ваенна-Паветраных Сіл Чырвонай Арміі. У інстытуце быў у складзе эскадрыллі, у якой меліся самалёты розных тыпаў і якая была далучана да аддзела выпрабаванняў авіяцыйных рухавікоў, паліваў і маслаў. Камандзірам эскадрыллі быў лётчык-выпрабавальнік Аляксандр Аляксандравіч Аўтаномаў. (23)*

У інстытуце ў якасці лётчыкаў-выпрабавальнікаў працавалі лепшыя лётчыкі краіны. Шматлікія з іх мелі і баявы досвед, атрыманы ў небе Іспаніі, Кітая, Манголіі і падчас Зімовай вайны з Фінляндыяй. Ужо на другі дзень вайны лётчык-выпрабавальнік С.П.Супрун ад імя камандавання НДІ ВПС уносіць прапанову па фармаванні палкоў з лётчыкаў-выпрабавальнікаў на базе найновай тэхнікі. І.В.Сталін дае згоду. На фармаванне шасці палкоў было адведзена ўсяго трое сутак.
Сярод сфармаваных палкоў быў і адзін штурмавы, які меў на ўзбраенні стаўшыя знакамітымі на ўвесь свет "лятучыя танкі" - самалёты Іл-2. Полк атрымаў назву 430-ы штурмавы авіяполк адмысловага прызначэння.
Штурмавік Іл-2 (на малюнку) – яго аднамесны


Штурмавік Іл-2
(аднамесны варыянт 1941 года)


Штурмавік
Іл-2

варыянт, які выкарыстоўваўся ў пачатку вайны; на схеме – двухмесны) прызначаны для бамбавання, абстрэлу рэактыўнымі снарадамі і з гармат зграмаджэньня жывой сілы і тэхнікі праціўніка на поле бою, падвяргаўся, у сваю чаргу, большаму агнявому процідзеянню суперніка, чым самалёты любых іншых тыпаў. Таму ён быў абсталяваны бранекабінай, якая дазваляла надзейна абараніць лётчыка.
Аднак паспешнасць у фармаванні палка прывяла да таго, што лётчыкамі не былі адпрацаваны навыкі вядзення баявых дзеянняў у складзе палка, не былі распрацаваны і асновы тактыкі ўжывання штурмавікоў Іл-2 у баі (загад пра правядзенне выпрабаванняў на баявое ўжыванне штурмавіка Іл-2 быў падпісаны 31.05.1941 г., а адпаведны яму загад па НДІ ВПС - толькі 20 чэрвеня).

## АЭРАДРОМ ДАКУДАВА

3-га ліпеня 1941 г. полк, маючы ў сваім складзе 22 самалёты Іл-2, пераляцеў на прыфрантавы аэрадром Зубава пад Оршай. Полк уваходзіў у склад 23-яй змешанай авіядывізіі [рус. 23 сад].
Першыя баявыя вылеты лётчыкі палка здзейснілі 5-га ліпеня, калі дзясятка штурмавікоў пад камандаваннем камандзіра эскадрыллі маёра Аляксандра Кузьміча Даўгова зрабіла бомбаштурмавы ўдар па скупнасці нямецкіх танкаў і бронетранспарцёраў на лётным полі аэрадрома ў Бешанковічах, сам камандзір палка паляцеў дзясятым.
Машыны несліся, ледзь не дакранаючыся верхавін дрэў. Лётчыкі ўбачылі велізарнае зграмаджэнне танкаў і бранемашын, выстраеных правільнымі радамі па ўсёй плошчы аэрадрома. На танках ясна былі бачныя нямецкія крыжы. Па межах аэрадрома былі разасланы чырвоныя палотны, мабыць, апазнавальныя знакі для сваёй авіяцыі. Зенітная артылерыя праціўніка маўчала: браняваныя "Ілы" яшчэ не выкарыстоўваліся ў вайне і таму гітлераўцы не ведалі іх сілуэтаў.
Першы заход група зрабіла з брыючага палёту, скінуўшы на нямецкую тэхніку чатыры дзясяткі 100-кілаграмовых бомбаў. Кожны самалёт меў іх чатыры штукі. Астатні арсенал узбраення: рэактыўныя снарады, гарматы і кулямёты - быў ужыты экіпажамі ў другім заходзе з планавання з вышыні 400 м.
Супрацьпаветраная абарона базы адкрыла па "Ілах" ураганны агонь. Быў збіты самалёт лётчыка Шэвялёва (Шевелева). Зенітны агонь быў настолькі моцным, што практычна ўсе самалёты атрымалі пашкоджанні. Напрыклад, толькі на Іл-2 камандзіра палка М.І.Малышава, які ўдзельнічаў у гэтым налё-

це як радавы лётчык, налічылі больш за 200 прабоін. Аднак дзякуючы бранекаробцы ніхто з лётчыкаў не пацярпеў.

Аднак непадзельнае панаванне ў паветры знішчальнікаў праціўніка, адсутнасць задняй агнявой кропкі на самалёце Іл-2, а таксама дрэнная арганізацыя прыкрыцця сваімі знішчальнікамі у спалучэнні з недастатковай тактычнай і лётнай падрыхтоўкай лётчыкаў і дрэннай злётанасцю, прывяло да адчувальных страт машын і лётнага складу ў першыя дні баявога прымянення штурмавікоў на фронце. За першыя пяць дзён знаходжання на фронце полк страціў 7 машын і раніцай 10 ліпеня меў усяго 9 штурмавікоў, астатнія патрабавалі рамонту.

Праз два дні, 13 ліпеня, быў збіты зенітным агнём і самалёт капітана Фацеева. Як раз падчас другога заходу на бамбакіданне, як гэта было прынята ў тактыцы баявых дзеянняў "чыстых" бамбавікоў, якія працуюць на вялікіх вышынях, але не апраўданай у выпадку са штурмавікамі, якія дзейнічалі на малых і сярэдніх вышынях. Правільную тактыку выпрацавалі пазней... Пасля гэтых першых, не зусім апраўданых страт...

Яшчэ праз тры дні - 17 ліпеня 1941 года было прынята рашэнне пра расфармаванне 430-га штурмавога авіяпалка адмысловага прызначэння. Нягледзячы на тое, што полк з'яўляўся палком аўтарытэтаў, ён не змог пратрымацца на фронце нават аднаго месяца...

Напачатку жніўня полк перадаў рэшткі сваіх Іл-2 на папаўненне іншаму палку, а лётчыкі-выпрабавальнікі былі адкліканы з фронту і вярнуліся да сваіх непасрэдных абавязкаў у інстытуце ВПС Чырвонай Арміі. (24,14)

**/14.07.1941/**

Камендатура авіябазы Fliegerhorst-Kommandantur E 18/VII ізноў вяртаецца ў Мінск. Але, верагодна, адразу з Барысава ў Баяры перамяшчаецца камендатура авіябазы Fliegerhorst-Kommandantur E 22/IV, якая знаходзілася ў падпарадкаванні камандавання аэравузла Flughafen-Bereichs-Kommando 20/XI (знаходзілася ў Мінску-Паўднёвым 04.07.1941-06.09.1941, потым – ў Сешчынскай, Бранская вобласць) і якая месцілася ў Баярах пэўны час, а потым перабазуецца ў Цэнтральную Расію.

**/15.07.1941/**

Адразу два хуткасных бамбавіка з 4-й эскадрыллі 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў (4./SKG 210), што базавалася на аэрадроме Баяры, былі пашкоджаны: "месершміт Bf-110E" здзейсніў аварыйную пасадку (раён не пазначаны), быў прызнаны пашкоджаным на 25%; "Месершміт Bf-110D-3" (бартавы нумар S9+FM) быў цалкам знішчаны (раён не пазначаны, прычыны не ўказаны), экіпаж - пілот лейтэнант Хаберлах (Haberlach) і борт-радыст обер-ефрэйтар Хольбург (Hollburg) - быў прызнаны прапаўшым без вестак (20)

Падчас баявога вылету ў раёне г.Рослаўль быў цалкам знішчаны "месершміт Bf-110E" (бартавы нумар S9+DN) з 5-й эскадрыллі 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў (5./SKG 210). Загінуў экіпаж - пілот лейтэнант Клінке (Klinke R.) і борт-радыст обер-фельдфебель Драйхольц (Dreiholz W.).

ДАДАТКОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ:

на фюзеляжы кожнага самалёта Люфтвафэ з бамбавальных і разведвальных авіязлучэнняў наносіўся 4-сімвальны ідэнтыфікатар: літара/лічба – лічба/літара – (крыж) – літара – літара.

Першыя два сімвалы (літара+лічба або лічба+літара) – гэта, у большасці выпадкаў, код авіядывізіі, напрыклад:

S9 - Schnellkampfgeschwader 210 (SKG 210);
A5 - Sturzkampfgeschwader 1 (StG 1);
C5 - Wekusta 26 (яшчэ мела код 4U або 5Z);
L8 - Nahaufklärungsgruppe 4 (NAGr 4);
5F - Aufklärungsgruppe 14 (яшчэ мела код 4F);
5D - Aufklärungsgruppe 31;
5K - Kampfgeschwader 3 (KG 3);
G1 - Kampfgeschwader 55 (KG 55);
W7 - Nachtjagdgeschwader 100 (NJG 100);

Потым знаходзілася выява крыжа, за якім ішоў трэці сімвал (літара) – гэта літарны нумар машыны ў злучэнні. Гэтыя літары маглі быць зроблены каляровымі або на каляровым фоне (сіні колер азначаў прыналежнасць самалёта да штаба авіядывізіі; зялёны – да штаба авіяпалка; белы – да першай эскадрыллі (не па фактычным нумары, а па парадкавым нумары ў дадзеным палку, напрыклад, эскадрылля пад фактычным нумарам 1, або, 4, або 7 – гэта першая эскадрылля адпаведна ў 1-м, 2-ім або 3-ім палку); чырвоны – да другой; жоўты – да трэцяй). На фотаздымку звяна самалётаў з 2-га авіяпалка SKG 210 добра бачныя каляровыя літары пасля выявы крыжа. (img11.jpg)




*Звяно самалётаў "месершміт Bf110" з II./SKG 210 у баявым палёце*

Чацвёрты сімвал (літара) – гэта код злучэння, да якога належаў самалёт: код эскадрыллі (літары H, K, L, M, N, P, S, T, U, W, X, Y, Z выкарыстоўваліся адпаведна для абазначэння нумара эскадрыллі – ад 1-й да 15-й) або абазначэнне штабнога самалёта (A – авіядывізіі; B, C, D, E і F – адпаведна ад 1-га да 5-га авіяпалкоў).

Такім чынам бартавы нумар S9+DN азначаў код самалёта з 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў (SKG 210) пад літарным нумарам "D" з 5-й эскадрыллі 3-га авіяпалка (N).

**Афіцыйна ў гэты жа дзень,** 15.07.1941, 2-гі полк 210-й дывізіі хуткасных бамбавікоў пералятае з аэрадрома Баяры на аэрадром Орша (верагодна, на аэрадром Аршанскага аэравузла – Балбасава [рус. Болбасово]). Гэтае і далейшыя перамяшчэнні палкоў SKG 210 у першыя тры месяцы вайны адлюстраваны на схеме. (img46.jpg)




Баявы шлях частак SKG 210 на савецка-германскім фронце ў 1941 г.

Пікіруючы бамбавік Юнкерс Ju-88 са складу KG3 "Blitz"

эмблема II/KG3

Эмблема KG3 "Blitz"

Падчас знаходжання на аэрадроме Баяры II./SKG 210 страціў тры самалёты і чатыры чалавекі з лётнага складу.

Дадатковая інфармацыя аб стратах палка ў 1941 годзе пасля таго, як II./SKG 210 пакінуў аэрадром Баяры (25):

Па экіпажах (па няпоўных дадзеных): 14 чалавек загінулі, 24 – прапалі без вестак, 4 – атрымалі раненні (усяго: 42 чалавекі).

Па самалётах :

- 23 самалёты былі цалкам згублены,
- 4 самалёты не падлягалі аднаўленню,
- 6 самалётаў былі накіраваны на аднаўленне на завод,
- 3 самалёты былі пашкоджаны нязначна.

Такім чынам усяго было страчана 36 самалётаў, з якіх толькі 4 мелі пашкоджанні небаявога характара.

**/___.07.1941/**

Люфтвафе рыхтуе бамбавальныя авіяналёты на Маскву.

На аэрадроме Баяры (ў крыніцы інфармацыіі каля назвы Баяры стаіць пытальнік) з'яўляецца 2-гі полк 3-й бамбавальнай авіядывізіі "Маланка" (II./KG 3 "Blitz") (06), які па стане на 24.06.1941 меў на ўзбраенні 38 самалётаў "юнкерс Ju-88-A". (05) (гл. фотаздымак, на якім ніжэй кабіны пілотаў бачна эмблема авіядывізіі KG 3 "Blitz", і сілуэты самлёта).

Камандзіры палка ў 1941 годзе: спачатку капітан Іаганс Хюбнер (Johannes Hübner), потым капітан Курт/Курд Петерс (Kurt/Kurd Peters) (гл. фотаздымак). Падчас знаходжання авіяпалка на Ўсходнім фронце камандзірам, здаецца, ўжо быў Петэрс, які быў збіты і прапаў без вестак пад Калугай 21.12.1941 (26)



Пікіруючы бамбавік Юнкерс Ju-88



Камандзір II/KG3 Курт/Курд Петэрс (Kurt/Kurd Peters)

Аэрадром Баяры будзе базай для II./KG 3 на працягу прыблізна месяца – у жніўні авіяполк пераляціць у Оршу.

Эмблема 3-й бамбавальнай авіядывізіі "Маланка" адпавядае назве злучэння – выява маланкі ("Blitz") на зялёным полі (гл. малюнак). Эмблема 2-га палка авіядывізіі зусім мірная – птушка на галінцы (гл. малюнак).

## АЭРАДРОМ ДАКУДАВА

Пры некаторых злучэннях Люфтвафе, на ўзбраенні якіх былі "цяжкія" самалёты (бамбавальныя злучэнні, злучэнні пікіруючых бамбавікоў, злучэнні цяжкіх знішчальнікаў, некаторыя транспатртныя і разведвальныя злучэнні), меліся спецыяльныя абслугоўваючыя роты, якія мелі назву FlughafenBetriebsKompanien (скарочана – FBK) – аналаг савекіх батальёнаў аэрадромнага абслугоўвання.

Галоўным абавязкам роты быў рамонт і абслугоўванне самалётаў свайго авіяпалка.

У 1941 годзе пры авіяпалку звычайна было дзве роты, з 1943 года - адна. У складзе роты налічвалася 150 чалавек, рота падзялялася на чатыры ўзводы: 3 вытворчых (Betriebszüge) і 1 рамонтны (Werkstattzug) (06)

Рота аэрадромнага абслугоўвання звычайна знаходзілася там жа, дзе базаваўся і авіяполк. Таму, хутчэй за ўсё, ў Баярах (або ў Дакудава) таксама знаходзіліся чацвёртая (4.FBK-KG3) і пятая (5.FBK-KG3) роты аэрадромнага абслугоўвання, што былі прыдадзены 2-му палку KG 3.

**/20.07.1941/**

На аэрадром Баяры з Украіны (Млынаў) з мэтай удзелу у бамбавальных рэйдах на Маскву пералятаюць самалёты Хейнкель Не-111 (гл. сілуэты самалёта на малюнку) 1-га і 2-га авіяпалка 55-й бамбавальнай авіядывізіі "Грыфон" (Kampfgeschwader 55 "Greif"; скарочана KG 55).

Здаецца, разам з гэтымі двума авіяпалкамі з Украіны (Луцк) на аэрадром Барысаў пералацела і адна з эскадрылляў 3-га авіяпалка 55-й бамбавальнай авіядывізіі. Аб гэтым сведчаць запісы ў журнале баявых дзеянняў гэтага палка.


Сярэдні бамбавік
Хейнкель Не-111


Эмблема
KG 55

Эмблема авіядывізіі – міфічная істота грыфон: леў з крыламі (гл. малюнак). Грыфон сімвалізуе сабой уладу над небам і зямлёй, сілу, пільнасць і ганарыстасць. Грыфон таксама стаў атрыбутам багіні адплаты – Немязіды: яе часта малявалі ў калясніцы запрэжанай грыфонамі.

Камандзір I./KG 55 – маёр Рудольф Кіль (Rudolf Kiel); II./KG 55 – маёр Эрнст Кюль (Ernst Kühl), які ў званні падпалкоўніка з 27.08.1942 стаў камандзірам KG 55.

Ва ўжо згаданай кнізе Д.Б.Хазанава гаворыцца літаральна наступнае: «... в бомбардировке Москвы должны были участвовать эскадра KG53 ... (самолеты He111 действовали с аэродромов Дубицкая Слобода, южнее Минска и Борисова), авиагруппы I и II/KG55 ... (также He111 с аэродрома Бояры, между Минском и Двинском, недалеко от Кривичей), группы I и II/KG3 ... (Ju88 с аэродромов Орша и Бояры) и группа III/KG3 ... (Do17 с аэродрома Вильнюс)» (08). Здаецца, што размова у выпадку з KG 3 ўсё ж ідзе пра аэрадром Баяры (Прыяміна), а не Баяры ў Заходняй Беларусі, бо больш лагічным выглядае, што авіяпалкам з KG 3 лепш знаходзіцца непадалёк ад калег з KG 53 і KG 55, а таксама побач са знішчальнікамі прыкрыцця. Дарэчы і 3-ці полк KG3 базаваўся ў гэты час не ў Вільні, як сцвярджае аўтар кнігі, а ў ліпені - на аэрадроме Параф'янава (Парафьяново), што ў Докшыцкім раёне, а з 1 жніўня – на аэрадроме Верацені (Веретени), таксама ў Віцебскай вобласці.

**/21.07.1941/**

Нямецкая бамбавальная авіяцыя вылецела з аэрадромаў базавання і ў ноч на 22 ліпеня здзейсніла першы буйны налёт на Маскву. У налёце прымалі ўдзел і бамбавікі, якія базаваліся на аэрадроме Баяры. Па розных крыніцах, у налёце ўдзельнічала ад 127 (27) да 195 (08) бамбавікоў.

У налёце савецкімі лётчыкамі 11-га знішчальнага авіяпалка быў збіты бамбавік з 4-й эскадрыллі KG 55. Загінуў пілот (камандзір эскадрыллі) обер-лейтэнант О.-Б. Хармс (O.-B. Harms).

Вытрымкі з кнігі Д.Б.Хазанава "1941. Горькие уроки. Война в воздухе": "...бомбардировщики эскадры KG55 наносили удар по Кремлю, МОГЭСу, зданию ЦК ВКП(б)...

Авиаторов снабдили подробными картами города масштабов 1:25 000 и 1:40 000, а также фотопланшетами. Наиболее опытные экипажи брали на борт новейшие бомбы массой 2500 кг...

Налет на Москву в ночь на 22 июля напоминал таранный удар. В 21 ч с линии Рославль – Смоленск от постов ВНОС поступили первые данные о появлении в воздухе большой авиагруппы противника, 195 самолетов (по советским данным, их было 220) засветло взлетели с аэродромов Брест (Тересполь), Барановичи, Бобруйск, Дубинская и др. При этом 127 машин шли компактной группой, выдерживая направление Вязьма – Гжатск – Можайск. С наступлением темноты на маршруте полета специальные команды разложили костры, служившие экипажам ориентирами. На подступах к городу самолеты рассредоточились и проникали к назначенным им целям с разных направлений... Противник шел одиночными самолетами, в линию по 10–12 машин на фронте Клин – Калуга, эшелонировано в глубину, через 1–3 мин. Основная группа самолетов летела на высоте, не превышающей 2500–3000 м...

В оперсводке № 01 штаба 6-го авиакорпуса, составленной в 7 ч утра 22 июля, делается такой вывод: «Противник производил налет в течение четырех часов непрерывным потоком мелких групп, от двух до девяти самолетов в группе, действуя с высот от 1000 до 4000 м. Основное направление полета колонн самолетов проходило через Волоколамск, Истру к Москве. Отдельные группы заход на Москву производили через Наро-Фоминск, Внуково, Дмитров, Мытищи. Уходил противник веерообразно в секторах Москва – Клин, Москва – Подольск. Начало налета осуществила группа в составе от трех до пяти самолетов, которые сбросили зажигательные бомбы, вызвав в четырех местах пожары. Последующие группы для освещения целей бомбометания сбрасывали осветительные ракеты на парашютах,

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

создававшие сильное освещение и горевшие до 10–12 мин. Наряду с зажигательными бомбами противник сбрасывал фугасные бомбы различного калибра. Главными целями противник, очевидно, избрал железнодорожные вокзалы, Кремль, авиазаводы и аэродромы во внутренней зоне Москвы. По ориентировочным подсчетам, всего в налете на Москву участвовало до 150 самолетов типа Ju88, Do215 и Do217 (основным типом бомбардировщика был He111. – Прим. автора книги)...

Некоторые подробности о событиях той ночи рассказал фельдфебель Л. Хавигхорст:

«...Наш He111 (1T+IK) шел в отряде Хеллмана (Hellmann). Горящий Смоленск являлся хорошим навигационным ориентиром. Четким белым штрихом просматривалась дорога Смоленск – Москва. Скоро мы увидели 10–20 прожекторов, создававших световое поле. Попытки обойти его не удались: прожекторов оказалось много слева и справа. Я приказал поднять высоту полета до 4500 метров и экипажу надеть кислородные маски. Внезапно по нашему самолету открыла огонь русская зенитная артиллерия. К счастью, она стреляла неточно, но плотность разрывов была высокой.

Когда наш самолет вплотную подлетал к Москве, мы увидели под собой Ju88 из другого соединения – он готовился пикировать на город. Собирались освободиться от своего бомбового груза и мы. В это время раздался взволнованный голос радиста:

– Внимание, аэростаты!

– Ты обалдел, – послышалось в ответ, – мы же летим на высоте 4500.

Экипаж хорошо знал, что англичане не под-

нимали аэростаты выше 2000 метров, а здесь высота была, по крайней мере, удвоена. Тут же наличие аэростатного заграждения подтвердил бортмеханик.

Я приказал сбросить бомбы, и как только мы повернули обратно, радист сообщил о приближении вражеского истребителя. Русский ночной истребитель (у них вообще не должно было существовать подобных) атаковал нас сверху слева. Радист открыл огонь, и к нему тотчас присоединился бортмеханик... Наш He111 приземлился с сухими баками в Тересполе в 4 ч 27 мин. На весь полет ушло 8 ч 4 мин».

Советская ПВО встретила налет во всеоружии. Уже в 22 ч 29 мин прожектористы подполковника Б. В. Сарбунова осветили первую цель. В зонах ожидания находились ночные истребители... Им удалось расстроить боевой порядок противника, помешать прицельному бомбометанию. Но отдельные машины прорвались к своим целям. Так, некоторые экипажи II/KG55 достаточно точно поразили Кремль...

Если верить показаниям взятых в плен летчиков и германским документам, то первая атака Москвы стоила люфтваффе шести-семи самолетов, потерянных по разным причинам, включая разбившиеся или серьезно поврежденные при вынужденной посадке уже на своей территории. Первым погиб той ночью экипаж командира 4/KG55 обер-лейтенанта О.-Б.Хармса, который вел группу из 35 машин из Борисова через Козловичи, Красное, Дорогобуж и южнее Вязьмы. Можно привести мистический факт: накануне вылета Хармс написал прощальное письмо и просил командира группы отправить родным в случае его гибели, но майор Э.Кюль не понял его настроения... С большой вероятностью самолет Хармса был атакован над поселком Дорохово – звеном капитана К.Н.Титенкова (ведомые лейтенант В.Д.Лапочкин и мл. лейтенант В.В.Бокач); немецкая машина упала у Рузы" (08)

А вось як аб налётах на Маскву напісаў камандуючы 2-ім Паветраным флотам Люфтвафе генерал-фельдмаршал Альберт Кесельрынг: "После того как была завершена подготовка к использованию бомбардировщиков дальнего радиуса действия, состоявшая в установке радиомаяков и концентрации собственно самолетов и бомбового запаса, в качестве главной цели пилотам дальней авиации была указана Москва – центр военной промышленности и связи противника, город, где находилось его правительство...

Налеты на Москву вызывали у меня большую озабоченность. Сбитые экипажи приходилось окончательно вычеркивать из списков личного состава. Эффективность действий русских зенитчиков и осветителей, использовавших прожекторы, производила впечатление даже на тех наших пилотов, кому довелось летать над Англией. Кроме того, постепенно в воздухе стало появляться все больше русских истребителей – к счастью, только в дневное время. Результаты бомбардировок русской столицы были несколько менее впечатляющими, чем я ожидал, но это можно объяснить размерами территории объекта бомбовых ударов, ослепляющим действием прожекторов, создававшим помехи нашим летчикам, а также тем, что бомбовую нагрузку наших самолетов приходилось уменьшать из-за необходимости брать на борт дополнительное топливо". (10)

**/22.07.1941/**

На аэрадроме Баяры ў выніку атрыманых баявых пашкоджанняў здзейсніў аварыйную пасадку "юнкерс Ju-88A-5" (бартавы нумар 5K+EP) з 6-й эскадрыллі KG 3. Усе чатыры члены экіпажа атрымалі пры пасадцы раненні: пілот лейтэнант Гюнтэр Брыксіус (Günther Brixius) (быў збіты 25.04.1942), штурман фельдфебель Вальтар Краенброк (Walter Kreienbrock), борт-радыст фельдфебель Ханс Закс (Hans Sachs), борт-стралок яфрэйтар Рудольф Гізеке (Rudolf Giesecke) (28)

У ноч на 23 ліпеня немцы здзейснілі чарговы авіяналёт на Маскву.

Вытрымкі (пераклад з нямецкай мовы, магчыма, недакладны – В.Лапацін) з Журнала баявых дзеянняў (Kriegstagebuch) 3-га авіяпалка 55-й бамбавальнай авіядывізіі (III./KG 55), у якім апісваюцца баявыя заданні, што атрымлівала частка (эскадрылля) III./KG 55, якая знаходзілася на аэрадроме Барысаў (група з 5 бамбавікоў мела, здаецца, адну задачу – перыметр Крамля, – а група з 2 самалётаў іншую – сам Крэмль): "22.7.41. Барысаў. Баявая задача №75, 1-ая баявая задача 'M' (літарай 'M', верагодна, адзначалася задача менавіта гэтай часткай авіяпалка – заўвага мая – В.Лапацін). Заданне: Напад на Маскву. Зона Крамля (Kremlbogen). Лік машын: 5. Бомбавая нагрузка: 1 SC 500, 64 SC 50, 80 BSK (першы лік – колькасць бомбаў; літарны код – тып бомбы; лік пасля коду тыпа бомбы – яе калібр у кілаграмах – заўвага мая – В.Лапацін). Старт: 20.03-20.07, прызямленне: 0.08-0.20. Час нападу: 22.05-22.15, вышыня 3000 м. Надвор'е над цэллю - 4/10 на вышыні 4000 м (дроб з назоўнікам 10 паказвае, верагодна, ступень воблачнасці – заўвага мая – В.Лапацін). Вынік: Скідванне ў 2 заходах на цэль. Назіралася 3 буйных пажару і некалькі меншых пажараў у раёне цэлі. Абарона: Пражэктар (200-3000 м) у раёне цэлі. Супрацьпаветраная абарона ўмераная. Начны знішчальнік над аб'ектам нападу. 1 знішчальнік выканаў 2 напады. Трапленне ў самалёт

У выніку абстрэлу начным знішчальнікам лёгка паранены фельдфебель Дрэксель (Drechsel)".

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

"22.7.41. Барысаў. Баявая задача №76, 2-ая баявая задача 'M'. Заданне: Напад на Маскву, Крэмль. Лік машын: 2. Бомбавая нагрузка: 6 SC 250, 8 SC 50, 32 BSK. Старт: 20.00-20.05, прызямленне: 0.10-0.12. Час нападу: 22.09-22.15, вышыня 3000 м. Надвор'е - над цэллю бясхмарна, па дарозе 8/10 на вышыні 2500 м. Вынік: У раёне цэлі 5 буйных пажараў, выкліканых цяжкімі бомбамі. Пажар на вялікай плошчы, які выкліканы бомба-штурмавым ударам, на паўночным усходзе (ад?) Крамля. Абарона: Ажыўленая работа пражэктара. Зенітны агонь умераны. Назіраўся 1 начны знішчальнік на паўднёвым захадзе (ад?) Масквы падчас нападу на іншы самалёт". (29)

**/23.07.1941/**

Чарговы авіяналёт на Маскву.

Вытрымкі з Журнала баявых дзеянняў III./KG 55: "23.7.41. Барысаў. Баявая задача №77, 3-я баявая задача 'M'. Заданне: Масква, Крэмль. Лік машын: 3. Бомбавая нагрузка: 12 SC 250, 2 Flambo, 8 SC 50, 32 BSK. Старт: 20.36-20.40, прызямленне: 0.05-0.15. Час нападу: 22.15-22.35, вышыня 3500-3800 м. Надвор'е над цэллю - 8/10 на вышыні 2800 м. Вынік: Перад налётам пажары адсутнічалі. Пасля нападу назіраліся 2 пажары ў раёне цэлі і пажары ў раёне скіду запальных бомбаў у паўднёва-усходняй частцы горада. Адзін самалёт бамбаваў Вязьму. Назіраліся пажары. 1 самалёт быў змушаны скінуць бомбы ўсляпую. Абарона: Ажыўленая работа пражэктара і зенітны агонь у раёне цэлі. На поўдні горада 2 загараджальных аэрастата на вышыні 3000 м". (29)

**/25.07.1941/**
1-ы авіяполк 55-й бамбавальнай авіядывізіі пакідае аэрадром Баяры і вяртаецца на Украіну. Увечары немцы здзейснілі яшчэ адзін начны авіяналёт на Маскву. (27). Частка III./KG 55 здзейсніла налёт на г.Драгабуж. Вытрымкі з Журнала баявых дзеянняў III./KG 55: "25.7.41. Барысаў. Баявая задача №78, 4-ая баявая задача 'М'. Заданне: Напад на Драгабуж (Dorogobusch) (120 км усходней Смаленска). Лік машын: 2. Бомбавая нагрузка: 4 SC 250, 16 SC 50, 32 BSK. Старт: 17.12-17.13, прызямленне: 19.25-19.35. Час нападу: 18.19, вышыня 2200 м. Надвор'е над цэллю - 1/10 на вышыні 2000 м. Вынік: Бомбы скінуты ў цэнтры горада і выклікалі пажары. 1 бомбай SC 250 разбураны бункер. Пажары распаўсюджваюцца па ўсім горадзе. Абарона: Паўднёвей цэлі лёгкая супрацьпаветраная абарона". (29)

**/26.07.1941/**
Здзейснены чарговы начны авіяналёт на Маскву. (27)
Частка III./KG 55 здзейсніла налёт ізноў у раён г.Драгабуж. Вытрымкі з Журнала баявых дзеянняў III./KG 55: "26.7.41. Барысаў. Баявая задача №79, 5-ая баявая задача 'М'. Заданне: Калоны на шашы Драгабуж-Вязьма. Лік машын: 2. Бомбавая нагрузка: 64 SD 50. Старт: 17.20-17.22, прызямленне: 19.55-20.00. Час нападу: 18.20-18.30, вышыня 2000 м. Надвор'е над цэллю - 1/10 на вышыні 2000 м. Вынік: Умераны рух невялікіх транспартных калон, назіраліся пакінутыя транспартныя сродкі ў лясах. Атакаваліся калоны з 10 транспартных сродкаў. Абарона: 4 знішчальніка I-16 "Пацук" (Rata I-16), 1 знішчальнік атакаваў над тэрыторыяй, занятай нашымі войскамі. У раёне паўночней і ўсходней Драгабужа размешчаны зенітныя гарматы. Назіраўся 1 парашут на вышыні 1000 м у раёне Аляксеева (Aleksew)". (29)

**/27.07.1941/**
Бамбавік юнкерс Ju-88A-5 з II./KG 3 "Blitz" быў падбіты агнём савецкай СПА (супрацьпаветранай абароны). Пілот – камандзір 5-й эскадрылліСтаршылейтэнантРудольфГюль (Rudolf Guhl) – загінуў пры скачку з парашутам.
Частка III./KG 55 здзейсніла налёт у раён г.Ельня. Вытрымкі з Журнала баявых дзеянняў III./KG 55: "27.7.41. Барысаў. Баявая задача №80, 6-ая баявая задача 'М'. Цэль: Войскі ў пералесках у раёне Ельні. Лік машын: 4. Бомбавая нагрузка: 96 SC 50. Старт: 13.20-13.22, прызямленне: 15.45-16.00. Час нападу: 14.00-14.10, вышыня 2000 м. Надвор'е над цэллю - 1/10 на вышыні 2000 м. Вынік: Паспяхова здзейснены бомбавы ўдар у раёне цэлі па асобным грузавым аўтамабілі на шашы Ельня-Марчаткаў (Jelna - Marchetkow). Абарона: адсутнічала.
Уласныя войскі пазначалі сябе стральбой белымі ракетамі і акуратна разасланымі сцягамі са свастыкай". (29)

**/28.07.1941/**
Частка III./KG 55 (дзве пары бамбавікоў) здзейсніла налёт у раён г.Рагачоў. Вытрымкі з Журнала баявых дзеянняў III./KG 55: "28.7.41 Барысаў. Баявая задача №81, 7-ая баявая задача 'М'. Цэль: Войскі і артылерыйскія пазіцыі ў пералесках у 3 км ад Рагачова (Rogatschew). Лік машын: 2. Бомбавая нагрузка: 64 SC 50. Старт: 10.22-10.22, прызямленне: 11.40-11.50 Надвор'е над цэллю - бясхмарна. Вынік: У перыяд з 11.10 да 11.15 цэлі былі атакаваны з вышыні 1500-1700 м з добрым вынікам. Варта лічыць знішчанымі 10-15 гарматаў. Затым былі падвергнуты бамбаванню войскі. Абарона: Зенітныя гарматы на паўднёвай ускраіне Рагачова.
28.7.41. Барысаў. Баявая задача №82, 8-ая баявая задача 'М'. Цэль: Артылерыйскія пазіцыі 1 км паўночней Рагачова, пазіцыі пяхоты ўсходней і паўднёва-усходней Рагачова. Лік машын: 2. Бомбавая нагрузка: 64 SC 50. Старт: 14.25-14.27, прызямленне: 15.58-16.00. Час нападу: 15.00-15.10, 1500-1700 м. Надвор'е над мэтай - бясхмарна. Вынік: Бомбы скінуты на цэлі. Яны знішчылі артылерыйскія і пяхотныя пазіцыі. Абарона: адсутнічала. Наш прызямліўшыся самалёт G1+GA выяўлены ў 1 кіламетры ад Капланаўкі (Kaplanowka) на шашы Бабруйск-Магілёў. Экіпаж цэлы. Побач з машынай нашы войскі". (29)
У авіяналёце прымалі ўдзел і іншыя бамбавікі з 55-ай і 53-яй бамбавальных авіядывізій.
На наступны дзень камандуючы 2-ім Паветраным флотам Люфтвафэ А.Кесельрынг палічыў неабходным пісьмова выказаць лётчыкам з KG 55 і KG 53 падзяку за тое, што яны, нягледзячы на меўшы быць увечары таго ж дня налёт на Москву, замест адпачынку здзейснілі бамбаванне пазіцый савецкіх войскаў пад Рагачовам.
Камандзір III./KG 55 Кюль (Kühl) пасля падзякі Кесельрынга дапісаў ад сябе (пераклад з нямецкай мовы – Мікалай Антонавіч Рамановіч, настаўнік Дакудаўскай школы): "Спадару капітану Бісмарку, III./KG 55. Я рады выказаць вам удзячнасць камандуючага Паветраным флотам за вылеты 28.7, знайсці магчымасць перадаць яе адначасова вашым экіпажам і абслуговаму персаналу" (29)
Здаецца, капітан Бісмарк быў камандзірам эскадрыллі з 3-га авіяпалка KG 55, якая ў дадатак да 1-га і 2-га авіяпалкой была накіравана ў падпарадкаванне 2-га Паветранага флоту і базавалася ў Барысаве.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

**/29.07.1941/**
Па адным бамбавіку з III./KG 55 прымала ўдзел у налётах на Маскву і чыгуначную станцыю Бранск. Вытрымкі з Журнала баявых дзеянняў III./KG 55: "29.7.41 Барысаў. Баявая задача №83, 9-ая баявая задача 'М'. Цэль: Масква-Крэмль. Лік машын: 1. Бомбавая нагрузка: 4 SC 50, 16 BSK. Старт: 19.47, прызямленне: 0.08. Час нападу: 22.00, вышыня 3800 м. Надвор'е над цэллю - бясхмарна, пахмурна? Вынік: Пры адлёце ад цэлі назіралася выкліканае бамбаваннем пажарышча. Пазней узнікалі яшчэ пажары ў рысе горада. Вызначыць дакладнае палажэнне не ўяўлялася магчымым. Абарона: Начны знішчальнік, не атакуючы, страляў гарызантальна трасавальнымі кулямі. Затым адкрыла агонь зенітная артылерыя. Моцны зенітны агонь па ўсіх вышынях. Пражэктар.
29.7.41. Барысаў. Баявая задача №84, 10-ая баявая задача 'М'. Цэль: Вакзал Бранск. Лік: 1, старт 19.20, прызямленне: 22.00. Бомбавая нагрузка: 32 SC 50. Час нападу: 20.30, вышыня 2500 м. Надвор'е над цэллю - бясхмарна. Вынік: Бомбы патрапілі ў стаячы таварны састаў. Пасля бамбавання вялікія выбухі. Назіраліся 2 буйныя пажары. Абарона: лёгкі і сярэдні зенітны агонь у раёне цэлі". (29)

**/30.07.1941/**
Па адным бамбавіку з III./KG 55 прымала ўдзел у налётах на бранецягнік і чыгуначную станцыю Арол. Вытрымкі з Журнала баявых дзеянняў III./KG 55: "30.7.41. Барысаў. Баявая задача №85, 11-ая баявая задача 'М'. Цэль: Бронецягнік у 15 км заходней Пціччы (Ptitsch). Лік: 1, старт: 11.45, прызямленне: 13.40. Бомбавая нагрузка: 32 SC 50. Час нападу: 12.50, вышыня 1400 м. Надвор'е над цэллю - 5/10 кучавое воблака. Вынік: 3 бомбы на чыгунач-


Пікіруючы бамбавік
Юнкерс Ju-87D

ным палатне перад бронецягнікам. Ён усё ж накіраваўся ў зваротным напрамку. Абарона: дрэнны зенітны агонь, з бронецягніка.

30.7.41. Барысаў. 86. Баявая задача 86, 12-ая баявая задача 'М'. Цэль: Вакзал Арол. Лік: 1, старт: 18.50, прызямленне: 22.55. Бомбавая нагрузка: 32 SC 50. Час нападу: 20.20, 3200 м. Надвор'е над цэллю - бясхмарна. Вынік: Бамбаванне цэлі выклікала 3 вялікіх пажары. На тэрыторыі станцыі ў 20.32 назіраўся вялікі выбух. Запальныя бомбы скінуты на тэрыторыі вакзала, справа і злева ад яго. Абарона: адсутнічала". (29)

У гэты ж дзень запісы у Журнале баявых дзеянняў III./KG 55 былі завераны камандзірам палка капітанам Хайнрыхам Вітмерам (Heinrich Wittmer). Больш запісаў аб баявых задачах з кодам 'М' у Журнале няма. Верагодна, што на наступны дзень частка III./KG 55, што базавалася ў Барысаве, пераляцела да асноўных сіл палка на Украіну (Жытомір).

**/___.08.1941/**

Аэрадром Дакудава (па нямецкіх даных аб месцах базавання авіячастак Люфтвафе) становіцца на працягу жніўня-верасня базай для большай часткі 1-й дывізіі пікіруючых бамбавікоў StG 1 (Sturzkampfgeschwader 1), што мела на ўзбраенні самалёты "юнкерс Ju-87R", які з-за шасі (колаў), што не ўбіраліся падчас палёту, атрымаў ў чырвонаармейцаў мянушку "лапцёжнік" (гл. сілуэты самалёта). (06). Але інфармацыя аб стратах самалётаў са складу StG1 сведчыць аб тым, што, хутчэй за ўсё, Дакудава было базай для двух авіяпалкоў дывізіі толькі на працягу некалькіх дзён жніўня, бо некаторыя самалёты былі страчаны на аэрадромах Сешча (Бранская вобласць) і Шаталава (Смаленская вобласць). На нямецкай крцэ-схеме добра бачна, якія аэрадромы ад Смаленска да Бранска выкарыстоўвалі немцы (гл. карту-схему).



Аэрадромы з узлётна-пасадкавай паласой і аэрадромнымі збудаваннямі ад Смаленска да Бранска:
№1, №2 - Смаленск (Smolensk)
№3 - Бароўскае (Borowskoje)
№4 - Шаталаўка (Schatalowka)
№5 - Сешча (Seschtscha)
№6 - Алсуф'ева (Olsufjewo)
№7 - Бранск (Brjansk)

Магчыма, таксама, што аэрадромы на тэрыторыі Расіі выкарыстоўваліся першапачаткова толькі ў якасці так званых аэрадромаў падскоку, а базавым аэрадромам заставаўся аэрадром Дакудава. Таксама цалкам верагодна, што часткі StG 1 з'явіліся на аэрадроме Дакудава яшчэ ў ліпені. У кнізе П.Ч.Сміта "Пикирующие бомбардировщики: История пикировщика. Пикировщики над джунглями", напрыклад, гаворыцца: "Люфтваффе имели ограниченное количество самолетов и наземного персонала, которым приходилось постоянно двигаться вперед, чтобы не отстать от армии. Например, II/StG.I и III/StG.I 25 июня действовали на линии Вильно – Березовка, а 29 июня они уже находились в 150 милях оттуда, в районе Молодечно – Барановичи. Еще через неделю пришлось совершать новый прыжок на 150 миль, чтобы действовать на фронте Лепель – Докудово. Следующий большой прыжок к 21 июля привел их на линию Сураж – Демидов, чуть западнее Смоленска и Брянска. За месяц пикировщики передвинули свои базы примерно на 360 миль". (30)

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

На аэрадроме Дакудава знаходзіліся:

штаб дывізіі, якім кіраваў – палкоўнік Вальтэр Хаген (Walter Hagen); на фотаздымку – штабны самалёт авіядывізіі (апошнія літары АА) за два месяцы да яго з'яўлення на аэрадроме Дакудава.


Штабны самалёт StG1 бартавы нумар A5-AA май 1941 года


Эмблема II/StG1
Эмблема III./StG1


Эмблема 4 (II)./StG1
Эмблема 5 (II)./StG1
Эмблема 6 (II)./StG1



**ВАЛЬТЭР ХАГЕН -** начальнік штаба 1-й дывізіі пікіруючых бамбардзіроўшчыкаў у перыяд 22.06.40-15.03.43. Апошняе званне – генерал-маёр. Нарадзіўся 16.03.1897 у г.Кіль. Памёр 24.11.1963 у г.Кіль.



**АНТОН/ТОНІ КАЙЛЬ -** камандзір 2-га палка StG 1. 19 жніўня 1940 г. за паспяховыя дзеянні супраць англійскага флоту капітан Кайль быў узнагароджаны Рыцарскім Крыжом. Загінуў 29.08.1941 падчас баявога вылету.



**ІАГАН ЗЕМСКІ -** камандзір 2-га палка StG 1 з 01.09.41. па 04.02.1942. Пасля 300 баявых вылетаў Земскі быў узнагароджаны Рыцарскім Крыжом. У ліпені 1942 г., калі яго група дзейнічала ў раёне Сталінграда, Земскі здзейсніў ужо свой 500 баявы вылет. Пры гэтым у 400 вылетах у якасці яго бортрадыста-стрэлка лётаў фельдфебель Отто Вольф. Капітан Земскі загінуў 28.08.1942 г. падчас свайго 601-го баявога вылету, калі яго Ju-87D быў збіты ў раёне Сталінграда. Пасмяротна быў узнагароджаны Дубовым Лісцем да Рыцарскага Крыжа.

БІЯГРАФІЧНЫЯ ЗВЕСТКІ:

**ПЕТЕР ГАСМАН** - камандзір 2-га палка StG 1 з 19.09.41. Узнагароджаны Рыцарскім Крыжом 25.05.1942 г., да гэтага часу на яго рахунку было 24 танка, 39 гармат, 9 мастоў. Усяго выканаў звыш 800 баявых вылетаў. Памёр 06.09.1965 г.

**ХЕЛЬМУТ МАЛЬКЕ -** камандзір 2-га палка StG 1да 19.09.41. 31 мая 1941 г. група "юнкерсаў" на чале з Мальке атакавала ў Міжземным моры вялікі карабель. Мальке, які ішоў першым, пачаў выразна адрозніваць вялікі сцяг Чырвонага Крыжа, замацаваны на палубе карабля. Ён неадкладна загадаў сваім пілотам спыніць напад. Як высветлілася, гэта было шпітальнае судна, на борце якога знаходзіліся параненыя англійскія салдаты і афіцэры. З 22 чэрвеня 1941 г. III./StG 1 удзельнічала ў баях на Ўсходнім фронце. Ужо на працягу першых трох тыдняў баёў Мальке быў тройчы збіты за лініяй фронта ў размяшчэнні савецкіх войскаў. Двойчы ён сам вяртаўся да сваіх, пераходзячы лінію фронта. На трэці раз, 8 ліпеня, ён быў цяжка паранены і яго вывезла з-за лініі фронта адмысловая пошукавая група. 16 ліпеня 1941 г. у палявым шпіталі ў Барысаве капітану Мальке быў уручаны Рыцарскі Крыж. 6 верасня ён вярнуўся ў строй, але ўжо 19 верасня 1941 г. перадаў камандаванне палком капітану Петеру Гасману (Peter Gasmann). Канец вайны ён сустрэў у званні падпалкоўніка. Мальке патрапіў у палон у СССР і быў вызвалены толькі ў 1947 г. У 1955 г. Мальке ўступіў на службу ў ваенную авіяцыю ФРГ, дзе ён



даслужыўся спачатку да звання адмірала флота - камандуючага марской авіяцыяй, а потым да генерал-лейтэнанта – камандуючага паўночнай групоўкай ВПС ФРГ.

2-гі полк (II./StG 1), якім кіраваў да 29.08.41 - капітан Антон Кайль (Anton Keil), а з 01.09.41 - капітан Іаган Земскі (Johann Zemsky);
3-ці полк (III./StG 1), якім кіраваў да 19.09.41 - капітан Хельмут Мальке (Helmut Mahlke), а з 19.09.41 - маёр Петэр Гасман (Peter Gasmann). Эмблемы 2-га і 3-га авіяпалка StG 1, а таксама эбмлемы ўсіх трох эскадрылляў 2-га палка прадстаўлены на малюнках (стар. 133).

**/01.08.1941/**

У выніку атакі савецкага знішчальніка быў пашкоджаны (на 15%) бамбавік з 5-й эскадрыллі II./KG 3 "Blitz".

**/02.08.1941/**

Не вярнуліся з баявога задання ажно тры бамбавікі з 8-й эскадрыллі StG1, што базаваліся на аэрадроме Дакудава. Агнём савецкай зенітнай артылерыі былі збіты:

- у раёне Варашылава, на усход ад чыгуначнай станцыі Стадолішча "юнкерс Ju-87R-2" – бартавы нумар J9+AK; прапалі без вестак члены экіпажа: пілот камандзір 8-й эскадрыллі обер-лейтэнант Гюнтэр Скамбракс (Gunther Skambracks), борт-стралок унтэр-афіцэр Р. Хельбергер (Hellberger);

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

- у тым жа месцы "юнкерс Ju-87R-2" – бартавы нумар J9+CK; прапалі без вестак члены экіпажа: пілот лейтэнант Ф.Штамер (Stahmer), бортрадыст яфрэйтар К.Фармер (Farmer);
- у раёне Лзуны вымушаную пасадку здзейсніў самалёт "юнкерс Ju-87R"; аб лёсе экіпажа звесткі адсутнічаюць; самалёт страчаны поўнасцю.
Таксама не вярнуўся з баявога задання (раён Ратчына) бамбавік "Юнкерс Ju-87R-2" з 5-й эскадрыллі StG 1.
Штаб авіяпалка StG 1 страціў адразу два самалёты:



**Старт нямецкіх пікіруючых бамбавікоў "Юнкерс" Ю-87 ("Штукас") з палявога аэрадрома ў Савецкім Саюзе, 1941г.**

- на аэрадроме Сураж з-за памылкі пілота быў пашкоджаны на 40% "Месершміт Bf-110E-3";
- агнём зенітнай артылерыіі быў пашкоджаны, а пры вымушанай пасадцы разбіўся "Месершміт Bf110E-3"; абодва члены экіпажа атрымалі раненні.
Бамбавік "юнкерс Ju-88A-5" з 6-й эскадрыллі II./KG 3 "Blitz" у выніку атакі савецкага знішчальніка быў вымушаны зрабіць пасадку на фюзеляж. Самалёт быў прызнаны пашкоджаным на 50%.

**/04.08.1941/**

Два самалёты страціў II./KG 3 "Blitz":
- бамбавік "юнкерс Ju-88A-5" з 6-й эскадрыллі у выніку атакі савецкага знішчальніка быў прызнаны пашкоджаным на 80% і не падлягаў аднаўленню;
- агнём зенітнай артылерыіі быў пашкоджаны "юнкерс Ju-88A-6" з 4-й эскадрыллі; самалёт зрабіў пасадку на фюзеляж; чатыры члены экіпажа атрымалі раненні. Самалёт быў прызнаны пашкоджаным на 40%.

**/06.08.1941/**

Па загадзе начальніка кіравання савецкай дальняй бамбавальнай авіяцыі камандзіру 3-га авіякорпуса у 20:00 было загадана сіламі трох бамбавікоў здзейсніць бамбаванне аэрадромаў Крупкі і Дакудава, на якіх базаваліся нямецкія авіячасткі: "Уничтожить самолеты противника на аэродромах Борисов, Крупки, Донудово [памылка: трэба чытаць - Дакудава], Барановичи, Слепянка, Мачулище. Первый удар – по аэродрому Барановичи с высоты 6500–7000 м одним звеном в 17.30 6.8.41г., по остальным аэродромам – пятнадцатью самолетами ДБ-3 в 20.00-20.10 6.8.41 г. с высоты 6500–7500 м. На каждый аэродром – три самолета, задача – уничтожить самолеты противника" (31)
Ці было сапраўды бамбаванне аэрадрома Дакудава менавіта ў гэты час, вызначыць пакуль не атрымалася. Але дакумент сведчыць аб тым, што на аэрадроме Дакудава ў гэты час дыслакавалася нямецкая авіяцыя і гэта было не малакалькаснае злучэнне, хутчэй за ўсё - далёкабамбавальнае!
Пад Оршай у выніку бамбавання быў лёгка пашкоджаны (на 10%) "юнкерс Ju-88A-6" з 4-й эскадрыллі 2-га палка 3-яй бамбавальнай авіядывізіі II./KG 3 "Blitz". Гэта сведчыць аб тым, што полк выкарыстоўваў не толькі базавы аэрадром Баяры (або Дакудава), але і аэрадромы Аршанскага вузла або ужо цалкам перабазаваўся пад Оршу.

**/08.08.1941/**

Не вярнуліся з баявога задання два бамбавікі з 6-й эскадрыллі StG 1:
- савецкі знішчальнік падбіў "юнкерс Ju-87R-2", які пілатаваў капітан Іаган Земскі – будучы камандзір II./StG 1; І.Земскі быў паранены;
- атрымаў баявыя пашкоджанні, якія прывялі да поўнай страты самалёта, "юнкерс Ju-87R-1" (бартавы нумар 6G+MT); быў паранены пілот унтэр-афіцэр Фішэр (Fischer S.), борт-радыст унтэр-афіцэр Клаус (Klaus A.) прапаў без вестак;
У раёне населенага пункта Слабада здзейсніў аварыйную пасадку "юнкерс Ju-87R-2" з 5-й эскадрыллі StG 1. Самалёт быў значна пашкоджаны (на 80%).
Пад Вязьмай быў збіты бамбавік "юнкерс Ju-88A-5" з 4-й эскадрыллі II./KG 3 "Blitz". Экіпаж у складзе чатырох чалавек быў прызнаны прапаўшым без вестак.

**/10.08.1941/**

У ноч на 11 жніўня нямецкая авіяцыя здзейсніла апошні буйны налёт на Маскву. У налёце меркавана маглі ўдзельнічаць і самалёты з II./KG 3 "Blitz", якія базаваліся на аэрадроме Баяры: "Последний крупный налет Люфтваффе на Москву состоялся в ночь с 10 на 11 августа 1941 г. По советским данным в нем участвовало около ста бомбардировщиков в двух волнах. Главные силы из 80 самолетов шли четырьмя группами через Вязьму, Гжатск, Можайск. Оставшиеся 18-20 машин летели со стороны Сычевки на Волоколамск. В налете вероятнее всего, участвовали экипажи из KG 55 и III./KG 26. По немецким данным, соединение из 83 бомбардировщиков He-111 вели лидеры из KGr.100.
При подходе к линии световых прожекторных полей самолеты набрали высоту 6000-7000 м, а у зоны огня зенитной артиллерии начали планировать с приглушенными моторами. К городу прорвалось 12 самолетов, из них 5 - к центру. Основной целью налета были аэродромы и авиазаводы в пригородах, на которые сбросили 49 фугасных и 14 000 зажигательных бомб.
В сложных метеоусловиях основная нагрузка при отражении налета легла на зенитчиков. Они доложили о восьми уничтоженных самолетах, из которых немцы признали потерю двух, в том числе лидера - He-111H (No. 6937) из KGr.100". (32)

**/12.08.1941/**

У раёне населенага пункта Гарадзец (Городец) у выніку паветранага тарану, які здзейсніў савецкі лётчык, быў збіты "юнкерс Ju-87R-4" з 4-й эскадрыллі StG 1 (бартавы нумар 6G+BR). Прапаў без вестак борт-радыст оберфельдфебель Лоас (Loos L.)

**/13.08.1941/**

У выніку налёту савецкіх бамбавікоў на аэрадром Шаталава (Шаталово) ў 60 км на паўднёвы ўсход ад Смаленска каля чыгуначнай станцыі Энгельгардтаўская быў значна пашкоджаны (на 60%) "юнкерс Ju-87R-2" з 8-й эскадрыллі StG 1. У наступны тыдзень аварыйную пасадку на аэрадроме Шаталава здзейснілі яшчэ два самалёты з 3-га авіяпалка StG 1. Гэта значыць, што 3-ці полк StG 1 пераляцеў з аэрадрома Дакудава на аэрадром Шаталава не пазней за 12.08.1941.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

**/14.08.1941/**

На аэрадроме Баяры здзейсніў вымушаную пасадку і быў накіраваны для рамонту на завод самалёт "месершміт Bf-109F-2" з 5-й эскадрыллі 51-й знішчальнай авіядывізіі (базай усёй JG 51 у перыяд 05.08-18.09.1941 з'яўляўся Смаленск, куды авіядывізія пераляцела з Быхава). Дадзены выпадак таксама сведчыць аб тым, што Баяры і Дакудава маглі выкарыстоўвацца і самалётамі з тых авіязлучэнняў, для якіх месцамі дыслакацыі лічыліся іншыя аэрадромы. Магчыма, знішчальнікі 5./JG 51 ажыццяўлялі паветранае прыкрыццё бамбавікоў "хейнкель He-111H" з II./KG 55, якія базаваліся на аэрадроме Баяры і ажыццяўлялі рэйды на Маскву.

**/15.08.1941/**

З-за памылкі пілота на аэрадроме Баяры разбіўся самалёт "хейнкель He111H-6" з 4-й эскадрыллі KG 55. Увесь экіпаж у складзе чатырох чалавек загінуў.

**/16.08.1941/**

2-гі авіяполк 55-й бамбавальнай авіядывізіі (II./KG 55) пераляцеў з аэрадрома Баяры ў Жытомір.

**/23.08.1941/**
У раёне населенага пункта Тарковішча (Терковище) няўдалую вымушаную пасадку здзейсніў “юнкерс Ju-87R-1” з 6-й эскадрыллі StG 1; самалёт быў цалкам страчаны.

**/24.08.1941/**
У раёне населенага пункта Шарпізоўка (Шарпизовка) няўдалую вымушаную пасадку здзейсніў “юнкерс Ju-87R-2” з 3-га авіяпалка StG 1; самалёт быў цалкам страчаны.
У трох кіламетрах на поўнач ад Лоева агнём зенітнай артылерыі быў збіты “юнкерс Ju-87B-1” з 7-й эскадрыллі StG 1; самалёт быў цалкам страчаны; прапалі без вестак унтэрафіцэры пілот А.Райнбольд (Reinbold) і бортстралок Б.Яскульскі (Jaskulski).

**/27.08.1941/**
На аэрадроме Сешча (Сеща) ў выніку сутыкнення з перашкодай пацярпеў “юнкерс Ju-87R-2” з 8-й эскадрыллі StG 1 (самалёт быў пашкоджаны на 40%).

**/28.08.1941/**
4-я эскадрылля 2-га авіяпалка 3-й бамбавальнай авіядывізіі “Blitz” страціла два самалёты:
- не вярнуўся з баявога задання ў раёне Арол-Сухінічы бамбавік “юнкерс Ju-88A-4”. Экіпаж у складзе чатырох чалавек быў прызнаны прапаўшым без вестак;
- пры пасадцы ў раёне Оршы сутыкнуўся з зямлёй і быў пашкоджаны на 10% “юнкерс Ju-88A-4”.

**/29.08.1941/**
У выніку атакі савецкага знішчальніка ў раёне Баева (Баево) - Тарапец (Торопец) быў збіты “юнкерс Ju-87R-2” (бартавы нумар 6G+AD) з 2-га авіяпалка StG 1. Пілот (камандзір палка) капітан Тоні Кайль і борт-радыст фельдфебель В.Кнорф (Knorf W.) загінулі.
/30.08.1941/
2-гі авіяполк 3-й бамбавальнай авіядывізіі “Blitz”страціў два самалёты:
- на аэрадроме Шаталава ў выніку аварыі пры ўзлёце атрамаў пашкоджанні (50%) “юнкерс Ju-88A-4” са штабу палка. Значыць, полк да гэтага дня канчаткова перабазаваўся з аэрадрома Баяры на аэрадром Шаталава (Смаленская вобласць);
- бамбавік “юнкерс Ju-88A-4” атрымаў цяжкія пашкоджанні (50%) ад агню савецкай зенітнай артылерыі.

**/31.08.1941/**
На аэрадроме Сешча (Сеща), вяртаючыся з баявога вылету, аварыйную пасадку здзейсніў “юнкерс Ju-87R-2” (пашкоджаны на 60%) з 4-й эскадрыллі StG 1.

**/06.09.1941/**
Агнём зенітнай артылерыі быў нязначна пашкоджаны “юнкерс Ju-87R-4” з 4-й эскадрыллі StG 1; борт-радыст обер-яфрэйтар Х.Паўле (Pawle H.) быў паранены.

**/07.09.1941/**
2-гі авіяполк StG 1 страціў тры бамбавікі:
- у раёне населенага пункта Ноўгарад-Северскі (Новгород - Северский) здзейсніў аварыйную пасадку “юнкерс Ju-87R-4” (пашкоджаны на 60%);
- каля населенага пункта Оптава (Оптово) здзейсніў аварыйную пасадку з-за выхаду са строю рухавіка “юнкерс Ju-87R-2” (пашкоджаны на 20%);
- у раёне населенага пункта Сасновіца (Сосновица) агнём зенітнай артылерыі быў нязначна пашкоджаны (на 10%) “юнкерс Ju-87B-1”.

**/08.09.1941/**
У раёне населенага пункта Пачэпа (Почепа) агнём зенітнай артылерыі быў пашкоджаны і здзейсніў вымушаную пасадку Ju87B-1 (пашкоджаны на 50%) з 2-га авіяпалка StG1.
Як бачна са статыстыкі баявых стратаў 1-й дывізіі пікіруючых бамбавікоў StG 1, злучэнні, якія, па дакументах, базаваліся на аэрадроме Дакудава, выкарыстоўвалі аэрадромы, якія знаходзіліся значна далей.

**/___.___.1942?/**
Пакуль не атрымалася знайсці аніякіх дакументальных звестак про тое, што ў перыяд з кастрычніка 1941 года па сакавік 1944 года на аэрадромах Дакудава і Прыяміна (Баяры) на пастаяннай аснове знаходзіліся якія-небудзь злучэнні Люфтвафе.
Але, па словах мясцовых жыхароў, якія, праўда, ў той час былі яшчэ дзецьмі, самалёты на аэрадромах Дакудава і Прыяміна (Баяры) амаль увесь гэты час базаваліся нямецкія самалёты.
**Антонава (дзявочае прозвішча па-руску – Шестак) Ева Аляксееўна,** 15.02.1928 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Баяры – запісана 24.09.2010: “Сразу, як немцы прыйшлі, многа самалётаў было. І тады мы хадзілі, дзеці, туды, на аэрадром. І яны, немцы, нас пускалі. Там стаялі такія длінныя, як скамейкі, на жалеззі, на двух пруцьях стаялі. І на гэтых скамейках ляжалі нейкія шары красныя, і да іх правады былі падключаны ўсякія. І тады мы паглядзелі – ну ж, дзеці – взялі павыразалі… На нас ніхкто вніманія не абрашчаў: хадзілі, круцілі, у рукі бралі – нічога на нас ніхто не крычаў. Тады мы давай рэзаць правады гэтыя. Шары красныя, і там правады ад іх. А што там было – не зналі. Там і красныя правадкі, і зялёныя – усякія. І вот мы взялі – і паабразалі гэтыя правады. Ну, а тады ўжэ, як мы паабразалі гэтыя правады і пабралі з сабой – будзем рэзаць на карАлі (украшэнія), тады ўжэ не сталі пускаць. Паставілі ахрану – і тады не сталі нікога на аэрадром пускаць. А гэта мы, малыя, усё дзелалі: паабразалі, паабразалі – і ўсё! А для чага гэта было – мы не зналі. Бальшых самалётаў не было такіх, малыя былі – істрэбіцелі нямецкія. Самалёты нямецкія ўсё врэмя тут былі ў вайну. Можа штук дваццаць было. К канцу вайны ўжо і бальшыя самалёты станавіліся”.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

**Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна**, 1933 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Дакудава, – запісана 15.09.2011: “Немцы былі ў 41-ым гаду. А патом яны выехалі – і не было іх. Па-мойму, іх ужэ не было да зімы”.
Хадасевіч Тамара Міхайлаўна, 1922 г.нар., ураджэнка і жыхарка в.Брышча – запісана 09.04.2010: “Нас переселили в Докудово в 38-ом. У самого аэродрома мы поселились: где липы сейчас растут. Отсюда и аэродром начинался – может, метров 100-200 от дома было. А нас немцы повыгоняли из хат и жили мы в землянках. И в нашем доме располагался склад карт – картотека. И заведующий картотекой был немец – в форме, но невооружённый”.
Таксама ў адным з артыкулаў, прысвечаных дзейнасці закінутай у маі 1942 года ў нямецкі тыл савецкай дыверсійнай групы пад кіраўніцтвам Р.Я.Сарокі, у склад якой уваходзіла Клаўдзія Міларадава, маюцца ўскосныя пацверджанні таго, што аэрадром Дакудава ў 1942 годзе актыўна выкарыстоўваўся нямецкай авіяцыяй: “Разведка окрестностей, минирование, боевые стычки с мелкими груп-

пами фашистов – всё это совершала Клавдия обычно вдвоём, втроём, иногда группой. Но с конца мая у неё началась серьёзная работа в одиночку... Поселилась разведчица в Орше... Связным к ней прикомандировали местного подпольщика Антона Березко, смелого, знавшего всю округу. Клавдия и Антон вели визуальную и агентурную разведку в районах Орши, Шклова, Копыся, Кохановки. В Докудово особо свирепствовал предатель, полицейский Бельчик. Вместе с партизанами Иваном Орловским и Виктором Костюкевичем они взорвали дом карателя. Собирали сведения о времени вылетов самолетов «Юнкерс-88» и «Хенкель» на бомбежку". (33)

Сапраўды, калі ў Дакудава і маглі ў той час знаходзіцца часткі Люфтвафе, то гэта павінны былі быць, улічваючы даволі вялікую адлегласць ад лініі фронту, менавіта бамбавальныя злучэнні. А "Юнкерс-88" і "хенкелі" – гэта менавіта бамбавікі!

А Іван Арлоўскі, па дакументах, сапраўды быў прызваны ў партызаны разведгрупай Заходняга фронту ў 1942 годзе.

Аб тым, што аэрадром Дакудава падчас акупацыі быў дзейным аэрадромам сведчыць і той факт, што ў двух кіламетрах на поўнач ад яго, на полі каля в.Восава, быў створаны ілжывы аэрадром.

**Лясун Сяргей Арцёмавіч,** 28.02.1932 г.нар., ураджэнец в.Бутэлеўшчына (1,5 км на паўнач ад в.Восава) і жыхар в.Дакудава – запісана 20.06.2010: "У Восаве ложны аэрадром быў. Што была? Акваdrачана - вродзе аэрадром. Нічаго там не была. Поле і сталбы, на сталбах фанары – і гарыць. І тады нада ж немцам ноччу гнаць станцыю *(вырабляць святло – заўвага аўтара).* Прыходзяць у Восава партызаны – разам з немцамі гарэлку пап'юць, і да свідання – і пайшлі. Іх не трогалі. Сур'ёзна! Хацкевіч Уладзімір Яфімавіч расказваў. Ён жа ў партызанах быў".

**Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна** – запісана 15.09.2011: "У Восаве на полі пражэктар стаяў".

Вось яшчэ некаторыя факты, якія дазваляюць зрабіць пэўныя высновы аб тым, што абодва аэрадромы актыўна выкарыстоўваліся немцамі ў гэты перыяд.

Напрыклад, немцы дазвалялі мясцовым жыхарам, якія мелі яшчэ да вайны савецкія пашпарты, выкарыстоўваць іх у якасці дакументаў, які сведчаць асобу іх уладальнікаў: на адной са старонак пашпарта акупацыйныя ўлады проста ставілі сваю пячатку. На пячатцы быў надпіс "Dienststelle * Feldpostnummer L 10729" ("Службовая інстанцыя * Нумар Палявой Пошты 10729") (гл. фотаздымак старонкі савецкага пашпарта).



Нямецкая пячатка з нумарам L10729 у савецкім пашпарце жыхаркі Дакудава

Гэты нумар належыў камендатуры авіяцыйнай базы (Fliegerhorst-Kommandantur).

У Дакудаве, па расказах мясцовых жыхароў, сапраўды была нямецкая камендатура. Таму можна лічыць, што аэрадром Дакудава пэўны час меў статус базавага аэрадрома (авіябазы).

**Дайнека Леанід Феафілавіч** – запісана 17.04.2010: "У нас был пятистенный дом. И вот его немцы облюбовали под комендатуру. Во-первых, дом уже в то время был обоями обклеен. В половине, которая к улице – комендатура, а во второй – охрана, наряд был. Фельдфебель, переводчик и комендант. Фельдфебель и переводчик жили в доме постоянно, а комендант приходил, но не жил здесь.... Запісана 17.03.2011: "У фельдфебеля, наверное, были выделяемые солдаты - наряд. По очереди присылали солдат в наряд. Этот наряд приходил на сутки, и он сутки находился в первой половине дома, а комендатура находилась во второй половине дома. У них тут на полу стоял ручной пулемёт такой на ножках. Форма-то у них, у комендатуры, была лётная. Сколько я ни видел офицеров, они все были в одной и той же форме". Запісана 14.06.2010: "На месте нынешней школы стояла немецкая полевая кухня офицерская. Переводчик коменданта в первый раз дал мне записку, по которой мне выдали еду для переводчика. Потом давали безо всяких записок. Котелок был с вкладышем – для первого и второго блюда. А солдатская полевая кухня стояла на выгоне напротив Адама – там росли несколько лип и три дуба".

Камендатура, якой належыў гэты Feldpostnummer L 10729, на працягу вайны мяняла сваю назву: спачатку яна называлася Fliegerhorst-Kommandantur E 3/I, а з 11.04.1944 стала называцца Fliegerhorst-Kommandantur E 257/III.

Камендантамі былі: маёр Георг Райхельт (Georg Reichelt) – у перыяд 21.03.1941-01.05.1942, капітан Вальтер Хайнрых (Walter Heinrich), – у перыяд 01.05.1942-12.06.1942, маёр Эрых Брэер (Erich Breyer), 12.06.42 - 01.04.1944.

Вядома, што адным з месцаў знаходжання камендатуры падчас вайны (з кастрычніка 1941 па верасень 1943) быў Бранск.

## АЭРАДРОМ ДАКУДАВА

Такім чынам, у Дакудава гэтая камендатура магла быць або ў ліпені-кастрычніку 1941, калі аэрадром актыўна мог выкарыстоўвацца для падтрымкі наступаючых нямецкіх армій, або ў верасні 1943 – чэрвені 1944, калі пасля Курскай бітвы фронт наблізіўся да Беларусі.

Засведчанне асобаў мясцовых жыхароў праз запіс і пячатку ў савецкіх пашпартах магло адбыцца, здаецца, адразу пасля пачатку акупацыі, г.зн. летам 1941 года, але больш верагодным падаецца, што гэта было зроблена тады, калі пасля паразы пад Масквой дакудаўскаму аэрадрому магло быць нададзена стратэгічнае значэнне як аэрадрому, які знаходзіцца непадалёк ад лініі фронту, мае добрыя шляхі забеспячэння і амаль дабудаваную узлётна-пасадкавую паласу і аэрадромную інфраструктуру.

Нажаль, у саміх пашпартах не пазначана,



Подпіс бургамістра і пячатка абшары Нача ад 10.06.1942 ў савецкім пашпарце жыхаркі Дакудава

калі быў пастаўлены штамп камендатуры авіябазы, але ў пашпартах маюцца штампы мясцовай ("абшара Нача") акупацыйнай улады з датамі, самая ранейшая з якіх – 10 чэрвеня 1942 года (гл. фотаздымак адпаведнай старонкі савецкага пашпарта).

Маюцца і іншыя ўскосныя пацверджанні таго, што дадзеная камендатура авіябазы знаходзілася ў Дакудаве ў 1943-1944 гадах.

У 2010 годзе ў Інтэрнеце на адным з іспанскіх сайтаў, які спецыялізуецца на продажы ваен-



Самаробныя партсігары з выявай эмблемы люфтвафэ і з надпісамі "1943 Бранск" і "1944 Дакудава"

нага антыкварыяту, былі выстаўлены на продаж два самаробныя партсігары з выявай эмблемы люфтвафэ і з надпісамі "1943 Бранск" і "1944 Дакудава". Але суправаджальная інфармацыя на англійскай і іспанскай мове была аднолькавая: "Папяросніца Люфтвафе. Выразана з дрэва, у Дадукава (памылка: трэба Дакудава), на Рускім Фронце, 2-я сусветная вайна. Прыгожы ўзор траншэйнага (акопнага) мастацтва, з выразаным арлом" (гл. фотаздымкі).

Таму нельга выключыць, што ў Дакудава была пераведзена тая ж самая камендатура авіяцыйнай базы! Пацверджаннем таму, што так яно і магло атрымацца, можа быць той факт, што ў Дакудаве як раз у гэты час з'явіліся некалькі жанчын і мужчына з Бранску, якія супрацоўнічалі падчас акупацыі з немцамі і пакінулі яго разам з нямецкім падраздзяленнем. Такім падраздзяленнем, зразумела, не магла быць вайсковая часць, а вось адміністрацыйная, кшталту камендатуры авіябазы, магла!

Перад вызваленнем Дакудава гэтыя бранскія людзі таксама сышлі з немцамі.

Той факт, што партсігары былі выстаўлены на продаж на іспанскім сайце, дазваляе вылучыць яшчэ адну цікавую версію аб тым, што аэрадром Дакудава некаторы час у 1943 або 1944 годзе мог выкарыстоўвацца 15-й іспанскай знішчальнай эскадрылляй 51-й нямецкай знішчальнай авіядывізіі (15(Span.)/JG 51).

Магчыма, адзін з лётчыкаў не вярнуўся з баявога задання і яго асабістыя рэчы, у тым ліку і партсігар, былі адасланы на радзіму – у Іспанію. Вядома, што 21.10.1943 у 15 км ад Оршы (!) загінуў іспанскі лётчык лейтэнант Энрыке Парэха Нуньес (Enrique Pareja Núñez), які меў на сваім рахунку адну паветраную перамогу на Усходнім фронце. А ў лістападзе 1943 таксама пад Оршай (!) пацярпеў катастрофу самалёт, якім кіраваў іспанскі лётчык лейтэнант Фернанда Санчас-Архона Куртой (Fernando Sánchez-Arjona Courtoy), на рахунку якога было 9 паветраных перамог – чацвёрты паказчык сярод іспанскіх пілотаў, што ваявалі на Усходнім фронце.

Дарэчы, менавіта ў перыяд 10.1943-12.1943 аэрадром Орша з'яўляўся месцам базавання ўсіх трох палкоў 51-й знішчальнай авіядывізіі, што ваявалі на савецкім фронце. Аэрадром Дакудава ў гэты час мог выкарыстоўвацца ў якасці запаснога (або як перадавая база іспанскай эскадрыллі), які знаходзіцца да палка бліжэй, чым Бабруйск, які са снежня 1943 па 26.03.1944 лічыўся афіцыйнай базай эскадрыллі.

Дарэчы, вяртаючыся да надпісу "Бранск" на адным з партсігараў, варта заўважыць, што Бранск быў асноўным аэрадромам базавання 15-й іспанскай знішчальнай эскадрыллі у 1943 годзе (іншыя базы – Арол, Сешча/


Іспанскія лётчыкі з 15 (Span.)/JG51 (4-ты склад) са сцягам эскадрыллі

Сешчынская) (34). На ўзбраенні эскадрыллі знаходзіліся знішчальнікі Fw-190A (35). Усяго эскадрылля мяняла свой асабісты склад пяць разоў. Менавіта чацвёрты склад быў на фронце ў перыяд 07.1943-01.1944. (гл. фотаздымак). Але прыляцелі яны ў Берлін (верагодна, з Усходняга фронту) толькі 28.02.1944. Пяты склад у лютым 1944 года атрымаў загад перавучвацца на "месершміты Bf-109 G-6", але паваяваць не паспеў (36).

Таксама верагодна, што партсігары маглі належыць і застаўшымся ў жывых лётчыкам, механікам або іншым ваеннаслужачым з 15(Span.)/JG 51.

## АЭРАДРОМ ДАКУДАВА

Дакладна невядома, калі нямецкая авіяцыя пачала актыўна выкарыстоўваць аэрадром Дакудава. Некаторыя мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што нямецкія самалёты базаваліся на аэрадроме ўвесь час.

Але больш верагодна, што аэрадром падчас 1942 года выкарыстоўваўся эпізадычна як прамежкавая пляцоўка пры пералётах з тылу да лініі фронта і ў адваротным напрамку, а таксама на ім маглі базавацца авіязлучэнні, задачай якіх была барацьба з партызанамі.

**Цяцерскі Мікалай Якаўлевіч,** 1919 г.нар., ураджэнец і жыхар в.Дакудава, – запісана 18.03.2010: "Там запраўляюць бомбамі самалёт, а патом з ангара запраўлены самалёт выкатывалі сюда наружу. І самалёт планіравался на парцізан. Запраўлен быў мінкамі такімі працівапехотнымі".

**Хадасевич Валянцін Міхайлавіч,** 1938 г.нар., ураджэнец і жыхар в.Брышча – запісана 15.05.2010: "Грузили они целыми автомобилями листовки, без бомб, - на партизан. И начиналась листовка: уничтожайте жидовско-коммунистическое правление, переходите на нашу сторону, получите паёк, обмундирование...

Немецкий самолёт с работающими двигателями я видел с кузова машины, но очень близко. Суетились вокруг него немецкие техники, бегали с линейками, замеряли длину языков пламени из цилиндров. Потом регулировали".

Дайнека Леанід Феафілавіч – запісана 14.06.2010: "Немцы разрешали пасти коров на аэродроме. Но после того, как сгорело три самолёта по неизвестной причине – всё: пасти коров запретили".

**Дыка Павел Іванавіч,** 1927 г.нар., ураджэнец і жыхар в.Вялікія Жаберычы, – запісана 14.05.2010: "Самолёты стояли немецкие: ис-

требители, штурмовики и бомбардировщики. Ещё называли «рама» самолёт – специальный разведывательный: он пролетит, съёмку сделает, через несколько часов летят бомбардировщики бомбить этот объект. У-2 (лёгкие, кукурузники) у немцев были: прилетает их-ний начальник, по аэродрому бегает, кричит, подгоняет «Работать!»... Как в 1941 захватили немцы, так всю войну самолёты стояли на аэродроме... Всё время аэродром действовал. Все объекты до Смоленска, даже наверное, и дальше, бомбили с этого аэродрома".

**/___.03?.1942/**

Верагодна, менавіта пасля паражэння пад Масквой немцы вырашылі аднавіць аэрадром Дакудава.

Для будаўніцтва аэрадромаў у кожнай паветранай акрузе (Luftgau) у немцаў існавалі спецыяльныя будаўнічыя батальёны - Luftwaffen-Bau-Bataillon. Кожны будбат Люфтвафе складаўся звычайна з трох рот. Будбаты абазначаліся парадкавым нумарам і нумарам дадзенай паветранай акругі, напрыклад: Luftwaffen-Bau-Bataillon 1./VIII – гэта 1-ы батальён 8-й паветранай акругі, які, дарэчы, дзейнічаў у раёне Оршы. Некаторыя з батальёнаў на працягу 1943 года былі пераўкамплектаваныя ваеннапалоннымі, у іх засталося толькі некалькі немцаў. У парадкавы нумар такога батальёна дадавалася злева лічба 1, а пасля нумару паветранай акругі ў дужках дадавалася літара К (Kriegsgefangenen – ваеннапалонныя), напрыклад: 33-і будбат Люфтвафе 11-й паветранай акругі (Luftwaffen-Bau-Bataillon 33./XI) пасля пераўкамплектавання стаў абазначацца як Luftwaffen-Bau-Bataillon 133./XI (K).

На паўночным ускрайку вёскі Дакудава недзе ў другой палове 1942 года немцы ўстроілі лагер для ваеннапалонных.

**Хадасевич Валянцін Міхайлавіч** – запісана 15.05.2010: "Мама видела сон вещий – один к одному, что случилось, - что Докудов опутан кроснами (нитками, чтобы ткать), в один слой - весь Докудов. А половина Докудова, тот конец, сильнее опутан – вот там потом и колючка была, концлагерь". Запісана 09.04.2010: "Концлагерь появился вроде в 42-ом".

Дайнека Леанід Феафілавіч – запісана 17.04.2010: "Во время оккупации немцы достроили бетонку, наверное, с конца 42 – 43 год. В первый год оккупации у нас не было немцев вообще. Достроили аэродром. Это был современный по тем временам аэродром. Бетонка, в лесу ангар. Там понастроили в этом лесу бог знает чего!"

**Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна** – запісана 15.09.2011: "У 42-ым нас немцы выгналі з хат. Аграждзеніе ў зоны ўжо было, а пленных яшчэ не было. Аграждзеніе – два рады з провалакі калючай. Паміж радамі – метра паўтара. Нас пад восень выселілі: бульбу капалі – ўжо ў Жаберічах самі жылі. А гэты канец, дзе зона, раньшэ выселілі. Гэта іюль-аўгуст, таму што пажатае зярно было, у снапах на полі стаяла".

Лагер займаў плошчу ў 3-4 гектары. Палонныя жылі ў бараках. Была кухня, бункеры, ахоўныя вышкі. Лагер быў абнесены двайным радам калючага дроту, які мацаваўся на металічных слупах. У лагеры знаходзілася больш за дзве сотні полонных, якіх немцы выкарыстоўвалі на работах па будаўніцтву аэрадрома, а таксама на іншых работах у наваколлях (напрыклад, упарадкаванне лясной дарогі Дакудава – Вялікія Жаберычы).

**Дыка Павел Іванавіч** – запісана 14.05.2010: "Пленные работали на аэродроме: бетонировали аэродром. Камнедробилка работала. Строили пленные этот ангар, что на поле. Там была взлётно-посадочная полоса такими плитами как сотовые ячеёки с мёдом. И было выложено ровненько. Пленные выложили из брёвен и дорогу через лес на Большие Жаберичи. Бревно к бревну. Хорошая, крепкая была дорога. Советские танки по ней прошли на Докудово".

**Хадасевіч Тамара Міхайлаўна** – запісана 09.04.2010: "Те пленные, что были за проволокой, их гоняли на дорогу, на аэродром, закапывать ямки, убирать осколки, поправлять дорогу".

Але лагер у Дакудава не ўзгадваецца ні ў адным з пералікаў лагераў для ваеннапалонных, нават у беларуска-нямецкім даведніку, які быў выдадзены ў Мінску ў 2004 годзе "Лагеря советских военнопленных в Беларуси. 1941–1944"!

Вядома пакуль што прозвішча толькі аднаго савецкага ваеннапалоннага: Букін Каліна Маркавіч (Букин Калина Маркович), які нарадзіўся ў 1909 годзе ў в.Вялікая Уса (Большая Уса) Усінскага раёна Молатаўскай (зараз – Пермскай) вобласці; пражываў да прызыву ў в.Полазна (Полазна) Дабранскага раёна Молатаўскай вобласці; служыў у 222-й стралковай дывізіі; 27.09.1941 пад г.Ельня Смаленскай вобласці трапіў у палон. Прайшоў праз лагеры для ваеннапалонных на станцыі Сешча/Сешчынская, Дакудава, Барысаў, Франкфурт, Вальдорф. 28.04.1945 быў вызвалены амерыканскімі войскамі, 18.06.1945 трапіў у савецкі фільтравальны лагер, 19.10.1945 прайшоў дзяржправерку і быў "уключаны ў спіс №1". (37) Каго ўключалі ў спіс №1 – здраднікаў, якіх належала рэпрэсаваць, або людзей, з якіх былі знятыя абвінавачванні, – высветліць пакуль не ўдалося.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў Сешчы таксама знаходзіўся буйны нямецкі аэрадром! Таму нельга выключыць, што чырвонаармеец Букін, трапіўшы ў палон, знаходзіўся не проста ў шталагу (Stalag – лагер для ваеннапалонных радавога і сяржантскага складу), але ў складзе будаўнічага батальёна Люфтвафе, які спачатку базаваўся у Сешчы, а потым у Дакудаве! Тады можна зразумець, чаму аб лагеры ў Дакудаве адсутнічаюць звесткі як аб шталазе.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

Наяўнасць у Дакудаве камендатуры авіябазы Fliegerhorst-Kommandantur E 3/I таксама сведчыць на карысць гэтай версіі!

Выкарыстоўвалі немцы пры абслугоўванні а дабудове аэрадрома і працу мясцовых жыхароў з Дакудава і навакольных вёсак.

Варановіч Александра Рыгораўна, 1929 г.нар, жыхарка в.Дакудава, – запісана 2008: "Нас, детей и подростков, немцы стали вербовать на работы. Помню, ходили полоть их овощи на огороды. Потом ходили на аэродром возле деревни, где были насыпаны кучи песка и щебёнки. Мы должны были грузить эти материалы на машины. Распоряжался нами во время работы немец".

Дыка Павел Іванавіч – запісана 14.05.2010: "Где-то с 43-го стал я работать на аэродроме. Было овощехранилище выкопано. И там нас заставляли работать – перебирать овощи: капусту, моркву, бураки. Все эти продукты были заготовлены – собирали от населения... Каждый день мы на работу на аэродром ходили. Староста наш Хаританович Пётр Иванович собирает нас, завозит, сдаёт в комендатуру, там нас принимают. Он домой, а нас или на машину посадят и на аэродром завезут, или пешком погнали. Охранник немец, и поляк был тоже. Заставляли работать: землю перевозили – где подсыпать надо, подровнять, укатать, лишняя где земля – вывезти. На Иголовку вывозили в

лес. Коня нам для этого давали".

Было ў Дакудаве і невялікае падраздзяленне власаўцаў, якіх мясцовыя жыхары называлі "народнікі". Іх таксама немцы прыцягвалі для работ на аэрадроме.

**Хадасевич Валянцін Міхайлавіч** – запісана 09.04.2010: "Власовцев было, наверное, с полсотни".

**Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна** – запісана ў 2009 годзе: "На месцы дома Клячкоўскага Аляксандра (ці недзе побач) жылі народнікі".

Хадасевич Анатоль Уладзіміравіч, 1930 г.нар., ураджэнец і жыхар в.Нявераўшчына, запісана ў 2010 годзе: "Народники жили в Докудово. Такой Бекташев был власовец".

Хадасевіч Тамара Міхайлаўна – запісана 09.04.2010: "Которых я в партизаны из народников отвела – Николай, шофёром у немцев работал на аэродроме, и его друг Семён. Они не из тех пленных, что за проволокой были, а те, кто в немецкой одежде у немцев работал - власовцы. Но они работали без оружия. Оружие им только давали, когда они шли на охрану железной дороги. А власовцы жили не за проволокой, а в каком-то там отдельном доме или сарае. Но тоже их замыкали на ночь".

Працавалі на аэрадроме і вольнанаёмныя, а можа, і прымусова мабілізаваныя, палякі. Барабанава (Хадасевіч) Марыя Прохараўна – запісана 15.09.2011: "Палякі тут жылі, у немцаў робілі на аэрадроме. Жылі ў нашым таку яны. Немцы – у ёўні, а палякі ў таку. Іх было чалавек 10. Мы прыехалі жыць у зямлянку – яны ўжэ тут жылі. І дажэ яны ездзілі ў водпуск – адпускалі гэтых палякаў. Кавальчук быў. Слівінскій. А так быў Франак звалі. А адзін паехаў, як толькі водпуск яму далі, і не вярнуўся. А гэты Слівінскі маме сказаў, каб шынэль мама ўкараціла яму. І мама спрасіла: а дзе ...польскае імя, забылася. А ён гавора: ён пайшоў у парцізаны. А гэтыя прыехалі. У 43-ім яны тут былі. А тады ўжэ перад самым адступленнем яны паехалі. Як адступалі немцы, так і яны адступілі, гэтыя палякі. Яны работалі на аэрадроме. Без аружыя хадзілі. Свабодныя яны былі. Гэты Кавальчук у Жаберычы хадзіў к дзяўчыне... І мяне бярэць з сабой. Як толькі ў лес – мяне бярэць на рукі – а я ўжо ж бальшая была – і перад сабой мяне нёс, як шчыт".

**/14.12.1942/**

Не вярнуўся з баявога задання – паветранае прыкрыццё на самалёце Ла-5 савецкіх войскаў ў раёне г.Белы (Белый) - лётчык 169-га знішчальнага авіяпалка старшы сяржант Сяргей Паўлавіч Ляўша.

С.П.Ляўша – нарадзіўся ў в.Ігрушка Крупскага раёна у 1922 годзе. Пасля школы вучыўся ў Мінскім педагагічным вучылішчы, а ў 1940 годзе паступіў у Батайскую авіяшколу (Растоўская вобласць). Камсамолец (білет №1637538) з 1938 года. Бацькі – Павел Фаміч і Вера Яфімаўна - атрымалі апошняе пісьмо ад сына 10 чэрвеня 1941 года.

169-га знішчальны авіяполк – гэта той самы авіяполк, што 23-26 чэрвеня 1941 года базаваўся на аэрадроме Прыяміна, а з 1-га па 4-е ліпеня 1944 года базаваўся на аэрадроме Дакудава, але ўжо пад назвай "63-і гвардзейскі знішчальны авіяполк"!

**/___.07?.1943/**

Магчыма, летам-восенню 1943 года на аэрадроме Баяры (Прыяміна) базаваўся або выкарыстоўваў яго штаб 4-га палка бліжней разведкі Люфтвафе (Stab./NAGr. 4 – Nahaufklärungsgruppe 4).

Эмблема палка – "пікіруючы" арол з мячом у кіпцюрах (гл. малюнак).


Эмблема NAGr 4

Камандзірам палка ў ліпені быў маёр Тоні Вінек (Toni Vinek), яго з 13.8.43 змяніў маёр Фрыдрых-Вільгельм Калер (Kahler), які загінуў 06.01.1944 пад Смаленскам падчас выканання баявога задання на "месершміце Ме 109 G-6". (38) Усяго на баявым рахунку Ф.В.Калера было 7 паветраных перамог 9усе – на Усходнім фронце). (39)

Але на сайце ww2.dk, які выклікае больш даверу, месцамі базавання штаба NAGr.4 названы ў перыяд 7.43 - 8.43 – Суботава (Subotowo); у перыяд 9.43 - 14.3.44 – Орша, і толькі з 14.03.1944 – Баяры.

**/26.08.1943/**

Са спецпаведамлення ўпраўлення контрразведкі "Смерш" Заходняга фронта № 2/24124, якое датавана 26.08.1943, пра мерапрыемствы па ўкараненні савецкай агентуры ў нямецкі разведвальны орган "Эбер", што дзейнічаў пры 4-й германскай арміі:

«За июнь-август 1943 г. нами арестовано 11 агентов германской разведки, переброшенных со шпионскими заданиями в расположение армий Западного фронта2 агентурно-разведывательной группой-108, именуемой «Эбер», действующей при 4-й германской армии...

Арестованные показали, что они переброшены разведывательным пунктом германской разведки... Пункт возглавляет зондерфюрер Виллер Николай.

В составе разведпункта имеется до 30 агентов, причем по мере выбытия агентуры пункт систематически пополняется за счет вновь завербованных агентов из числа военнопленных, бьших военнослужащих Красной Армии.

Разведывательный пункт ведет работу против армий Западного фронта, собирая разведывательные данные о численности, расположении и вооружении частей Красной Армии, а также о характере воинских грузов и войс¬ковых частей, движущихся по тыловым коммуникациям, с целью выяснения замыслов советского командования»

Начальнікам абвергрупы-108 да канца 1943 г. быў обер-лейтэнант Катэрфельд Юлій Карлавіч, затым лейтэнант Кіфер (Кюфер). Група вяла разведвальную работу ў блізкім тыле савецкіх войскаў Заходняга фронта, праводзіла карныя аперацыі супраць партызан у тылавых раёнах 4-й нямецкай арміі.

З паказанняў захопленых агентаў абвергрупы стала вядома, што афіцэры Кіфер і Кавальскі вербавалі агентуру з савецкіх ваеннапалонных у лагерах ваеннапалонных, у тым ліку і ў лагеры, што знаходзіўся ў вёсцы Дакудава! (40)

Гэты факт дазваляе сцвярджаць, што да чэрвеня 1943 года лагер ваеннапалонных у Дакудаве ўжо дакладна працяглы час існаваў!

**/___.___.1943/**

Месцам базавання буйных авіязлучэнняў аэрадром мог стаць, здаецца, пасля Курскай бітвы ў 1943 годзе.

**Хадасевич Валянцін Міхайлавіч, ___.___._____** г.нар., ураджэнец і жыхар в.Брышча – запісана 09.04.2010: "Меня власовец Коля свозил на аэродром. Я попросил. Он меня свозил к самому самолёту, впритык. И вдруг приходит наверх, где я там лежу в кузове, молодой германец. Он мне раз в спину автомат и ртом – тра-та-




**Нямецкі аэрафотаздымак аэрадромаў Прыяміна и Дакудава**
Зроблены пілотамі 4(F)/14 з вышыні 7200 метраў у 7:45 раніцы 12.07.1944
На аэрафотаздымку пазначаны:
A – аэрадром Дакудава, памеры поля – 1100 на 1000 метраў;
B – станцыя Прыяміна, (лічбай 1 пазначана база забеспячэння);
C – аэрадром Прыяміна, памеры поля – 1250 на 900 метраў;
D – аэрадром Прыяміна-2 (поле каля в.Млёхава), памеры поля – 1200 на 800 метраў;

та. А мне хватило – мокрому. Красивый был самолёт, и я думаю, что это был юнкерс. Стекла было больше, чем металла, на морде. Это юнкерс".

Дыка Павел Іванавіч – запісана 14.05.2010: "Где-то с 43-го стал я работать на аэродроме. Самолётов на нём было полно. Склады бомб ярусами на эстакадах. Склад такой был!"

**/___.___.1944/**

Здаецца, да пачатку 1944 года аэрадром быў ужо цалкам дабудаваны.

Найлепш аб тым, што сабой уяўляў аэрадромны вузел Прыяміна (Баяры) – Дакудава, сведчыць нямецкі аэрафотаздымак, які быў зроблены пілотамі 4-й эскадрыллі 14 палка далёкай разведкі (скарочана – 4(F)/14) з вышыні 7200 метраў у 7:45 раніцы 12.07.1944 – праз два тыдні пасля таго, як аэрадром пакінулі немцы, ратуючыся ад імклівага наступу савецкіх войскаў (гл. фрагмент аэрафотаздымка).

Цікава, што дэшыфроўшчыкі назвалі фотаздымак Flgpl. (скарочана ад Flügerplatz = аэрадром) Dokudowo, а не Прыяміна! Гэта сведчыць аб тым, што дакудаўскі аэрадром у 1944 годзе для Люфтвафе быў ужо асноўным аэрадромам, а прыямінскі – дапаможным. Гэта бачна і па фотаздымку, на якім на аэрадроме Дакудава добра выдзяляюцца узлётна-пасадкавыя палосы, якіх няма на аэрадроме Прыяміна.

Дэшыфроўшчыкі пазначылі на аэрафотаздымку лацінскімі літарамі асноўныя аб'екты, іх межы і ў дадатковых тлумачэннях – іх каардынаты: A – аэрадром Дакудава, каардынаты "25/85 692"; памеры поля – 1100 на 1000 метраў; B – станцыя Прыяміна, каардыната "25/85 697" (лічбай 1 і пункцірам пазначана база забеспячэння, да якой і ад якой адыходзяць чыгуначныя шляхі – таксама пазначаны пункцірам);

C – аэрадром Прыяміна, каардынаты "25/85 689"; памеры поля – 1250 на 900 метраў;

D – аэрадром Прыяміна-2 (поле каля в.Млёхава), каардынаты "25/85 694"; памеры поля – 1200 на 800 метраў.

При аналізе аэрафотаздымка і даследаванні рэштkaў аэрадромных збудаванняў і інфраструктуры, што засталіся дагэтуль, можна вылучыць тыповыя для палявога аэрадрома зоны і элементы (гл.фрагмент фотаздымка з выявай аэрадрома Дакудава).

На фотаздымку добра бачна "няправільная" лінія з белых кропак, што абмяжоўвае аэрадром з паўночна-заходняга боку (аб'ект 1). Не атрымалася вызначыць, што гэта за кропкі. Магчыма – гэта сляды на мястах устаноўкі сігнальных агеньчыкаў. Звяртае на сябе ўвагу крыху больш буйная белая кропка, якая знаходзіцца побач з асноўнай лініяй. Гэтая кропка стаіць як раз насупраць дадатковай узлётна пасадкавай паласы (аб'ект 2). Магчыма – гэта маяк-арыенцір.

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

Асноўная ўзлётна-пасадкавая паласа (аб'ект 3) была забетанаваная. Дадатковая была грунтовая, і толькі яе заходняя частка, пачынаючы ад месца злучэння палос, была, па ўспамінах мясцовых жыхароў, таксама забетанаваная.

Паралельна асноўнай стартавай паласе цягнецца рулявая дарожка (аб'ект 4), уздоўж якой знаходзіліся месцы для стаянкі самалётаў.

У лесе і зараз знаходзіцца кар'ер (аб'ект 5), з якога бралі пясок для будаўнічых мэтаў.

Уздоўж рулявой дарожкі, на ўскрайку леса,

**АСНОЎНЫЯ ЗОНЫ І ЭЛЕМЕНТЫ АЭРАДРОМА ДАКУДАВА** (фрагмент нямецкага аэрафотаздымка ад 12.07.1944)




*1. нявызначаныя аб'екты (меркавана - сігнальныя агні мяжы аэрадрома)*
*2. дадатковая ўзлётна-пасадкавая паласа (УПП)*
*3. асноўная УПП*
*4. рулявая дарожка і месцы стаянак самалётаў*
*5. пясчаны кар'ер*
*6. рамонтна-тэхнічная зона*
*7. зона водазбору*
*8. рамонтны ангар на полі аэрадрома*
*9. зона кіравання палётамі (меркавана)*
*10. жылая зона*
*11. нявызначаныя аб'екты (меркавана - склады гаруча-змазачных матэрыялаў)*
*12. капаніры для самалётаў*
*13. пляцоўка з каменедрабнілкай*
*14. зона захоўвання авіяцыйных бомбаў*
*15. асноўная дарога забеспячэння (выходзіць на шашу Мінск-Масква)*




*Рамонтна-тэхнічная зона і зона водазбору аэрадрома Дакудава*
*(фрагмент нямецкага аэрафотаздымка ад 12.07.1944)*
*Белым колерам вылучаны аб'екты, рэшткі якіх захаваліся на зямлі ў выглядзе ям, паглыбленняў, абваловак, насыпаў. Ад ангара захаваліся фрагменты бетоннай сцяны. Чорныя сілуэты абазначаюць месцы стаянак самалётаў*

знаходзілася рамонтна-тэхнічная зона (аб'ект 6 – гл. фрагмент фотаздымку з накладзенымі на яго аб'ектамі). Да гэтага часу на зямлі захаваліся сляды зямлянак, месцаў устаноўкі палатак, акопы (на выпадак нападу з боку леса), шчыліны для ўкрыцця падчас бамбаванняў.

Ад ангара, дзе рамантавалі самалёты, захаваліся даволі вялікія фрагменты ўсіх трох сценаў (гл. фотаздымкі сцен ангара). Месца, куды (меркавана) заганялі самалёты для прыстрэлкі авіягармат і кулямётаў, а таксама, магчыма, для бягучага тэхнічнага абслугоўвання, абнесена земляным валам 1,5 – 2,0 метры вышынёй; унутры абвалоўкі захаваліся фрагменты двух падмуркаў плошчай па 2 кв.метраў кожны. Асноўныя вадазборныя канавы глыбінёй да аднаго метра збіралі ваду ў два глыбокія штучныя вадаёмы (аб'ект 7). Побач з вадаёмамі знаходзіліся тры стаянкі для аўтамашын. Сабраная вада магла выкарыстоўвацца як тэхнічная (мыццё тэхнікі, ахалоджванне механізмаў, для тушэння пажараў і інш.).

Рамонтны ангар на полі аэрадрома (аб'ект 8) ёсць аналагам ангара, што знаходзіўся ў лесе ў рамонтна-тэхнічнай зоны, але захаваўся лепш: сцены амаль не пашкоджаныя. Мясцовы калгас недзе аж да 2000-га года выкарыстоўваў яго як складскі будынак (гл. фотаздымак).

**Дайнека Леанід Феафілавіч** – запісана 14.06.2010: "Ангар в начале деревни – была мастерская".

**Дыка Павел Іванавіч** – запісана 14.05.2010: "Строился ангар специально для ремонта самолётов".

Меркаваная зона кіравання палётамі (аб'ект 9 – гл. фрагмент фотаздымку з накладзенымі на яго аб'ектамі) знаходзілася на полі, таму ніякіх слядоў ад аэрадромных пабудоў не захавалася, калі не лічыць невялікі фрагмент мураванай сцяны, які належаў меркаванаму цэнтру кіравання і быў ссунуты на ускраек лесу, каб не перашкаджаў сельскагаспадарчым работам на полі.

Жылая зона (аб'ект 10) складалася з дзевяці вялікіх (прыблізна 15 на 25 метраў) баракаў, побач з якімі знаходзіліся шчыліны для ўкрыцця падчас авіяналётаў, месцы для стаянкі аўтамашын, траншэі, якія адыходзілі ад уваходаў у баракі ўглыб леса (для абароны ад пагрозы з боку леса). Кожны барак меў два ўваходы-выхады з супрацьлеглых бакоў.

З успамінаў старшага тэхніка 102-га авіяпалка дальняга дзеяння, які ў ліпені 1944 года базаваўся на аэрадроме Дакудава, Гарнастаева: "На краю аэродрома вдоль опушки леса выстроились крепкие бараки, обшитые внутри оргалитом или прессованным картоном с известью. Полы деревянные, высокие чугунные печи готовы служить в любой мороз. В бараках разместились штаб, кухня и столовая, экипажи. Технический состав, как всегда, когда на всех жилья не хватает, обживает палатки и землянки у стоянок машин". (41) Каля




*Рэшткі ангара ў лесе рамонтна-тэхнічная зона*



*Рэшткі ангара ў полі каля вёскі Дакудава*




*Зона кіравання палётамі аэрадрома Дакудава*
*(фрагмент нямецкага аэрафотаздымка )*
*Белым колерам вылучаны аб'ект, рэшткі якога захаваліся ў выглядзе паглыблення. Чорныя сілуэты абазначаюць месцы стаянак самалётаў і незахаваўшыяся пабудовы (тлустая чорная страла ў верхнім правым вуглу паказвае напрамак на поўнач)*



*Жылая зона аэрадрома Дакудава (фрагмент нямецкага аэрафотаздымка)*
*Белым колерам вылучаны аб'екты, рэшткі якіх захаваліся*

першых сямі баракаў былі створаны укрыцці для аўтамашын. Гэта былі, здаецца баракі, ў якіх жыў лётны склад авіячасткі. Адзін з баракаў (шосты па ліку) крыху выпадаў з агульнай лініі: ён быў пабудаваны далей ад ускрайку леса. Верагодна, гэта была кухня і сталоўка. У апошніх двух бараках, каля якіх месцаў стаянак для аўтамашын не было, знаходзіліся, хутчэй за ўсё, медсанчастка і жылы барак для штабных работнікаў. За баракамі, уздоўж лясной дарогі, знаходзіліся два агромністых (памерам прыблізна 20 на 10 метраў) бліндажы глыбінёй да 3-4 метраў. Верагодна, у іх размяшчаўся штаб авіязлучэння. Каля бліндажоў былі два ўкрыцця-стаянкі аўтамашын. За бліндажамі знаходзілася такіх жа памераў і глыбінёй нявызначаны аб'ект – магчыма, нейкае сховішча, напрыклад, для архіваў, дакументацыі; прадуктаў; рэчаў (гл. фрагмент фотаздымку з накладзенымі на яго аб'ектамі). Далей, у глыбіні леса (метраў 300-400 ад жылой зоны), знаходзілася нешта кшталту складоў (аб'ект 11). Магчыма, гэта былі склады гаруча-змазачных матэрыялаў або патронаў і снарадаў да авіяцыйных пушак і кулямётаў.

Яшчэ далей ад жылой зоны (каля 5000 метраў) знаходзілася зона захоўвання авіябомбаў (аб'ект 14). Іх падвозілі ад базы, што знаходзілася на станцыі Прыяміна, па шашы Мінск-Масква, ад якой у бок дакудаўскага аэрадрома ішла прамая дарога (аб'ект 15). Яе пабудавалі падчас акупацыі. Мясцовыя жыхары называлі яе "цэліванка", бо яна была пракладзена па цаліне. Першы паварот налева ад цэліванкі як раз вёў у зону захавання авіябомбаў. Бомбы захоўваліся ў дабротна зробленых скрынях, якія былі складзены ў штабелі. Паміж імі віхляла дарога, робячы некалькі петляў. Зараз частка гэтай зоны знаходзіцца на калгасным полі, а частка – у лесе. Адзінае сведчанне, якое засталося ад гэтай зоны – дзьве вельмі глыбокія (да пяці метраў) ямы дыяметрам прыблізна 15 метраў, якія засталіся ад падрыву савецкімі сапёрамі ў 1944 годзе пакінутых немцамі пры адступленні авіябомбаў.

Далей "цэліванка" ішла праз вытворчую пляцоўку (аб'ект 13), дзе стаяла каменедрабнілка і дзе выраблялі, верагодна, бетон. Да гэтага часу пасярод калгаснага поля знаходзіцца невялікі холм з рэшткамі бетонных плітаў, звычайных і ўжо пабываўшых у апрацоўцы камянёў (гл. фотаздымак).



*Узгорак у полі на месцы, дзе знаходзілася каменедрабнілка. На дальнім плане - узлесак, дзе знаходзілася жылая зона.*

І нарэшце, на узвышшы каля поля аэрадрома знаходзіліся вялізныя (прыблізна 30-40 метраў у даўжыню і 15-20 метраў у шырыню) шэсць капаніраў – сховішчаў для самалётаў (аб'ект 12). Ад іх не захавалася аніякіх слядоў: зараз гэтая зямля выкарыстоўваецца ў сельскагаспадарчых мэтах.

**/___.___?1944/**

На аэрадроме Дакудава знаходзіцца падраздзяленне франтавой метэаралагічнай разведкі. Дакладны час з'яўлення падраздзялення на аэрадроме Дакудава невядомы: меркавана гэта адбылося ўвесну 1944 года.

У красавіку 1942 падраздзяленне метэаразведкі Wetterflugstellen Wien-Aspern, перамясцілася з Вены на аэрадром Шаталаўка, замяніўшы эскадрыллю Wekusta 26, і стала звацца Wetterflugstelle Shatalovka-Ost. 7 верасня 1943 падраздзяленне метэаразведкі перабазавалася на аэрадром Орша-Паўднёвы (Orhsa-Süd). У чэрвені 1944, ужо знаходзячыся ў Дакудава, падраздзяленне было пераназвана ў Wetterflugstelle 464. У тым жа чэрвені на базе Wetterflugstelle 464 была створана эскадрылля метэаралагічнай разведкі Wekusta 26 (Ost). Таму з высокай ступенню верагоднасці можна лічыць, што падраздзяленне з самага пачатку з'яўлення на дакудаўскім аэрадроме мела на ўзбраенні адзін або некалькі самалётаў.



Дарэчы, усяго падобных падраздзяленняў на Усходнім фронце было яшчэ толькі тры: на Каўказе, каля Кіева і у Запарожжы. (42)

Прагнозы надвор'я – важны складнік паспяховых ваенных дзеянняў (у першую чаргу – авіяцыі і флота). Калі для каротка- і сярэднетэрміновых прагнозаў дастаткова было дадзеных з метэастанцый на тэрыторыі Германіі і найблізкіх краін, то для доўгатэрміновых патрабавалася інфармацыя з досыць аддаленых раёнаў. Такія дадзеныя ў мірны час паступалі з грамадзянскіх самалётаў і судоў гандлёвага флота, а таксама штодня перадаваліся па радыё метэаслужбамі іншых дзяржаў. Але ў ваенны час рэзка ўзрастала значнасць доўгатэрміновых метэапрагнозаў, якія набылі стратэгічны характар. Таму ў метэаслужбе, створанай пры рэйхсміністэрстве авіяцыі (Wetterdienst der Luftwaffe), для збору дадзеных для складання доўгатэрміновых прагнозаў было вырашана сфармаваць адмысловыя эскадрыллі метэаралагічнай разведкі (Wetterer-kundungsstaffel - Wekusta). А бягучую разведку надвор'я ў сваіх сектарах абавязалі весці звычайныя знішчальныя, бамбавальныя ці разведвальныя. эскадрыллі і авіягрупы.

Пры стварэнні эскадрылляў метэаралагічнай разведкі выкарыстоўваўся персанал авіяшкол сляпых палётаў. Гэта было зроблена невыпадкова, паколькі метэаразведчыкам трэба было лётаць у любых умовах надвор'я, у тым ліку пры поўнай адсутнасці бачнасці, арыентуючыся толькі па прыборах.

Да пачатку Другой сусветнай вайны ў Люфт-

вафэ ўжо былі створаны чатыры эскадрыллі метэаразведкі, укамплектаваныя дасведчанымі экіпажамі. Па адной эскадрыллі ўваходзіла ў склад 1-га, 2-га і 3-га паветраных флатоў, і адна падпарадкоўвалася непасрэдна Галоўнаму камандаванню Люфтвафэ. Потым, з пашырэннем зоны баявых дзеянняў, узрасла і колькасць эскадрылляў метэаразведкі. Па стане на лета 1944 года іх было створана 11. Аднак паразы Трэцяга рэйха і скарачэнне плошчы занятых немцамі тэрыторый прывялі да скарачэння колькасці эскадрылляў метэаразведкі. З канца ліпеня 1944 г. паступова пачынае скарачацца іх колькасць, да пачатку 1945 года такіх эскадрылляў засталося ўсяго чатыры.

Першапачаткова ў эскадрыллях метэаразведкі выкарыстоўваліся самалёты Не-111 і Do-17. Затым, пачынаючы з 1941 г., іх паступова замянілі на больш хуткасныя Ju-88 і Ju-188. Для палётаў на невялікія адлегласці, выкарыстоўваліся і самалёты Bf-110.

Як правіла, палёты метэаразведчыкаў працягваліся ад чатырох да дзесяці гадзін, таму на самалётах заўсёды выкарыстоўваліся дадатковыя паліўныя бакі. Часам яны ўзляталі з чатырма тонамі бензіну на борце! Падчас выканання задання экіпажы строга выконвалі прадпісаны маршрут і трымаліся на вышыні 6400 м. Звычайна адно падраздзяленне рабіла адзін вылет у дзень; часам - адзін вылет раніцай, а другі вылет позна вечарам. На працягу палёту сіноптыкі-назіральнікі фіксавалі ўсю візуальную інфармацыю: тып, вышыню і кірунак руху аблокаў, сілу і кірунак ветра, вышыню, на якой пачыналася абледзяненне самалёта, і гэтак далей. Гэта інфармацыя ў зашыфраваным выглядзе неадкладна перадавалася па радыё на камандны пункт эскадрыллі. Пасля вяртання на аэрадром сіноптык пісьмова пацвярджаў свае радыёграмы, пасля чаго яны адпраўляліся з кур'ерам да штаб-афіцэра метэаслужбы. (43)

**/14.03.1944/**

На аэрадром Баяры (з Оршы) пералятае штаб 4-га палка (групы) блізкай разведкі (Nahaufklärungsgruppe 4 – скарочана: Stab/NAGr. 4), а таксама падпарадкаваныя штабу частка 2-ой эскадрыллі палка (2./NAGr. 4) і частка 13-й эскадрыллі 14-га разведвальнага авіяпалка (Aufklärungsgruppe 14 – скарочана: 13./14). Камандзір палка NAGr.4 – маёр Ханс-Ёахім Егер (Hans-Joachim Jäger). У штабе – тры самалёты "Месершміт Bf-109 G-6" (гл. сілуэты самалёта на малюнку).

**/11.04.1944/**

Штаб 4-га палка блізкай разведкі (Stab/NAGr.4), а таксама падпарадкаваныя штабу частка 2-ой эскадрыллі палка (2./NAGr.4) і частка 13-й эскадрыллі 14-га разведвальнага авіяпалка (13./14) пералятаюць з аэрадрома Баяры зноў у Оршу.

**/12.04.1944/**

На аэрадром Дакудава ў якасці пастаяннай базы прылятае з Магілёва 2-я эскадрылля аператыўнай групы 2-й вучэбнай паветранай дывізіі (Einsatzgruppe der 2.Flieger-Schul-Division – скарочана: 2./Einsatzgruppe der 2.FSD). Штаб аператыўнай групы знаходзіўся на аэрадроме Барысаў.

Верагодна, эскадрылля лётала на самалётах Ju-86 (гл. сілуэты самалёта на малюнку), або Ju-88, або Hs-126 (гл. сілуэты самалёта на малюнку) (44); па некаторых даных, камандзір эскадрыллі – старшы лейтэнант Хартман (Hartmann); задача эскадрыллі – барацьба з партызанамі.

**/17.05.1944/**

2-я эскадрылля аператыўнай групы 2-й вучэбнай паветранай дывізіі (2./Einsatzgruppe der 2.FSD) пакінула аэрадром Дакудава (новае месцазнаходжанне - на аэрадроме Барысаў).



Сярэдні бамбавік
Юнкерс Ju-86K



Знішчальнік
Месершміт Ме-109G

**/24.05.1944/**

Пачалася карная аперацыя "Стракаты дзяцел", мэта якой – знішчэнне партызан у лесным масіве паміж ракой Нача і в.Радзіца з улікам таго, што тэрыторыя Крупскага раёна ў выпадку наступлення Чырвонай Арміі станавілася прыфрантавой зонай, а ў 3-5 кіламетрах ад названагаляснога масіва знаходзіўся палявы аэрадром Дакудава. Акрамя таго, у двух кіламетрах ад масіва знаходзілася чыгунка і шаша Мінск-Масква важнейшыя шляхі забеспячэння нямецкіх войскаў на гэтай частцы фронту. У аперацыі прымала ўдзел і авіячастка з Дакудава: «Операция началась под руководством 825-го батальона ополчения и при поддержке авиачасти из Докудова, зенитной части из Дубешни, 559-го армейского конного парка, истребительного взвода местной комендатуры и местного отряда (з данясення аб выніках аперацыі ад 27.05.1944)». (45)

**Надыходзіў чэрвень 1944 года – месяц пачатку аперацыі "Баграціён" і самага насычанага падзеямі перыяду ў гісторыі аэрадромаў Дакудава і Прыяміна...**

**ДАДАТКОВАЯ ДА НАДРУКАВАНАЙ У АЛЬМАНАСЕ "МАЛОЕ ПАЛЕССЕ / 2010" ІНФАРМАЦЫЯ**
аб даакупацыйнай гісторыі аэрадромаў на тэрыторыі Крупскага раёна і падзеях першых двух тыдняў вайны ў небе Крупшчыны



*На апублікаванай у папярэднім выпуску альманаха схеме размяшчэння савецкай авіяцыі перад пачаткам вайны на тэрыторыі Крупскага раёна быў пазначаны толькі адзін падрыхтаваны да прыёму баявых самалётаў аэрадром (або пасадкавая пляцоўка) – Ломская (або Ламская). На схеме было пазначана, што ў Ломскай напярэдадні вайны не знаходзілася аніякіх авіяцыйных злучэнняў, хаця сам аэрадром уваходзіў у вялікую (Полацк, Віцебск, Лепель, Круляўшчызна, Карчы, Ломская) зону базавання авіязлучэнняў, што ўваходзілі ў 12-ю бамбавальную авіядывізію (скарочанае абазначэнне ў вайсковых дакументах – 12 бад).*

У склад 12 бад уваходзілі 5 хуткасных (скорасных) бамбавальных авіяпалкоў (сбап – скоростной бомбардировочный авиационный полк), кожны з якіх складаўся з 5-ці эскадрылляў: 6-ы (месца базавання – Віцебск), 43-ці (Віцебск), 128-ы (Улла), 209-ы (Балбасава, Бяцкое), 215-ы (Смаленск, Траўнікі).

Але ёсць меркаванні лічыць, што на аэрадром Ломская 21.06.1941 года быў цалкам перабазаваны з Віцебску 6-ы сбап. Аб гэтым напісана ў гісторыі авіяпалка: "«...к началу Великой Отечественной войны с германским фашизмом 6 БАП пятиэскадрильного состава 70 БАД находился в лагерях на аэродроме Ломская (Белоруссия). К исходу 21 июня 1941 года полк получил боевой приказ быть готовым к боевым действиям, имея в своем составе 12 самолетов СБ и 32 самолета Р-3" (01). Здаецца гэтай інфармацыі можна цалкам давяраць, хаця на вельмі змястоўным, але, па папярэджанні аўтара, не абсалютна дакладным, сайце "Авиаторы второй мировой" (allaces.ru), прыведзена инфармацыя аб тым, што на пачатак вайны 6 сбап базаваўся ў Віцебску и меў на ўзбраенні 18 самалётаў СБ (з их 2 няспраўных). (02)

Дарэчы, у наваколлях Крупак у чэрвені 1941 года ў лагерах і палігонах на вучэбных зборах знаходзіліся многія вайсковыя часткі. Гэта былі, у першую чаргу, падраздзяленні зенітнай артылерыі, пастаяннае месца дыслакацыі якіх было ў Заходняй Беларусі (з-за чага ў дзень пачатку вайны прымежныя аэрадромы і наземныя войскі не змаглі добра супрацьстаяць налётам нямецкай авіяцыі).

Таксама на тэрыторыі раёна знаходзіліся і авіяцыйныя вучэбныя структуры. Вось што піша ў сваіх успамінах (03) Уладзімір Арсеневіч Пшанко:

**АЭРАДРОМ ДАКУДАВА**

"2 июня 1941 года я был зачислен курсантом в Борисовскую авиационную школу пилотов. У меня лично предчувствия надвигающейся войны не было, но в училище инструктора нам говорили: «Ребята, ваша задача быстрей готовиться, мало ли что произойдет».

Училище находилось в лагерях возле райцентра Крупка. В воскресенье 22 июня мы пошли отдыхать на речку. В 8 часов утра над аэродромом появился У-2 и стал кружиться, пуская красные ракеты. Потом сирена загудела. Мы с реки бегом на аэродром. Я запомнил, что батальонный комиссар училища, с двумя шпалами в петлицах, стоял и плакал: «Началась война». Настрой был такой – быстрее закончить изучение самолета. Чтобы все уже летали на Р-5 и к осени пошли в бой. Разгромим немцев!

Тут же нас стали учить, как стрелять из пулемета, ручного и станкового, на случай нападения на аэродром. Учеба – смех один: «Заряжай, разряжай. Все понял? Молодец! Кто следующий?»... Отступление первых дней войны воспринималось с недоумением. Был такой фильм «Если завтра война», нам, курсантам, крутили его через день. Мы считали, что мы непобедимы! Среди курсантов был сын Павлова (камандуючага Заходняй асобай ваеннай акругай), который тоже пришел курсантом, как и я. И он на третий день из лагеря уехал к отцу в Минск. Уехал – нет и нет его. Появился он на пятый день. Говорит: «Ребята, дело плохо. Немцы вот-вот будут в Минске». И все. Никто его больше не видел... На седьмой день войны поступила команда: «Вечером после ужина построиться. С собой взять только противогаз. Личные вещи привезут потом»... Мы три ночи – днем дороги контролировались немецкими самолетами – шли пешком через Могилев, до Брянска почти 300 км."

БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА



**Уладзімір Арсеневіч ПШАНКО (Владимир Арсеньевич Пшенко) – нарадзіўся 02.01.1923 года ў Беларусі. У сакавіку 1943 скончыў Бежскую авіяцыйную школу (пілот скораснага бамбавіка СБ). Потым скончыў Вышэйшую школу штурманаў у Коршы, якую скончыў у жніўні. У верасні 1943 года быў залічаны ў 16-ы гвардзейскі авіяцыйны далёкабамбавальны полк. Здзейсніў 80 баявых вылетаў, з якіх толькі тры былі дзённыя.**

КРЫНІЦЫ ІНФАРМАЦЫІ


(01) Людмила Захарова – газета “Новый город” – http://www.novygorod.ru/

(02)http://www.allaces.ru/cgi-bin/s2.cgi/sssr/struct/p/bap6.dat

(03)http://otvoyna.ru/pchenko.htm

(04)Боевые операции Люфтваффе: взлет и падение гитлеровской авиации - Воздушное министерство Британии – http://lib.rus.ec

(05)Alfred Price “The Luftwaffe Data Book”, chapter 5 “Composition of the Main Operational Flying Units, 24 June 1941” – http://junebarbarossa.devhub.com/blog/2995-luftwaffe-order-of-battle-for-barbarossa

(06)The Luftwaffe, 1933-45 – http://www.ww2.dk

(07)http:// may1945-pobeda.narod.ru/kniga_pamjati5.htm

(08)Д.Б.Хазанов “1941. Горькие уроки. Война в воздухе” – http://militera.lib.ru/h/hazanov_db2

(09)luftwaffe im focus, №18/2011 - www.luftfahrtverlag-start.de/LiFEdition18Franzoesisch

(10)Кессельринг А. “Люфтваффе. Триумф и поражение», глава 12. Русская кампания до конца ноября 1941 года – http://militera.lib.ru

(11)http://www.testpilot.ru/memo/50/index.htm

(12)http://ru.wikipedia.org/wiki/Коккинаки,_ Константин_Константинович

(13)http://ru.wikipedia.org/wiki/Коккинаки,_Владимир_Константинович

(14)П.М.Стефановский. «Триста неизвестных» – http://militera.lib.ru/memo/russian/stefanovsky/

(15)http://airaces.narod.ru/china/suprun.htm

(16)Известия армянского филиала Академии Наук СССР, № 3, 1943 – basss.asj-oa.am/22/1/1943-3(99).pdf

(17) HTML версия файла http://download.pobeda-info.ru/download.ashx?orderdate=28.11.2011&DocUNC_ID=7863&Token=rxHU/qu6qabXq2zuxPJ4Sw==&PartNum=1&Quality=2.

(18)Гальдер Ф. “Военный дневник. Июль 1941 года” - http://militera.lib.ru/

(19)Соболев Д.А., Хазанов Д.Б. “Немецкий след в истории отечественной авиации” – http://www.airpages.ru

(20)http://www.airwar.ru/

(21)Скрипко Н.С. По целям ближним и дальним. — Воениздат, 1981. – http://militera.lib.ru/memo/russian/skripko/index.html

(22)Гальдер Ф. “Военный дневник. Июль 1941 года” - http://militera.lib.ru/

(23)Экономов Л.А. Капитан Бахчиванджи – http://militera.lib.ru/bio/ekonomov_la – кніга аб выбітным лётчыку-выпрабавальніку Рыгоры Бахчыванджы; у кнізе згадзваецца і Мікалай Фацееў

(24)В.И.Перов, О.В.Растренин. Штурмовик «Ил-2» – http://www.airpages.ru

(25)Александр Заблотский, Роман Ларинцев «Потери Bf-110 на Восточном фронте в 1941 г.» – крыніца па стратах (персаналіях і самалётах)II./SKG210 –http://www.airwar.ru/av2ww.html

(26)1941 год. Потери личного состава Люфтваффе на Восточном Фронте – http://reibert.info/forum/archive/index.php/t-84098.html

(27)”Война в воздухе” He-111. История создания и применения – http://heinkel111.narod.ru/Airwar_hist_text.htm

(28)http://www.blitzgeschwader.de/wbb313/index.php?page=Thread&threadID=47

(29)http://www.yogysoft.de/pawel/3554_03.html

(30)Смит П. Ч. Пикирующие бомбардировщики: История пикировщика. Пикировщики над джунглями – http://militera.lib.ru/h/smith_p1/08.html

(31)Генерал-лейтенант авиации Шабунин А.И. – Организация штурманского обеспечения боевых действий авиации в предвоенный период и в первые месяцы Великой Отечественной войны (22 июня — сентябрь 1941 г.) – http:// ilpilot.narod.ru/ vvs_tsifra/ vvs_2/ index.html

(32)Хазанов Д.Б. Неизвестная битва в небе Москвы 1941-1942 гг. Оборонительный период. - М.: Издательский Дом “Техника-молодежи”, 1999. - С. 18. – цытуецца па http://www.allaces.ru/

(33)А.Н.Никитина “Подпольная деятельность К.А.Милорадовой в Белоруссии” - http://1941-1942.msk.ru/

(34)airaces.narod.ru /spane /spane_dr2.htm

(35) http://allaces.ru/cgi-bin/s2.cgi/ge/struct/istr/jg51.dat

(36)http://www.bf-109.ru/

(37){крыніца – Государственный архив Пермской области. База данных “Военнопленные” – http://www.politarchive.perm.ru/vplen}

(38)http://www.aircrafteresourcecenter.com

(39)http://www.asisbiz.com/Luftwaffe/nagr4.html

(40)Мозохин Олег Борисович. “Органы государственной безопасности СССР в годы Великой отечественной войне” Том4 - Книга вторая (01.07.1943-31.12.1943) – http://mozohin.ru/article/a-162.html

(41)Горностаев Н.М. “Мы воевали на Ли-2”- http://militera.lib.ru/

(42)http://zweiter-weltkrieg-lexikon.de/index.php/Luftwaffe/Sonstige-Einrichtungen-und-Einheiten-der-Luftwaffe/Der-deutsche-Wetterdienst.htm

(43)Самолеты-призраки Третьего Рейха. Секретные операции Люфтваффе – М.Зефиров, Н.Баженов, Д.Дегтев – http://lib.rus.ec/b/167137

(44)http://cgi.ebay.de/Flugbuch-Willy-Ferling-A-B-33-C-20-BFS-5-2-NSGr-9-/320688913514

(45) кніга “Памяць. Крупскі раён”

-- Сілуэты савецкіх і нямецкіх самалётаў узяты з выдання “Памятка разведчику зенитной артиллерии по опознаванию самолётов”, 1944 год - http://www.airpages.ru/mn/scout_00.shtml

-- Інфармацыя аб стратах лётчыкаў Люфтвафе ўзята з сайта “Уголок неба” - http://www.airwar.ru






# Два словы пра сябе



**РАДАВОД** / Уладзімір СЯРГЕЕЎ-САПЕЖЫНСКІ



**Сяргееў Уладзімір Паўлавіч, 1960г.**

*Нарадзіўся я 20 жніўня 1938 года ў горадзе Орша. Бацька мой, Сяргееў Павел Паўлавіч (1911-1943), афіцэр у тэй час служыў у 164 стралковай дывізіі (сд), якая дыслацыравалася ў горадзе Орша. Маці, Балотнікава Агрыпіна Захараўна (1908-2004) працавала галоўным інжынерам камунальнай службы горада.*

Бацька быў родам з вёскі Красноўка на Крупшчыне. Вёска Красноўка даволі маладая, дзед мой, Сяргееў Павел Пятровіч, прыехаў у Красноўку, у ліку першых жыхароў, з вёскі Куты (Крупскі раён). Ён удзельнічаў у Першай Сусветнай вайне, быў паранены, памёр 1958 годзе. Бабуля мая, Макарэвіч Зося, родам з вёскі Замкі (Крупскі раён).

Мае продкі па маці, наколькі можна прасачыць, родам з вёскі Кіявец (Крупскі раён).

У 1940 годзе 164 сд была пераведзена ў горад Камянец-Падольск, туды пераехала ўся сямья. Там жа 10 сакавіка 1941 года нарадзілася мая сястра Зіна.

За тыдзень да вайны дывізія была выведзена з горада на палявыя вучэнні, – туды з’ехаў і бацька. Потым з ім усталявалася перапіска, а ў сакавіку 1943 года прышло апошняе пісьмо. Ён лічыўся бяз вестак прапаўшым да 2008 года, калі ўдалося знайсці весткі аб яго смерці. Памёр у шпіталі 7 жніўня 1943 года, быў пахаваны на кладзішчы сяла Старая Беліца Курскай вобласці. Цяпер яго прозвішча выбіта на брацкім помніку загінуўшым у час ВАВ у г.п. Канышоўка (Курская вобласць).

На паўднёва-заходнім напрамку фронт, у пачатку вайны, некалькі тыдняў быў стабільны, і нас эвакуіравалі толькі ў пачатку ліпеня. Каля году пражылі мы ў гарадку Зімаўнікі Растоўскай вобласці.

Ледзве ўцяклі ад нямецкага наступу на Сталінград улетку 1942 года. Цераз калмыцкі стэп ехалі, на чым прыдзецца, практычна ў парадках адступаючай арміі. Месціліся на калёсах (брычках), якія цягнулі спачатку трактары, потым, валы і нейкі час нават вярблюды. Цераз Волгу нас перавезлі на баржы. Урэшце рэшт атабарыліся ў Алтайскім краі, – 40 км. ад станцыі Рубцоўка, сяло Ягорьеўка, курорт Лебяжы. Там быў шпіталь для хворых ныркамі, маці ўладкавалась на працу рахункаводам (бухгалтарам), спецыяльнасць інжынера-будаўніка яна прыхавала, бо ўжо не было сіл ехаць далей.

У 1944 годзе яна цяжка захварэла (косны туберкулёз правай стапы), і вырашыла паехаць да свайго бацькі на Беларусь.

Прыехалі мы ў Кіявец на акцябрскія святкаванні (7 ці 8 лістапада) 1945 года. У тэй час у нашай (дзедавай) хаце жылі: сам дзед, Балотнікаў Захар Фёдаравіч (1875-1969), бабуля (у дзявоцтве – Багатырова Зінаіда), і цёця Дуся (Бароўская Аўдоцця Захараўна 1900-1969). Сустрэча была са слязьмі, у час акупацыі была расстраляна ў Крупцы дачка дзеда, мая цёця, Маня (справа настаўнікаў) і брат бацькі, Пётра (сярод 103 растраляных у Крупцы). Цёця Дуся даглядала мяне і сястру аж да 1953 года, бо маці доўгі час хварэла, а бабуля ў студзені 1947 года памёрла. Ніколі мы не адчувалі сябе ў адзіноце, бо заўсёды аб нас клапацілася ўся радня.

У 1955 годзе скончыў Абчугскую сярэднюю школу і паступіў у БПІ, на тарфяны факультэт. Па размяркаванню паехаў на Мезінаўскаю фабрыку "Ізапліт". Выбар быў шырокі, многія паехалі ў Прыбалтыку, частка па абласным гарадам Беларусі, некаторыя засталіся ў Мінску, іншыя паехалі на торфапрадпрыемствы. Мяне пацягнула ў Расею, і потым, за час практык я расчараваўся ў "палявых" работах, – мне захацелася працаваць сярод людзей.

Мезінаўская фабрыка "Ізапліт" знаходзілася ва Ўладзімірскай вобласці, на мяжы з Маскоўскай, – пабудавалі яе ў пачатку трыццатых гадоў немцы. Вырабляла яна з торфу пліты, якія ў тэй час карысталіся вялікім попытам на спецбудоўлі.

З удзячнасцю ўспамінаю дырэктара Раманава Мікалай Рыгоравіча, (смаленскі беларус, франтавік, камандаваў стралковай ротай), – ён сваім прыкладам паказаў мне як трэба працаваць і ставіцца да людзей. Вольнага часу амаль не было, прыходзілася шмат працаваць, і шмат чаго цікавага прайшло міма. Пасёлак быў тыповы "сто першы кіламетр", тры чвэрткі рабочых былі былыя вязні. У суседніх вёсках было многа людзей з мастацкімі здольнасцямі – "красілі", у хатах шмат абразоў. Тут, у канцы пядзідзесятых гадоў, працаваў школьным настаўнікам Салжаніцын А.І… Тут я пазнаёміўся з будучай жонкай, Бушуевай Галінай Міхайлаўнай, якая прыязжала ў складзе спецыялістаў, па мадэрнізацыі фабрыкі.



ДВА СЛОВЫ ПРА СЯБЕ



**Злева на права: сястра Зінаіда, жонка Галіна і я, Масква 1976г.**

Ажаніліся, паўстала пытанне дзе жыць. Мне падабалася жыць у Мезінаўцы, неяк схілялася да гэтага і Галіна, але рашуча супраць выступіў мой дырэктар Мікалай Рыгоравіч. Ён сказаў: "Мне шкада цябе адпускаць, але я настойваю, – ад'язжай у Маскву, там ты будзеш мець больш магчымасці знайсці сябе".

На працу я ўладкаваўся ў Навукова-Даследчы Інстытут Дальняй Радыёсувязі, і адразу трапіў у вельмі добры калектыў. Займаўся інтэгральнымі тэхналогіямі, працаваў з цікаўнасцю, увесь час прышлось вучыцца, абараніў кандыдацкую дысертацыю. У маладыя гады я недзе пачуў, што начальніку даецца ўлада над справай, а не над людзьмі. Справы заўсёды хапала, і ў мяне не было імпэту прабівацца наверх. Дзяцей з Галкай у нас не было, да сацыяльнага статусу яна адносілась абыякава. Я нават у партыю не уступіў. Так і быў накшталт мясцовай знакамітасці, – начальнік лабараторыі, кандыдат навук, а беспартыйны.

Цяпер пераважна жыву ў Кіяўцы. Жонцы тут падабаецца, хоць яна і карэнная масквічка, ляціць у Кіявец хутчэй за мяне.

# Сын зямлі беларускай і літоўскай



**ПЕРШАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ** / Ігар ЖУКОЎСКІ


М. Прашковіч, пач. 1970-х.м

*Трагічны лёс нашага земляка Міколы Прашковіча. Вясною 1974 года ён і яшчэ некалькі навукоўцаў – Міхась Чарняўскі, Алесь Каўрус, Сцяпан Міско, Валянцін Рабкевіч, Ляксей Пяткевіч былі рэпрэсаваныя. Фармальна за папулярызацыю артыкула ўкраінскага даследчыка У.Дзюбы "Интернационализм или русификация". Фактычна за беларускае "Адраджэнне". Усе пяцёра былі знятыя са сваіх пасадаў і пазбаўленыя магчымасці друкавацца. З Міколам Прашковічам абыйшліся асаблiва жорстка. Яму, кандзідату філалагічных навук, аднаму з самых дасведчаных спецыялістаў у галіне старажытнай беларускай культуры, дазволілі ўладкавацца на такую працу, якая забяспечывала толькі хлеб і ваду. Безчалавечная сістэма зводзіла з ім рахункі за любоў да беларускай гісторыі і культуры і за сяброўскія адносіны з Ларысай Геніюш, з якой ён быў добра знаёмы. Мікола не раз наведваў гэтыя гасцінны дом у Зельве, дзе жыла пламенная патрыётка.*



На адваротным баку рукой паэткі:
"ДарагомунашамусябруМіколеПрашковічунаўспамін.
Ларыса і Янка Геніуш, Зельва 1973г."


Дарагому нашаму
сябру Міколе
Прашковічу на
успамін
Ларыса і Янка
Геніуш
Зельва 1973г.


**Мікола Прашковіч і Ларыса Геніюш, Зельва 1966-68гг.**


**Янка і Ларыса Геніюшы, Зельва 1973г.**

Тут сустракаліся многія сябры, якія не баяліся трапіць у лік палітычна падазроных для тагачаснага рэжыму. Тут бывалі Міхась Чарняўскі, Алег Трусаў, Уладзімір Арлоў, Зянон Пазьняк, Уладзімір Караткевіч, Данута Бічэль і іншыя. А Міхасю Чарняўскаму яшчэ у 1964 годзе літаратуразнаўца з Акадэміі навук Прашковіч даў рэкамендацыйны ліст да Ларысы Геніюш. У свой час ён жа перадаў Пазняку верш "Зубры", які Геніюш прысвяціла менавіта яму (кніга "Невадам з Нёмана" 1967 год).

Пасля выхаду у свет кнігі "Невадам з Нёмана" сябрам Ларысы Антонаўны падалося, што з яе імя нарэшце знятае табу. Натхнёны гэтымі пераменамі літаратуразнауца-медыявіст Мікола Прашковіч адклаў убок прадмовы і пасляслоўі Францішка Скарыны, напісаў вялікі аглядны артыкул пра творчасць Ларысы Геніюш і занёс у часопіс "Полымя". Там яго доўга чыталі і прапанавалі аўтару ўдвая скараціць тэкст. Прашковіч не адразу згадзіўся. Скарочаны варыянт таксама доўга ляжаў у рэдакцыі, але ў друк ён так і не пайшоў. Аўтар даслаў першапачатковы варыянт артыкула ў Зельву, дзе ён быў ўспрыняты з ўдзячнасцю. Больш за 40 гадоў "Шлях паэта" чакаў сустрэчы і толькі ў 2010 годзе у бібліяграфічным альманаху "Асоба і час" Мн., №3 ён быў надрукаваны. У гэтым выданні маецца шмат матэрыялаў пра нашага земляка, – Міколу Прашковіча.



**М.Прашковіч – настаўнік Сялібскай СШ з вучнямі, 1958-1960гг.**

Нарадзіўся Мікалай Іванавіч у в. Гарадзішча на беразе Беразіны 4 мая 1932 году. У сямьі было пяцёра дзяцей - дзве дачкі і тры сыны. Бацька працаваў на лесасплаве. У адрозненні ад маці (яна працавала ў калгасе) зарабляў грошы, а не "палачкі за трудадні", што давала сямьі магчымасць неяк лепш жыць



**Мікола Прашковіч з бацькам ля роднай хаты. 9.12.1973.**







**Фота 5: народная паэма Тарас на Парнасе, Мн., 1967г. з аўтографам: "За неўстаноўленнага аўтара і ад імя ягонага, і ў дзень нараджэння геніяльнага сына зямлі беларускай М.Прашковіча (і літоўскай – Мікалоюся Прашкавічуся) – мы Рыгор Барадулін, Эдуард Агуновіч, Ул. Караткевіч, Сяргей Вакар… (астатні не чытаецца).**



**На адваротным баку рукой М.Прашковіча:** *"Гардзіцкі, Мушынскі, Гальмакоў, Пшыркоў Ю.С., Тоня Лысенка, Чыгрын, …, Дануся Бічэль, Караткевіч, я, Мальдзіс. У час другога з'езду СП БССР."*

за калгаснікаў. У 1939 годзе пайшоў у першы клас мясцовай гарадзішчанскай пачатковай школы.

Потым была перавозская сямігодка. Сярэднюю адукацыю атрымаў у 1952 годзе ў Сялібскай сярэдняй школе. У тым жа годзе паступіў на аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэту БДУ. На чацьвертым курсе пераведзены на беларускае аддзяленне. Пасля заканчэння працаваў настаўнікам беларускай і нямецкай моў у Смаргонскім раёне. З 1958 па 1960 выкладаў гэтыя ж прадметы ў Сялібскай сярэдняй школе.

З 1960 па 1963 вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры акадэміі навук БССР. Пасля заканчэння – малодшы навуковы супрацоўнік, а з 1969 – старэйшы навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. Першыя публікацыі былі ў 1960 годзе ў ЛІМе "А дзе ж абяцанае". Актыўна друкуецца з 1964 года. Аўтар даследванняў пра Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага. Адзін з аўтараў кніг "450 год беларускага кнігадрукавання", "Нарыс гісторыіі філасофскай і сацыяльнай думкі Беларусі", "Францішак Скарына – беларускі першадрукар" і інш. Перакладаў з украінскай мовы. Пасля разгрому патрыятычнай інтэлігенцыі ў 1974 годзе быў звольнены з Інстытуту літаратуры па абвінавачванні ў беларускім нацыяналізме. Працаваў грузчыкам, потым загадчыкам бібліятэкі. У 1976 годзе – карэктарам рэдакцыі часопіса "Родная прырода". У наступным годзе – карэспандэнтам газеты "Вячэрні Мінск". Па стане здароў'я ў 1982 годзе пакінуў працу, а так як не меў кватэры ў Мінску, пераехаў у родную вёску. 2 лютага 1983 году трагічна загнуў пры пажары, так і не дачакаўшыся перагляду справы. Пахаваны на могілках вёскі Асмолаўка Бярэзінскага раёну[1].

[1]Беларускія пісьменнікі, біяграфічны слоўнік, Мн., 1995, т.5, с.50-51.



**СЫН ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ І ЛІТОЎСКАЙ**

На жаль у пажары згарэла большая частка ўласнай бібліятэкі, ў якой былі рэдкія выданні як дарэвалюцыйнага перыяду, так і 20-30-х гадоў. Засталіся толькі адзінкі з аўтографамі знакамітых пісьменнікаў і дзеячоў культуры (стар. 165).

Таксама зніклі ўласныя архівы і дакументы. Усё, што захавалася, перададзена братам Пятром Іванавічам для будучага краязнаўчага музея.

Усе, хто быў знаёмы з Міколам Прашковічам, успамінаюць яго як чалавека сумленнага, заўжды гатовага прыйсці на дапамогу. Добрыя ўспаміны ёсць у выданні Беларускі біяграфічны альманах. Час і людзі. №3 за 2010 год.

А вось што пісаў пра нашага земляка класік беларускай літаратуры – Уладзімір Караткевіч (фота 6):

"С М. Прашковичем знаком лет, видимо десять. Точнее не помню. Ранее он бывал у меня часто, теперь не бывает, иногда, месяцами. Много помог мне в моей работе над историческими романами, как настоящий текстолог, и, смею сказать, один из лучших в СССР знатоков восточнославянского средневековья.

Прекрасный вдумчивый человек, исключительно добрый, порядочный, отзывчивый к чужой беде человек. Надо ли помочь другому в работе над книгой – его перо тут же. Надо ли помочь семье без хозяина поправить забор – его не надо просить.

Неоднократно был свидетелем этого. Болезненно относится ко всякому проявлению шовинизма, ко всякому неуважительному отношению к белорусскому языку и культуре, и – в этих случаях – может иногда резко высказаться."

Пісаў гэтыя радкі Караткевіч у тагачасным КДБ, калі свядомыя сыны бацькаўшчыны павінны былі характарызаваць адзін аднога. Не ўсе аўтары здолелі захаваць у гэтым "жанры" сябе і пачуццё асабістай годнасці…

м.Бярэзіна 2011.

**Ларыса Геніюш. Зельва, 1969-1971гг.**



# І ў маім жыцьці быў вітабскі перыяд …

*Штрыхі да творчай біяграфіі Алеся Пушкіна па матэрыялах перыядычнага друку 1991-96гг.*

**ГАЗЭТНЫМ РАДКОМ**

**Советская Белоруссия, 1991.** ........................................................................

**АЛЕКСАНДР-ШОУ**

«Пушкин в Витебске» – так, без инициалов (а вдруг – тот самый, поэт?), озаглавлена первая выставка молодого художника, который в недавнюю студенческую пору обрел известность своими шокирующими призывами «За Беларусь без жидов и коммунистов». Тогда, в Минске, выходки Александра Пушкина серьезных последствий для него не имели. Получив достаточно престижное направление на работу в Витебск, честолюбивый юноша уже вскоре вновь мелькнул в милицейских сводках: был задержан со взрывопакетом неподалеку от памятника Ленину. Обошлось…

И вот – попытка «бабахнуть» выставкой. Ее открытие было приурочено к юбилею провозглашения БНР. Церемонию обставили, мягко говоря, нетрадиционно: трубил горнист, девушки водили хоровод, сам герой события явился народу в национальном костюме и соломенном капелюше, сжимая в руке белого голубя. < …>

«Грюнвальдское» полотнище с красным крестом, вывешенное на здании рядом с местом выставки, на какое-то время стало предметом распрей между единомышленниками Пушкина и витебской милицией.

А что же сама экспозиция? Вторичность мысли и формы, плакатная прямота большинства «работ», их явная политизированность напоминали репродукции современного авангарда в «Огоньке».

Он, вероятно, даровит, этот Пушкин, да и педагоги в БГТХИ многое ему дали. Но до настоящего искусства, исповедального, пронизанного скорбью, мудростью, человечностью, путь труден и долог. Не о сиюминутной сомнительной известности, замешенной на претенциозной, эпигонской форме и политических амбициях, надо бы радеть человеку, называющему себя художником. Тот, великий Пушкин, это понимал лучше многих своих современников. < ….>






**Вечерний Минск, 1992 .** ........................................................................

**ВПЕРВЫЕ**

В Доме литератора был отмечен легально День провозглашения Белорусской Народной Республики: 25 марта 1918 года стало вехой в истории. Истории, предопределившей и трагический путь многих ее сыновей.

Поименно называл Василь Быков тех, кто смог подняться над страхом, собственной судьбою. Переполненный зал встал, отдав дань их памяти. В стихах и песнях, звучавших в этот вечер, и выступлениях как бы незримо присутствовали и эти строки Максима Богдановича: "Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня. Поглядзі, як усход разгараецца, колькі ў хмарах залётных агня!"

**ПАРНАС**

Здесь же, в Доме литератора, можно познакомиться с "живописью, инсталляцией и объектами" Александра Пушкина. Есть предположение, что великий поэт проезжал через Витебск. А наш А.Пушкин не только проезжал, но и живет там. В его работах есть и фантазия, и непривычный взгляд на мир, даже некоторая манерность в виде брошенного "адью" в обращении к посетителям своей первой персональной выставки в Минске. Но нет здесь скуки, так что никому зевать не приходится.

**Літаратура і Мастацтва, 1992.**

**"ПУШКІН ЗЬ ВІЦЕБСКУ" - У МЕНСКУ**

Год назад Алесь Пушкін ладзіў у горадзе над Дзвіною выставу пад назовам «Пушкін у Віцебску». А сёлета, 25 сакавіка, у Дзень незалежнасці Беларусі, ён адкрыў выставу ў менскім Доме літаратара – «Пушкін зь Віцебску». На адкрыцці мела месца тэатралізаванае дзейства (перфомэнс).

У ім бралі ўдзел сам мастак, апрануты ў адмысловую світку і капялюш з пяром, Чорны раяль, аголеная мадэлька і жывы певень. Падчас перфомэнса гучала музыка і вершы, гарэлі бенгальскія агні. Адным словам, мастак ужо каторы раз пераконвае гледачоў, што Дзень незалежнасці – гэта неабавязкова «свята са слязамі на вачах», ёсць у жыцці месца радасці.

Колькі слоў пра саму выставу. Часткова яна складаецца з твораў ужо экспанаваных. Скажам, у Віцебску была інсталяцыя-дыпціх «Адзенне Беларусі народнай» і «адзенне Беларусі сацыялістычнай». Першая частка – народны строй з музея, другая – пудзіла «калгасніка». Цяпер гэта – трыпціх, дыпціх дапоўнены голым манекенам жаночага полу, дэкарыраваным аплікацыямі ў выглядзе грашовай купюры (50 р.) і талонаў на харчаванне – «Адзенне Беларусі сучаснай».

Жывапісныя работы Пушкіна з ліку новых, створаных за год, што прайшоў з выставы ў Віцебску, і нідзе дагэтуль не экспанаваных, – у большасці ўспрымаюцца як эскізы (і




такімі фактычна з'яўляюцца) будучых грунтоўных твораў. Відаць, час мастаку пераасэнсаваць сёе-тое са свайго творчага вопыту і не распыляцца на драбязу. Тым болей, што А.Пушкін мае высокую рамантычную мару – зрабіць роспісы і вітражы ў Полацкай Сафіі.

П. Васілеускі

P.S. З выставы невядомымі асобамі ўкрадзена некалькі твораў. Ці не сведчыць гэта аб поспеху мастацтва А.Пушкіна ў гледачоў?

**Молодёжные новости, 1992.**

**ПУШКІН Ў МІНСКУ**

Чарговая выстава маладога беларускага мастака Аляксандра Пушкіна пачалася 25 сакавіка ў Мінску. Дата не выпадковая: 25 сакавіка – Дзень незалежнасці Беларусі.

Мінская выстава мае назву "Пушкін з Віцебска". Даволі нечакана, бо ні для каго не сакрэт, што Аляксандр не нарадзіўся у нашым горадзе, а пераехаў сюды яшче не так даўно. Але, як ён сам кажа, тут збіраецца застацца назаўсёды... З. Вальжына



**Свабода, красавік 1992 .**

**АЛЯКСАНДАР ПУШКІН ШУКАЕ МЭЦЭНАТАЎ**

26-гадовы Аляксандар Пушкін зноў вясяліў публіку, што сабралася 25 сакавіка ў менскім Доме літаратара на сьвяткаваньне Дня Незалежнасьціі трапіла на выставу гэтага скандальна вядомага мастака.

Якія ўражаньні адвыставы? Першае – разгубленасьць ад вялікай колькасьці людзей, карцін, моцнага асьвятленьня, тэлекамэраў, музыкі. Другое – аголеная натура, выстаўленая на ўсеагульны агляд, каб «простыя» людзі адчулі момант мастакоускага натхненьня. Трэцяе – кароткая рэпліка паэта Сяргея Грахоўскага: «Бачьце, у нас тут таксама парнас», і скептычная ўсьмешка лідара Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў падпалкоўніка Мікалая Статкевіча.А што карціны? А нічога. Тут было усё: ад прымі-тыўных УНОВІСаўскіх матываў і «правінцыйных мастачкоў» пад Шагала да някепскіх партрэтаў сяброў. «Амаль усе карціны падораны». Відаць, тым, хто безапэляцыйна пісаў у кнізе водгукаў: «Аляксандр – ты геній», ці «Саша – ты наш человек». Шкада было пеўня, якога «Пуша» падкідаў у паветра. Дарэчы, ён, гэты певень, мабыць, і быў самы шчыры и непасрэдны з усіх удзельнікаў імпрэзы. Яму проста было страшна.

У гэтыя ж самыя дні Аляксандар Пушкін быу таксама завочна прадстаўлены праз нюёркскую газэту «Беларус» нашай дыяспары ў ЗША и Канадзе як «чалавек, аддады справе нацыянальнага адраджэньня, які адным зь першых воінау-вэтэранаў Афганскае вайны выступіў зь яе публічным асуджэньнем». Згадваецца, што «за арганізацыю і правядзеньне мітінгаў у гонар Дня Незалежнасьці Алесь Пушкін двойчы гвалтоўна быў затрыманы менскай міліцыяй і адзін раз быў прыцягнуты да судовае адказнасьці напрыканцы 80-тых гадоў». Сябра Сойму БНФ паэт і бард Сяржук Сокалау-Воюш, які піша гэтыя радкі ў «Беларусе», падкрэсьлівае таксама, што «лёзунг» «За Беларусь без камуністаў» (так у тэксьце – рэд.) публічна прагучэў з вуснаў Пушкіна яшче тады, калі многія з нашых суайчыньнікаў на Беларусі не адважваліся пра гэта і падумаць».

Тутака ж другуецца адкрыты ліст А.Пушкіна «да беларускага грамадзтва ЗША і Канады». «Зьвяртаюся да Вас, як мастак і грамадзянін нашай агульнай Бацькаўшчыны. У гэты нялёгкі для Беларусі час, час развалу эканомікі і палітычнага крызісу, найбольш стратаў зазнае духоўная і культурная спадчына нашага народу, якая па-ранейшаму бессаромна рабуецца, а то і афіцыйна вывозіцца з краіны. Неабходнасьць захаваньня беларускага жывапісу ў рукахнашага народу падштурхнула мяне да думкі стварыць прыватную галерэю сучаснага мастацтва ў Віцебску. Невялікае памяшканьне, якое я маю, патрабуе аднаўленьня. У пэрспэктыве трэба мець і набыцьцё нечага большага, але сродкаў катастрафічна нестае. Добра разумеючы, што ўсялякай дабрачыннасьці ёсть разумныя межы, я тым не менш прашу ў Вас грашовай дапамогі на ўзаемнавыгодных умовах…»





«Алесь засім шчыры, да наіўнасьці, чалавек, - дадае ў канцы Сокалаў-Воюш. – Пра такіх кажуць, што ім цяжка не паверыць…»
Алесь АС

**??? №8 (29), красавік 92 .**



**АЙ-ДА ПУШКИН, МОЛОДЕЦ!**

На центральном проспекте Минска, возле главного входа в парк им. Горького, висит большой плакат, извещающий о выставке в Доме литератора произведений Пушкина-Витебского. Это которого ж Пушкина? Память уводит на несколько лет назад, когда фамилия студента нашего театрально-художественного института прогремела на весь тогдашний СССР. Неужели тот? Да, тот самый. Только теперь это уже настоящий профессионал, окончивший вуз, живущий и творящий искусство на родине Малевича и своей. Случайность? А может, как раз и нет, может, появился новый гений, а уж талант так точно.

Ведь уже тогда, в годы учебы тезка великого русского поэта проявил незаурядное мужество, выйдя на улицу с плакатами против того строя. Недовольных было много, но чтобы вот так открыто и честно, не за рюмкой на кухне – на улице, зная, что репрессий не миновать, - таких мы знаем единицы.

Современный Александр Пушкин остался верен самому себе: открытие выставки началось со скандала. В фойе Дома литератора, где вывешены картины, среди гостей на рояле восседала совершенно обнаженная девица. Как часть экспозиции. То ли как знак откровенности художника, то ли для какого-то перчика к и без того разнообразному «меню» на стенах, а, может, просто для развлечения. Ну устраивал же абсолютно голый Пикассо многолюдные приемы, любил эпатировать публику и другой великий коллега Сальвадор Дали. Правда, Беларусь хоть и стала исключительно суверенной, но все равно это не Испания – девицу быстренько изъяли, но зато осталась в экспозиции, открывая ее, работа под названием «Туша», написанная только с помощью руки и собственной кровью…

Вообще, создалось впечатление, что у художника Пушкина нет не только предрассудков, но и стереотипов. Выставка впечатляет разнообразием тем,

цветов, используемых материалов. Рядом с филигранно исполненными эскизами витражей для церкви с рублевской яркостью и чувством написанное «Знамение», несколько дивно-нежно-импрессионистских мгновений, натуральный летающий змей, остановленный множеством нитей, целая серия с чем-то кубическим и реальной колючей проволокой... Лично мне, да и не только мне, судя по написанному в книге отзывов, Алесь Пушкин этой своей незашоренностью, постоянным поиском адекватной формы выражения еще более понравился.

Хотя мысленно согласилась с призывом одного почитателя (из книги отзывов): меньше злости сердечной, больше боли душевной! Потому что стремление художника иллюстрировать свои сиюминутные политические пристрастия обманчиво. Сколько гнева у него на партбилет, красный флаг, отмеченные свастикой, и сколько надежды на бел-червона-белый. Увы, при последнем ему удалось лишь вывесить свои картины в фойе перед кафе, где отдыхают и выпивают. Как и прежде, а может еще более, художник одинок в своем желании подарить себя людям. О выставке знает очень мало людей, на ней, к сожалению, мало посетителей, потому что реклама, объявления сейчас стоят немалых денег. Из летящих же по проспекту троллейбусов и машин не прочитать текст одного-единственного плаката. Но, несмотря на это, нашлись «знатоки» и «ценители», воспользовавшись отсутствием охраны (ну, право, может ли художник все сам предусмотреть, да и на это также нужны средства), укравшие три иконы и две картины. Представляете, каково ему было узнать о пропаже, хоть сам и не является собственником: все свои творения он уже раздарил.

Так что независимо от строя, художник со своей некоммерческой бесплатной выставкой оказывается беззащитным, а общество не может, не желает ему помочь. Картины не нашлись, зато руководству Дома литератора непонравилось хождение и допросы милиции. Опять одни неприятности от этого мятежного Пушкина... Хотя, большое спасибо писательскому дому. Он остался одним из очень немногих живых очагов культуры. Дворец искусств, да этот дом, можно причислить сюда и самостийную выставку-продажу на улице возле художественного салона. И все. На двухмиллионный город!

А ведь воистину не хлебом единым... Чем дольше я смотрела на картины молодого художника, тем теплее становилось неуютное фойе Дома литератора. Здесь были красота, надежда и вера.

Выставка «того самого Пушкина» в Доме литератора Минска продлится до 23 апреля. Открыта она в то же время, что и кафе. С 4-х до 5 часов не ходите, кафе и выставка закрыты. А вот до и после – вход свободный. Сходите, не пожалеете. Можно не разделять политические взгляды художника, но... талант есть талант.

М. Орлова.





**Ратуша, кастрычнік 1992.** .......................................................................................

**ПУШКІН З ВІЦЕБСКА - Ў МАГІЛЁВЕ**

Разы два ў фае абласной выставачнай залы, што побач з драмтэатрам, зазірнулі заклапочаныя паставыя міліцыянеры. Пераканаўшыся, што намёкаў на крымінал няма, зніклі.

Незвычайна многа, па магілёўскіх мерках, было народу на адкрыцці экспазіцыі твораў маладога віцебскага мастака Алеся Пушкіна. Маладога, але ўжо даволе вядомага ў рэспубліцы. Не тым, што імя і прозвішча супадаюць са славутым паэтам. Вядомасць іншага плана. І, як лічаць некаторыя, скандальная.

Магчіма таму, што таленавіты і катэгарычны мастак і ў творчасці сваей, і ў палітычных прыхільнасцях ніколі не хаваў сваіх густаў і поглядаў. Наадварот – гучна пра іх абвяшчаў. Што ў пару, калі партыя ўсіх і заўсёды на свой розум і меркі “асаджала пугаўём”, было даволі небяспечна для любой творчасці і жыццёвага кволага дабрабыту. Зрэшты, пара гэта скончылася, дай Бог, назаўсёды. 17-га кастрычніка сотні магілёўцаў (і прадстаўнікі ўсёй мясцовай прэсы) праявілі павышаную цікавасць да адкрыцця выставы твораў Алеся Пушкіна.

Выстава незвычайная і першая такая ў горадзе. Бо прымеркавана яна да 300-годдзя Магілёўскага касцёла Святога Станіслава – ўнікальнага на Беларусі помніка культуры, гісторыі, архітэктуры, мастацтва. І арганізавана пры садзеянні Беларускай Каталіцкай грамады. А прычым тут мастак Пушкін? А пры тым, што мае самае прамое дачыненне да адраджэння касцёла.

Два гады таму гарадскія ўлады аддалі нарэшце вернікам зганьбаваную святыню. Увесь гэты час ідуць рамонт і абсталяванне разграбаванага і запушчанага храма, а таксама рэстаўрацыя. Аўтарам мастацкай канцэпцыі рэстаўрацыі касцёла і з'яуляецца Алесь Пушкін.

На выставе паказаны яго работы, створаныя ў проста неверагодным тэмпе за некалькі апошніх месяцаў у Магілёве. Гэта копіі і эскізы фрэсак на рэлігійныя тэмы, якія ёсць і нават будуць у касцёле, бо некаторыя страчаны (загінулі), некатарыя толькі нядаўна знойдзены, патрабуюць вывучэння і аднаўлення... Сярод асноўных экспанатаў будучы выгляд галоўнага алтара і эскіз фігуры дзевы Марыі для яго, шмат элементаў мастацкага вырашэння інтэр'ера неардынарнага помніка культуры.

Незадарма зараз з кірауніцтвам гарвыканкама (С.А.Габрусеў і інш.) урачыста адкрывалі выставу пробашч касцёла Св. Станіслава ксёндз У.Блін, госці магілёўскай парафіі з Польшчы, каталіцкіх абшчын СНД, праваслаўныя святары Магілёва.

Другія творы А.С.Пушкіна (акрамя прызначаных для храма) паказваюць вельмі нетрадыцыйны талент неардынарнага чалавека. Розная тэхніка і матэрыял, розная манера – ад рэалізму (у “саўковым” уяўленні) да алегарычных кампазіцый і ў нечым абстрактных палотнаў, дэкаратыўныя кампазіцыі (нават са скульптурай).

І – зусім нечаканая карціна – алегорыя бел-чырвона-белага сцяга. Матэрыял – палатно і ўласная кроў аутара. Так вось. Ён у прамым сэнсе піша не толькі алеем, тэмперай, акварэллю, ляўкасам…

Кароткія нататкі не дадуць аб'ёмнага ўяўлення пра гэтую падзею ў культурным і рэлігійным жыцці Магілёва. Можна прывесці некалькі назваў работ розных памерау і жанраў: "Маці Сусвету", "Святы Іязафат Кунцэвіч", "Ікона Бялыніцкай Божай Маці" (заступніца касцёла, копія А.Пушкіна), "Лёс майго бацькі", "Акорд вольнасці", "Анёл чырвонай ружы", "Ноч над Віцебскам", "Нікольская царква ў Магілёве" (у вельмі цікавам ракурсе). Ды заметка – не каталог выставы. Лепш паглядзець на свае вочы, а не ў газеце (дарэчы, фатаграфаваць на выставе забаронена). Экспазіцыя магла быць і больш поўнай, ды кіраўнікі горада не знайшлі магчымасці прывезці яшчэ шэраг твораў мастака з далёкага (165 км) Віцебска.

Ды дзякуй і за гэта. Бо яшчэ гады два-тры таму ніякім чынам не маглі б убачыць такое, толькі пачуць. Брэх ідэалагічных шавак… Дык заходзьце, паглядзіце. Не пашкадуеце. Гэта, нагадваем, на Першамайскай вуліцы ў абласной выставачнай зале. Да 30 кастрычніка.

М.Ножнікаў

PS. А што датычыцца палітыкі, якой іншы раз папракаюць А.Пушкіна, дык успомніце хаця б ворага самадзяржаўя паэта А.Пушкіна, або таго ж І.Рэпіна ("Арышт прапагандыста", "Не чакалі", "Бурлакі на Волзе" і г.д.) Ці ж можа сапраўды мастак быць зусім па-за палітыкай?

Магілёуская Праўда, кастрычнік 92. ……………………………………………

**НОВОЕ СТОЛЕТИЕ НАЧИНАЕТСЯ С … ПУШКИНА**

Наверное, есть что-то символическое в том, что празднование торжеств 300-летия кафедрального костела св.Станислава началось не с религиозных песнопений и проповедей, а с выставки художника Александра Пушкина из Витебска. Или, как он называет себя – Алеся. Могилевский храм католиков уникален своими фресками. И именно художники возрождают из небытия, из-под напластований краски, пыли и времени одухотворенную красоту. Один из тех, кто дарит храмовым росписям вторую жизнь, - Пушкин. Работа в костеле дала его творчеству новый заряд энергии. Поэтому и выставка в Могилеве проходит под общим названием «Костел в искусстве», хотя в ней рядом с копиями храмовых росписей и проектами реставрации присутствуют картины, наполненные философскими раздумьями о времени, вере, смысле бытия, окружающем мире и своем месте под солнцем.

…Открытие выставки и торжеств собрало много поклонников прекрасного, но в этот день в центре внимания были гость из Влоцлавека епископ Бронислав Дэмбовски и мэр Могилева Сергей Габрусев. Они и открыли выставку. Ее «создатель» скромно отмалчивался в стороне в то время, как его однофамилец Игорь Пушкин, директор музея истории Могилева, исполнял обязанности гостеприимного «хозяина» и добровольного гида.

Под старыми сводами костела в этот день звучала органная музыка, а торжественную литургию вел архиепископ Беларуси Казимир Свентэк.

Л.Федорович

**Трудовая слава, №37, октябрь 1992.** ……………………………………………



**ЗНАКОМЬТЕСЬ: АЛЕКСАНДР ПУШКИН**

Всякий талант – ценность и загадка. А если этот талант направлен к человеку, чтобы сделать его жизнь наполненной и светлой – ценен вдвойне. Недавно в выставочном зале по улице Болдина открылась выставка, где экспонировались работы молодого, но уже довольно известного в Беларуси витебского художника Александра Пушкина.

Может быть потому, что талантливый и категоричный в своем творчестве и политическом выборе художник никогда не скрывал своих симпатий и взглядов, наоборот – открыто их декларировал, что в прошлые времена было довольно небезопасно и чревато последствиями: отлучением от искусства – привлекает к его личности особое внимание. И первое знакомство с его творчеством убеждает, что он художник от Бога!





Выставка необычная и первая такая в городе. Так как приурочена она к 300-летию Могилевского костела Святого Станислава – уникального в Беларуси памятника культуры, истории, архитектуры, искусства и организована при содействии Белорусской Католической громады. А причем здесь художник Пушкин? А при том, что имеет самое прямое отношение к возрождению костела.

Два года тому назад городские власти отдали наконец верующим поруганную святыню. Все это время идут ремонт и восстановление разграбленного и запущенного храма, а также реставрация. Автором художественной концепции реставрации костела и является Александр Пушкин. На выставке показаны его работы, созданные в просто невероятном темпе за несколько последних месяцев в Могилеве. Это копии и эскизы фресок на религиозные темы, которые есть и даже будут в костеле, так как некоторые только недавно найдены, требуют изучения и восстановления… Среди основных экспонатов – будущий вид главного алтаря и эскиз фигуры девы Марии для него, много элементов художественного решения интерьера неординарного памятника культуры.





Другие произведения А.Пушкина (кроме предназначенных для храма), показывают очень нетрадиционный талант неординарного человека. Разные техника и материал, разная манера – от реализма (в «совковом» воображении) до аллегорических композиций и в чем-то абстрактных полотен, декоративные композиции (даже со скульптурой). И – совсем неожиданная – картина – аллегория бел-красно-белого флага. Материал – полотно и собственная кровь автора. Так вот, он в прямом смысле пишет не только маслом, темперой, акварелью, левкасом, но и вкладывает в свое творчество самого себя без остатка.

Короткие заметки не дадут объемного представления об этом событии в культурной и религиозной жизни Могилева. Можно привести несколько названий работ разных размеров и жанров: «Мать Вселенной», «Святой Иезофат Кунцевич», «Икона Белыничской Божьей матери», (заступница костела, копия А.Пушкина), «Судьба моего отца», «Аккорд вольности», «Ангел красной розы», «Ночь над Витебском», «Никольская церковь в Могилеве» (в очень интересном ракурсе). Да заметка – не каталог выставки. Лучше посмотреть своими глазами, а не в газете (кстати, фотографировать на выставке запрещено). Экспозиция могла быть и более полной, да руководители города не нашли возможности и средств привезти еще ряд произведений художника из далекого (165 км) Витебска.

Но спасибо и за это, так как еще года два-три тому назад никоем образом не могли бы увидеть такое.

Заходите, посмотрите, пока еще есть возможность. Не пожалеете. Это, напоминаем, на Первомайской улице в областном выставочном зале. До 30 октября.

Н. Ножников

??? ......................................................................................................

ПУШКІН З ВІЦЕБСКА

Ці ведаеце вы Аляксандра Пушкіна? Таго, што "з Віцебска"? Верагодна, што пакуль не ўсе, але ўжо не за гарамі той момант, калі, напэўна, большасць у нашым горадзе будзе яго ведаць. Нядоўга засталося чакаць: у сакавіку Аляксандр адчыніць прыватную галерэю ў адным са старых будынкаў па вуліцы Суворава. Такім чынам, аксіома неардынарнасці асобы мастака Пушкіна будзе падмацавана першай ў горадзе, а мабыць, і ў рэспубліцы падобнай галерэяй.

Па-рознаму ставяцца да Пушкіна людзі. Хто яго проста не разумее, хто прымае такім, якім ён прыходзіць да гледача. (Яго капялюш, хромавыя боты і ўвогуле не вельмі звычныя густы дзіўныя, але ж цікавыя).

Ці свабодны ён, хто ў мінулым стаў вядомым як дзівак, палітычны аферыст, інтрыган? Я прыйшла да яго, каб спытаць, што ён сам пра сябе думае. З самага пачатку мы дамовіліся з Сашай, што будзем шчырымі: ён – у сваіх адказах, я – у матэрыяле аб ім.

Феерыя і тэатральнасць, здаецца, неад'емная частка жыцця Аляксандра

Пушкіна. Але, калі ў гэты раз я прыйшла дя яго ў майстэрню, нічога падобнага на тэатр не ўбачыла. Упершыню за час нашага знаёмства знайшла Сашу ў разгубленасці. Дрэнны настрой і ніякай прыкметы ўсмешкі на твары. А справа была ў тым, што зноў прыйшла да Аляксандра чарговая павестка з міліцыі.

Спачатку Пушкін прапанаваў мне пайсці дадому. Але ўжо праз колькі хвілін нашай размовы згадзіўся, што ўсё-такі лепей пагутарыць пра тое-сёе, чым знаходзіцца ў наспакойнай адзіноце.

Мае пытанні спачатку ўсё не складаліся ў стройны лагічны ланцужок, таму і пачала я адразу з таго, што прыйшло ў галаву.

– Саша, з чаго пачаўся Пушкін? Такі, як ён ёсць сёння?

– З арміі. Да арміі я “Целину” канспектаваў як усе. Выхавацельніца школы-інтэрната па музыцы і выяўленчаму мастацтву, дзе я вучыўся, прымушала. Пасля сканчэння школы паступіў у мастацка-тэатральны інстытут, і мяне забралі ў войска.

– Пачакай, а на беларускай мове ты калі пачаў размаўляць?

– Я размаўляў па-беларуску заўседы. У гады майго навучання …. (з шостага класа) настаўніца рускай мовы доўга адвучала мяне ад “трасянцы” … эксперымен….

- Вернемся да арміі. Чаму ты лічыш, што менавіта у тыя гады склаўся твой характар?

- Першую чвэрць службы я прабыў у вучэбцы ў г. Камышыне, што на Волзе, прайшоў курсы маладых авіяцыйных спецыялістаў. А потым мяне, як і іншых хлопцаў, пераправілі ў Афганістан, у правінцыю Кундуз. Гэта здарылася у 1984 г., калі аб вайне ў Афгане казалі зусім не тое, што сёння. Служыў я на аэрадроме, ахоўваў бомбасклады. Але ж, не трэба памыляцца. Так, я быў у Афгане, але я не герой. Я проста бачыў усё сваімі вачыма, і ўспаміны аб вайне застануцца назаўсёды са мной. Але я не хадзіў у атаку, не лазіў па гарах, не граў са смерцю. Я толькі сведка.

Маё жыццё ў Афгане было не толькі вельмі насычаным, але і павучальным. Так, я быў, як і ўсе там, трошкі наркаманам: паўтара гады смаліў так званы “план”. Зараз жа абыходжуся без яго цудоўна, і ўвогуле не смалю. А там было так трэба. Не аднойчы сутыкаўся ў арміі з горкай праўдай жыцця. Амаль і ў экстрэмальнай сітуацыі ў сваім асяроддзі знаходзіліся кепскія людзі, няшчырыя і злыя. Я на працягу ўсёй службы пісаў дзённік, зразумела, па-беларуску. А адзін з нашых, зямляк, знайшоў яго, пераклаў, і данёс начальніку штаба. Той выклікаў мяне, заявіў: «Пушкін, у вашым дзённіку маюцца думкі, якія супярэчаць палітыцы партыі і дзяржавы ў гэтай краіне». І я атрымаў 11 сутак гаўпвахты.

Трэба дадаць, што на “губе” я быў пяць разоў, увогуле 28 сутак.

– Саша, ты кажаш, што з’яўляешся толькі сведкай. Ці таму ты адмовіўся ад усіх ільгот пасля Афганістана?

– Так, і куля да мяне не даляцела, і ніякай царапіны з тых гадоў у мяне няма.

**І Ў МАІМ ЖЫЦЦІ ...**






–
“Саша, ты вельмі малады, а ўжо ў Саюзе мастакоў.
– Праз год пасля заканчэння інстытута я ўступіў у Саюз, каб майстэрню далі.
– Такое ўражанне, што ў цябе ўсё ладзіцца, як ты хочаш. Чаму?
– Ладзіцца далёка не ўсё. Вось, напрыклад, з каханнем не шанцуе: пакахаю дзяўчыну, а яна мяне – не. Таму і думаю, можа калі-небудзь у Парыж паехаць. Закахацца. Нарабіць такое, каб потым было сорамна. А?”

Іншая справа, калі б я прыйшоў дадому інвалідам. А так – сорамна.

– А калі і як пачаліся твае канфлікты з уладамі?

– У 1988 г. За прызывы да курапацкага мітынгу мне далі 15 сутак арышту. Другі раз – у 1989 г. Тады я намаляваў да 25 сакавіка 14 плакатаў і вырашыў выпрабаваць на сябе, ці здольны чалавек тут выказваць асабістую думку. Інакш кажучы, паспрабаваў выступіць у ролі лакмусавай паперкі. Я пазваў аднаго-другога таварышаў. Але са мной на вуліцу ніхто не пайшоў. А нічога дрэннага ў маіх плакатах не было. У іх казалася аб Чарнобыле, беларускай мове, аб непазбежным развале таталітарнай імперыі, аднаўленні беларускай самостойнай рэспублікі, аб дрэнным экалагічным становішчы… 14 ліпеня 1989 г. была заведзена крымінальная справа. Адкрыты суд зацягнуўся на тыдзень. Вынеслі прысуд: 2 гады ўмоўна з пяцігадовым выпрабаваўчым тэрмінам. Хачу сказаць наперад, пасля путча я з палітыкай завязаў. Бо я не палітык, я мастак, і зразумеў, што вельмі многа ў нашым жыцці залежыць ад мастацтва.

– Саша, ты вельмі малады, а ўжо ў Саюзе мастакоў.

– Праз год пасля заканчэння інстытута я ўступіў у Саюз, каб майстэрню далі.

– Такое ўражанне, што ў цябе ўсё ладзіцца, як ты хочаш. Чаму?

– Ладзіцца далёка не ўсё. Вось, напрыклад, з каханнем не шанцуе: пакахаю дзяўчыну, а яна мяне – не. Таму і думаю, можа калі-небудзь у Парыж паехаць. Закахацца. Нарабіць такое, каб потым было сорамна. А?

А чаму ў мяне ўсё задуманае атрымліваецца? Я па гараскопу Леў, нарадзіўся ў год Змяі. Карацей, так: дурны, дурны, але хітры. Таму ўсё ў мяне атрымліваецца. Зразумела?

– Саша, што ты НЕ збіраешся рабіць у бліжэйшы час?

– Для пачатку, я не збіраюся карыстацца ўяўнай славай дэсідэнта. Буду спрадвечным дакорам для ўладаносцаў. Не збіраюся і багацець. Бо сам выбраў сацыяльны статус. Не хачу, каб скінулі тэрмін па маёй ініцыятыве. Няхай аб гэтым улада думае.

– А табе не здаецца, што гэта ўжо занадта?

– Не, гэта норма. Калі ўлада прыйдзе і скажа: "Пушкін, з табой абыйшліся дрэнна", я адкажу: "Ура! Я веру, што ў нас прававая дзяржава".

– Ці праўда, што ты не прадаеш свае творы?

– Праўда, не прадаю, таму, што жывапіс – маё хобі, а я прафесіянал-манументаліст. Я вучыўся 6 гадоў распісваць сцэны, рабіў вітражы. І за гэта зараз я магу браць грошы.

– Ці сур'ёзна ты затрымаўся ў нашым горадзе?

- Безумоўна. Я цяпер "Пушкін з Віцебска". Дзе б я ні быў, я адусюль вярнуся сюды. І заўсёды тут будуць мае сімвалы – леў, змяя і дэвіз «Contra spem spero" ("Спадзяюся насуперак спадзяванню").

– Гэта Герман Гессэ? А хто яшче з'яуляецца тваімі любімымі пісьменнікамі?





– Дантэ, Багдановіч, з паэтаў – Блок, Сыс.

– Як ты праводзіш вольны час?

– Маляваць люблю, жанчын дужа кахаю. Дарэчы, у мяне ёсць Муза. Яшчэ плёткі пра сябе слухаць падабаецца. Гэта ж слава. Думаю, можа самому якую плетку аб сабе пусціць.

- Дык гэта ж авантурызм чыстай вады!

- Чуткі гэта добра. Я і табе прызнаюся: лукавы і грэшны. Мне вельмі блізкая інтрыга, таму што яна нараджае гумар.

- А ці не здаецца табе, што гэты гумарок нечым папахвае?

– Гэта комплексы. Як і беднасць. Я ж дзяўчыне толькі каву і магу прапанаваць. А зараз жанчыну трэба ў рэстаран павесці. Ды я ўвогуле жанчын баюся. Спачатку храбруся, нешта кажу ёй. А сам думаю: "Якая прыгожая, добрая, разумная. Я да яе не дарос". А яшчэ для мяне вельмі важна, каб выбранніца мая была мясцовая, беларуска.

– Як ты сёння ставішся да нацыянальнага пытання? Усе памятаюць твае вельмі рэакцыйныя лозунгі.

– Сёння я інакш пазіраю на гэта. Ад сказанага не адмаўляюся. Але цяпер многае змянілася, і я за тое, каб Беларусь была з'яднанымі штатамі Еўропы. Няхай чэчэнцы цыгарэты прадаюць, няхай яўрэі бароды голяць і гандлююць, няхай камуністы свае погляды адстойваюць, няхай гомасексуалісты жывуць, як хочуць… Гэта непазбежныя дэмакратычныя працэсы. Толькі так Беларусь стане свабоднай рэспублікай, за якую перад ўсім светам не сорамна. А яшчэ я хачу, каб ўсе канфлікты вырашаліся мірным шляхам: словы, дэбаты, выставы, акцыі. Але каб ніколі не стралялі. У мяне ёсць работа, якую я намаляваў сваёй крывёй. Дык вось, назва яе "З мінулага". Гэта да таго, каб кроў засталася толькі ў мінулым.

– Саша, некалькі слоў аб будучай галерэі.

– Па-першае, хачу, каб тут, у нас на радзіме, захаваліся творы цікавых мастакоў, якія непазбежна вывозяць за мяжу. Я веру, што мы вельмі скора будзем патрэбны тут. Таму не трэба пакуль амаль задарма прадаваць сваю працу і душу. Трэба гонар трымаць, не аблізваць боты за 10 долараў. Гол ды васцёр. Зацягнем пояс. Калі нас будуць ведаць тут, пазнаюць і там. Вярнуся да галерэі. Я напісаў ліст у газету "Беларус", што выходзіць у Нью-Йорку. Так і так, маю памяшканне, але патрэбны грошы. Хочу адчыніць галерэю, захоўваць лепшае. 25 сакавіка 1992 г. мой ліст надрукавалі. Знайшліся мецэнаты. І вось 25 сакавіка гэтага года я адкрыю на Суворава, 2 галерэю канцэптуальнага мастацтва і акцыі пад назвай "У Пушкіна". Кожная выстава будзе ўключаць 15-20 работ, экспазіцыйны тэрмін – 6 месяцаў. Часцей рабіць выставы няма грошаў.

Першы куратар галерэі, мастацтвазнаўца Ларыса Міхневіч. (у Магілёве, на рэгістрацыі, восень 94 г.)

**Народное Слово, №34, 27 марта 1993 .** ..........................................................................

**В ВИТЕБСКЕ «У ПУШКИНА»**

В Витебске открылась первая приватная галерея современного искусства. В центре города на улице Суворова появилась вывеска "У Пушкина". Основатель и владелец галереи молодой витебский художник Александр Пушкин.

Конечно, идея открыть собственную галерею в городе была бы утопической даже для очень состоятельного художника, но ее инициатор сослался на классическую формулу: Запад поможет. Год назад Пушкин обратился к знакомым белорусам из Америки, и те с готовностью согласились стать его меценатами.

Интересно, что в числе зарубежных фундаторов галереи наш земляк, поэт, бард Сергей Соколов-Воюш. Но долларовые накопления не имели бы определяющего значения без поддержки витеблян. Большую помощь оказала витебская экономическая ассоциация "АСК", которая предоставила помещение под галерею.

Авторами первого вернисажа "У Пушкина" стали художники Витебска, Полоцка, Минска, Гродно. Экспозиция дает представление о состоянии современного искусства и, несомненно, найдет в городе своих почитателей. Я бы выделила работы самого Пушкина "З мінулага", Натальи Залозной «Успение» и Вавена Юрченко «Подых».







Первая приватная галерея – само по себе приметное событие в Витебске. И презентация ее проходила не традиционно. «У Пушкина» собрались ночью. Несмотря на дождь и позднее время, пришли многие витебляне, приехали гости из Риги, Минска, Могилева, Белостока. Хозяин галереи устроил маленький праздник с фанфарами, приветственным словом, с фейерверком и символическим тостом.

Праздник удался, открытие состоялось, и теперь в Витебске есть первая частная галерея. Думаю, она откроет витеблянам не только современное искусство, но и положит начало созданию других приватных галерей.

P.S. Приятную новость об открытии галереи омрачил один факт. На следующее утро под мостом Витьбы был обнаружен с травмами и в состоянии сильного опьянения молодой человек. Он в тяжелом состоянии доставлен в больницу. Корреспондент «НС» видела этого парня, который пришел уже пьяным на открытие галереи и вел себя вызывающе. В конце концов все закончилось для него весьма печально. Только боюсь, что этот инцидент станет ложкой дегтя в бочке меда, сослужит дурную славу хорошему начинанию. И у владельца галереи дело начнется с неприятностей.

Т. Пастернак.

**Выбар, сакавік 1993.** ..........................................................................

**"У ПУШКІНА". У ГАЛЕРЭІ**

Калі Віцебску і не суджана стаць палітычнаю сталіцаю Беларусі, то культурнаю – напэўна наканавана. Горад паціху-патроху пачынае канкурыраваць з менскім культурным асяродкам.

Напрыклад, хутка віцябляне змогуць (думаю, не без гонару) сказаць: маем і мы прыватную мастацкую галерэю.

Дзякуючы ініцыятыве і руплівасці ўласніка галерэі, вядомага віцебскага мастака Алеся Пушкіна, дапамозе нашае эміграцыі і мясцовых фундатараў, места Віцебскае атрымае першую прыватную галерэю сучаснага мастацтва.

Адкрыецца яна напярэдадні святкаванняў 75-ых угодкаў абвешчання БНР 24 сакавіка ў (не здзіўляйцеся і не спазняйцеся!)... 0 гадзін 53 хвіліны ў старым горадзе, на трэцім паверсе дома нумар два на старажытнай Узгорскай (пакуль Суворава).

**Віцьбічы, сакавік 1993.** ..........................................................................

**СВЯТА ЎВЕЧАРЫ І НОЧЧУ**

Адметна маюць намер адзначыць 75-годдзе Беларускай Народнай Рэспублікі маладыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Віцебска. Мастак А.Пушкін і кампазітар Г.Шэмет падрыхтавалі незвычайную акцыю. Аляксандр адкрывае першую ў нашым горадзе прыватную галерэю, урачыстае адкрыццё якой адбудзецца ў ноч з 23

на 24 сакавіка па вул. Суворова, 2. Ставіцца мэтай знаёміць віцяблян з маладымі нетрадыцыйнымі мастакамі Рэспублікі Беларусь. Адзінае, аб чым можна шкадаваць, тое, што галерэя займае вельмі невялікае памяшканне.

А 25 сакавіка ў 19.00 у Беларускім акадэмічным тэатры імя Я.Коласа адбудзецца аўтарскі вечар маладога кампазітара, загадчыка музычнай часткі тэатра Г.Шэмета. Слухачы стануць сведкамі першага выканання харэаграфічнай сімфоніі "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" па матывах рамана У.Караткевіча, фрагменты з рок-оперы "Ладдзя роспачы".

Уваход у тэатр у гэты дзень будзе свабодны.

**Знамя юности, 15 чэрвеня 1993.**

**РИСУЕТ И ПОКАЗЫВАЕТ ПУШКИН**

Этот художник стал известен не очень давно. Кому-то работы Александра Пушкина нравятся, кому-то нет – автора, по-моему, это меньше всего интересует.

**На снимках: Александр Пушкин с женой Ларисой Михневич; приглашает "Арт-галерея".**






**І Ў МАІМ ЖЫЦЬЦІ ...**

Он работает для удовлетворения собственной жажды творчества, никак не сообразуясь с конъюктурой. Свобода, независимость не только в мыслях, но и в действиях, - его кредо. Кто из нас не мечтает об этом?

Как всякому художнику, Пушкину надо выставлять свои работы, делать совместные выставки с единомышленниками. Почему бы не в собственной галерее? Эта идея – иметь частную картинную галерею – недавно воплотилась. Помещение в центре Витебска дала экономическая ассоциация АСК, осталось найти средства для ремонта. Помочь художнику вызвались Валентина Якимович из Минска, Альдона Загорскис и Юрий Сергеев из Витебска. Все равно денег не хватило. Саша написал письмо в газету "Беларусь", которая выходит в Нью-Йорке. На публикацию откликнулись восемь американских белорусов – передали на создание галереи доллары… В результате ремонт был сделан, а портреты всех жертвователей помещены в галерее навечно.



Открытие частной галереи А.Пушкина состоялось 24 марта. Свои работы представили, в основном, молодые авторы – 19 человек, по одному произведению каждый. Направление, которому следуют все участники экспозиции, одно: постмодернизм. Работы самые разные: живопись, скульптура, картины с использованием весьма неожиданных материалов, даже человеческой крови.

Первая экспозиция будет демонстрироваться довольно долго. Потом, с появлением средств, Александр Пушкин думает провести ряд авторских выставок.

Принцип отбора работ – только то, что очень нравится. Требования к авторам – профессиональное образование.

Деньги на солидную выставку нужны немалые – транспортные расходы, издание каталогов. Чтобы заработать их, Александру придется немало потрудиться. Благо, умеет он делать многое – любые художественно-оформительские работы, витражи, росписи… А потом опять будет праздник – с множеством друзей и знакомых – на очередной выставке.

Василий Федосеенко

**Могилевские ведомости, 2 красавіка 1993 г.** ...........................................................................

**ПОПУЛЯРНОСТЬ ПУШКИНА РАСТЕТ.**
**Даже среди участковых милиционеро**в

Известный витебский художник А.Пушкин открыл первую в Беларуси частную галерею современного искусства. Наша газета писала раньше о том, что живописец получил солидную валютную сумму от заграничных соотечественников на реализацию этого проекта. И вот – открытие-презентация галереи "У Пушкина", которая недавно состоялась в Витебске.

– Алесь, извини, а почему среди картин, которые ты экспонируешь, нет работ могилевских художников? – обращаюсь я к Пушкину. – Неужели за все время реставрации собора Св. Станислава в нашем областном центре ты ни с кем из них не познакомился?

– Знаешь, к сожалению, в Могилеве я не встретил художников моложе тридцати пяти лет, – ответил тот. – Моя же галерея ориентируется на более молодых людей.



Несмотря на отсутствие полотен, Могилевщина, тем не менее, была достойно представлена на ночном пушкинском шоу. Около двух десятков человек, выгрузившихся в Витебске, имели в своих паспортах могилевскую прописку.

Мероприятие началось в час ночи. После ознакомления с выставкой, приглашенным была продемонстрирована слайдовая программа, отражающая творческо-политический аспект жизни владельца галереи. Затем экран был решительно расстелен на полу. Под одобрительный рокот гостей там же, на полу, появилось вино, закуски. У многих было с собой...

Всем присутствующим Пушкин любезно представил участкового милиционера, призванного следить за порядком.

– Пейте, ешьте, гости дорогие, - прохаживался Александр среди галдящей публики.

Известный могилевский фотохудожник пытался вызвать Пушкина на откровенный винно-водочный диалог – не получилось, мастер кисти полностью отвергал спиртное.

Часам к пяти утра затихли звуки гитары, умолкло пение, народ потянулся к выходу. Оригинально оформленное помещение галереи с черным потолком и белым полом опустело. Участковый остался доволен – все было на уровне...

Е. Булова



**Могилевские ведомости, 12 ноября 1992г.** ..................................................

З вядомым віцебскім мастаком А.ПУШКІНЫМ гутарыць наш караспандэнт

**ЦІ МОЖНА АБЛІЗАЦЬ БОТЫ ЗА 10 ДОЛЛАРАЎ, НЕ СТРАЦІЎШЫ ГОНАРУ?**

– Алесь, што прывяло цябе ў Магілёў?

– Я быў запрошаны Беларускай каталіцкай грамадой для рэстаўрацыі касцёла св. Станіслава. Мастаку-монументалісту (а гэта мая спецыяльнасць) можна толькі марыць аб такой рабоце. Працаваў я тут паўгода.

– Многім жыхарам Беларусі ты больш вядомы ні як мастак, а як...

– Антысеміт.

– Не, я хацеў казаць, "як палітычны змагар. А чаму ты сябе назваў "антысемітам"?

– У 1989 годзе я сказаў, што мару аб Беларусі без жыдоў і камуністаў. Тады гэтыя словы былі ўспрыняты як выбух гарматы. Нават "Правда" напісала пра гэта.

– Твае погляды з таго часу не змяніліся?

– Я не адмаўляюсь ад таго, што казаў раней. Але зараз я хачу бачыць Беларусь перш за ўсё дэмакратычнай. Хай у нас будуць польскія, яўрэйскія, іншыя суполкі. Але ўраду трэба перш за ўсё ўлічваць інтарэсы беларусоў. Вядома ж, і прэзідэнтам павінен быць толькі беларус.

– На твой погляд, у нас у рэспубліцы ёсць праявы нацыяналізму?

– Няма. Мы – Злучаныя Штаты ў Еўропе. Вось, напрыклад, у Слоніме на адной плошчы – касцёл, сінагога і праваслаўная царква. Ніколі не было ў нас ні нацыянальных хваляванняў, ні пагромаў.

– Але ж крыху раней ты казаў аб першачарговых інтарэсах беларусоў.

– Я маю на ўвазе толькі прававую абарону большасці карэннага насельніцтва Беларусі. Гэта не датычыць палітычных правоў. У тым жа Ізраілі перш за ўсё звяртаецца ўвага на стан карэнных жыхароў, яўрэяў. А потым ужо ідзе размова аб усіх іншых.

– Што ты ўкладваеш у паняцце "нацыяналізм"?

– Перш за ўсё гэта калі сваю нацыю ўзвялічваюць над іншымі. А ў нас ніколі не пачуеце, што беларусы самыя прыгожыя, самая разумныя, самыя таленавітыя. Таксама праявай нацыяналізму лічу перагляд граніц. Я катэгарычна супраць гэтага.

– Алесь, каб быць сапраўдным мастаком, абавязкова мець пэўныя палітычныя

погляды?

– Наадварот, палітыка і мастацтва – паняцці несумяшчальныя. Хаця 364 дні – я мастак, а адзін дзень – грамадзянін: іду на мітынг, на выбары.

– Мы добра памятаем тваю палітычную дзейнасць некалькі гадоў назад.

– Зразумейце, тады быў патрэбен хтосьці першы, хто б выйшаў з бел-чырвона-белым сцягам. Нехта павінен быў пачаць. А зараз трэба быць прафесіяналам. Ва ўсім. Калі ты займаешся бізнесам – імкніся стаць беларускім Ракфелерам, калі ты мастак – імкніся быць Сальвадорам Далі. Раней галоўным было слова, зараз – справа.

– Як ты ставішся да тых мастакоў, якія ў свой час малявалі камуністычных правадыроў? Ты б мог сябраваць з такім чалавекам?

– Ніколі. І рукі такім не падаю. У кожнага быў выбар: ці маляваць Леніна, ці падацца ў андэрграунд. Але ж да канфрантацыі я не заклікаю. Вось, напрыклад, наш вядомы беларускі мастак М.Савіцкі. У мяне з ім нармальныя адносіны. Мы можам сустрэцца, пагутарыць. Развітваючыся, Савіцкі працягвае мне руку. І тут я адказваю: "Прабачце, Міхаіл Андрэевіч, але я вам рукі не падам". Як можна было адным і тым жа алоўкам маляваць мадону і гэтых камуністычных сатрапаў?

– Алесь, ты прадаеш свае работы?

– Я не камерцыйны мастак. За ўвесь час прадаў толькі ў 1989 годзе Дзяржаўнаму мастацкаму музею Беларусі карціну за 1000 рублёў і нядаўна копію Маці Боскай Бялыніцкай за 100 долараў.

– Мне здаецца, ты б мог нядрэнна жыць.

– Безумоўна, але да багацця я не імкнуся. Дай мне грошы і я перастану маляваць, буду іх траціць на жанчын, падарожжы. У Магілёве адзін немец хацеў купіць у мяне карціну за 1000 марак. А я не прадаў. Немец вельмі здзівіўся. нічога, хай ведае – яшча ёсць нешт такое, што не прадаецца за грошы. Мы ўжо і так прадалі амаль ўсё: нафту, лес, дзевак.

– Твае адносіны да тых мастакоў, хто малюе на продаж.

– У кожнага свой шлях. Але мне здаецца, што сёння ў мастакоў часовыя цяжкасці. К нам яшчэ прыйдуць тыя ж бізнесмены, каб упрыгожыць свой катэдж. І таму зараз не трэба лізаць боты за 10 доллараў. Галоўнае – не згубіць гонар…

Гутарыў Е.Булова

**ВІЦЕБСК ПАМЯТАЕ МІРО** ……………………………………

**5-11 траўня 1993 г.**

Менавіта так называлася чарговая акцыя віцебскай прыватнай галерэі "У Пушкіна". Хто такі Хоан Міро? Імя гэтага каталонскага творцы стаіць у шэрагу выдомых усяму свету мастакоў Сальвадора Далі, Пабла Пікасо, Марка Шагала. Але, на жаль, творчасць Міро яшче да нядаўніх часоў лічылася ў нас забароненай.





Сёлетні ж год знамянальны. Мастакоўскі свет адзначае стагоддзе з дня нараджэння вялікага каталонца. Міма такой падзеі, зразумела, не магла прйсці гарадская галэрэя сучастнага мастацтва. Яна сабрала прыхільнікаў творчасці іспанскага майстра на нефармальнае свята, што прайшло 22 красавіка.

Як адзначылі супрацоўнікі галерэі, гэтая імпрэза – толькі пачатак іхняй працы па прапагандзе, прэзентацыі сучастнага авангарднага мастацтва. Што ж, будзем чакаць новых мастацкіх акцый галерэі.

Ю. Тутэйшы

**Літаратура і мастацтва, 24. IX. 94** ........................................................................

**БЕЛАРУСКІ POSTМАДЭРН У ПУШКІНСКАЙ ГАЛЕРЭІ**

Работы дванаццаці мастакоў з Мінска, Віцебска, Полацка, Гародні, Свіслачы досыць арганічна стварылі ёмістую кампазіцыю жывапісу і скульптуры ў галерэі А.Пушкіна, што ў Віцебску. Выставіліся тут постмадэрністы – ужо "пасталеўшыя" мастакі І. Кашкурэвіч, А.Пушкін, В.Васільеў, С.Цімохаў, К.Селіханаў і толькі ўзыхоходзячыя "зоркі" Н.Залозная, С.Бабарыка, Ю.Анушка да іншыя. Вядома, можна гаварыць пра суб'ектыўнасць адбору работ, пра перавагу сяброў. Але ніводнага разу нельга было адмовіць Аляксандру Пушкіну, як мастаку і трымальніку галерэі, ў адчуванні только ўзнікшых перспектыўных і цікавых плыняў беларусскага мастацтва, у адкрыцці яшчэ невядомых імёнаў, у гусце, зрэшты, стварэння экспазіцыі і яе тэарэтычнага абаснавання. Так, апошняя выстава "Postмадэрністы" не проста зафіксавала з'яўленне гэтага накірунку, яна выявіла цэльнасць яго ў пэўным сэнсе паганскую – у тэматыцы і стварэнні вобразаў. Гэта шлях вяртання да міфалагічнасці, перакладзенай на сучасную мастацкую мову, падобны таму, з якога распачыналася авангарднае мастацтва XX стагоддзя.



Н.Ш.

**МАРТИН И МАМУКА ТОЖЕ ПОЛЮБИЛИ НАШ ГОРОД**

На днях в редакцию зашел художник Александр Пушкин и пригласил журналистов к себе в мастерскую, в которой недавно поселились художники-иностранцы. Интересные ребята, работают сами по себе, вне всяких престижных пленэров, варят бумагу и «английские борщи», переплывают Двину. А Витебск ничегошеньки не знает.

Их трое. Мартин Гример из Бристоля (Англия), Мамука Джапаридзе из Тбилиси, Алексей Хацкевич из Минска. Профессиональные художники и большие оригиналы. Одно то, что двое из них преодолели многие километры, государственные границы, бытовые трудности ради того, чтобы попасть в наш город, говорит об их неординарности. Хотя Витебск посещает немало интересных людей, но все же мы не можем всякий раз преодолеть любопытство – почему художники, артисты, люди искусства с удовольствием едут сюда. И даже, как герои нашего повествования, говорят, что совершают паломничество.



– Нам интересно было поработать в городе, где жили такие великие художники, как Шагал, Малевич, – говорит Мамука.

В Тбилиси у Мамука Джапаридзе есть своя галерея. Вместе с Мартином они уже осуществили один проект – это книга с английским, русским и грузинским алфавитами. Книга необычная – на бумаге, изготовленной по оригинальному рецепту.

– Это моя разработка, – говорит Мартин. – Я делаю бумагу 3 года, начал в Лондоне, с одним американским скульптором. Оригинальность нашего проекта заключается не в технологии, а в художественной концепции. Суть ее в том, что для изготовления листов мы используем афиши, газеты, макулатуру, которую собираем в городе. Это исходным материал, уникальный сам по себе.

Мартин Гример – график, пишет книгу о художниках. В Витебске накапливает фотоматериал, делает заметки в блокноте. Задумал написать серию гравюр.

– Пребывание здесь, – делится впечатлениями Мартин, – как сон, хороший кошмар, интересные видения, новый эксперимент. Здесь другая культура, другие люди, и мне, как художнику, очень любопытно узнать этот мир.

Идея проекта художников звучит примерно так: «Я здесь, Шагал!». Это будет альбом с графикой Мамуки Джапаридзе на бумаге Мартина Гримера. Как объясняют авторы, они хотят передать художественными средствами свое ощущение города, контакта с Мастерами, которые оставили свое прикосновение к вечному.

– Конечно, трудно уловить дух, который когда-то существовал в городе. У нас жил Пиросмани, писал Тбилиси, и сегодня уже не найти тот неповторимый колорит города, который воспел Нико. Но иногда пространство, дома сохраняют память о прошлом, – говорит Мамука. – Это богатство самой среды. Интересно связать сегодняшнее ощущение города с тем, каким он был при жизни художников, каким он вошел в вечность, понять, чем он вдохновлял великих людей.

Художники сами не знают, когда закончат работу в Витебске. Но обещают обязательно показать ее горожанам. А потом альбом увидят в Тбилиси и Лондоне.

Т. Степанская.

Фото М. Шмерлинга.

**Свабода, №43, 15 лістапада 1994 г.** ..........................................

**ПА ВІЦЕБСКУ ХАДЗІЎ БОСЫ АЛЯКСАНДР ПУШКІН**

Дзень пакутніцкай сьмерці ўніяцкага біскупа сьв. Язафата Кунцэвіча, забойства якога было справакаванае расейскімі манахамі ў 1623 г., адзначылі ў Віцебску беларускія ўніяты.




Перфоманс „Шляхам сьвятога Язафата"

Адбылося гэта ў суботу, 12 лістапада. Кардынал Сьвёнтак і пробашч Януш дазволілі ўніятам правесці службу Божую ў віцебскім касьцёле сьв. Барбары. Да гэтай падзеі была прымеркаваная тэатральная дзея. Афішы, расклееныя па ўсім горадзе, паведамлялі: "Аляксандр Пушкін ладзіць перфоманс "Шляхам сьвятога Язафата". Гэтая мастацкая імпрэза пачалася з Усыпенскай горкі: за духавым аркестрам манахі вялі па марозе босага 29-гадовага мясцовага мастака А.Пушкіна, абвешанага камянямі, з крыжам у руках.

За ім рухалася чарада моладзі з запаленымі сьвечкамі. Паступова на віцебскіх вуліцах да іх далучаліся жыхары горада. Як і было па-мастацку задумана, жанчына ў чорным абліла мастака чорнай вадой, што азначала няпраўду, якую навялі расейскія клірыкі на сьвятога. ПО Язафата Язафата. Потым жанчына ў чырвоным абдала Аляксандра Пушкіна чырвонай Потым вадой, што сымбалізавала любоў сьв. Язафата да Бога і да тутэйшага люду. Нарэшце жанчына ў белым лінула белую ваду, што ўвасабляла сьвятасць біскупа. На беразе Дзьвіны А.Пушкіна паклалі ў човен і пусьцілі па рацэ. . .

Мэта пэрфомэнсу, як было напісана на афішах, "перажыць сорам і грэх забойства сьв.Язафата, пакаяцца, ачысьціцца і успрыняць асобу і дзейнасьць яго ў постмадерністцкім накірунку канца 20-га стагодзьдзя". Мастак А.Пушкін зьбіраецца напісаць вялікі абраз сьв. Язафата для будучай Уваскрасенскай уніяцкай царквы. Дарэчы, майстэрня мастака месьціцца ў занядбаным будынку былой Аляксандраўскай гімназіі, узьведзеным на месцы драўлянага палаца



Язафата Кунцэвіча, на ганку якога яго і забілі.

Але, як і ў 1623 г., не абышлося і цяпер без правакацыяў. Праваслаўны япіскап Дзьмітрый, спасылаючыся на тое, што ў 1876 г. будынак гімназіі быў куплены Віцебскай эпархіяй і да 1917 ў ім мясьцілася духоўная сэмінарыя, самачынна уварваўся ў майстэрню Пушкіна. Акупаваўшы яе, ён за тры дні збудаваў з фанэры аўтар. Улады апячаталі памяшканне. Аблвыканкам зьбіраецца перадаць яго царкве. Тым часам творчая інтэлігенцыя Віцебска прапануе ў будынку Аляксандраўскай гімназіі, якую па значнасьці можна параўнаць з Царскасельскім ліцэем, стварыць музэй асьветніцтва або аднавіць гімназію.

Але, як мне здаецца, царкве не будынак патрэбны, а ёсьць мэта любою цаною выселіць адтуль мастака Пушкіна.

Алесь Дашчынскі

**12 ноября стараниями небезызвестного художника Александра Пушкина** прошло театрализированное представление, посвященное памяти известного церковного деятеля Великого княжества Литовского Иосафата Кунцевича (1580 – 12.11.1623 гг.). Убитый восставшими горожанами ровно 371 год назад, Кунцевич вошел в советскую историографию как деятель, силой и жестокостью насаждавший униатство на Беларуси. Мы не знаем подробностей его смерти. Но, возможно, это так и было как показал Александр и его группа поддержки. А вообще, пройти в восьмиградусный мороз полураздетым, босиком с Успенской горки по ул. Толстого к Двине, обливаемый краской, да еще черепашьим шагом – это, знаете ли, надо уметь и сильно хотеть. И хотя народу собралось, как говорится, кот наплакал, дело сделано не зря. Если даже несколько человек открыли для себя новую страничку ….. (далее – не восстановлено – ред.)



**АРТ-ПРОГНОЗ**

23 марта в детской художественной школе №1 по улице Суворова, дом 3, впервые в Витебске будет проводиться акция "Арт-прогноз-96". В программе будут принимать участие известные и не очень витебские и минские художники, литераторы, музыканты, хореографы, кулинары и фармакологи. Последние будут вести пропаганду против наркотиков. В списке участников акции художник Александр Пушкин, режиссер Антон Гришкевич, критик Юрий Борисевич, лидер экс-рок-группы "Мроя" Леонид Вольский, руководитель оркестра нетрадиционного музыкального синтеза Вячеслав Дацкевич.

Все участники акции по желанию будут расписывать глиняные пласты, чтобы увековечить во времени свою тусовку. Кулинары обещают угостить всех собравшихся "выпеченными" литературными строфами. Участниками "Арт-прогноза-96" смогут стать все желающие, не пожалевшие заплатить в назначенный день за вход доллар по курсу. Действо начнется в 17.00 и продолжится до 23.00

Александр Пукшанский

**Имя, №12 (45), 5. IV. 1996 г.**




**<ПРОГНОЗ НА ЗА>ВТРА ОТ ПУШКИНА**

В то время, когда деятели культуры чуть ли не поголовно жалуются на небла-





гоприятные условия для творчества, кое-кто пытается решать проблему собственными силами. В Витебске по инициативе известного своими оригинальными проектами художника Алеся Пушкина прошла акция "Art-прагноз-96". По замыслу организаторов, совместный проект художников, литераторов, хореографов, фармакологов и кулинаров должен был стать переломным для белорусской культурной ситуации. Переломов, однако, не наблюдалось, хотя реакция витебской публики была необычайно живой, что удивительно: действие проходило на белорусском языке, в городе малопочитаемом.

Безусловно, старания хореографической группы под странным названием «Бум-балет» не прошли даром, но и не оставили сильных впечатлений, равно как и пирожные, выпеченные в форме букв и употребленные, как ни странно, по прямому назначению. Гвоздем программы стали литературные и музыкальные выступления участников движения "Бум-Бам-Літ", захвативших с собой из Минска Касю Камоцкую и Лявона Вольского. Их песни вместе с творениями Сержа Жука-Минскевича, перфомансом «Ільля Сін памер" Ильи Сина и стихами Сергея Поторанского, Севы Горячки, Змицера Вишнева и других принимались вполне одобрительно. И предложение «крестного отца» «ББЛ» Валентина Акудовича поддержать литераторов в их стремлении поехать в Африку, бросив в фирменный тазик кто сколько сможет, нашло у публики поддержку. На Африку, правда, не хватило. А вот Алеся Пушкина на следующий день также волновал вопрос проезда. Вложив свои честно заработанные деньги в проведение акции, художник не без труда наскреб лишь на билет до Могилева, где его ждала работа.

Илья Свирин





**Пагоня, №13, 29 сакавіка - 4 красавіка 1996 г.** ..............................................

**ПУШКІН, ПУШКІН, ФАЙНЫ ХЛОПЕЦ!**

Ёсьць людзі, дляякіх жыцьцё і творчасьць – няспынны акт грамадзянскага чыну, сталая барацьба за найвышэйшыя каштоўнасьці, галоўная з якіх – свабода. Менавіта яна ўзносіць творцу на вяршыні ЧЫСТАГА МАСТАЦТВА, менавіта яна – Божая ласка і цярновы вянок. Крыж свабоды ўзвальваюць сабе на плечы толькі адзінкі – апантаныя самотнікі. Да такіх асобаў належыць віцебскі мастак Алесь Пушкін.

Яго без перабольшаньня можна назваць "Байранам беларускага жывапісу", гэткім сучасным рамантыкам-змагаром. Але ён не падобны да аскета-пустэльніка.

Хутчэй наадварот, Алесь Пушкін – каталізатар і рэалізатар вольных мастацкіх ідэй і вялікіх акцый, якія падбадзёрваюць і натхняюць іншых творцаў. Гэта чалавек, які, не зважаючы на сваю жыцьцёвую неўладкаванасьць і прэсінг "вертыкальшчыкаў", здольны дапамагаць пачынаючым талентам і аб'ядноўваць вакол сябе незалежных літаратараў, мастакоў і музыкаў.

Яскравым сьведчаньнем гэтага сталася сьвята "Арт-прагноз-96", якое адбылося ў Віцебску напярэдадні Дня Незалежнасьці. Ініцыятарам і фундатарам акцыі выступіў сам Алесь Пушкін, ахвяраўшы зароблены "потам і крывёю" 700 долараў. Планавалася правесьці сьвята незалежнага мастацтва ў гістарычным будынку ратушы, але віцебскія ўлады адмовілі Пушкіну. Таму "Арт-прагноз-96" адбыўся ў памяшканьні мясцовай мастацкай школы. І тут імпрэза мела ашаламляльны (!) посьпех. Гэта пры платным уваходзе, коштам каля 1 долара і

штучным ажыятажы вакол гастроляў у Віцебску расейскага тэатру Ленком на чале з такімі знакамітасьцямі як Аляксандр Абдулаў ды Ірына Алфёрава! Як ні дзіўна, але многія экзальтаваныя прыхільнікі расейскіх зорак былі расчараваныя сьпектаклем Ленкома і пасьпяшалі патрапіць на "Арт-прагноз-96", каб палепшыць настрой.

Сапраўды, у мастацкай школе было весела і цікава, бо праграма "незалежнікаў" атрымалася вельмі насычанай і дынамічнай. Разагравалі публіку і літаратары, і музыкі, і танцоры, і мастакі, і нават кулінары з фармакалагамі. А якое суквецьце імёнаў удалося сабраць! Літаратары Валянцін Акудовіч, Алесь Аркуш, Юрась Барысевіч, Юры Гумянюк, Людміла Сільнова ды ўдзельнікі літ-суполкі "Бум-бам-літ", рок-спевакі Лявон Вольскі і Кася Камоцкая… Уся дзея адбывалася на фоне графікі і жывапісу Алеся Пушкіна, Васіля Васільлева, Міхала Баразны і бум-бам-літаўцаў.

Безумоўна, цяжка пра ўсе гэта напісаць, бо акцыю трэба было пабачыць, каб напоўніць сваё сэрца нечуванай радасьцю і вольным духам. І усё гэта дзякуючы файнаму хлопцу, арыгінальнаму мастаку Алесю Пушкіну.

Адам Друцкі-Любэцкі



# Агляд культурнага жыцьця ў 2005-2007 гадах

АРТЭФАКТЫ А.ПУШКІНА

*Суб'ектыўныя зацемкі зь дзёньніка мастака з Бабра Алеся Пушкіна*

**ДЫЯРЫУШ** / Алесь ПУШКІН

**Год 2005…**

Чытаю Буніна, Купрына – зіма, студзень, Каляды…

Вось і прайшло 10 год, як зачынілі ў Віцебску маю першую прыватную галерэю сучаснага мастацтва, маю лабараторыю эксперыментаў, постмадэрністскіх вопытаў…. Першая пляцоўка пасьля савецкага застою ў мастацтве сучасным Віцебска! Тыя ж людзі, хто курыраваў тады культуру ў Віцебску: М.Пашынскі, В.Кібісаў, тая ж чыноўніца, намесьнік старшыні Аблвыканкама А.Аленская, – дагэтуль, і праз 10 год, пры ўладзе!



**"Партрэт Васіля Быкава". Фрагмэнт.**

**18 студзеня 2005года**, ў Віцебску, у Цэнтры Сучаснага Мастацтва, раней часу, цэнзары закрылі выставу Першага пленэра імя Васіля Быкава (знялі маю карціну "Партрэт Васіля Быкава", 2005год, палатно, алей, 185 на 100см.). Астатнія ж мастакі, 26 асобаў, на знак салідарнасьці адазвалі свае працы з гэтай выставы. Унікальны выпадак, – першы, на маёй памяці, акт мастакоўскай салідарнасьці ў сучасным мастацтве Беларусі! Перад гэтым я прывёз карціну з Бабра на выставу, дзякуючы дапамозе віцебляніна Пятра Варнавы, выставіў яе, пабыў на канферэнцыі, прысьвечанай Васілю Быкаву, паглядзеў сьпектакль па яго творчасьці – "Стрэл ў тумане", наведаў адкрыцьцё выставы, абмеркаваньне… Усё было добра! І вось – на табе! Выканала гэту брыдкую ролю цэнзара (казалі – пад ціскам КГБ) Валянціна Кірылава, дырэктарка ЦСМ (Цэнтру Сучаснага Мастацтва). У мінулым – цудоўны культтрэгер, арганізатарка Першага Міжнароднага пленэра імя .Малевіча,


"Страта"1997г. (ляўкас, тэмпера, 100 на 90 см.)

распарадчык Віцебскага абласнога аддзяленьня Фонду Сораса – цяпер прадпрыймальнік Жыльлёва-Будаўнічага Кааператыва (будуе шматкватэрны дом ў Віцебску) і па сумяшчальніцтве – дырэктар Цэнтра Сучаснага Мастацтва! Івось-узялі за "жабры" – і яна стала цэнзарам беларускага мастацтва (Была дырэктаркай ЦСМ Віцебска да сакавіка 2011 года, цяпер пенсіянэр). Няўжо і ў будучым яна будзе казаць,што не вінаватая, што быў такі час, што яе прымусілі? Сын – прадпрыймальнік у Маскве, ніколі не любіла ні беларускай мовы, ні культуры. Ну як тут не ўзгадаць Пазьняка: "...гэтых людзей шкадаваць нельга, тым больш, спачуваць ім – яны бяздушныя прадпрымальнікі, уся іх філязофія – грошы", я б дадаў і імідж "культурнай дамы" Віцебска, заўважнай у горадзе. А можа і сама яна крэатура КГБ – каб кантраляваць у свой час і фінансавыя патокі абласнога аддзяленьня фонда Сораса, потым далі бізнес-кватэрнае будаўніцтва, і г.д. У свой час зьездзіла на павышэньне кваліфікацыі па культурнаму абмену разам з Максімам Жбанковым ў Амэрыку на дэмакратычныя грошы ! Вось так!

Далейшы лёс маёй карціны "Партрэт Васіля Быкава" такі: у траўні яна была выстаўлена на выставе ў Чырвоным касьцёле ў Мінску, а ўвосень Дзіма Асташанка,ўладальнік гандлёвага цэнтру "Подземный город" пад універмагам БЕЛАРУСЬ, што ў Мінску, зрабіў прапанову аб набыцьці яе для сваёй калекцыі прыватнай. Я прапанаваў за яе палітычную цану – 8 млн 100 рублёў – на 100 рублёў болей, чымсьці дзяржава (Міністэрства Культуры) заплаціла за выстаўленую, на выставе ў Палацы Мастацтваў да 60-х угодкаў Перамогі, карціну Міхаіла Савіцкага. Яшчэ я папрасіў яго складсьці дамову куплі-продажу на гэты твор, пералічыць грошы на мной адкрыты рахунак, каб я заплаціў падаткі і потым меў падставу казаць пра рэальны кошт сваіх прац. На тыя часы сума дамовы за гэты твор складала 4 000 даляраў ЗША. Дзіма Асташанка не пагадзіўся на публічную рэгістрацыю факта набыцьця твора, сказаў, што ніколі гэта ня зробіць, – сам ведаеш, чаму! Проста даў грошы наяўныя ў беларускіх рублях. Цяпер "Партрэт Васіля Быкава" знаходзіцца ў яго прыватнай калекцыі жывапісу. Яшчэ адзін мой твор –"Страта"1997г., **(фота 3)** ляўкас, тэмпера, 100 на 90 см., таксама знаходзіцца ў ягонай калекцыі. Пазней,у 2008 годзе, я зрабіў аўтарскі паўтор на палатне гэтага твору для Музэя Беларускага Мастацтва, што заснаваў Алесь Вінакур у Нью-Ёрку,і,пасьля выставы гэтага твора у OSLOSITYHALL, у лістападзе таго ж году,ён пераехаў і захоўваецца там, у Алеся Вінакура і Юлі Шатэрнік, у Нью-Ёрку.



**Прыязджалі 24 студзеня 2005года** Маргарыта Сталбоўская з маці Зінаідай Сяргееўнай і сястрой Зояй – ст.прапаршчыкам ФСБ на пенсіі. Вядома ж –дачка Ганна, расьце, цікавіцца – як жа тата, хто ён, дзе ён там жыве? Хоць і я 14 студзеня іх наведаў на Стары Новы Год. Цяпер,у нядзелю 24 студзеня сустрэў іх царкоўным звонам у нашай Бобрскай царкве, Ганна таксама паднялася са мной на званіцу і ўдарыла разок ...

Былі на літургіі, хадзілі да дзеда, Ганна паглядзела на жывога свайго 80-ці гадовага дзеда, паразмаўлялі, былі мы мірныя і спакойныя ўсе... Неўзабаве прыехалі з французскай амбасады мс'е Філіп, яго жонка

Людміла (яна родам з Харкава), дзеці Давід і Аляксандр. Стала весялей – Зоя пацешыла расповядамі з жыцьця фээсбэшнікаў – як лавілі яны там, на расейска-кітайскай мяжы кітайскіх шпіёнаў. Маўляў, зразумела, – вы французскія шпіёны! Потым Ганна пабыла на печы зь Міколкам, а мы з французамі схадзілі ў царкву, задавалі пытаньні бацюшку, ён чырванеў, – цяжка яму ўсё было тлумачыць, складаныя пытаньні… Потым, у 2006 годзе PhilippeMarchesin, супрацоўнік францускай амбасады ў Рэспубліцы Беларусь, у выдавецтве Editions KARTHALA 22-24, boulevardArago75013 Paris выдасьць кнігу "LaBIELORUSSIE" – дзе будзе і пра Купальле ў Бабры, і пра вясковага мастачка Пушкіна ў тым жа Бабры…
Вось такі пачатак года выдаўся…

Аднойчы ўвечары, пасьля майго вяртаньня зь Мінску, я ўзрадаваўся радаснаму крыку Міколкі – "Тата"! Як прыемна, як доўгачакана! Першыя словы! На роднай мове! Як радасна бачыць яго першыя крокі, як ён ходзіць, як ён расьце! Такая надзея, так стала шчасьліва нам, нягледзячы на нашу беднасьць, лічы жабрацтва, ўсё ж жыць!!!

А ў творчым плане – цудоўныя прапановы ад Рэдаса Джырдзіса з Алітуса (Літва) на ўдзел у Міжнародным фестывалі сучаснага мастацтва "АСЬЦЯРОЖНА! ПАЛІТЫКА!" у жніўні 2005-га. Яшчэ прапанова, ад Сяргея Скаруліса з Прагі, пажыць і творча папрацаваць у Крумлаве – цудоўным чэшскім гарадку сярэдневечным, які цалкам унесены, як помнік, у спадчыну ЮНЭСКА **(фоты 5,6,7.)**. Ну і падцьверджаньне рэжысёра Анджэя Фідыка (Польшча) аб здымках фільма дакументальнага ("БЕЛАРУСКІ ВАЛЬС", 72 хв. 2008г., намінаваны на EMMYAWARDS у 2009 годзе, увайшоў у чацьвёрку лепшых дакументальных фільмаў 2009-га. Паказаны па агульнанацыянальных тэлеканалах Швецыі, Нарвегіі, Польшчы, ЗША).

**Люты 2005 года** – прэзентацыя чэшскага часопіса пра сучаснае мастацтва"UMELEC" у амбасадзе Чэхіі. Там і пра мяне напісала Алена Бойка, куратар-мастацтвазнаўца, з каторай мы ездзілі ў Алітус на "АСЬЦЯРОЖНА! ПАЛІТЫКА!" (у жніўні). Сумнае відовішча – ўсе, нават прадстаўнік Чэхіі размаўлялі на расейскай мове! Я – адзіны там чалавек, на гэтай імпрэзе, які размаўляў па-беларуску! Складвалася ўраджаньне, што асноўны боль – зьнішчэньне беларускай культуры рэжымам Лукашэнкі – усе старанна абходзяць, не прамаўляюць пра гэта…

Адчуваньне таго, што я буду не падтрыманы ні афіцыйным РБшным істэблішмэнтам і чыноўнікамі ад культуры, так і нібыта незалежнымі, культурніцкімі ініцыятывамі, што курыруюцца празаходнімі,



ЦРУшнымі культтрэгерамі. Я ім таксама, са сваёй самадастатковасьцю і незалежніцкай пазыцыяй, беларускай мовай і вышыванай кашуляй – як костка ў горле сярод Селіханавых, Цэсьлераў, Гарэцкіх, говорящих по-руски!

Калі быў у красавіку ў Чэшскім Крумлаве – часта сьніліся родныя. Увогуле, калі бываю за мяжой – вось амаль адразу, у першыя ж дні сьніцца Радзіма, родныя…

Сьнілася Яначка…

Сьнілася, што на ровары лячу-еду па роднай вуліцы Барсуковай, да бацькоўскай хаты, дзе 13 годзікаў жыў маленькім і што вылецеў зь яе ў Мінск, ў мастацкую школу…Што я малы, што хутка-хутка, за нейкімі хлапцамі на роварах, якія паперадзе едуць,– лячу-імкнусь да роднай хаты майго дзяцінства… Прачнуўся, думаў пра гэта… Адчуваньне было такое, што ніколі, ніводны горад, нават такі прыгажэнны, як Чэшскі Крумлаў, ніводная краіна, дзе я буду турыстам – ня дасьць адчуваньня гэтага радаснага, шчасьлівага сна дзяцінства, сьвежасьці, вясны, пахаў дажджа, зямлі, вечара, расьлін – самога адчуваньня маленства, навізны і насычанасьці эмоцый, пра што нагадаў той сон! Я ўзгадаў, што аднойчы, класе ў другім, вясновым вечарам тата даў мне паезьдзіць на толькі што купленым, новенькім веліку, які мякка-бясшумна каціўся па вільготнай зямлі, якая пахла вясной, шэрым раньнім вясновым вечарам, – і гэта адчуваньне таго вечара, утульнасьці бацькоўскага дома, поўнай сям'і і спакою, падсьвядомая настальгія, што мамы ўжо няма,і імкненьня вярнуцца ў той **бесклапотны, вясновы шчасьлівы сьвет – гэта і сасьнілася мне!**

Будзь жа блаславенна тое дзяцінства! Як важна поўная сям'я ў жыцьці дзіцяці! І як адносна, у параўнаньні з гэтым, пытаньне дабрабыту, коштаў, марак ровараў, машын, упарадкаванасьці і "упакаванасьці" дамоў і г.д.

З прыемнасьцю і гонарам успамінаю Магілёў, што даў мне і маю жоначку, і маю цяперашнюю хату на беразе Бабра, і мажлівасьць рэалізавацца, як Мастаку – стварыўшы росьпіс, дзе ўпершыню ў Беларусі быў намаляваны Ян Павал ІІ, Яго Іменэнцыя, ксёндз-кардынал Казімір Сьвёнтэк, шэраг знакавых асобаў нашай Гісторыі, нашага Адраджэньня ХХ стагоддзя і навейшага (1995-1996гг.,) часу. Вельмі паважаю гэтых людзей, сыноў Чалавецтва – Караля Вайтылу і Казіміра Сьвёнтка, яны неаддзельныя ў маім ўяўленьні адзін ад аднаго, ад той Эпохі – аднаўленьня Касьцёла на Беларусі, ад таго Адраджэньня і Свабоды, якое прыйшлося на 1991-1995гг.!





Вельмі рады,што лёс падарыў мне мажлівасьць працаваць ў той час над гэтым плафонам, які замовіў тады пробашч, а цяпер біскуп Віцебскі – Ўладыслаў Блін. Праект зацьвердзіў і прапанаваў ў сваіх заўвагах дадаць выяву біскупаў Лазінскага і Цепляка – сам кардынал Казімір Сьвёнтэк. Ён жа блаславіў мяне на працу над гэтым плафонам у правай, у імя Сьв.Язэпа, бакавой капліцы Магілёўскага Катэдральнага касьцёла ў 1995-1996гг. Цяпер гэты росьпіс зафарбаваны пробашчам – палякам, кс. Романам Факсіньскім, які атрымаў грамадзянства РБ (можа і за гэта?!)

Вось лёс БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА, зробленага рукамі беларускіх мастакоў, якія народжаныя, вырасьлі, атрымалі мастацкую адукацыю, працуюць, не ўцякаюць з сваёй радзімы, размаўляюць на беларускай мове!!!

Вядома, важнейшымі падзеямі 2005 года ёсьць здымкі фільма "БЕЛАРУСКІ ВАЛЬС". Купальле, калі прыехала Ларыса Сімаковіч – цудоўны эпізод! Шкада, што рэжысёр не надаў гэтаму сьвяту належнай увагі ў фільме!

Канечне ж недазволеная выстава партрэтаў "БЕЛАРУСКАГА РЭЗЫСТАНСА" на сходах Нацыянальнага мастацкага музэя Беларусі – і той цуд, што мяне не судзілі за гэту акцыю, а проста адправілі дамоў...

**Художественный протест**

"В ПОНЕДЕЛЬНИК ИЗВЕСТНЫЙ ХУДОЖНИК АЛЕСЬ ПУШКИН УСТРОИЛ В Минске очередную акцию-перфоманс. На этот раз он

**4 июля около 5 часов утра...**



протестовал против решения руководства Национального художественного музея Беларуси об отказе в проведении выставки его работ.

Это уже третья акция протеста Алеся Пушкина. Первый раз он «засветился» в 1989 году участием в несанкционированном шествии, посвященном Дню воли. На него было заведено уголовное дело, закончившееся приговором в 2 года лишения свободы условно. Самая громкая акция-перфоманс была проведена художником в 1999 году, когда он выбросил кучу навоза перед зданием Администрации президента. Тогда суд также отмерил ему два года условно.

В феврале нынешнего года Алесь Пушкин обратился с письмом к директору музея Владимиру Прокопцову о разрешении выставить в музее портреты известных белорусских деятелей антисоветской и антигитлеровской борьбы и национального возрождения, людей, на которых и сегодня — клеймо предателей за выступления против советской власти и которые даже после освобождения Беларуси продолжали борьбу. Алесь считает, что настало время реабилитации этих людей. В марте на организацию выставки был получен отказ. Это и послужило толчком к проведению июльской акции.

4 июля около 5 часов утра...

4 июля около 5 часов утра Алесь Пушкин начал раскладывать на ступенях Национального художественного музея свои работы. Портреты были накрыты черной тканью и скованы красной колючей проволокой. Когда картины были разложены, художник сорвал с них ткань, проволоку и развернул «бел-чырвона-белы» флаг. В это время к нему подошли сотрудники милиции. Их было двое. Потом подъехало начальство из райотдела.

Первыми взяли Сергея Грица, Юлию Дорошкевич и Сергея Ерша — журналистов, которые были рядом. Их попросили пройти в отдел для дачи показаний. И это несмотря на предъявленные удостоверения личности. Затем стражи правопорядка собрали картины, на художника надели наручники и отнесли в отдел. При этом, по словам Алеся Пушкина, его называли эсэсовцем.

Позже в РУВД явился сотрудник КГБ, который переписал фамилии задержанных и удалился. Журналистов продержали в милиции около трех часов, заставив написать объяснения, и отпустили. Правда, перед этим стражи порядка в нарушение закона попытались стереть с камер запечатленное. Пушкина тоже отпустили. Пока неизвестно, какой будет последующая реакция властей на действия «возмутителя» спокойствия. Можно только предполагать.”

Сергей САЦУК

Вось так! Гэта, без сумненьня было сьмела і ўдала зроблена! Зьнята нажыва, з вакна дома насупраць – і цалкам ўвайшло ў фільм “БЕЛАРУСКІ ВАЛЬС”, што надало яму вайстрыню і драматызм, як і той фрагмент з перфоманса ”SOLDEROFFORTUNE” ад 3 ліпеня 2003 года! А цяпер тры партрэты з гэтай сэрыі, а менавіта: Міхала Вітушкі, Усевалада Родзькі і Тамары Чарамшагінай, – знаходзяцца ў калекцыі Кальмарскага музея сучаснага мастацтва (Швецыя), 2011год.



**Сьмерць Анатоля Сыса 7-8 мая 2005 года**... Паховіны яго на Радуніцу...



Хочацца адзначыць уплыў паэта на мяне ў 1989-1999гг.

Вельмі, вельмі паўплываў Анатоль Сыс на ўсё наша тагачаснае маладое пакаленьне мінскай творчай інтэлігенцыі 1980-1990-х. Хацелася працаваць, хацелася быць падобным на яго, хацелася рабіць такія творы энергетычныя, як ягоныя вершы. А як ён іх чытаў!!! Як зараджаліся мы беларушчынай! Цяпер, па прашэсьці гадоў, пачынаю разумець – каб Беларусь жыла і шырылася, адных кніжак, музэяў, карцін, фальклору, музыкі – недастаткова! Патрэбна яшчэ і сустрэчы па жыцьці з такімі асобамі, – жывымі носьбітамі мовы, Творцамі – такімі яркімі, кудлатымі, шурпатымі і занозістымі – але Асобамі, якія геніяльна сьмела АДЛЮСТРОЎВАЮЦЬ СВОЙ ЧАС!

Фота Анатоля Кляшчука

***Ну проста немажліва ўявіць Сыса блогерам, ці стваральнікам якогась парталу, сайта, каментатарам – адным словам, віртуальнай асобай! Яго эфект і ўплыў бы быў раўны нулю! Толькі рэальныя сустрэчы, толькі жывы голас – калясальнае ўраджаньне на любога, хто знаходзіўся побач!***

Невыпадкова ўзгадваю ўражаньне ад сустрэчы, летам гэтага 2011года на адной з творчых тусовак на тэмат свабоды і цэнзуры творчасьці на Беларусі, з вядомым блогерам Яўгенам Абрамавічам Ліпковічам, чый ўплыў цяпер несумненны на віртуальнай прасторы беларускага інтэрнэта. Перада мной прадстаў – нізенькі-злы-моднаапрануты-з брушком-у акулярах – жыдок, які адразу на мяне акрысіўся, калі я паспрабаваў перапытаць яго імя па бацьку – яму адразу падалося, што я акцэнтую ўвагу на гэтым! І гэта адчуваньне рэальнай мізэрнасьці, нейкай імпэтнай беспрычыннай злосьці на ўсіх і ўся, ўласнай закамплексаванасьці, можа і ў нейкіх фрэйдзістскіх, глыбока схаваных пад моднай адзёжкаю, пытаньнях не пакідала мяне, калі я слухаў яго гняўлівыя тырады пра ўладу, апазыцыю… Вядома ж, на расейскай мове! Я лавіў сабе на думцы – што агульнага, апроч месца пражываньня, у яго зь Беларусьсю?! У думках параўноўваў той час (1980-1990-я), рэальных людзей таго часу – Сыса, Пазьняка, С.Сакалова-Воюша і цяперашні час, – час віртуальных палемік, бур, спрэчак, блогаў і троляў, ”адкрывенных каментаў”… Эх!

Прыходзіць яшчэ думка,што слабы адбітак той энэргетыкі, таго захапленьня і імпэта 90-х мінулага ўжо стагоддзя насьледуюць бадай што Вайцюшкевіч, Някляеў, Эрыкссон – і таму яны заўважныя і абаяльныя менавіта з-за гэтага!

**27красавіка 2005 года** першая і адзіная спроба нашага раённага начальства, якое да мяне прыехала дадому, прапанаваць выставіцца ў нашай раённай карціннай галярэі, што надоечы адчыняецца ў Крупках. Намесьнік старшыні райвыканкама па ідэалёгіі В.А.Загорскі і начальнік адзела культуры Ганна Аляксееўна Кукарцава прапанавалі выставіць карціны ў адным з заляў галярэі.



**”Лёс майго бацькі”**



Я прапанаваў выставіць без цэнзуры, з подпісамі па-беларуску наступныя творы: ”Партрэт Васіля Быкава” (гл. вышэй), ”Лёс майго бацькі”, ”Подзьвіг Валодзі Карпекі”, ”Пленэр на Беларусі. Год 2000”, ”Вясковая настаўніца”, ”Пад расейскімі ботамі”, ”Партрэт Юркі Моніча”, ”Партрэт Лукаша Семянюка”, ”Партрэт маці”. Такім чынам, у нашай Крупскай галерэі былі б прадстаўлены лепшыя мае творы на 40-м годзе майго жыцьця! Я папрасіў падпісаць дакумент, дзе б гэтыя творы былі выстаўлены разам ўсе, без цэнзуры, падпісаныя па-беларуску, яны б належылі мне – каб я мог іх у любы момант ўзяць на іншыя выставы на зкспанацыю. А калі б Крупская галярэя захацела, – то магла б іх выкупіць паступова за нейкія грошы і тады б яны сталі ўласнасьцю цалкам Крупскай раённай карціннай галерэі. Дагэтуль захоўваю адказ, які падпісала Кукарцава пасьля шматлікіх кансультацый, відаць, з Гарнаком А.С., ці іншымі КГБістамі: ”К сожалению, районный отдел культуры не может пойти на предложенные Вами условия”. Дата. Подпіс.


**”Партрэт маці”. Фрагмэнт.**

Так сумна скончылася спроба раённага начальства супрацоўнічаць з мясцовым вясковым мастачком Алесем Пушкіным! А тату я сказаў: “Эх, тата! Не дачакаліся

**”Пленэр на Беларусі. Год 2000”**



**”Вясковая настаўніца”**

мы афіцыйнага прызнаньня на тваім жыцьці сына-мастака, што народжаны, вырас, атрымаў адукацыю, вярнуўся і жыве тут, на сваёй малой радзіме, расьпісаў царкву, у меру свайго, Богам дадзенага сьціплага таленту піша карціны, займае нейкую беларускую прынцыповую жыцьцёвую пазыцыю! Ня вып'ем чарку пасьля агляду залаў нашай карціннай галярэі, дзе пабачым творы, што адлюстроўваюць наш рэгіён, наш час, нашых людзей! Відаць гэта будзе не пры тваім жыцьці, а можа і не пры маім, – пакуль кіруе такі рэжым на Беларусі, а гэтыя лукашэнкаўцы дакладна яго адлюстроўваюць і выконваюць! Можа хіба Міколка дачакаецца?!”. На што тата сумна пагадзіўся…

Праз пэўны час (прайшло некалькі год) я даведаўся, што Ганна Аляксееўна Кукарцава памерла ў ванне, – сэрца ня вытрымала… Лекавалася ад алькагалізму, была закадзіравана…

На асьвячэньні Бобрскай царквы Сьвятога Міколы **28 мая 2005года** я не прысутнічаў, – быў тата. Айцец Віктар Белацаркоўскі прапанаваў мне сустрэць Мітрапаліта Філарэта царкоўным звонам, я адмовіўся. Патлумачыў, што прыежджы рускі чалавек, як бы ён там шмат чаго ні зрабіў для Праваслаўя на





**“Пад расейскімі ботамі”.**

Беларусі, ёсьць верны слуга Расейскай імперыі. А "одержимым холопским недугом" я ня буду біць у званы. Сьмірэнным перад Богам буду, а перад расейскімі акупантамі – не. Ды і пасьля зафарбоўкі фрэскі "Судны Дзень" людзьмі, якія без сумненьня веруючыя, але размаўляюць па-расейску і іх рука ня дрогне, каб замаляваць (ці спаліць!) твор беларускага мастацтва, – гэта верх халопства, поўная адмова ад беларускай самастойнай пазыцыі. 28 мая 2005 года Бобрская царква Сьвятога Міколы была асьвячона Мітрапалітам Філарэтам, намесьнікам (Экзархам) Расейскага Патрыярха на тэрыторыі суверэннай Рэспублікі Беларусь.

*17 лютага 2011 года царква згарэла. Прастаяў твор мясцовага беларускага народа і мастака, які нарадзіўся, вырас, атрымаў адукацыю, аккумаляваў мясцовую самабытнасьць, прыроду, калярыт і адлюстраваў на яе сьценах сваю складаную эпоху – пяць з паловай гадоў!*




**Часам думаю, што калі-небудзь я буду штось казаць студэнтам ці вучням мастацкай Акадэміі, ці якогась каледжа, якія з сьветлымі памкненьнямі зьбіраюцца служыць Музе, Вечнаму, Прыўкраснаму...Ці адказваць на пытаньне дзесь за мяжой, можа і ў той Расіі:**

**– Ну як там беларускае мастацтва? Што Вы нам пакажаце,што вы нам прадставіць можаце значнага,заметнага,характэрнага для Вас, Вашага шляху разьвіцьця сучаснага мастацтва?**

**– Гдзе Рэпіны, гдзе Талстыя, выньця і палажыце мне ВАЙНУ І МІР, "Бурлакоў на Волге"?!**

**– Я пакажу на відэо спаленыя фрэскі і абразы, зафарбаваныя плафоны, закрытыя ўладамі галерэі сучаснага мастацтва, нявыстаўленыя творы... "...На сьвет цэлы – нясуць крыўду ўсю, на паказ сваю!" (Янка Купала).**

**Гэта, на жаль, наш беларускі шлях мастацтва! Шлях зьнішчэньня ўласнымі рукамі ўласнага беларускага мастацтва! І гэта – рэальныя факты, рэальных 2000-х гадоў, – я сьведчу сваімі дзёньнікамі,сваёй творчасьцю пра гэта!**

**Вынікі 2005 года**: фільм "БЕЛАРУСКІ ВАЛЬС" ( паказаны ў шырокім пракаце з 2008года); травень – мой першы міжнародны пленэр у г.Седліцэ (Польшча); у Празе, на вуліцы Яна Зайца 36 – выстава маіх твораў і фільмаў; цудоўная імпрэза і выстава 24-28 лістапада ў Варшаве "KULTURAKONTRADYKTATURA"; Алітусская выстава Эксперыментальнага мастацтва "АСЬЦЯРОЖНА! ПАЛІТЫКА!"; пленэр на Заходней Дзьвіне, у в. Лявомпаль "У пошуках Атлянтыды"; 27 верасьня 2005 году паездка і выстава ў БЕЛАРУСКІМ ЦЭНТРЫ, Кіеў; напісаньне дзьвюх абразоў для ксяндза Ігара Лашука з Серабранкі (адзін зь іх быў падараваны біскупу г.Лімбурга, Нямеччына.



Вядома ж, найбольшае ўражаньне ад падарожжаў 2005 года – амаль месяц пражываньня і творчасьці ў Чэшскім Крумлаве. Вялікі дзякуй Сяргею Скарулісу!




**Маці Божая (2006г.)**

**Сьвяты апостал Ян (2006г.)**

**2006 год**

Пішу абразы для баброўскай царквы, напісаў абраз "Уваскрашэньня Гасподняга " для беларускай суполкі ў Антверпене, – будзе там у царкве Антверпенскай, дзе беларусы Бельгіі зьбіраюцца на набажэнства...

Пазнаёміўся з Леанілай Бортнік, жонкай беларускага праваслаўнага сьвятара, а. Георгія Бортніка, расстралянага ў 1952 годзе за яго беларускую пазыцыю, за тое, што ўваходзіў у "Саюз вызваленьня ад камунізму" – арганізацыю падпольную на Глыбоччыне. Знаёмства адбылося дзякуючы Сяргею Яршу. У выніку быў напісаны партрэт айца Георгія. Я яго шматкроць выстаўляў: па Беларусі, у Львове, нават у Швецыі, у Кальмары – Музэі Сучаснага Мастацтва – найлепшым музэі сучаснага мастацтва Швецыі. Вось чаму ў нас няма *беларускіх* праваслаўных сьвятароў! Страх перад зьнішчэньнем яшчэ такі сьвежы! Гэты ўспамін, гэта памяць рэпрэсій за беларускі нацыяналізм! Ды і на ўзроўні вучэльняў і семінарый – той хто ведае мову, трымаецца яе, – разглядаецца як нацыяналіст і выключаецца.

Вось чаму ў нас чужая царква пануе! Гэта вельмі важная мая праца – я яе, па меры магчымасьцяў важу і выстаўляю паўсюль, разам з карцінай "Русские сапоги"1997 года. Так вось атрымліваецца, раз на 10 год ствараць свой маленькі "шэдэўр," які мне з гонарам хочацца прадставіць!

**ВЫБАРЫ-2006**

Суддзя Хома Вольга Васільеўна прыняла рашэньне судовае – і я ў вязьніцы... (Гэта ж асоба і праз 5 год, – 9 сьнежня 2010 года ізноў адправіць мяне ў вязьніцу! Таму "Выбары Вярхоўнай Улады" – гэта ўжо дзяржаўны перформанс з беларускім мастаком,які ня хоча адыгрываць ролю статыста. Зацята супраціўляецца. Маўчыць.

Пасадзілі ў Крупскі ізалятар часовага ўтрыманьня і, а 12 гадзіне зьявілася выбарчая камісія выязная і прапанавала прыняць удзел у выбарах вышэйшай выканаўчай улады на Беларусі. Катэгарычна адмовіўся!

Гэта сумны фарс, – пасадзілі за краты – і прапаноўваюць галасаваць за гэту несвабоду!



**Партрэт а. Георгія Бортніка (2007, палатно, алей, 120х142см)**

**СУДЗІМАСЬЦІ АЛЕСЯ ПУШКІНА**

Вось ўжо на працягу больш як 20 год дзяржава перасьледуе і карае мастака за іншадумства і сьвядомую беларускую пазыцыю. Зачыняліся выставы: 6 чэрвеня 1991г. – у залах Гродзенскага гісторыка-культурнага музэя-запаведніка з-за цэнзуры абкома КПСС; у Віцебскай Філармоніі – 1995г. Здымаліся з вытворчасьці дэкарацыі да тэатральнай пастаноўкі ”Палкоўніку ніхто не піша” па Г.Маркесу (Тэатр імя Я.Коласа, Віцебск, май 1998г). Зноў забаранялі: на выставе “ПАГОНЯ-2001”; пленэрныя выставы ў Новалукамлі (1999г); Верхнядзьвінску (2005г); у Віцебскім Цэнтры Сучаснага Мастацтва (2005г.) пасьля пленэровая выстава памяці Васіля Быкава.)

Але найбольш судзілі за перфомансы:

1989 год – Мінскі Гарадскі суд, суддзя Чамрукоў А. прысудзіў 2 гады ўмоўна з пяцігадовым паражэньнем ў правох за хэппенінг – сьвяткаваньне 71 гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі.

1999 год – Суд Ленінскага раёна г.Мінска, суддзя Хрыпач С.Ф. прысудзіў ізноў 2 гады ўмоўна за перфоманс з тачкай гноя для ўзурпатара вышэйшай дзяржаўнай улады – А.Лукашэнкі. Характэрызавалася гэта як “злоснае хуліганства з асаблівым цынізмам”.

7 верасьня 2001 года – Крупская раённая адміністратыўная камісія па артыкулу 172,ч.3 КоАП РБ прысудзіла штраф у памеры 37 500р., за тое, што даваў супраць Лукашэнкі на Выбарах-2001 розныя налепкі-карцінкі дзецям местачковым.

8 ліпеня 2002 года – суд Маскоўскага раёна г.Мінска, суддзя Надзея Равуцкая прысудзіла па артыкулу 166 КоАП РБ штраф – 1 базавая велічыня, за перфоманс ”SolderofFortune’’ на пл. Незалежнасьці (Леніна) у Мінску.

21сакавіка 2006 года – суд Крупскага раёна, суддзя Хома Вольга Васільеўна, па артыкулу 156 КоАП РБ, прысудзіла арышт – 3 сутак і 1 базавая велічыня штрафу – каб не натварыў чагосьці падчас Выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь-2006.

12 верасьня 2007 года – суд Аршанскага раёна і г.Оршы, суддзя Рыбакова Тацяна Аляксандраўна, па артыкулу 17,ч.1 КоАП РБ, прысудзіла 7 сутак арышту за пратэст супраць разгона міліцыяй фестываля бардаўскай песьні на Крапіўным Полі пад Воршай, дзе была здабыта перамога над маскалямі 8 верасьня 1514года.

3 мая 2008 года – суд Крупскага раёна, суддзя Сіз Аляксандр Мікалаевіч, па артыкулу 23.34,ч.1 і арт.23.4 КоАП РБ, прысудзіў штраф 25 базавых велічынь (400USD) за тое, што выставіў 5 шпакоўняў і сьцягі (нацыянальны: бел-чырвона-белы і эўразьвязу) на цэнтральным пляцу мястэчка Бобр у гонар 90 годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі.

9 сьнежня 2010 года – суд Крупскага раёна, ізноў суддзя Хома Вольга Васільеўна, па артыкулах 17,ч.1 і 23,ч.4 КоАП РБ, прысудзіла 13 сутак арышту, каб не натварыў чагосьці на Выбарах Прэзідэнта-2010.

Гэты сьпіс склаў у кастрычніку 2011году….

Але вернемся ў год 2006-ты…



НА ВЯЛІКДЗЕНЬ ЯНАЧКА СКАЗАЛА ПРА СВАЮ ЦЯЖАРНАСЬЦЬ!

Як я быў рады! Вельмі шчасьлівы! Вельмі хачу дачушку каб яна нарадзіла! Цяпер я цалкам спакойны – ёсьць у нас доктар Юры Аляксандравіч Харэвіч, што працуе ў абласным раддоме – і мы там будзем нараджаць! Буду маліцца каб Бог зьдзейсьніў нашы мары!

А пакуль пішу для мястэчка Варапаева, для касьцёла Арханёла Міхала вобраз іх Сьвятога Заступніка, дзе ён трымае сьферу, а на ёй – Варапаеўскі касьцёл…. Пазнаёміўся з ксёндзам Андрэям Санько – вось ён і прапанаваў гэту працу. Потым мы яшчэ зробім пілігрымку з **23 па 27 мая**: Варшава (адбылася сустрэча на пляцу імя Пілсудскага з Папам Рымскім БенэдыктамXVI)-Чанстахоў-Лодзь-Беласток і на Беларусь.

Падчас пілігрымкі, я ўсюды маліўся, каб Гасподзь даў нам дачушку, каб яна была шчасьлівая лёсам, здаровенькая і добрая! Маліўся абразам Маці Божай Чанстахоўскай і Маці Божай Ружавастоцкай на Беласточчыне, на гары Гарбарка за нашую будучыню – дачушку Марыльку!



І вось, **23 сьнежня2006 года**, у 03-10, у Мінскім Абласным раддоме у Сьцяпянцы, нарадзілася Марылька, наша дачушка, наша красачка! Роды прыняў Харэвіч Юры Аляксандравіч – наш доктар, што і Міколку нашаму дапамагаў зьявіцца ў Сьвет Божы! Якое цуда! Якое шчасьце! А я начаваў у гэту ноч у таты, у бацькоўскім доме і да нас раніцай прыйшла (як толькі знайшла!) старэнькая бабуля – Елізавета Гаўрылаўна Туманава, 93гады ёй, яна адна з пяцёх дзяцей рэпрэсаванага сьвятара, пратаіярэя Гаўрыіла Туманава, пра якога напісана ў нашай раённай кнізе ПАМЯЦЬ. Прыйшла з просьбай агледзіць абразы татавы. Я задумаўся над яе зьяўленьнем, ды і надоечы сон сьніў пра будучую духоўнасьць Марылькі. ”…. Духоўніцу, духоўніцу яна табе народзіць….”. Які ж лёс будзе нашай Марыльці?! Малюся за тое, каб выканала Волю Божую сваім зьяўленьнем на Сьвет і пры гэтым шчасьлівай была і нас радавала!



Былі працы ў Палесскім драматычным тэатры (г.Пінск), з рэжысёрам Аленай Гаўрыловіч над пастаноўкай п’есы Б.Шоў “Летний лондонский дождь” (Пігмаліон). Прэм’ера адбылася ў 2007 годзе, у красавіку.

Была зроблена праца ў тэхніцы зграффіта для прыватнага дома Дзімы Шаўня з Самахвалавіч ”Даўняе паляваньне” плошчай 5 кв. м.

А на другі дзень па нараджэньні Марылькі прыехалі людзі з Крупак і купілі маю працу “Раніца. Чэшскі Крумлаў”. Вось як Гасподзь клапоціцца пра наш хлеб надзённы: зьявілася дзіця – зьявіліся і грошы!

Такім быў год 2006…

**2007год**

2007 – дзесяты год нашага супольнага жыцьця зь Яначкай! Як я рады сваёй жоначцы, што яна ў мяне ёсьць, што Бог мне яе даў у касьцёле Магілёўскім! Што мы нарэшце маем дзетак, мы нарэшце шчасьлівыя, як адбыўшаяся сямейная пара, якая дала нашчадкаў нашага роду! Бо колькі шлюбаў няўдалых і бязьдзетных! Нават статыстыка па Беларусі падае 15 адсоткаў! І мы цэлых 6 год чакалі нашага Міколку! Удзячны лёсу за сустрэчу зь ёй і малюся, каб даў Бог Усемагутны нам разам шчасьлівае і доўгае жыцьцё на беразе нашага Бабра, над роднымі прасторамі…

Пішу Жыровіцкую Маці Божую для сям’і Вячоркаў.

Працую ў Палесскім Драматычным Тэатры. Вельмі падабаецца Пінск, яго архітэктура, яго вуліцы,цэнтр, музэй Палесься – былы Езуіцкі калегіўм, Варварынская царква і яе абразы, Катэдра каталіцкая з цудоўным абразом 15 стагоддзя! Тое што тут быў КарлХІІ, быў пахаваны Сьвяты Андрэй Баболя, больш за 50 год нёс душпастырскую дзейнасьць Кардынал Казімір Сьвёнтэк,нарадзіліся дзяржаўныя дзеячы Ізраіля: Голда Меір і Хаім Вейцман, вядомы журналіст Рышард Капусьцінскі, урэшце рэшт – у сэрцы балот была вядомая на ўсе Ўзброеныя Сілы СССР вучэбка – Пінская Флятылія, гэта ўсё надае непаўторны каларыт гістарычны гэтаму выбітнаму гораду Беларусі, які, не сумняюся, будзе мець бліскучую турыстычную будучыню! З задавальненьнем прыеду туды ня раз!



Рыхтуюся да вясновай выставы ў Палацы Мастацтваў “РАЗАМ” – хачу там упершыню паказаць серыю прац “РУКІ БЕЛАРУСАЎ” і партрэт айца Георгія Бортніка. І вось дзіва – 3 красавіка2007 года ўпершыню без цэнзуры, у Палацы Мастацтваў, у Мінску, мае творы ўсе выставілі! Напэўна гэта заслуга новага кіраўніцтва Саюза мастакоў на чале са сьвядомымі беларусамі У.Савічам, Р.Сітніцам і С.Цімохавым!

А 5 красавіка, у рэанімацыі Крупскай раённай бальніцы, я з


Серыя прац "РУКІ БЕЛАРУСАЎ".

сьвятаром нашым, айцом Віктарам Белацаркоўскім наведалі майго тату, каб сабараваць і прычасьціць яго, бо быў ён у вельмі ўжо дрэнным стане, на апараце штучнага дыханьня…

**13 красавіка**, у гадзіну папалудню, на 83-м годзе жыцьця, спачыў мой тата – Пушкін Мікалай Іванавіч, народжаны тут, у Бабры, 5 жніўня 1924 году**…**

**Асноўныя вехі біяграфіі майго таты:**

Другоя дзіця ў маіх дзеда і бабці: Пушкіна Івана Дзяменьцьевіча і Нікіфаравай Пелагеі. Першае іх дзіцё, мая цётачка Ніна, памерла ад запаленьня лёгкіх ў 17 год,у 1937годзе,улетку,пасьля працяглага купаньня ў рацэ Бобр… Такім чынам, тата быў адзіным дзіцём у сваіх бацькоў… Вучыўся ў Бобрскай школе, быў Варашылаўскім стралком (меў значык). У 1941 быў сьведкам адступленьня савецкіх войск на Маскву, бамбаваньняў Бабра(як савецкі самалет кідаў "зажыгалкі" – сьпецыяльныя бомбы для пажару, ў выніку якіх і згарэла значная частка мястэчка. Бачыў, як НКВДзіст на белым кані (які вобраз карцінны!) спачатку падпальваў хату за хатай па бобрскай вуліцы Мядзьвежай, у выніку згарэла і дзедава хата (Ничего врагу не оставлять!), а потым быў зрэзаны кулямётнай чаргой пралятаючага нямецкага самалёта…
У 1944-м прымусам пайшоў служыць у самаахову – паліцэйскае фармаваньне, ахоўваў мост праз Бобр, каб яго ня зьнішчылі ўжо інсьпірыраваныя Масквой партызаны мясцовыя. Прыводзіць тата ў сваіх мемуарах цікавыя назіраньні пра тых першых, сьцінутых з самалетаў савецкіх расейскіх камандзіраў гэтых партызан, пра іх жорсткасьць, нахабныя расейскія замашкі, густы і прыхамаці… І было яму 17-18 год у тыя жахлівыя часы! Часам стаўлю сябе на татава месца, у тыя сямейныя варункі (адзіны сын, надзея бацькоў!), у тыя страшныя гады – што б я рабіў на яго месцы? І прыходжу да простай думкі – толькі б пастараўся выехаць ў Аўстралію, ці Новую Зеландыю, дзе няма гэтай жахлівай палітыкі, вайны, гэтага жахлівага выбару – ці за Сталіна, ці за Гітлера, дзе выбар адзіны толькі – быць забітым ці немцамі, ці партызанамі. Ці, як майго тату пры адступленьні немцаў, у Нальшчанскім Краі, пад Ашмянамі, ледзь не расстралялі АКаўцы. Ужо паставілі да сасны, зьнялі боты – ён заплакаў ад роспачы і бездапаможнага страху сьмерці… Але прыйшоў сувязны іхны польскі і сказаў – не страляць, гэта не паліцаі, гэта самаахова…
Я б ішоў бы пешкі, нёс на сябе бацькоў – але пастараўся б пакінуць Радзіму, дзе прымушае Чужая Нядобрая Воля забіваць адно аднаго! Так і зараз, гледзячы, на апантаннага прагай Ўлады над гэтым церплівым народам, бязбацькавіча, які ні на хвіліну не задумваючыся гатовы, як сумнавядомы Муамар Каддафі кінуць свой народ у грамадзянскую вайну і сам будзе да апошняга патрона адстрэльвацца ад сваіх жа, не чужых, а беларускіх, народжаных тут жа, людзей – каб працягнуць гэту неабмежаваную, нечуваную ні Машэравым, ні ранейшымі БССРаўскімі чыноўнікамі ўладу – пакіну Беларусь родную, калі тут пачнецца грамадзянская вайна! Лепш жыць з сям'ёй на чужыне, пісаць краявіды Аўстраліі, гаманіць у прысутных месцах чужой краіны на чужой мове – чымсьці быць разьменнай манэтай, мясам для дурных амбіцый нелюдзяў! Прычым гэтыя нелюдзі будуць казаць пра "адзіны верны шлях і выбар нашего народа"!!! Вось да такой думкі прыходжу, ставячы сябе ў той час, у тыя варункі на месца свайго таты… Таму, калі разьвяжуць вайну на Беларусі – падамся ў эміграцыю! Гісторыя вучыць…
Калі тата ахоўваў мост – то і пазнаёміўся на Ўхвале з маёй мамай, 14-ці гадовай дзяўчынкай-падлеткам. Але яшчэ не проста, а пакручаста склаўся яго лёс і, толькі ў 1963 годзе яны сталі мужам і жонкай..
Як адпусьцілі Акаўцы – вярнуўся дамоў. У 1946 паступіў у Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум, стаў вучыцца ў Мінску пасьляваенным.
Ды сусед – "партызан" па вуліцы, дзе жылі дзед з бабай напісаў скаргу ў "кампетэнтныя органы" – як так! Я ваяваў, а ён немцам служыў! Арыштавалі тату КГБісты ўлетку 1947 года ў роднай хаце ў Бабры, у першы дзень вакацый, пасьля пасьпяховай здачы сэсіі за 1-шы курс. Адправілі ў Чыту – далі 7 год. А там Чыцінскі Абласны суд 25 траўня 1949 года прысудзіў яго па арт.58, п.10, частка1 і па арт.58-ІІІ КК РСФСР да 25-ці год турмы з наступнымі 5 гадамі высылкі…
Для яго, 25-гадовага маладзёна, ўсе жыцьцёвыя пляны рухнулі. Ці перажыве ён гэты тэрмін, калі за ноч ад дызентырыі выносілі з баракаў па 50 трупаў?! Дзіву даюся, як мой тата перажыў усё гэта, і схіляюся перад яго жыцьцёвай моцай, прагай жыцьця… Адбываў тэрмін у Магочы, на Байкале, у Забайкальле, на востраве Сахалін…
Памёр Сталін, і ў 1955годзе, 1 чэрвеня, па вызначэньню Вярхоўнага Суда РСФСР ён быў вызвалены з зьняцьцём паразы ў правох, скарачэньнем ў выніку тэрміна да 6 год, з прымяненьнем залікаў працоўных дзён. Вось такая фармуліроўка! Прыехаў дамоў уначы, на станцыю Бобр, на папутных цягніках, прыйшоў дахаты, пастукаўся – і адчыніла мама, бо кожную хвіліну жыла чаканьнем…

Ажаніўся з Сьцяпанавай Марыяй Антонаўнай медсястрой бобрскага дзіцячага дома, куды пайшоў працаваць. Зь ёй пражыў 5год, бо ў 1962годзе яе зьбіла насьмерць праязджаючая машына.
Марыя нарадзіла спачатку Сяргея (1958-1995г.), а потым Шурыка (1960-1961г). Сяргей памёр ад гарэлкі, а Шурык памёр з-за недагляду, бо былі адчынены вокны ў весну і ён прастыў і памёр…
Вось чаму мне трэба шмат зрабіць за маіх братоў!
Ажаніўся тата другі раз у1963 годзе, 22 сакавіка, з маёй мамай – Сільмановіч Ганнай Іпалітаўнай з вёскі Ўхвала. Яна так і ня выйшла замуж пасьля вайны. І ў 1964 годзе нарадзілася дачушка Сьветка, а ў 1965 годзе – я. І калі мы былі малыя, то тата сядзеў у турме тры з паловай гады за тое, што зьдзейсьніў наезд на чалавека, які каціў тачку з сенам у прыцемках..
Тата яго не заўважыў, калі ехаў на матацыкле, і зьбіў. Пра гэта не паведаміў у міліцыю, зь месца здарэньня ўцёк, зmаладушнічаў…
Увесь час працаваў электрыкам на Бобрскім заводзе музычных дэталяў.
У 1978 годзе аддаў мяне ў мастацкую школу – вызначыў такім чынам мой лёс…
У1993 годзе рэабілітаваны, прызнаны ахвярай палітычных рэпрэсій 1930-1950-х гадоў, атрымаў залік гадоў, праведзеных у ГУЛАГу ў лік працоўнага стажу, выплацілі яму і нейкую кампенсацыю ад Расейскай Федэрацыі – ён купіў, здаецца карову і ровар у 1993годзе. Але і прыязджалі ад Генеральнай Пракуратуры РФ два сьледчых – апытвалі ўсіх пажылых людзей Бабра пра яго службу ў часы вайны ў самаахове – ці страляў жыдоў, ці кідаў малых дзяцей ў калодзеж?!
Першы ўнук Ігар нарадзіўся ў 1983годзе, у 1987 годзе нарадзілася ўнучка Каця, у 2004 годзе – Міколка, а ў 2006 годзе – Марылька.

З 1991года – у складзе ініцыятыўнай групы жыхароў Бабра, што вырашылі адраджаць царкву Сьвятога Міколы. І вось – езьдзіў па вёсках, зьбіраў грошы, узгадняў праект архітэктурны, рабіў электрыку, даў мне бацькоўскі наказ расьпісаць царкву, які я выканаў… У 2004годзе, 21 кастрычніка, памерла мая мама, яго другая жонка. У 2005 годзе, 28 мая, Мітрапаліт Філарэт, асьвяціўшы царкву, ганараваў тату Благодарственной Грамотой за труды во Славу Православной Церкви. І вось 15 красавіка 2007 года адпелі яго ў нашай царкве Сьвятога Міколы, Мір Лікійскіх, Цудатворцы…
На пахаваньні сабралася 40 чалавек, зь іх дзесьці 30 мужчын, прычым адзін зь іх, Мікалаёнак Мікалай Ігнатавіч, сябраваў зь ім 58 гадоў (пазнаёміліся на Сахаліне)! Хораша, дастойна пахавалі тату, пранесьлі па Бабры, на крыжу была бел-чырвона-белая стужка…

## 24 мая 2007

**24 мая 2007** года грамадой усталявалі крыж нашаму мясцоваму герою – Юрку Монічу, што першы гучна заявіў пра Беларускі суверынітэт тут яшчэ ў далёкім 1923 годзе. Устанавілі яго на ўскрайку Монічава Лесу – так у народзе называюць мясьціну каля Жаберыч, дзе Моніча абклалі НКВДзісты. І дагэтуль стаіць наш памятны крыж, нагадвае пра мясцовага героя!
Нават я падумваю зьняць пра яго паўнавартасны мастацкі фільм… Пішу намёткі сцэнара…

**3 чэрвеня 2007 года** напісаў абраз Сьвятога Антонія Падуанскага для Талачынскага касьцёла, дзе, на самай сігнатурцы даху ён, гэты абраз, і зараз стаіць.

**10 чэрвеня** – пленэр у абарону старой Горадні ад разбурэньня, ад барбарскай рэканструкцыі. Раблю там перфоманс “Захаваньне”.

**15-19 чэрвеня** – падарожжа “Вілія –Нярыс” у гонар 175 годдзя першага краязнаўчага падарожжа князя Канстанціна Тышкевіча. Адтуль мяне вытурылі ў Вільні – за тое, што на афіцыйным прыеме ў Віленскай Ратушы сказаўшы гарачую прамову пра стан палітычных спраў на Радзіме, падараваў праўдзівую карціну віленскім беларусам, (якія, дарэчы, палахлівa зьбеглі, цішком пакінуўшы гэтую карціну ў Ратушы… Эх, ня тым дарыў!).

**16ліпеня 2007 года** – мой першы выступ у Варшаўскім Універсітэце на Круглым стале разам з Станіславам Шушкевічам, Язэпам Янушкевічам і Эльжбетай Смулэк на тэмат ”Культура ў аўтарытарнай дзяржаве”, а 18 ліпеня – паказ перфомансаў. Яшчэ ў Варшаўскім Універсітэце меў выступ 16 сакавіка 2011 года, паказваў перфоманс “Сустрэча Новага Года на Беларусі”.

Наведваньне “Басовішча-2007”. Упершыню я быў на гэтай імпрэзе беларускай песьні. Пазнаёміўся зь Лёнікам Тарасэвічам, з Інай Кулей, Аляксандрам Мілінкевічам. У гэтым годзе быў вялікі дэсант пражскіх беларусаў, добра знаёмых маіх сяброў: Сяргея Скаруліса, Віталіка Цімошчанка, сям’і Сідорыкаў з трыма дзецьмі, Андрэя Рымашэўскага з сям’ёй.

**25 жніўня** ахрысьцілі Марыльку ў Талачынскім касьцёле. “Ввергли в Ересь Римскую”! За хросную была Наташа Водзіч, за хроснага – Анатоль Міхнавец. Вельмі хораша было, вельмі ўрачыста!



**А 9 верасьня**, на Крапіўным Полі пад Воршай, што слаўнае ( я думаю што і пасёлак чыгуначны СЛАЎНАЕ, таксама слаўны менавіта гэтымі падзеямі!) сваёй перамогай 1514 года над маскалямі, – мяне арыштавалі а восьмай раніцы і судзілі за тое, што з Аршанскага раённага пастарунка ў знак пратэсту выкінуў зялёна-чырвоны сьцяг каляніяльны! Гэта быў першы сур’ёзны разгон бардаўскага фэсту, які працягваецца з тае пары кожны год! Цяпер Поле, побач з памятным крыжам на ім, пераарана – каб не зьбіраліся барды і патрыёты сваёй Бацькаўшчыны…

Да 19 верасьня сядзеў у Аршанскай турме, што у падвале Цэнтральнай міліцыі, насупраць Школы Мастацтваў, непадалёк ад музэя Ў.Караткевіча…



### *Слова на Аршанскім полі*

*Я не выпадкова стаю сёньня на гэтым сьвятым Полі, сьвятым для кожнага, хто мае гонар і годнасьць называць сябе беларусам, Полі нашай Перамогі і Вайсковай Славы. Мы абралі менавіта гэтае месца, бо ёсьць небясьпека паўтарэньня сярэднявечнай бяды – акупацыі зямлі, Богам нам дадзенай, чужынцамі-хамамі з Усходу.*

*Зірніце, як сёньня неўпрыкмет яны займаюць усе дзяржаўныя чыноўныя пасады, кіруюць ідэалёгіяй, фмэдыямі, органамі дзяржбясьпекі і войскам, эканомікай, буйнымі прадпрыемствамі, як сеюць сярод нас здраду і знаходзяць вырадкаў, што сталі манкуртамі на сваёй зямлі, забыліся родную мову, пазбыліся памяці, звычаяў і традыцый сваіх дзядоў.*

*На іх ляжыць грэх за тое, што мы ўсе бедныя, што краіна наша – калёнія, што царква і вышэйшая школа – расейскія, што насаджаецца чужая культура, эстрада, традыцыі і адносіны.*

*Наперадзе нас чакае страта нацыянальнай валюты, нашых найлепшых прадпрыемстваў, дзе мы будзем парабкамі ў новых азіяцкіх дзямідавых, вяхіравых, балоевых, алекпераўых... Трывога прывяла мяне на гэта Сьвятое Поле, што будзе натхняць яшчэ шмат пакаленьняў, нараджаць новых і новых адданых сыноў сваёй добрай, спакойнай, працавітай і веруючай нацыі, якая можа ўстаць за сваю годнасьць і спыніць паруганьне і зьдзек з усяго беларускага, нам роднага і сьвятога.*

*Не дамо прыежджаму гуну гвалтаваць і рабаваць, забараняць і зачыняць, не дазваляць і выкрэсьліваць, камандаваць і раіць, навучаць і прапаведаваць!*

*Бо нацыя ўжо паднялася пасьля дзьвюх жахлівых сусьветных войнаў, сталінскага генацыду і брэжнеўскага бязроднага саўка. У нас ужо ёсьць свая эліта ва ўладных і бізнэсовых структурах, культуры, сілавых і праваахоўных органах, якая хоча жыць не па падказцы Ўсходу або Захаду. Мы хочам жыць па-беларуску, па-свойму і маем жаданьне абараніць свой Выбар!*



**Карціна “Заўтра”**

*Выбар Аршанскага Поля 1514 году...*

*Доказ таму – гэтыя моцныя рукі, якія трымаюць занесеную пагрозьліва сякеру. Яна яшчэ не апушчаная на галовы тых, хто не разумее, што мы ўжо дастаткова моцныя і самастойныя, каб жыць сваёй галавой. Мы не адмаўляемся ад шчырых добрых парадаў і прыкладаў суседніх з намі народаў і краінаў, але пагрозьліва папярэджваем тых, хто гвалтам хоча “ашчасьлівіць” нас. Гэтая Сякера будзе вечна занесена і над галовамі здраднікаў сваёй зямлі.*

*Вечная ім ганьба і праклён!*

*Я ўсьведамляю, які вобраз я падняў, што з гэтага вынікае, але дапякло, але ўжо нясьцерпна трываць. І памятайце – гэтая Сякера толькі ўзьнятая, яшчэ няма граху крыві...*

*Сьвет паважае разумных і моцных. Мы дастаткова разумная нацыя, дык чаму ж мы ня моцныя, чаму дазваляем усходняму гуну сесьці на наш карак? Вось жа – нашае Поле Прыкладу! Поле не*

*агрэсіі, але абароны. І я вымушаны жыцьцём, пакліканьнем сваім і сьціплым талентам, які мне даў Бог, абвяшчаць гэтую Абарону вам, прысутным. Я веру ў сілу мастацкага вобразу, містычнага дзеяньня... Нас тут няшмат, але з намі нябачнае воінства душаў тых тысячаў, хто аддаў жыцьцё за незалежнасьць Бацькаўшчыны, і ня толькі тады, але і цягам апошніх трох стагодзьдзяў змаганьня з усходнімі “братамі”.*

*Рушым жа ў час дружна й сьмела заСваё! І нас будзе большасьць, бо – як паказала гісторыя Аршанскага Крапіўнага Поля – з намі Госпад і ягоная Воля!*

Восень 2007 года была сумная,
бедная – не было грошай, не было заробкаў...

Толькі з 20 сьнежня пачаў афармляць
Касьцёл Яна-Хрысьціцеля ў Серабранцы
да Божага Нараджэньня, дык трохі зарабілі
з Валечкай Лойка, каб сустрэць сьвята і Новы, 2008 год!

За 2007 год, год сьмерці майго таты,
я адрэстаўраваў 7 праваслаўных
і 7 каталіцкіх абразоў...

Працяг будзе








# Вітаньні, Выспа, вітаньні!

**ПАЭЗІЯ** / ВЕРШЫ МАЛАДЫХ ПАЭТАЎ

Гэтым годам Выспа падарыла сустрэчу з цікавым маладым чалавекам, які ўпершыню патрапіў да нас у летнік. Ён актыўна ўдзельнічаў у мерапрыемствах, не хаваўся ад працы і вечарамі... сьпяваў ля вогнішча. Вымушаны зьехаць раней, ён з сумам вярнуўся на “Большую зямлю”. А праз некалькі дзён даслаў нам верш-smsky з караценькай назвай: **ВЫСПА**

**Возера.**
**Выспа.**
**Вечар.**
**Вобразы.**
**Вільня.**
**Веча.**
**Вогнішча.**
**Войска.**
**Вершнік.**
**Водары.**
**Вецер.**
**Вершы.**
**Воля.**
**Выпрабаваньне.**
**Вера.**
**Вечнасць.**
**Вызнаньне.**
**Вернасць.**
**Вартасьць.**
**Вяртаньне.**
**Вітаньні,**
**Выспа,**
**Вітаньні!**

*30.07.2011*

ЗНАЁМЦЕСЯ> **Арцём СІТНІКАЎ**>

ЗАПАЛКІ

Зь зямлі зьнікаюць зоркі,
Заміраюць, запавольваюцца, згасаюць.
Знайду, запалю запалкі,
Запалю замест зорак.
Зайду за запалкамі заўтра,
Зусім зьмёрзлы, зьніякаваны,
Зраблю з запалак замак
Зьніч запалю згвалтаваны.
-Замяняць зоркі запалкамі?
Здурнееў зусім, звар'яцееў,
Злыдзень! – закрычэла зграя,
Закіпела запалам злосьці.
…Загінулі зоркі, запамяталі
Зусім, зрок згубілі,
Затое загараюцца запалкі,
Зьзяюць зьнікаючым зьзяньнем.
*03.2007*

МАЛЮНАК

Я знайшоў ў шафе малюнак,
Намаляваны калісьці ў дзяцінстве
Нязграбнай шчырай рукою…
Я знайшоў там сабе прытулак.
Мне тады цікава было так,
Я не ведаў перашкод для фантазій.
Ніхто не сказаў: ня правільна –
Усе сказалі ў адзін голас: мастак.
Папера колеру кавы,
Размаляваная рознымі думкамі,
Фарбамі і алоўкамі,
Пальцамі дзеля забавы.
Я стаяў і глядзеў скрозь крыўду,
Бо ня ведаў, пра што тады думаў,
Бо забыўся на даўні малюнак,
Што згубіўся ў шафе пыльнай…
Я пайшоў па вуліцы мокрай,
Я з сабой узяў той малюнак –
Я хацеў паказаць яго сябру,
Можа ён дапамог бы…
Разгарнуў, кажу: “Глянь, калі ласка,
Ты, напэўна, ведаеш, што тут,
Ты ж сапраўдны мастак, прыгледзься…”
“Дык ж няма тут нічога, братка!”…
На малюнак гляджу са здзіўленьнем,
Што знайшоў у куце цёмнай шафы:
Ад дажджу ён прамок па дарозе,
Засталіся ўсе фарбы ў кішэні;
Засталіся ў кішэні ўсе думкі,
Засталіся разам з грашыма
Усе фантазіі і летуценьні,
Меркаваньні і пераканаьні…
*03.2007*

МОРА

Мара пра мора,
Горад ці зоры?
Мора ня бачыў –
Няхай будзе мара.

Горад бачыў – удзячны,
Няхай і пачварны.
Зоры далёка –
Лепей ня бачыць,
Лепей верыць, што ёсьць.
Можна прыгнуць высока.
Што магу перайначыць?
Маладосьць…
*2007*

***

**А хочаш намалюю табе сонца**
На шкле самага першага трамвая?
А хочаш – зорак ў безьлічы бясконцай
Ў тралейбусе, што ноччу ад’язджае?

А хочаш, болей не скажу нічога?
А хочаш, больш нічога не спытаю?
А проста буду ценем ад былога
На шкле свайго апошняга трамвая…
*07.2008*

***

**Захад ці ўсход,**
Загад ці прыгнёт,
Хлусьня ці прымус? –
Адкажы, беларус!

Цела ці кроў,
Цяпло ці любоў,
Заход ці ўзыход? –
Выбірай, патрыёт!

Кроў ці віно,
Крыж ці ярмо,
Сыход ці ўзыход? –
Думай, народ!

Мора ці змрок,
Мара ці крок,
Усе ці адзін?..
Дзе ты, ліцьвін?!
*21.11.2010*

***

**Мы ўздоўж берага возера**
Пачалі рушыць,
Асьцярожна, паволі,
Каб не парушыць
Узаемазьвязанасьці
З гэтай вадою.
Ты спытаеш,
Ці ёсьць розьніца?
Ці ж рака не застаецца
Ракою,
Колькі не ўваходзь у яе,
Нават з галавою?
А возера – тым болей:
Не зьмяняе плыні!
– Так, толькі мы нават ногі свае
Не намочым і два разы –
Хутчэй загінем

Ад хваляў, што неўзабаве
Набягуць цёмнай ноччу.
А мы адзін аднога не ўратуем
І мукаў не пазбавім!
Але спыняцца нельга –
Трэба крочыць.
Ды і ня варта
Баяцца кудысьці збочыць:
Наш уласны компас –
Вялікая варта.
Мы проста ня зможам пайсьці
Ня ў той бок,
Калі разам да выспы павернем.
Калі з намі ёсьць Бог,
Калі мы проста верым.
Я трымаю цябе за руку.
Гэта брод, пераходзім раку…
Возера. Вось і выспа:
Ужо зусім блізка наш ратунак.
Але ж хмары нізка.
Не, ня плач –
Гэта лепшы наш
Адзін аднаму падарунак!
*29.07.2011*

***

**Ты з такою пяшчотай глядзіш на мяне!**
Тваe вочы – бурштын
Невыноснай красы…
Кветка дзіўных палёў невядомых краін,
Тваe сьлёзы зьбіраю, як кроплі расы…



Ты руку мне працягваеш – сонца прамень.
Вось яе я бяру
У далоні свае
І, сьціскаючы з моцай, штосьць гавару,
І маленькія пальцы цалую твае…
Ты сваю галаву прытулі да мяне;
У тваіх валасох
Я хачу заблукаць,
Як у золаце ніў на бясконцых палёх
Сьцішыць бег, прыпыніцца ды легчы паспаць…
Тваe вусны цалую я, быццам у сьне,
І ня веру, што сны
Існуюць сапраўды…
Як на возеры выспу шукаюць чаўны,
Так шукаю цябе, каб прыплыць назаўжды…
Ты з такою пяшчотаю клічаш мяне…
*01.08.2011*

***

**Сумую без цябе я ў моманты разлукі.**
Твой мілы вобраз пасяліўся ў маім сэрцы:
Нібыта ноты Палянэзу на паперцы
Ад рук тваіх пераўтвараюцца ў гукі.
На клявішы кладзеш нясьпешна свае рукі,
Прыгожа галаву схіліўшы, паглядаеш
І штосьці джазавае ціхенька сьпяваеш…
Сумую без цябе ў моманты разлукі…
Сумую без цябе я… І трэба ад'язджаць…
Мне вуснамі тваімі вятры сьпяваюць джаз.
А я ня чую словаў; мне толькі хаця б раз
Убачыць тваe вочы і іх пацалаваць.

Мне б толькі на хвіліну руку тваю спаткаць,
Адчуць, як б'ецца сэрца ў грудзёх хаця б на міг…
Час не сябруе з намі: вось мой ідзе цягнік…
Вось зноўку ад'язджаю. Зноў буду сумаваць.
*09.08.2011*

***

**Я цябе намалюю з азёраў,**
Зь лістападаўскіх зьнічак густых
Ды са сьнежаньскай белай прасторы,
Што ў грудзёх засталася маіх
Яшчэ зь лютаўскай цёплай гарбаты,
З сакавіцкае першай травы,
З красавіцкіх нябёс, дзе была ты
Сонцам сноў… (Так, я без галавы!..)
Яшчэ з травеньскіх казачных кветак,
Што ў садзе дзівосным растуць,
Зь песьні чэрвеньскай, што й дагэтуль
Твае вусны прыгожа пяюць.
Выспы ліпеньскай цёплыя фарбы
Разьвяду ў вазёрнай вадзе.
Дух здавён пахаванага скарба
Там ня ўмёр – прарастае, жыве.
Зазьвініць тады цэгла, як срэбра,
А ў жніўні пасьпеюць сады…
Быццам пэндзлік, вазьму адно дрэва –
Размалюю нябёсы-халсты.
І са студзеньскай студні спакуснай
Ледзяное нап'юся вады…
Замест пэндзліка будуць мне вусны –
І халстом белым будзеш мне ты. *12 – 16.08.2011*



***

**Ты жыхарка новага жыцьця:**
Там, дзе вецер круціць крылы млыну…
Усьміхнешся шчыра, як дзіця,
Паглядзіш ласкава, як жанчына.
16.08.2011

***

**Адчыні вернай восені дзьверцы:**
Я стаміўся ад сёлетняй сьпёкі.
Забяры да сябе маё сэрца
На свае незямныя аблокі.
Праз туман, дзе нічога ня бачна,
Ты вядзі мяне крок за крокам.
Я бясконца табе ўдзячны,
Твайму сонцу і тваім аблокам!
Як арол, у неба ўзьнімуся,
Каб крылом паветра расьсекчы –
Як шчанё, да цябе прытулюся,
За табой каб на ланцужку бегчы.
Вось да ног я тваіх прыпадаю:
Ты налі малака мне ў міску –
Вось у горныя высі сягаю
І да мора спускаюся нізка…
Безь цябе паміраю ад смагі,
Увесь згараю, каб потым зьмерзнуць –
А з табой паміраю ад прагі,
Каб у новым жыцьці ўваскрэснуць…
Адчыню вечнай восені межы,
Не згублюся, знайду дарогу:
Маё сэрца табе належыць,

А душа – адно толькі: Богу.
*19.08.2011*

**ТРЫЯЛЕТЫ**

1
Адваяваць кавалак неба,
Забыўшыся, з чаго ідзе пачатак!
І гэтак ціха, без пальчатак –
Адваяваць кавалак неба!
І не пасеяўшы зярнятак,
І не пакаштаваўшы хлебу,
Адваяваць кавалак неба,
Забыўшыся, з чаго ідзе пачатак…
*29.07.2011*

2
Напішы мне новы верш
З пацалункаў і ўсьмешак.
Вось пішу табе я вершык –
Напішы мне новы верш.
Хай ён будзе самым першым,
Хай ім сэрца забярэш…
Напішы мне новы верш
З пацалункаў і ўсьмешак.
*29.07.2011*

3
Зачараваны я табою,
Ня бачу сноў, ня бачу сонца.
Невыпраўляльна і бясконца
Зачараваны я табою.
Жыву ў празрыстай абалонцы
І размаўляю сам з сабою.
Зачараваны я табою,
Ня бачу сноў, ня бачу сонца.
*04.08.2011*

4
Твая ўсьмешка – быццам месяц
Усплывае ў небе гонкім станам…
І зьзяе ціха, без падману
Твая ўсьмешка – быццам месяц.
Я зоркаю, напэўна, стану,
Каб быць бліжэй на крокаў дзесяць.
Твая ўсьмешка – быццам месяц
Усплывае ў небе гонкім станам…
*04.08.2011*

5
Сялява… А я і ня верыў,
Што ўбачу такую прынцэсу:
Дзяўчына ў сукеначцы зь лесу –
Сялява… А я і ня верыў,
Што ў колерах хмарна-нябесных
Бы кветачка сярод дрэваў –
Сялява… А я і ня верыў,
Што ўбачу такую прынцэсу.
*04.08.2011*

ВЫСЬПЯВАНАЧКА

Я ішоў да цябе, мая зорачка,
Шэравокая ясная панначка,
Пасяліцца на тваіх узгорачках,
Мая Выспа…
Мая Высьпяваначка.

Ты жывеш каля самага возера,
Што ў вачох тваіх адбіваецца.
Мне хапіла адно толкі – позірку,
Каб адчууць, што ў грудзёх высьпяваецца.

Мне хапіла адно толькі – голасу,
Каб чырвоную грушу ля ганачка
Прыгадаць.
Пад сярпом тваім коласу
Не стрываць майму,
Мілая Ганначка.

I тваe валасы залацістыя,
Быццам сонца, над лесам заходзячы,
Раскідае па люстры празрыстым…
Я гляджу, вачэй не адводзячы.

I пяшчотныя вусны жаданыя –
Нібы хвалі да берагу лашчацца.
Хараством тваім зачараваны я,
Усё сьпяшаюсь з табой пабачыцца.

Толькі хвоі на ўзгорках высяцца,
Вочы-зоры ўначы рассыпаюцца.
Сёньня, ведаю, зноўку ня выспацца…
Спаць ня клаўшыся – ўсё прачынаеца,
Не спыняючыся – пачынаецца.
*27-29.07.2011*



SŁOVY TVAJE

Nas ratujuć u maŭklivaści słovy Tvaje,
Cišyniu pracinajučy movaj.
Nas ratujuć u zasusie reki Tvaje
Ad smahi vadoj ledavikovaj.
U časy biazhučnych umoŭ,
U chviliny suchich i biazrodnych słoŭ…

Nas achoŭvajuć ad biaździejnaści ruki Tvaje,
Z cehły stvarajučy hmachi.
Nas achoŭvajuć ad spynieńnia dumki Tvaje,
Ad pavolnych pakut čarapachi.
U časy mientalnych chvarob,
U hadziny manumientalnych sprob…

Nas baroniać ad ciamrečy vočy Tvaje,
Zmrok prabivajučy zrokam.
Nas baroniać ad chłuślivych chvalaŭ vušy Tvaje,
Lohki los źmianiajučy ciažkim rokam.
U časy niabačnych muroŭ,
Ŭ dni hłuchich nieadukavanych synoŭ…

Nas zaściarožvajuć ad nianaviści sercy Tvaje,
Chaładečy źmianiajučy ciopłym kachańniem.
Nas zaściarožvajuć ad małanki kryžy Tvaje,
Adhaniajučy strach pierad čornaju nočču śvitańniem.

U časy pustych haradoŭ,
U hady biaź viestki źnikłych kryžoŭ…

*

Nas viaduć pa darozie ruki j reki Tvaje,
Nas bačać i čujuć vočy j vušy Tvaje,
Nam śpiavajuć u prozie dumki j słovy Tvaje,
Nam dzieci malujuć sercy j kryžy Tvaje.





**НІКАЛАС ГОМЕС ДАВІЛА (18.5.1913, Кахіка, Калумбія – 17.5.1994, Багота) – калумбійскі пісьменьнік, мысьляр-эсэіст.**
Паходзіў з калумбійскай эліты, з пачатку 1920-х выхоўваўся ў Францыі і ў Вялікай Брытаніі. Некалькі гадоў быў прыкаваны хваробай да ложку, застаўся самавукам. Пасьля вяртаньня на радзіму ў 1930-х працягваў самаадукацыю, сабраў бібліятэку звыш 30-ці тысячаў тамоў.
Крытык сучаснай заходняй цывілізацыі з рэзка антыліберальных, права-каталіцкіх пазіцыяў, атэставаў сябе як "сапраўднага рэакцыянера".
Гомес Давіла ў формах мысьленьня выступаў нашчадкам традыцый французкіх маралістаў XVIIст., Рываролі, Донаса Картэса, Шапенгаўэра, Ніцшэ і разьвіваў жанр філасофскага афарызму, кароткай і вострай заўвагі, фрагментарнай нататкі або зноскі.
У 1990-х — 2000-х гадах яго кнігі былі перакладзеныя на ангельскую, французкую, нямецкую, італійскую, польскую, баўгарскую мовы і былі з цікавасьцю ўспрынятыя шэрагам пісьменьнікаў і мысьляроў Эўропы, асабліва Нямеччыны.

## АФАРЫЗМЫ

**Шмат хто любіць** чалавецтва толькі для таго, каб з чыстым сумленьнем забыць пра Бога.

**Наша цывілізацыя** нагадвае барочны палац, у які ўварваўся натоўп абадранцаў.

**Гіерархія** – уласьцівасьць нябёсаў. У пекле ўсе роўныя.

**Біблейскія прарокі** – не прадказальнікі будучыні, але сьведкі прысутнасьці Бога ў гісторыі.

**Ідыёцкія ідэі** неўміручыя. Кожнае пакаленьне адкрывае іх нанова.

**Усе эпохі** паказваюць нам аднолькавыя заганы, але не ўсе – аднолькавыя дабрадзейнасьці.

**Уяўленьне** – адзінае месца ў сусвеце, дзе можна жыць.

**Вера** – гэта не веданьне аб'екта веры, але адносіны зь ім.

**Той, хто верыць ў Бога,** не павінен казаць "Я веру ў Бога", але "Бог верыць у мяне".

**Пакуль мы** адказваем, не сумняючыся, – мы не валодаем тэмай.

**Калі высвятляецца,** што абраныя ўсеагульным галасаваньнем не належаць да разумова, сацыяльна і маральна адсталых пластоў народу, мы можам быць упэўнены, што тайныя антыдэмакратычныя механізмы парушылі нармальную хаду выбараў.

**Нам належыць верыць** не ў ва ўсёведаньне Бога, а ў Яго міласэрнасьць.

**Эрудыцыя і досьвед** – непераможныя ворагі левых.

**Прыхільнікі рэвалюцый** чытаюць трактаты, працаўнікі даводзяць факты.

**Фальсіфікаваньне мінулага** зьяўляецца спосабам, пры дапамозе якога левыя імкнуцца выбудоўваць будучыню.

**Калі ў паняцьці Айчыны** няма месца на сьвятыні і магілы, калі тая Айчына – усяго толькі сукупнасьць інтарэсаў, тады патрыятызм – гэта сорам.

МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ/2011 *PatriaSuperOmniaMaloje*

**“МАЛОЕ ПАЛЕСЬСЕ”/ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ АЛЬМАНАХ ДРУЦКА-БЯРЭЗІНСКАГА КРАЮ.**

**Пад рэдакцыяй А.Аляхновіча, В.Арцюховіча, М.Баравулі, Я.Дэмух, В.Лапаціна/ Крупкі. 2011. – 250 с.**

*У альманаху-штагодніку “Малое Палесьсе” прадстаўлены матэрыялы і дакументы па гісторыі і культуры аднаго з рэгіёнаў гістарычнай Усходняй Літвы (сучасная Усходняя Беларусь) – Друцка-Бярэзінскага краю. Працы, сабраныя пад вокладкай адлюстроўваюць розныя перыяды гісторыі гэтых земляў – ад часоў жалезнагавеку да нашых дзён. Большасьць з іх публікуюцца ўпершыню. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.*

*Пры перадруку спасылка на альманах “Малое Палесьсе” абавязковая. Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасьць прыведзенай інфармацыі.*

**Фота на 1-й вокладцы/** *Ларыса Геніюш чытае верш Міколу Прашковічу (гл. артыкул на с.162).*




СКАЎТЫ І КРАЯЗНАЎЦЫ МАЛОГА ПАЛЕСЬСЯ










